# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ТРЭЦЯЯ*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1936

# ЛІСТ ПРАЦОЎНЫХ СОВЕЦКАЙ ГРУЗІІ ПРАВАДЫРУ НАРОДАЎ ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ

Дарагі і родны наш таварыш Сталін! У дзень усенароднага свята пятнаццатай гадавіны Совецкай Грузіі да цябе, вялікі правадыр, мудры настаўнік, друг працоўных усяго свету, накіраваны нашы радасныя шчырыя пачуцці бязмежнай любві і адданасці.

Пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна грузінскі народ і ўсе народы Грузіі дабіліся вызвалення і пераможна будуюць новае шчаслівае соцыялістычнае жыццё. Крывёю працоўных напісаны старонкі гісторыі гераічнага мінулага нашага народу.

* * *

Хто не крамсаў айчыны нашай сваімі лютымі рукамі!
Османы, персы і манголы апустошалі нас вякамі.
І нас знявольвалі тыраны, карылі нас крывавай дзеяй.
Гнаў Александр нас Македонскі, мы помнім рымскі меч Пампея!
Цяклі крывавыя патокі, былі разбураны будовы.
Зямлю знявольвалі ўсю нашу султан, паша і шах суровы.
Таптаалі нас канёў капыты, мы дні ў пагрозе караталі,
І люта ворагі агнямі краіну нашу руйнавалі.
Грузін палонных у Стамбуле, ў Алжыры часта прадавалі,
Яны не ведалі пра радасць, журбою дзень свой пачыналі.
І цемень неба засланяла, было жыццё чарней ад ночы,
Ды толькі меч варожай зграі кідаў свой бляск у нашы вочы.
Але ўстаяў народ адважны, хоць быў прыгнечаны, закуты.
З жалеза сэрца у народа, народ быў дужасці магутнай,
Народ для рабства не народжан, трываў у муках небывалых...
Арол паранены быў толькі, які гняздзіўся ў грозных скалах.

* * *

І не раз народ грузінскі зніштажаў другіх мячом,
Ды пры гэтым пераможца заставаўся сам рабом.
За далёкімі гарамі нас страчаў смяротны час,
Гіблі мы ў Аўганістане, гіблі ў Персіі не раз.
Як прыходзілі з паходу, спатыкаў нас моураў [1]).
Зноў падаткі вымагаў ён, зноў наш скарб ён забіраў.

[1]) Моураў—упраўляючы князя-памешчыка.

Нас хватаў і рваў на часткі злы і сквапны, як шакал.
З хат пагорбленых каціўся стогн людскі ў даліны скал.
Ложкам нам была зямелька, нам падушкай камень быў.
Дармаедаў мы карміліі, нашу кроў ён кожны піў.
Ї памешчык, і вяльможа азнауры [1]) і князі
Нашу працу спажывалі, кожны смерцю нам грозіў.
Грозных дэспатаў усходу рускі цар змяніў пасля,
У адной руцэ нёс крыж ён, а ў другой была пятля.
Кляўся ў дружбе, а мячом ён і пагібельным агнём
Наш Каўказ многаплямённы пакарыў сваім штыхом.
Прагнуў золата і срэбра і пакорлівых рабоў,
Сціхамірваў непакорных звон іржавых кайданоў.
Ї праз Грузію да ўсходу шлях цара разбойны лёг,
Ї князі яго страчалі хлебам-соллю ля дарог.
Їх сыны нас рабавалі, і смакталі нашу кроў,
Падымалі меч крывавы дзеля грошай і чыноў.
Ї сатрап цара-тырана, каб паліць і вешаць нас,
Цыцыянаў князь грузінскі з войскам рушыў на Каўказ.
Ацаніўшы ўсю пакору ўсіх раз'юшаных дваран,
Цар падвоіў ім падаткі і павіннасці з сялян.
Ї прыгонны, быццам вольны, зноў быў кінуты ў турму.
Беззямельная свабода непатрэбна век яму!
Брат на брата вышаў біцца, друг на друга гналі нас,
Ї вайной паміжусобнай быў абвіт сівы Каўказ.
Армянін, грузін і цюрак, хітра ўцягнутыя ў бой,
Ў дзікай помсце ваявалі, кроў лілі паміж сабой.
Мы спявалі: «Лёс няшчасны, доля горкая мая,
Для дзяцей маіх галодных ты атрутная змяя.
Вораг нас ушчэнт разбурыў, як-жа хату збудаваць!
Нават хату як збудую, ці-ж змагу там пражываць?»
Нас князі трымалі вечна пад пагрозаю бяды,
Нам было не да забаваў, нам было не да яды.
Быў наш хлеб слязьмі атручан многа горкіх зім і лет.
Так спяваў пра наша гора Чаўчавадзе [2]) наш паэт:

„Працы плён, пракляты мой,
Хай ці летам ці зімой
Жыць без клопатаў не мог
Уладар і слёз і сох.
Дзень і ноч свой горбіш стан—
Спажывае працу пан
Шмат працую, а мая
Усё-ж без хлеба ўся сям'я,
Пан спажыў, а ты ў бядзе.
Божа мой, дзе-ж праўда, дзе?
Быдла ты—не чалавек,
Горам сціснуты ўвесь век.
Дзіцё ў маткі адбяруць
Жартам возьмуць прададуць.
Маці бедная, трывай
Праўды ў пана не шукай!"

1) Азнауры—дваране.
2) Ільля Чаўчавадзе—паэма „Ачрдзілі", 1859 год.

Не здаліся мы на міласць гэтых катаў, з года ў год
Быў з душой непераможнай працавіты наш народ.
І вялікі Руставелі заклікаў калісьці ён:
«Лепей смерць, ды смерць са славай, чымся ганьба чорных дзён!»
І калі не стала сілы, каб трываць бяды цяжар
Скінуць путы векавыя вышаў працы уладар.
І ў Кахецii—вядомым стаў дванаццаты той год
Дзевятнаццатага века—бо падняўся наш народ.
Ўслед гурыйцы ў сорак першым на памешчыкаў пайшлі,
Каб змагацца за свабоды і захват сваёй зямлі.
І падняліся мінгрэлы і бясстрашнай барацьбой,
І сялян павёў Мікава[1]) на дваран у грозны бой.
Перад царскім лютым войскам, перад бандамі дваран
Адступілі боль стаіўшы, боль цяжкіх глыбокіх ран.
Нашы сёлы, нашы вёскі вал крывавы захлынаў...
Вось што вешацель Ермолаў «самаўладцу» адпісаў:

«Сёлы, што бунтавалі, былі разбураны і спалены, сады і вінаграднікі высечаны да кораня, і праз многія гады не прыдуць здраднікі ў першабытнае становішча. Галеча крайняя будзе ім караю».

(«Запіскі генерала Ермолава ў часе кіравання Грузіяй», старонка 112).

* * *

Але досыць з нас пакуты, векавечнае турмы,
І прадажніцтвам і ганьбай адступленне лічым мы...
Хто сказаў: Кура змялела, спалены агнём Рыён!
Многа сілы у народа! І рабом не будзе ён!
Ён у бурах, у пакутах сваю дужасць гадаваў—
Супраць царскай цёмнай сілы наш рабочы клас паўстаў,
Супраць гнёту капітала, супраць чорнае бяды
І павёў усіх працоўных за сабою ён тады.
Як агонь, у цемры вечнай перад намі ўстаў Ільіч,
Загрымелі хвалі мора і зліліся ў гулкі кліч.
Пролетарыяў Расii запаліў надзеяй ён
І ідэі комунізма напісаў нам, як закон.
Ленін быў надзеяй нашай, нашы сілы куючы,
Ты прыняў яго заветы, вёў наперад і вучыў:
Супраць гора і няшчасця трэба моцнай стаць сцяной,
Зноў у бой! Наперад! Рушым мы краінаю усёй.
Ты ўзначаліў, смелы Сталін, наш атрад большэвікоў,
Ты рабочых Закаўказзя ворагаў граміць павёў.
І прамчаўся навальніцай першых боек пяты год,
Год, калі з рабочым рускім разам наш ішоў народ.
На рашучае змаганне, ты, калі грамілі нас,

1) Мікава—кіраўнік паўстання сялян у Мінгрэлii.

Рыхтаваў у час рэакцый, гартаваў рабочы клас.
Як вайны сусветнай залпы прагрымелі над зямлёй,
Зваў к вайне нас грамадзянскай голас Леніна і твой.
Ў дні семнаццатага года грозны выбухнуў пажар,
Палі царскія палацы, з плеч народу спаў цяжар.
Пачалі ўладаць буржуі... Пад струменямі свінца
Гналі ў бой народ Расіі «да пабеднага канца».
Але сілу капітала, царскай спадчыны цяжар
Разграміў адным ударам, змёў Кастрычніка пажар.
І навек зара Советаў над Расіяй узышла.
Пролетарскай дыктатуры моц нязломна, як скала.
І Кастрычнік нас паклікаў за Советы у паход,
Свайго лёсу з меншавізмам не хацеў звязаць народ.
Каб чырвоны сцяг свабоды ахапіў увесь Каўказ!
Ды з падмогай інтэрвентаў меншавізм адкінуў нас.
Меншавізм служыў пакорна, капітал як загадаў,
І Жарданія з трыбуны словы подлыя кідаў:

«Аддаю перавагу імперыялістам Захада перад фанатыкамі Ўсхода».

З мусаватам і дашнакам у саюзе цесным быў,
І краіну ён апорай інтэрвенцкаю зрабіў.
Меншавізм саюз злачынны з генераламі ўчыніў
І для ворагаў рабочых у сябе ён тыл зрабіў.
Ён з Дзенікіным здружыўся, Врангелю падмогу даў,
Пролетарыяў, сялянства на пагібель асуджаў.
Вось паўстаўшыя салдаты фронт пакінулі, пашлі,
Цягнікі цяплушак дымных ціха, зморана паўзлі.
Меншавік падкраўся зверам, расстраляў салдат ва ўпор
І на ім ганебнай плямай лёг крывавых дзён Шамхор.
Помнім подласць гэтай банды! Восемнаццаты быў год,
Ў Александраўскім у парку большэвіцкі вёўся сход.
З кулямётаў біў нас вораг, после рушыў у штыкі,
Шмат рабочых расстралялі катаў-меншавікі.
І адпомсцілі няшчадна за буржуяў, за князёў,
У крывавым моры нашых патапілі шмат сыноў:
І Кахетыю, Лечхумі і Мінгрэлію, Душэт,
Разам з Гурыяй грамілі, засланіўшы белы свет.
І законаў не давалі для армян і асецін,
Для абхазцаў і аджарцаў быў прыём у іх адзін:
Разбівалі і палілі вёскі, сёлы, гарады
І з Арменіяй суседняй пачалі вайну тады.

* * *

Чулі мы у гэтым горы братні кліч большэвіка:
«Разаб'е кайданы вашы большэвіцкая рука».
І народ—пакут і ганьбы, і знявагі не сцярпеў,
І паўстаўшы, ён на поўнач, поўны веры, паглядзеў.

Там чырвоныя атрады выручаць ішлі братоў,
І Серго Орджанікідзе сам атрады тыя вёў.
З ім і Кіраў незабыўны вёў да нас на помач рацъ.
Ленін, Сталін іх паслалі нам у бойках памагаць.
І у дваццаць першым, у лютым векапомны час настаў,
Над радзімаю краінай сцяг чырвоны залунаў.
Мы збылі бяду навекі і, узняўшы новы сцяг,
Мы прышлі з тваім заветам да шчаслівага жыцця.
І грузін у перамогах і ў рабоце не адзін:
З ім аджарац і абхазец, разам з ім і асецін.
І куем цяпер мы разам наша шчасце на зямлі,
І ў сям'і народаў братніх творым мы соцыялізм.

* * *

І на злосць варожым сілам ты радзіма расцвіла,
Ўсе гавораць: «Што з ёй стала, а калоніяй была!»
Перамогу індустрыі сам вялікі Сталін даў,
Ён памножыў нашы сілы і на працы згартаваў!
Рэкі з гор цяклі свабодна, не спыняючы разгон,
Мы іх моцна закавалі і ў жалеза і ў бетон.
Асвятліў краіну бляскам Ільіча вялікі план,
Сіл прыродных непакорны закілзалі акіян.
Хвалім мы Абгэс, Тkварчэлі, Рыёнгэс, Алазангэс,
Быццам радугу на небе— запаліў агні Загэс,
Сухумгэс, Ацгэс заззяюць, ператвораць ночы ў дні,
І Храмгэс патроіць хутка іх бяссонныя агні,
Па чыгунцы нашай новай у адно шляхі звялі
З Брацэулаю Цхалтубо і з Сухумам наш Тіфліс.
І з Квезані Очэмчыры, каб браць вугалю запас,
Нашы новыя дарогі ўсё цясней зблізкаюць нас.
Быў закопан скарб ад веку ў нашых нетрах да пары
Малібдэн, гумбрын і вугаль і бялеючы барыт.
Рускі цар народ наш нішчыў, нішчыў лютасцю сваёй
І не бачыў, што ляжала пад абцасам, пад нагой.
Але з нетраў тых багацце вольнай працай мы ўзялі,
І чырвонай, бурнай лавай руды з плаўкі паплылі.
Заўладаў народны геній нашых нетраў глыбінёй,
Стала Грузія багатай і фабрычнай старанoй.
Дынаміт ўзрывае скалы, рушыць ён зямлю ад сна,
Мрамар, марганец і вугаль шчодра дорыць нам яна.
Дзень за днём руду прымаюць домны ўсе, не адстаюць,
Каб запасы ферра-сплаву меў заўсёды наш Саюз.

Нашы нетры трымаюць у сабе марганец, вугаль, нафту, мыш'як, барыт, гумбрын, малібдэн, мрамар і яшчэ многа каштоўных выкапняў, шырокая распрацоўка якіх здзяйсняецца толькі пры совецкай уладзе.

Совецкая ўлада рэарганізавала на новай тэхнічнай аснове Чыятур-

скія марганцавыя руднікі, якія ў 1935 годзе далі краіне 1.180 тыс. тон марганца.

Арганізаваны новыя галіны прамысловасці—машынабудаўнічая, горнарудная, ферра-марганцавая, тэкстыльная, шоўкаткацкая, хімічная, лясная, чайная, кансервовая, прамысловасць будаўнічых матэрыялаў і інш.

Прамысловасць Грузіі выпусціла ў 1935 годзе прадукцыі на 473 млн. рублёў. Гэта ў 19 раз перавышае даваенны ўзровень.

Растуць прамысловыя цэнтры Грузіі, мяняецца выгляд нашых гарадоў.

У князёў і дармаедаў быў гняздоўем Кутаіс,
Цэлым радам стройных гмахаў ён цяпер узняўся ўвысь.
Дымам новых фабрык поўны, ён гудкам фабрычным рад,
І сады яго блісканнем рыёнгэсаўскім гараць.
Ад набегаў горад даўні, перамучаны ў вяках
І зніштожаны бясконца,ператвораны у прах,
Наш Тіфліс будуем, шырым, каб у росквіт новых дзён,
Багацейшым і святлейшым з кожным годам стаўся ён.
Зносім горкія хібаркі, абнаўляецца квартал,
Ставім фабрыкі, заводы—стары горад юным стаў.
Ёсць завод аўтарамонту, шоўку фабрыка, ў краіне
Вырабляецца абутак і адзенне і машыны.
Расцвілі сады і паркі і асфальт прамчаў ракой,
Стадыёны і тэатры устаюць, ідуць у строй.
Наш Тіфліс ў электразорах так зіяе па начах,
Быццам неба тут апала у праменістых агнях.
Дваццаць год рашала «дума» к Аўлабару зглядзіць шлях,
Ды спынілася «як-небудзь мо' абыйдзецца і так».
Мы за год гару ўскапалі мазалістай сілай рук
І бягуць трамваі лёгка на Каляеву гару.

* * *

І зямлю, што век ляжала пад уладаю князёў,
Дзе памешчык бесклапотна баляваў паміж сяброў,
Поле, нівы, сенажаці, каб квітнеў калгасны лад
Селяніну назаўсёды перадаў совецкі ўрад.
Дзвесце шэсцьдзесят соўгасаў расцвілі ў кароткі час.
Трыццаць восем МТС'аў Наркамзем наладзіў ў нас.
Атакуюць поле наша дваццаць соцень трактароў,
І аруць зямлю глыбока сотні гэтых змагароў,
Мы з чужых краін, далёкіх чай прывозіць больш не станем,
Хай ад нас яго прывозяць для Масквы і Туркестана.
Даць тканіны для убораў—абавязак наш прышоў,
Каб Саюз наш апрануўся у грузінскі яркі шоўк.
Шырым плошчы мы пасеваў і тэхнічных шмат культур,
У спаборніцтве «Удабно», «Дзідзі-Чконі», «Очхамур».
Вяз народ ў калхіднай багне ад даўных яшчэ часоў,
Не было ратунку людзям ад праклятых балатоў.

І будовы ўсе і дрэвы цвіллю мокраю цвілі,
Калхідбуд балоты знішчыў, немач вылечыў зямлі.
Камароў званлівых хмары наш агонь там разагнаў,
Мы спалілі лес прагнілы і гняздо балотных траў.
Нам смяротнай малярыі больш каса ужо не страх,
Асвятляюць мандарыны неба поўнае ў дажджах.
Праз Караці, Чаладзідзі як прабрацца звер не знаў,
А сярод балотнай багны Калхідбуд агні узняў.
Новы шлях даем Рыёну, хай другой дарогай мчыць,
Каб ад вільгаці нарэшце як належыць адпачыць.
І русло ракі напоўніць вал марскі багаццем вод.
І ўпрыгожыць горад Поці наш магутны новы порт.
Абнялі хрыбет высокі, сталі «хелхваві» спяваць,
Пустазелле выжываюць—трэба полем аўладаць.
Ад цяжкога выпарэння неба дымнае яшчэ,
Чай зялёнай, бурнай хваляй к мору Чорнаму цячэ.
Помнім мы тваё заданне, слова цвёрдае даем—
Дваццаць тысяч га плантацый ў час ударны развядзем.
І чырвоных, быццам сонца, што ўзнялося ля вяршын,
Падамо на стол рабочым міліярды мандарын.
І авечкі на Эльдары быццам статак аблакоў,
І Кахеція багата мясам, маслам, малаком.
Буракоў і збожжа горы Тарыфона нам дае,
І Агара цукар шчодра гарадам і сёлам шле.
Ў калектыў ужо ўступіла семдзесят са ста двароў,
І ў палях неугамонны чуцен рокат трактароў.
Тут гарачая работа, адпачынак без турбот,
І жыццём заможным, поўным пачынае жыць народ.
Мы паноў прагналі зграю, вышлі мы ў жыццё наўсцяж,
І заможнымі мы сталі—повен хлеба свіран наш.
«Орсанція», «Натанебі» і калгасаў колькі тут
Міліёнамі ўладаюць, з працы твораць горды цуд.

Калгас «Орсанція», Зугдзідскага раёна, атрымаў 1.500 тыс. рублёў прыбытку, калгас імя Берыя, Агбулах-Мангліскага раёна—2.300 тыс. рублёў, калгас імя Варашылава, Кабулецкага раёна—1.800 тыс. рублёў, калгас сяла Гурыянта, Махарадзеўскага раёна,—1.030 тыс. рублёў, Натанебскі калгас—1.500 тыс. рублёў, калгас імя Тэльмана, Лагадзехскага раёна—1 мільён рублёў і інш.

Працадзень дае ў калгасах, дзе пануе новых дух,
Паўтара чырвонца часта, а нярэдка аж да двух.
У сярэднім так дванаццаць тысяч мае двор у год,
Ды прыкінь яшчэ пасевы, вінаграднікі, гарод.
Ў Лагадэхі Баціяшвілі—майстар поля. Гэта ён
Зарабіў у трыццаць пятым восем соцень працадзён.
Гаспадарскім вокам зоркім бачыць ён і даль, і дол,
Ўзяў грашыма дзесяць тысяч, збожжа—больш двухсот пудоў.
Побач Гамезардашвілі павялічыў свой зварот:

Больш за тысячу і трыста працадзён набраў за год.
Дык сем тысяч кілограмаў хлеба ўзяў ён нездарма,
Грошай аж пятнаццаць тысяч, што цяпер яму зіма?
Вось яшчэ Мімінашвілі, між гурыйцаў першы ён,
Залацістай кукурузы ссыпаў да двухсот пудоў.
Грошы ён шаснаццаць тысяч зарабіў і стаў заможным.
Так ад працы ад калгаснай багацей калгаснік кожны.
Мэблю, вопратку, раялі, патэфоны мы купляем,
Новыя дамы будуем, скарбы множым разам з краем.
У раёне Махарадзе мы прылад, тканіны, сталі
На мільёнаў больш за дзесяць за мінулы год прадалі.
Быт вясковы стаў культурным, багацей стаў і святлей,
Стала лепш нам жыць на свеце, жыць нам стала
весялей.
Сто разоў сям'і калгаснай доўг варочаюць за працу
Школы, больніцы, тэатры, яслі, клубы і палацы.
І растуць асілкі людзі, якіх партыя гадуе,
Іх геройства і адвага жыццё новае будуе.
Батракі, чабаны, слугі сталі сёння ўжо майстрамі
І пра іх легенды ходзяць за каўказскімі гарамі.

* * *

Слова мудрае пра кадры к перамогам рушыць нас:
Беражэм людзей мы, цэнім, твой выконваем наказ.
Ты ўзрасціў байцоў надзейных. Яны ўмелаю рукой
Свет будуюць непахісны, асвятляюць даль вякоў.
Пад стаханаўскім напорам сцёрты межы норм старых,
Гэта вынік твае працы, неўміручых спраў тваіх.
Пабудоў ударных шэраг вырастае дзень за днём,
І стаханаўцаў грузінскіх мы ахвотна назавём.
«Дышлі два—на дзень»,—нам кажа нарміровачны
статут.
Чычынадзе супярэчыць; ён ніяк не згодзен тут.
Адзінаццаць адкаваў ён. Спрытам гэтакім тады
Ашарашан інжынер быў, і дзівіліся дзяды.
Следам майстар Квелашвілі, прыклад бралі каб майстры,
Для машыны чайнай часткі сам разцом панагастрыў.
І набор патрэбных частак, ушчыльніўшы час, адзін,
Замест трох гадзін па норме, ён рыхтуе ў сем хвілін.
Як дачуўся-ж Самхарадзе, запаліўся ўвесь агнём,
У шахту марганцу спусціўся, грукатаў там, нібы гром
Пяцярную норму выдаў да змяркання тады ён.
А праз месяц хто ўжо будзе гэтай нормаю здзіўлён!
Майстар вугалю выдатны—Геаргадзе сёння горд:
У Тквібульскай шахце хутка перакрыў ён той рэкорд.
Салуквадзе, што з Батума, узяў, як прыклад, іх разгон—
І бензіну даць звыш нормы абяцае сотні тон.

Высокія паказальнікі соцыялістычнай прадукцыйнасці працы далі рабочыя-стаханаўцы паравозарамонтнага завода імя Сталіна—

М. Гецадзе, М. Рухадзе, Джанвердашвілі, С. Мамулашвілі; вагонарамонтнага завода імя Берыя—А. Экаладзе, І. Халяпін, В. Джагаеў; шоўкаткацкіх фабрык—Кэто Чумбурыдзе, Софія Ртвеладзе, Сона Хабуа, Наталія Кандзелакі; суконных фабрык—Д. Закаідзе, А. Мурадзян; машынабудаўнічых заводаў—Гвенцадзе, М. Акопаў; тkварчэльскіх руднікоў—Ш. Гадуа, Г. Болдырэў; барытавых руднікоў—А. Джанелідзе, Г. Ушвелідзе і іншыя.

Ворагу свайму на гора і на радасць нашу нам
Ўсе рэкорды б'е умела Фундукідзі Марыям.
Першай зборшчыцаю чаю стала наша Марыям,
І збірае ліст зялёны ў дзень па сорак кілограм.
Руль машын дала краіна, юным руль дала яна.
Частка з іх была ў сталіцы—атрымала ардэна.
Рады мы рукам іх спрытным і закалцы баявой,
Гулу «сталінцаў» магутных, узнімаючых настрой.

Калгасы і соўгасы вырасцілі нямала майстроў-стаханаўцаў сацыялістычнага земляробства. Трактарыст-ордэнаносец Леон Русішвілі з Агарынскай МТС узараў 1.153 гектары пры заданні ў 344 гектары. Урадам Совецкага Саюза ўзнагароджаны ордэнамі за высокія вытворчыя паказальнікі трактарысты Георгі Грыголашвілі, Арсен Мохева, Ефім Аўдосьеў, Давід Капанадзе, Вано Мінасашвілі і камбайнер Арчыл Гудушауры.

Выраслі кадры перадавікоў соцыялістычнага земляробства, якія паказваюць лепшыя ўзоры прадукцыйнасці калгаснай працы, калгаснікі: В. Шэрозія, І. Туркія (Цхакаеўскі раён), І. Далідзе, П. Муджыры (Махарадзеўскі раён), К. Чагунава (Мартвільскі раён), Б. Цулая (Зугдзідскі раён), Э. Кугель (Агбулах-Мангліскі раён), Г. Бегіяшвілі (Сігнахскі раён), Б. Чахвадзе (Батумскі раён), Х. Кабадзе (Кабулецкі раён) і іншыя.

У далёкім Квірыкеці майстра Кіція жыве;
Ён здзіўляе ўсіх работай, да работы ўсіх заве.
Акуліраваў цытрусы, задзівіў вакол народ,
Буржуазнае краіны перакрыў даўно рэкорд.
Ёсць рабочы дужа моцны, хто эб ім не гаварыў,
У табачных нарыхтоўках ўсе рэкорды перакрыў.
Ўсёй Абхазіі як прыклад служыць слаўны Бастанджан;
Ён збірае, навучае і натхняе ўсіх сялян.
Тры сяброўкі шоўк грузінскі навучыліся рабіць,
Дружна з іншымі умеюць лад жыццю свайму зрабіць.
З аднае каробкі грэны да пяці пудоў сырца
Атрымалі шоўк найлепшы на сарочку для хлапца.

Елена Шэнгелая з Самтрэдзі і Тамара Кутэлія з Хобі з адной каробкі грэны атрымалі ад шасцідзесяці да васьмідзесяці кілограмаў шаўкавічных коканаў, Учанейшвілі з паловы каробкі грэны—сорак восем кілограмаў.

Рамі, лаўрам зелянее кожны сад і кожны двор,
І магноліі, герані распускаюць свой убор.

Эўкаліпт, і тунг, і пальму абвівае вінаград,
Уся Мінгрэлія красуе—як адзін чароўны сад.
Вінаграднікі-ж усюды—вінных шмат ў нас сартоў:
«Целіяні»—сорт найлепшы, прыгажосць усіх садоў.
«Цынандалі» і «Ацені», «Оджалешы» і «Чхаверы»
Ўсе найлепшымі сартамі прызнаюцца ў СССР.

* * *

Многа сонца ў нашым краі, многа ў нашым краі гор,
Гор лясістых, апранутых ў беласнежны свой убор.
І азёр у нас нямала, ручаёў між грозных скал,
Дзе з раптоўным моцным гулам абрываецца абвал.
І ля нашых узбярэжжаў найласкавы мора шум,
І з Гульрыпшам прыгажосцю ў спрэчках Гагры і Сухум.
Гудауты святлом зззяюць, лёгкі вецер Кабулет,
На ўсіх дрэвах Цыхіс-Дзіры і зімой зялёны цвет!
Кожны рад пад нашым сонцам на курортах паляжаць,
І ў цяні лясоў сасновых санаторыі стаяць.
Промні месц абастуманскіх дужы сілаю сваей,
І пасля Баржома будзеш весялей і здаравей.
Ў Бахмаро і Бакур'яні дораць пахі смол лясы,
А крыніцы у Цхалтубо робяць цуды для усіх.
І карысна ў адпачынак, службу помнячы й завод,
Прагна вуснамі прыпасці да крыніц жывучых вод.

* * *

Тут пятнаццаць год мінула. А жыццё, як светлы май,
З кожным днём ярчэй квітнее ўноў народжаны наш край.
І няграматных сягоння ў сотні можа толькі пяць,
Маладыя і старыя прагна вучацца чытаць.
Наш закон—садзіць за парты пагалоўна ўсіх дзяцей,
Дваццаць тысяч юных, дужых ў вузах Грузіі расце.
Многа тысяч аграномаў, інжынераў, дактароў
Цэлай арміяй усталі на прастор сваіх палёў.
У навуках родных нашых і імкненне і ўзлёт,
І сто дваццаць інстытутаў збудаваў сабе народ.
Ганарымся тым, што чуем кліч тваіх бадзёрых слоў,
Ў дзесяць раз узрос совецкі дружны круг прафесароў.

Рад каштоўных навуковых прац далі прафесары: Г. Мусхелішвілі, А. Твалчрэлідзе, І. Берыташвілі, А. Джанелідзе, К. Заўрыеў, І. Кутатэладзе, Т. Кварацхелія і іншыя.

Медыцына ў нас мацнее, каб хвароба не касіла,
Каб працоўныя ўсе нашы набіралі болей сілы,
Каб народ ў сям'і совецкай быў бадзёры і здароў,
Быў турботамі акружан і ўвагай дактароў.

Вялікіх поспехаў у Грузіі дасягнула совецкая медыцына. Выраслі кадры медыцынскіх работнікаў—прафесары Н. Кіпшыдзе, К. Эрыстаў, Г. Эліява, І. Коніяшвілі і іншыя.

Сто семкаццаць міліёнаў—гадавы газет тыраж.
Кніг-жа трыццаць пяць мільёнаў за пятнаццаць год
у нас.
Маркс і Энгельс, Ленін, Сталін—на грузінскай мове тут,
Іх чытаюць, вывучаюць і па іх ў жыццё ідуць.
Песцім дар мы Руставелі і яго прыгожых слоў,
Непамерных, шматкаштоўных, як сузор'е жамчугоў.
Любім мы Саба-Сулхана. Любіць наш народ цяпер
Чаўчавадзеўскую мову, Гурамішвілі ясны верш.
Любіць ён Бараташвілі бурны хмель, яго парыў
І адважны голас Важа, слоў Акакія узвіў.
Любы Пушкін нам, Некрасаў, дарагі нам Леў Талстой
Мы праз Гогаля пазналі Украіны хараство.
Любім верш Шэўчэнкі гнеўны, Чэхаў, Горкі—нам свае.
Рады слухаць мы заўсёды, хай любы народ пяе.
У пісьменнікаў грузінскіх «Чангі» засмучаў прыгнёт,
А цяпер паэты бачаць маладога шчасця ўзлёт.
І нясецца наша песня праз даліны, праз хрыбет,
Побач з працаю герояў стаў героем сам паэт.
Моладзь вырасла, чаканіць словы звонкія штодзень,
І ў гісторыі тэатра ёсць старонкі новых дзей.

Пісьменнікі, паэты—Г. Табідзе, М. Джавахішвілі, Е. Габашвілі, Ан. Хаштарыя, Дуту Мегрэлі, Л. Кіячэлі, Н. Лордкіпанідзе, П. Яшвілі, Н. Міцышвілі, В. Гапрындашвілі, Т. Табідзе, Г. Леанідзе, С. Клдыашвілі, К. Гамсахурдзія, А. Абашэлі, С. Эулі, П. Сакварэлідзе, І. Грышашвілі і іншыя зброяй мастацкага слова служаць справе барацьбы за новае жыццё.

Драматургі—Ш. Дадзіяні, С. Шаншыяшвілі, І. Вакелі, П. Какабадзе, П. Самсанідзе, Г. Баазаў далі рад п'ес для сцэны грузінскіх тэатраў. За гады совецкай улады вылучыліся маладыя здольныя паэты і белетрысты: С. Чыкавані, К. Лордкіпанідзе, А. Машашвілі, Р. Гветадзе, Е. Палумардвінаў, А. Кутатэлі, П. Чхіквадзе, Д. Шэнгелая, І. Мосашвілі, якія па-майстэрску адлюстроўваюць ў сваіх творах героіку нашых дзён.

Мастака палітра дыша цеплынёю і святлом
І жыцця шчаслівы росквіт услаўляе палатном.
Працу, гонар і адвагу, даўных звычаяў канец
На камені выбівае майстра здатнага разец.

Мастакі—М. Таідзе, В. Сідамон-Эрыстаў, Л. Гудзіяшвілі, Е. Ахвледзіяні, С. Маісашвілі, І. Штэмберг, Д. Какабадзе, М. Макашвілі, К. Санадзе, І. Вепхвадзе, Д. Цэрэтэлі, В. Кроткаў, С. Надарэйшвілі, Т. Абакелія, К. Гзелішвілі; скульптары—Нікаладзе, Р. Тавадзе, К. Мерабішвілі, Н. Кандэлакі; архітэктары—Севераў, Курдзі-

яні і іншыя адлюстроўваюць у сваіх творах пафас будаўніцтва соцыялізма.

Каб актор, раней вандроўнік, даць мог таленту размах
Шмат тэатраў збудавалі мы па сёлах, гарадах.
Мы ў совецкае мастацтва самабытны ўнеслі ўклад,
Ў нашых операх грузінскіх загучэў народны лад.
Мы з тэатрам Руставелі на шырокі вышлі шлях,
І тэатр Марджанішвілі ў першых лічыцца радах.

У грузінскім тэатры выраслі таленавітыя майстры тэатральнага мастацтва—А. Хорава, А. Васадзе, Н. Гоцырыдзе, Ш. Гомбашыдзе, А. Жоржаліяні, Т. Чаўчавадзе, Н. Кумсеашвілі, Д. Ангуладзе, А. Інашвілі; рэжысёры—Д. Антадзе, П. Асхабадзе, А. Такайшвілі, К. Патарыдзе, Г. Журулі; мастакі—І. Гамрэкелі, С. Вірсаладзе; дырыжэры—Е. Мікеладзе, Ш. Азмайпарашвілі; кампазітары—А. Баланчывадзе, Д. Аракішвілі, І. Тускія, І. Гокіелі, Г. Кіладзе.

А ў гарах, дзе ледзь ліпелі колісь саклі між руін,
І куды звярынай сцежкай ледзь прабрацца мог грузін,
Дзе крывавай помсты звычай адышоў не так даўно,
Там цяпер зусім не тое, там працуе ўжо кіно.
Цэнім нашы дасягненні мы ранейшае пары,
Але шпарка мкнуць наперад новага кіно майстры.

Карціны «Апошні маскарад», «Чырвоныя д'ябалята», «Элісо», створаныя рэжысерамі М. Чыаурэлі, Н. Перэсціяні, Н. Шэнгелая, належаць да ліку лепшых совецкіх фільмаў. З поспехам працуюць рэжысеры: С. Долідзе, К. Мікаберыдзе, Л. Эсакія, В. Мітрафанаў, Г. Макараў.

Шмат калгаснікаў, рабочых—самы цвет працоўных мас
Ад работы ў адпачынку свой праводзяць вольны час—
Ў клубах лекцыі, спектаклі, скокаў радасны парыў
І вітаюць харавыя песні там праз вечары.

* * *

Ўзнагарода за наш поспех—ордэн Леніна на грудзі
Гэта наша радасць, гордасць, яна з намі вечна будзе.
Мы на новыя ўчынкі з новай сілай рушыць рады,
К перамогам новым нашым Берыя вядзе атрады.
Горды мы зямлёю роднай, краем нашым працавітым,
Што з народамі Саюза дружбай братняю спавіты.
І не страшны вораг люты нам з варожасцю нямою,
Мы ў твае ўнікаем словы абнаўлёнаю душою.

«Дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае заваяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць сва-

бодныя і непераможныя. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе».

Каб над ворагамі громам думкі гэтыя упалі,
Каб рабы краін далёкіх быць рабамі перасталі
Ї прыгнёт змяніўся воляй, слёзы—песняй весялосці,
Каб яны, як мы сягоння, прыязджалі ў Крэмль у госці.
Заклік твой!.. Зазвоніць зброя, моцна стане абарона,
Сцягі Леніна склікаюць у паход байцоў чырвоных.
Ї магутным крокам рушыць за калонаю калона!..
Не завяне сад совецкі і ў далінах і на схонах.
Не дамо зямлі народнай, мы жывем і будзем жывы,
Бот чужынца не патопча спелы колас нашай нівы.
Пераможам, наша радасць абляціць вяршынь узвівы,
Будуць песні перамогі аздабляць спачын шчаслівы.
Мы братам удзячны рускім, і пяюць жалейкі ў далях:
«З імі разам у змаганні мы вякамі заўладалі».
Ї разносяцца на свяце нашы радасныя крыкі:
«Слава рускаму народу! Хай жыве народ вялікі!»
Ї па святах урачыстых помнім мы тваё вучэнне,
Леніна жыве ідэя, да вяршынь у ёй імкненне,
Ї ў народаў Закаўказзя непарушнае прызнанне:
У жыцці, у перамогах і ў радасці—яднанне.
Армянін, грузін і тюрак—шлях адзін, як брат ды з братам,
Пачуццём сваёй радзімы горда іх жыццё абнята.
Ї разносяцца на свяце нашы радасныя крыкі:
«Хай жывуць народы нашы і цвіце Саюз вялікі».
Ї урад Саюза так-жа нас увагай акружае,
Ї ў народзе нашым гэта кожны ведае і знае.
Ї табе хвалу спяваюць у калгасах, на заводах,
Молатаў рэспублік нашых галава і друг народаў.
Націск ворага на межы—бескарысная забава,
Там нарком стаіць жалезны, баявой спавіты славай.
Клікне маршал Варашылаў, і на справу абароны
Грозным віхрам паімчацца і грузінскія калоны.

* * *

Найвыдатнейшы з герояў і не знаўшы паражэння
Разам з Леніным злучыў нас ты ў пажарах вызвалення.
Шчасце выкаваў народам, даў другое нараджэнне,
Сталін—сімвал нашай моцы, Сталін—жыцця абуджэнне.
Родны наш! За нас аддаў ты юнасць з цяжкімі гадамі,
Твой пасеў цяпер нам зззяе залацістымі пладамі.
Ты ахоўваеш магутна святасць ленінскіх заветаў,
Творца радасці і шчасця для рэспублікі Советаў.
Табе ў наша свята мыслі і ўрачыстасць наша рэе—
Хай жыве вялікі Сталін—ўсіх прыгнечаных надзея!

По зямлі гудзіць грузінскай, ў гуле фабрык і заводаў:
Хай жыве на радасць свету правадыр наш, друг
народаў!

**Пісьмо працоўных Совецкай Грузіі правадыру народаў—вялікаму СТАЛІНУ падпісалі 1.580 тысяч працоўных Совецкай Грузіі.**

**Пісьмо працоўных Грузіі перaказалі ў вершах паэты Грузіі: ЯШВІЛІ П., ЛЕАНІДЗЕ Г., МІЦЫШВІЛІ Н., МАШАШВІЛІ А.**

**На беларускую мову пераклалі з газеты „Правда“ АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ, ПЯТРУСЬ БРОЎКА, ПЯТРО ГЛЕБКА, КАНДРАТ КРАПІВА.**

*Н. Ф. Гікало*

# ПРАМОВА НА ПЛЕНУМЕ ПРАУЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Таварышы, дазвольце на пленуме Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР, прысвечаным пытанням літаратуры, паэзіі, заняць крыху часу для пытанняў нашай палітыкі і практыкі будаўніцтва соцыялізма тут, на заходняй граніцы нашага вялікага Совецкага Саюза. *(Апладысменты)*.

Ініцыятыва, якая была праяўлена кіраўнікамі Саюза совецкіх пісьменнікаў, каб іменна тут сабрацць гэты пленум, мае выключна вялікае значэнне. Комуністы, рабочыя, калгаснікі—увесь беларускі народ з велізарнай увагай сочаць за работай пленума. Вялікая дапамога, якая ў рэзультаце работы пленума Саюза совецкіх пісьменнікаў будзе нам аказана і ўжо аказана, старыцаю скажацца, у асабліваcці, на далейшым развіцці беларускай соцыялістычнай культуры.

Кожнаму большэвіку, рабочаму, калгасніку Беларусі асабліва радасна, што пленум Саюза совецкіх пісьменнікаў сабраўся іменна тут, на заходняй граніцы, у сталіцы Совецкай Беларусі—горадзе Менску. *(Апладысменты)*.

Не толькі ў вас, перадавых людзей культуры, але і ў кожнага грамадзяніна нашай соцыялістычнай радзімы, зразумела, ёсць жаданне ведаць, што робіцца на граніцы для ўмацавання абароназдольнасці нашай краіны. Чым мацней граніца, тым спакайней працоўныя совецкай краіны могуць будаваць соцыялізм, ажыццяўляць другую пяцігодку—пяцігодку пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. І я думаю, што кожны з вас пераканаўся на справе і ведае, што заходнія граніцы—у моцных руках адданых радзіме людзей, якія павінны будуць у першую чаргу ў выпадку вайны прыняць удар ворага, адбіць гэты ўдар і разграміць ворага. *(Апладысменты)*.

Калі вораг адважыцца напасці, то наша гераічная Чырвоная армія, у рады якой з радасцю стане кожны рабочы, калгаснік, працоўны, не толькі не аддасць ворагу ні адной пядзі нашай совецкай зямлі, але і здолее разграміць ворага на яго ўласнай тэрыторыі. *(Бурныя апладысменты)*.

Вы чулі выступленні пагранічнікаў, якія стаяць на варце заходніх граніц. Вы бачылі сваімі ўласнымі вачамі моц нашых граніц (многія з вас, пісьменнікаў і паэтаў, пабывалі цяпер на самой граніцы). Вы бачыце вашымі вачамі—вачамі пісьменніка і паэта тое, што можа быць не дана кожнаму бачыць. І вы на справе перакана-

ліся ў тым, што граніцы на Захадзе, як і граніцы на Далёкім Усходзе, як і ўсе граніцы нашага вялікага Совецкага Саюза, знаходзяцца ў руках адданых партыі, краіне, совецкаму народу, уладаючых выключным гераізмам, мужнасцю і любоўю да радзімы, людзей. Правільна гаварылі тут на пленуме таварышы, правільна сказаў тав. Эйдэман, што паэты, пісьменнікі, як усе народы нашай совецкай краіны, гэта байцы і абаронцы совецкіх граніц. І ўвесь беларускі народ—гэта баец і абаронца совецкіх заходніх граніц. *(Апладысменты).*

Бо кожны з беларускага народу—няхай ён член партыі ці беспартыйны, няхай ён рабочы, калгаснік, няхай ён пісьменнік, паэт па сутнасці з'яўляецца непасрэдным падчаскам кожнага пагранічніка.

Сёння пагранічнік стаіць на варце, абараняе граніцу. А калі заўтра куля ворага зніме пагранічніка, то кожны з нас тут будзе тым падчаскам, які ў першую чаргу замяніць яго на баявым пасту.

Совецкая Беларусь—гэта краіна, народ якой жыве і працуе на граніцы з капіталістычным Захадам. І ў выпадку нападу імперыялістаў на свяшчэнныя граніцы нашага Совецкага Саюза мы станем непасрэдным соцыялістычным тылам Чырвонай арміі.

Будуючы соцыялізм разам з іншымі народамі, укладваючы сваю долю ў агульную соцыялістычную будоўлю: у літаратуру, паэзію, прамысловасць, сельскую гаспадарку, культуру і т. д., Совецкая Беларусь і ўвесь беларускі народ памятае і рыхтуецца да таго, каб першым грудзьмі прыняць удары армій імперыялістычных дзяржаў. І беларускі народ, першым уступаючы ў бой, пакажа, што ў вялікай брацкай сям'і совецкіх народаў народ беларускі не зойме апошняга месца ў гэтай рашаючай схватцы. *(Працяжныя апладысменты).*

Таварышы, з дакладаў на пленуме аб беларускай літаратуры і паэзіі вы маеце ўжо значнае ўяўленне аб беларускім народзе.

У совецкай літаратуры праўдзіва адлюстроўваецца тое, што адбываецца на справе ў нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі, у жыцці і развіцці таго ці іншага народу.

Вядома, мы не можам яшчэ сказаць, што наша літаратура поўнасцю на сёнешні дзень адлюстроўвае тое, што адбываецца ў нас, як развіваецца Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, як расце і квітнее беларуская соцыялістычная культура і мастацтва, як радасна і весела жыве беларускі народ.

Совецкая Беларусь пад кіраўніцтвам партыі, урада, пад непасрэдным безупынным геніяльным кіраўніцтвам таварыша *Сталіна*, дабілася велізарных поспехаў, як і ўсе іншыя народы нашага вялікага Совецкага Саюза.

Рост і росквіт Совецкай Беларусі—бліскучы ўзор аграмадных, велічных рэзультатаў ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і вялікай дружбы народаў, аб якой так выдатна і мудра сказаў таварыш Сталін.

Беларусь, да рэволюцыі выключна адсталая—сапраўдная турма народаў—цяпер карэнным чынам змянілася.

Мы маем прамысловасці, якія па сваіх размерах не займаюць вялікага месца ў Совецкім Саюзе, але па сваёй прадукцыі маюць велізарнае значэнне. Выраслі новыя заводы-гіганты, новыя галіны

прамысловасці, варштатабудаўніцтва, штучны шоўк, хімічная, лясная і т. д. Значна вырасла ўдзельная вага прамысловасці Совецкай Беларусі, якая дае прадметы шырокага спажывання для працоўных усяго Совецкага Саюза.

Па калектывізацыі мы таксама рушыліся наперад і маем звыш 85 процантаў усіх гаспадарак у калгасах. *(Апладысменты)*.

І ў галіне культуры, навукі, мастацтва нам удалося дабіцца, безумоўна, немалых поспехаў.

Калі мы з радасцю і гордасцю гаворым аб нашых поспехах, то мы ведаем, што нас слухаюць і там, за рубяжом, слухаюць і ворагі, слухаюць і нашы прыяцелі. Там, на Захадзе, рабочыя і сяляне робяць прымітыўныя радыёпрыёмнікі, слухаюць, аб чым гавораць тут, у совецкай краіне, і ўсёй душой сваёй, кожным сваім нервам перажываюць тое, што адбываецца ў нас. Недарма фашысты і фашысцкія ўрады праследуюць працоўных толькі за тое, што яны слухаюць па радыё совецкіх людзей.

Рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі, якія ўсёй душой і сэрцам сваім—з намі, з совецкай краінай, ведаюць, што яны чуюць праўду, бачаць стварэнне вялікай справы—соцыялізма, бачаць, як адсталы раней і прыгнечаны беларускі народ узняўся пры совецкай уладзе на найвышэйшыя вяршыні росквіту яго культуры і гаспадаркі.

І яны ўпэўнены ў тым, што рабочыя і калгаснікі Совецкай Беларусі ведаюць і памятаюць, што нашай работай па будаўніцтву соцыялізма мы набліжаем вызваленне нашых зарубежных братоў. *(Апладысменты)*.

Таварышы, нам тут, у Беларусі, не проста, не лёгка і не без барацьбы даліся тыя поспехі, якія мы маем у рэзультаце мудрага кіраўніцтва партыі і ўрада, у рэзультаце соцыялістычнай перабудовы ўсёй народнай гаспадаркі.

Гісторыя барацьбы беларускага народу ведае шмат цяжкіх старонак, прасякнутых горыччу, слязамі, а часамі і крывёю.

Беларусь была краінай, праз якую ішлі велізарныя арміі імперыялістычных дзяржаў. Палі і лугі Беларусі былі заліты крывёю. Беларусь была арэнай імперыялістычнай вайны. Беларусь была краінай, якая перажыла дзве акупацыі—нямецкую і белапольскую. А што такое нямецкая і белапольская акупацыі—добра ведаюць і памятаюць беларускія сяляне і рабочыя, ведаюць не па гістарычных успамінах, а па жывых фактах барацьбы рабочых і сялян Беларусі супроць прыгнятальнікаў і гвалтаўнікоў.

Няма раёна, няма горада, мястэчка і вёскі ў Беларусі, дзе-б не было ахвяр нямецкай акупацыі, ахвяр белапольскай акупацыі. Калі едзеш па палях, лясах, вёсках і сёлах Беларусі, усюды сустракаеш магілы рабочых і сялян—герояў грамадзянскай вайны, якія змагаліся супроць нямецкіх і белапольскіх акупантаў, якія змагаліся за ўладу Советаў, за пролетарскую рэволюцыю.

Зразумела, што гэтыя падзеі ніколі не могуць быць выкраслены з памяці беларускага народу і вельмі добра т. Шчэрбакоў у сваім уступным слове аб гэтым нам напомніў і сказаў.

Беларускі народ і наша большэвіцкая арганізацыя не могуць выкрасліць з памяці і другіх ворагаў, подлых, хітрых, прыстасоўваю-

чыхся да ўмоў Совецкай Беларусі і гэтым больш небяспечных—гэта беларускіх нацыяналістаў, эсэраў і іншых здраднікаў беларускага народу.

Я зачытаю толькі адзін дакумент, адну маленькую старонку гісторыі, каб зразумець, якія агідныя двурушнікі і здраднікі тут, у Беларусі, вялі сваю подлую работу. Вось вытрымка з паказанняў Ігнатоўскага, былога прэзідэнта Беларускай Акадэміі Навук, у мінулым актыўнага эсэра, у мінулым чалавека, які супрацоўнічаў у падрыхтоўцы і выпуску юбілейных выданняў да 300-годдзя дома Раманавых:

> «Я прызнаю, што з моманту ўступлення ў партыю я вёў свядомую двайкую палітычную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі».

А паплечнік Ігнатоўскага нацдэм Гуткоўскі гаворыць:

«Чым большая мяжа будзе вырыта паміж беларускім і рускім народамі, тым для беларускай культуры будзе лепш. Мы павінны апрацоўваць беларускую мову так, каб праз пяць год яна была для «расейца» зусім незразумелай».

Адзін з буйнейшых нацдэмаў прыводзіць сваю размову з Ігнатоўскім: «Калі мы пакідалі Менск, Ігнатоўскі гаварыў: «нічога, хлопцы, мы будзем тут лаяць вас, а вы з заграніцы лайце нас, а ад гэтага агульная беларуская справа толькі выйграе».

А гэты Ігнатоўскі быў кіруючым работнікам у галіне культуры і навукі Беларусі.

Які хітры і небяспечны гэты пралезшы ў партыю вораг, самы агідны, двурушніцкі вораг, які на словах за совецкую ўладу і партыю, а на справе вядзе работу так, каб адарваць ад Совецкага Саюза Беларусь і аддаць беларускі народ у кабалу нямецкім і польскім панам.

Гэтыя ворагі, выкарыстоўваючы тое, што беларускі народ шмат ахвяр панёс на крывавых палях імперыялістычнай вайны, што царскае самадзяржаўе, памешчыкі і капіталісты давялі да руйнавання беларускі народ, выкарыстоўваючы векавую адсталасць гэтага народу, вялі палітыку на адрыў Беларусі ад Совецкага Саюза, на раз'яднанне і варожасць народаў, на падняволенне беларускага народу.

Большэвікі Беларусі, следуючы ўказанням геніяльнейшага правадыра партыі вялікага *Сталіна*, выкрылі і ўскрылі перад шырокімі масамі працоўных усю здрадніцкую контррэволюцыйную сутнасць беларускіх нацдэмаў і іх агентуры ўнутры партыі—двурушнікаў нацыянал-апартуністаў.

І з гэтымі ворагамі наша большэвіцкая арганізацыя і беларускі народ грунтоўна расправіліся ў 1929 годзе. Як бачыце, не так даўно гэта было. Гэта патрэбна было перажыць беларускаму народу і ён змог гэта перажыць, разбіць і разграміць ворагаў з дапамогай брацкіх народаў і, у першую чаргу, з дапамогай вялікага рускага пралетарыята. *(Бурныя працяжныя апладысменты).*

Таварышы, як і ўсе народы нашай вялікай совецкай радзімы, беларускі народ вядзе наша большэвіцкая партыя, вядзе наш *Сталін*.

*Наш*, бо кожны з народаў нашай вялікай савецкай краіны лічыць, што таварыш Сталін—наш любімы бацька, наш вялікі настаўнік і правадыр. *(Бурныя апладысменты)*. І калі я гавару, калі беларускі калгаснік гаворыць—наш Сталін, то мы выходзім не з якіх-небудзь нацыяналістычных пабуджэнняў, а з меркаванняў пролетарскага інтэрнацыянала і вялікай дружбы паміж народамі. *(Апладысменты)*.

Пра Сталіна спяваеце сёння не толькі вы—паэты і пісьменнікі,—спявае кожны народ нашай вялікай савецкай краіны. *(Бурныя апладысменты)*.

Таварышы, няма народу ў савецкай краіне і за межамі яе, няма народу, які не складаў-бы песень пра вялікіх нашых большэвіцкіх арлоў, якімі з'яўляюцца Ленін і Сталін. *(Бурныя апладысменты)*.

Таварыш Сталін паставіў перад усёй партыяй, перад усёй краінай найвялікшую задачу—вырошчваць кадры, дапамагаць людзям, авалаўшым тэхнікай, любоўна, клапатліва адносіцца да нашых людзей.

Мы пабудавалі фабрыкі і заводы, маем буйную соцыялістычную сельскую гаспадарку—калгасы і соўгасы, дабіліся росквіту культуры і навукі, ідзе быстры ўздым і росквіт усіх савецкіх рэспублік.

Галоўнае і рашаючае для нас, большэвікоў, сёння—гэта новых людзей выкаваць, людзям дапамагчы, падтрымаць іх і прасунуць наперад.

Беларусь раней адзначалася сваёй культурнай і гаспадарчай адсталасцю. І пытанне аб кадрах, аб вылучэнні людзей у Савецкай Беларусі мела і мае выключнае значэнне.

Паглядзіце, як за гады соцыялістычнага будаўніцтва вырас чалавек, вырас працоўны беларус, яўрэй.

Мы цяпер можам смела сказаць, што ў Савецкай Беларусі ёсць нямала людзей, якімі можа ганарыцца савецкая краіна.

Беларусы, якія заўсёды спявалі сумныя песні гора, галечы, прыгнечання і падаўленасці,—я ўжо не гавару аб сумнай песні яўрэйскага мястэчка,—стварылі цяпер новыя песні вясёлага і раданага жыцця.

І беларускі народ узнят да жыцця дзякуючы мудрасці і вялікай любві да ўсіх народаў нашай партыі і вялікага правадыра партыі і народа таварыша Сталіна.

Новыя людзі расцвітаюць, новыя сілы, новыя пласты, раней нябачаныя, падымаюцца.

Некалькі дзён назад я расказваў таварышам Стаўскаму і Шчэрбакову аб размове з калгаснікамі, якія паехалі на нараду па жывёлагадоўлі ў Маскву.

Бачу—сядзяць два старыя, старыя дзяды, гадоў ім, відаць, па 65—70.

Калі я назваў прозвішча аднаго з гэтых дзядоў, раздаецца раптам гучны голас «тут».

Я пытаю, дзе ён раней працаваў, што за жыццё было.

Расказвае: «Я ў 1891 годзе прызываўся ў кавалерыйскі полк і служыў у велізарнай моцнай крэпасці...»

— Пытаю—у якой-жа?

— У Полацкай *(смех)*.

Аказваецца, гэты стары ў 1891 годзе прызываўся ўжо ў царскую армію. Дазвольце мне дапусціць, што мала хто з вас у той час нарадзіўся—у 1891 годзе *(смех)*.

Я запытаў—як ён жыве.

Ён адказвае: «Па совесці кажучы, адносна калгасаў я раней думаў вельмі дрэнна. Што калгасы—справа добрая, гэта я адчуў толькі гадоў пяць. Ёсць у мяне ўнучак, вучыцца, ён мне ўсё растлумачыў.

Мне 65 год, і я думаў, што калгасы—гэта добра для маладых, для людзей, якія яшчэ сілы захавалі. А ў пазалеташнім годзе мне прапанавалі, як старому кавалерысту, ведаючаму каня,—у нашым калгасе людзі зналі, што я ў конях разумею,—каб я заняўся конскай гаспадаркай у калгасе. Я заняўся. Ну, і пастараўся як трэба.

А на сёнешні дзень ад 46 конематак у гэтым калгасе ёсць 46 жарабят. Гэта, таварышы, вялікая справа. Гэты стары на 65 годзе жыцця так глядзеў за коньмі, што ні адно жарабё не загінула. Ён вырасціў 46 маладых добрых коней, а гісторыя гэтых коней, можа быць, будзе такая, што вы ў сваіх паэмах раскажаце пра тое, як гэтыя коні ў Чырвонай конніцы пройдуць палі вялікіх надыходзячых баёў і на Захадзе і на Ўсходзе. *(Бурныя доўгія апладысменты. Усе ўстаюць і наладжваюць авацыю)*.

Вось другі чалавек: калгасніца—сірата з Заслаўскага раёна Антаніна Кірмашук. Месяц назад яна была ў Менску на злёце знатных людзей барацьбы за лён. Яна тады выпрацавала за дзень ручным трапаннем 50 кілограмаў ільну.

Аднойчы ў гадзіну ночы на кватэры раздаецца званок. Падыходжу да тэлефона, думаю, можна сказаць, сакратара ЦК раптам нехта трывожыць *(смех)*. Аказваецца, з Заслаўскага раёна званяць. Жаночы голас гаворыць, што ёсць, моў, у нас, у калгасе калгасніца Антаніна—вы яе ведаеце, рабенькая такая. Яна зрабіла вялікую справу і хоча вам першаму сказаць пра рэзультаты сваёй работы, але саромяцца. Я, як парторг калгаса, угаварыла яе. Бярэ яна трубку, чую—хвалюецца чалавек.

— Добры дзень,—гавару. Што хочаце сказаць?

— Зрабіла я, гаворыць, па трапанню ільну 115 кілограмаў за дзень.

А ведаеце, таварышы, што значыць натрапаць 115 кілограмаў ільну за дзень? У той час гэта быў усесаюзны, яшчэ неперакрыты, рэкорд. *(Апладысменты)*.

Потым я сустрэўся з Антанінай Кірмашук, тут у Менску, куды яе выклікалі, пагаварылі з ёю. Што рушыла яе ў гэтай справе?

Паставіла яна сабе задачу так працаваць, каб паехаць адсюль з Беларусі ў Маскву, убачыць і паціснуць руку таварышу Сталіну. *(Бурныя апладысменты)*.

Гэтыя прыклады я прывёў не таму, што яны асабліва характэрныя для Беларусі—у любым народзе совецкім, на снежных гарах Каўказа, на Урале, у велізарных стэпах Казахстана, у гарачых ад сонца пясках Сярэдняй Азіі, у Далёкай Сібіры растуць, узнімаюцца

людзі, якія па сваіх адносінах да працы—людзі новыя, людзі камуністычнага грамадства.

Таварышы, я павінен прама сказаць, што калі з гэтымі людзьмі сустракаешся ў практыцы сваёй работы, то часамі сябе адчуваеш кепскавата (*смех*). А ведаеце чаму? Таму, што адчуваеш і пытаеш сябе ўнутрана, крытычна, а чорт яго ведае—ці не адстаеш ад гэтых людзей... (*Апладысменты*). Мы часамі не ўсе адразу можам зразумець усю празорлівасць і геніяльнасць указанняў таварыша Сталіна, а ўжо калі практыка падпірае, калі новыя людзі з новымі, павышанымі запросамі і патрабаваннямі да кіраўніцтва паяўляюцца, тады думаеш—як-жа ты раней не прадумаў, не адчуў, не зразумеў усёй велічы геніяльных праніцальных слоў таварыша Сталіна. Калі-б лепш зразумеў раней, то і на сёнешні дзень лепш-бы справіўся з кіраўніцтвам. (*Апладысменты*).

Паглядзіце, як нашы заводы і фабрыкі, рабочыя Менска рыхталіся цёпла і гасцінна спаткаць вас—пісьменнікаў і паэтаў Савецкага Саюза.

На прадпрыемствах і заводах—велізарны попыт на вашы творы. Рабочыя з выключнай любоўю адносіліся да таго, што вы прыдзеце, раскажаце аб вашых творах, аб вашай творчасці, азнаёміцеся з іх работай на фабрыцы, на заводзе. Няма ні аднаго прадпрыемства ў Менску, дзе-б людзі не рыхтаваліся вас сустрэць, не чыталі-б вашых твораў. Гэта гаворыць аб тым, як савецкі народ культурна вырас, як ён любіць і ведае літаратуру і паэзію.

Паглядзіце на людзей мастацтва—артыстаў. Паказалі вам тут п'есу «На купалле». Наш Беларускі першы дзяржаўны тэатр усяго 7 дзён працаваў над гэтай рэччу і тры разы п'есу перарабляў. За два-ж дні да пленума ССП мы ў ЦК партыі абмяркоўвалі і рашылі, што п'есу «На купалле», у якой былі элементы нацдэмаўшчыны, патрэбна перарабіць. І тады паэт Александровіч разам з работнікамі тэатра за адну ноч перарабіў гэту п'есу для таго, каб вы яе ўбачылі. (*Апладысменты*).

Паглядзіце, з якім велізарным напружаннем, сапраўды стаханаўскім гераізмам і жаданнем ва што-б там ні стала даць за кароткі тэрмін высокаякасную пастаноўку працавалі работнікі нашага тэатра—артысты. Людзі перажывалі гэту справу, падняліся.

Хіба гэта не новыя адносіны да працы хоць-бы работнікаў мастацтва? Хіба гэта не новыя людзі, якія працуюць па-новаму?

Хіба гэта не характарызуе, як людзі ўзнімаюцца і ў галіне мастацтва, тэатра? Я не буду гаварыць тут пра стаханаўцаў—выдатных людзей, якія дзесяткамі і сотнямі растуць у нашай прамысловасці, як браты Скабло, Лучкоўскі, Рушко, Хвашчэўскі, Семянідава, Харнас, Дыдо і многія іншыя.

Вазьміце нашых рабочых-вынаходцаў. Каваль віцебскай шчотачнай фабрыкі т. Гофман пабудаваў новыя машыны, такія машыны, якіх яшчэ няма за рубяжом, у капіталістычных краінах. (*Апладысменты*).

Прыязджалі немцы нядаўна да нас; яны да яго звярнуліся—ці нельга атрымаць ваша вынаходства? Ён гаворыць—я комуніст, у

мяне ёсць партыя; партыя скажа, што патрэбна вам даць, калі ласка, дам. *(Апладысменты).*

Гэты вынаходца быў на службе ў Чырвонай арміі ў танкавых часцях і даў цэлы рад каштоўных вынаходстваў для ваеннай справы, для ўмацавання абароны совецкай краіны. *(Апладысменты).*

Наша беларуская літаратура і паэзія, яе лепшыя прадстаўнікі і ўвесь калектыў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў за апошнія гады, асабліва за апошнія два-тры гады, значна выраслі.

Нашы пісьменнікі і паэты пачынаюць рассоўваць рамкі нацыянальнай тэматыкі, выходзяць на больш шырокую арэну, пераходзяць да тэматыкі, звязанай з жыццём іншых народаў нашага Совецкага Саюза. Нашы паэты і пісьменнікі ад некаторых сваіх ранейшых недахопаў, магчыма ад нацыянальнай абмежаванасці, пачынаюць пазбаўляцца і таму яны пачынаюць у агульнай сям'і пісьменнікаў і паэтаў Совецкага Саюза так слаўна расці.

Апошнія творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Александровіча робяць велізарнае ўражанне. Добрыя творы далі і іншыя пісьменнікі і паэты Совецкай Беларусі—Харык, Броўка, Лынькоў і інш. Паэтычная шчырасць, праўда новага жыцця, хараство і музыка слова ў іх апошніх творах моцна гучаць. Гэта сведчыць пра тое, што жыццё ўсяго беларускага народу—гэта новае, прыгожае, гучнае, бадзёрае і радаснае жыццё. *(Бурныя апладысменты).*

З ростам людзей новых, якія растуць па-сталінску, стаханаўцаў, людзей мастацтва і літаратуры, што ўсю сваю энергію, волю, усе свае фізічныя і духоўныя сілы аддаюць нашай совецкай радзіме і вялікай справе соцыялізма, нам самім, партыйным кіраўнікам, трэба моцна расці.

Калі мы не прадумаем да канца ўсёй мудрасці і глыбіні ўказання таварыша Сталіна аб кадрах, аб людзях, якія аўладалі тэхнікай і па-новаму адносяцца да вытворчасці, да працы, калі мы не справімся з нашым агульным ростам, як партыйныя кіраўнікі, будзе для нас дрэнна.

Зараз, калі пры велізарным уздыме ў нашай совецкай краіне мы змагаемся за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства, партыйным кіраўнікам, якія непасрэдна займаюцца практычнай работай, кіраўніцтвам, вырашэннем пытанняў у галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, нельга не расці.

Кожны з нас, хто не будзе працаваць над сабой, хто не будзе расці ў ідэйна-тэарэтычных, палітычных, культурных адносінах, хто не будзе ўзнімацца, хто будзе важнічаць і фанабэрыцца дасягнутымі поспехамі,—будзе няўхільна адставаць і адыходзіць ад жыцця.

Мы, большэвікі, працуючыя на граніцы, лічым, што вам, пісьменнікам і паэтам совецкай краіны трэба стаханаўскі рух і новых растучых людзей не толькі адлюстроўваць у сваёй творчасці, у сваіх творах, але і ўлічваць з пункту гледжання таго, як патрэбна сёння працаваць.

Наша літаратура—совецкая літаратура—самая прынцыповая, самая рэволюцыйная, самая праўдзівая і паслядоўная літаратура ў свеце. Наша літаратура займае самае перадавое месца ў свеце, як

літаратура і паэзія самага перадавога і рэвалюцыйнага класа—рабочага класа. Гэта ясна.

Але, таварышы, не трэба забываць, што людзі растуць, наша краіна расце, і, вам, інжынерам чалавечых душ, патрэбна бачыць, што адбываецца сёння з чалавекам.

Я гавару аб велізарнай зацікаўленасці літаратурай на заводах, калгасах, аб любві народу да вас—тварцоў гэтай літаратуры.

Новыя растучыя людзі—стаханаўцы прамысловасці, сельскай гаспадаркі, пагранічнікі, байцы Чырвонай арміі выраслі і растуць культурна і прад'яўляюць павышаныя патрабаванні да літаратуры і паэзіі. Гэта абавязвае вас самакрытычна адносіцца да сваёй работы, да сваіх твораў, працаваць яшчэ больш над кожным творам.

Знайдзіце такога чалавека—я гавару нават пра нас саміх, пра партыйных работнікаў, якія моцна праводзяць у жыццё лозунг таварыша Сталіна аб самакрытыцы,—які любіў-бы накіраваную на яго самаго крытыку і самакрытыку. Такіх выпадкаў я, наогул кажучы, не сустракаў. *(Смех, апладысменты)*.

Можна не любіць асабіста аб сабе самакрытыку, можна на самакрытыку рэагаваць па-рознаму, але патрэбна галоўнае разумець, што ў нашай совецкай краіне на любым участку работы без самакрытыкі нельга ісці наперад. У нас, непасрэдна працуючых на партыйнай рабоце, і вопыт па частцы самакрытыкі больш, чым у вас *(смех)*, і прывычка да ўздзеяння самакрытыкі—большая, і ўменне рэагаваць на самакрытыку—большае, чым у вас. Пастарайцеся і вы да гэтага прывыкаць. Патрэбна і вам аўладаць большэвіцкай самакрытыкай, як асноўнай зброяй, і разгортваць яе.

Выступленні пісьменнікаў і паэтаў на пленуме паказваюць вялікі рост не толькі творчы, але і палітычны.

Гэты рост выражаецца і ў тым, што вы пачынаеце разгортваць самакрытыку, і ў кожным вашым выступленні, калі вы гаворыце аб партыі, аб граніцы, аб абароне нашай радзімы.

Калі вы адлюструеце стаханаўскі рух і велізарны рост нашай краіны, калі вы будзеце разгортваць самакрытыку, неаслабна працаваць над кожным творам, то разам з усёй совецкай краінай вы будзеце моцна крочыць наперад. Наша совецкая літаратура і паэзія будзе самай лепшай у свеце літаратурай і паэзіяй.

Наша партыя і ўсе народы Совецкага Саюза дапамагаюць і будуць усямерна і ўсебакова вам дапамагаць. Велізарнае значэнне мае работа па перакладах, якую неабходна значна ўзмацніць.

Неабходна, развіваючы і ўзнімаючы мову кожнага народу совецкай краіны, зрабіць шляхам перакладаў творчасць пісьменнікаў і паэтаў кожнага народу здабыткам усіх народаў вялікага Совецкага Саюза.

Мы выказваем шчырую падзяку ад беларускага народу і нашай большэвіцкай арганізацыі тым пісьменнікам і паэтам іншых народаў нашай краіны, якія любоўна, з усёй шчырасцю, лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў робяць здабыткам вялікага рускага народу і ўсіх іншых народаў Совецкага Саюза. *(Апладысменты)*.

Таварышы, я не магу не прынесці сардэчную найглыбейшую па-

дзяку вам, пісьменнікам і паэтам, і за гэту велізарную дапамогу, якую вы аказалі нам тым, што пабывалі на нашых прадпрыемствах, заводах, бачылі нашу Совецкую Беларусь і беларускі народ. Кожны з рабочых, калгаснікаў, нашых работнікаў, якія бачылі і чулі тут вас, будзе не толькі яшчэ лепш і больш чытаць і цаніць вашы творы, але возьмецца яшчэ мацней за вялікую справу будаўніцтва соцыялізма і абароны нашых заходніх граніц. *(Апладысменты).*

Ініцыятыва тав. Эйдэмана, які прапанаваў стварыць альбом з подпісамі, урыўкамі прозы і вершаў усіх пісьменнікаў і паэтаў, якія прысутнічаюць на пленуме, гэта надзвычай вялікая справа. Гэты альбом з подпісамі кожнага пісьменніка і паэта Совецкага Саюза застанецца ў нас, у Беларусі, як сцяг вялікай дружбы народаў, і кожны калектыў рабочых і калгаснікаў будзе змагацца за тое, каб сваёй работай заваяваць высокі гонар на атрыманне і захаванне гэтай кнігі—альбома ўсёй совецкай літаратуры і паэзіі. Гэта—найвялікшая справа. *(Апладысменты).*

Таварышы, мы абавязваемся вашы прыгожыя творы і подпісы, якія будуць у гэтым альбоме, хаваць, як зяніцу вока. *(Апладысменты).*

Гэты альбом мы захаваем і для пакаленняў. Цяперашнія піонеры, октябраты, грамадзяне вялікай Совецкай краіны, якія нараджаюцца цяпер, можа быць, праз дзесяткі год будуць глядзець і чытаць вашы подпісы, пажаданні, вершы, напісаныя ў дні, калі мы будавалі і абаранялі соцыялізм тут, на заходніх граніцах Совецкага Саюза. *(Апладысменты).*

Таварышы, я паказаў вельмі маленькі кавалачак жыцця Совецкай Беларусі, таго, як раней прыгнечаны і адсталы беларускі народ прышоў да росквіту сваёй культуры і гаспадаркі.

Таварышы, кожны рабочы, калгаснік, культурны работнік, кожны з нас, усе совецкія народы і рабочыя, працоўныя любога народу, які знаходзіцца за межамі совецкай краіны, ведаюць і думаюць аб тым вялікім чалавеку, які кожнаму з народаў вялікага Совецкага Саюза, кожнаму з нас з найвялікшай любоўю і цяплынёй ва ўсіх вялікіх і малых справах нашых дапамагае, які з геніяльнай празорлівасцю і мудрасцю кіруе намі і вядзе нас да светлага будучага ўсяго чалавецтва—комунізма.

І таму кожны паэт і пісьменнік не можа не натхняючыся думаць і пісаць, як не можа і кожны з нашых рабочых, калгаснікаў, працоўных, як не можа любы народ не любіць і не пець вуснамі ўсяго народу хвалу любімаму, мудраму, найвялікшаму з людзей таварышу *Сталіну. (Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць. Воклічы: «Няхай жыве наш Сталін!»).*

Н. М. Галадзед

# ЗА ЛІТАРАТУРУ, ВАРТУЮ НАШАЙ ВЯЛІКАЙ ЭПОХІ[1])

Лепшым прадстаўнікам совецкай соцыялістычнай культуры, «інжынерам чалавечых душ», людзям, якія закліканы фармаваць псіхалогію мас у духу соцыялізма,—ад урада Беларускай ССР і ад ЦК комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі перадаю сардэчнае прывітанне. *(Бурныя працяжныя апладысменты, аркестр выконвае «Інтэрнацыянал»).*

Перадаю таксама асаблівае гарачае прывітанне лепшаму з лепшых—першаму вялікаму пролетарскаму пісьменніку Аляксею Максімавічу Горкаму *(Выбух апладысментаў, аркестр выконвае туш).*

Выключна вялікае палітычнае значэнне таго факту, што пленум праўлення Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР сабраўся ў сталіцы беларускай рэспублікі—у Менску, прычым, важна тое, што гэта першы выяздны пленум Саюза совецкіх пісьменнікаў праводзіцца ў Беларусі. Гэта для нас вялікі гонар, таварышы. Гэта будзе мець выключнае значэнне для далейшага пад'ёму беларускай культуры.

Правядзенне пленума пісьменнікаў у Менску, у адной з сталіц Саюзных рэспублік сведчыць таксама і пра вялікае адзінства і братняе супрацоўніцтва народаў СССР.

Асабліва вялікія абавязацельствы гэты факт накладае на беларускіх пісьменнікаў. Гэта іх да шмат чаго абавязвае, як у палітычных адносінах, так і ў галіне іх творчай работы.

Мы выказваем таксама сардэчную нашу падзяку Цэнтральнаму Камітэту ВКП(б), Саюзнаму ўраду і нашаму другу, настаўніку і правадыру таварышу Сталіну *(бурныя апладысменты)* за тое, што гэты пленум пісьменнікаў Совецкага Саюза адбываецца ў нас, у Беларусі. Гэта з'яўляецца фактам вялізнага палітычнага давер'я нашай партыйнай арганізацыі Беларусі, ураду Беларускае ССР і ўсяму беларускаму народу з боку ЦК ВКП(б) і ўрада Саюза.

На вашым пленуме стаяць важнейшыя пытанні совецкай літаратуры, у тым ліку і даклады пра беларускую літаратуру і паэзію.

Гэты факт сам па сабе сведчыць пра вялікія дасягненні Беларускай ССР, як у галіне пад'ёму соцыялістычнай эканомікі, так і ў галіне культуры, літаратуры і мастацтва, у рэзультаце поўнага тры-

---

[1]) Прамова т. Галадзеда на III пленуме праўлення Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР 10-II—36 г.

ўмфу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. А дасягненні гэтыя выключна вялікія.

Шмат хто з вас, таварышы пісьменнікі, былі ў Беларусі раней: у дарэволюцыйныя часы, у час імперыялістычнай вайны, у час грамадзянскай, у першыя гады пасля рэволюцыі, а таксама і пасля выгнання польскіх і нямецкіх акупантаў. Але ў тыя часы Беларусь была іншая. Яна была лапцюжнай, жабрацкай, няграматнай, надруганай, змардаванай і разбуранай імперыялістычнай вайной, двума акупацыямі: нямецкай і польскай.

Яна, Беларусь, была тады арэнай і імперыялістычнай вайны, была на колах бежанства, адкуль царскія генералы і іх кватэрмейстры бізуном выганялі беларускіх сялян у бежанцы, і гэтым яны стваралі для знешняга свету ілюзіі патрыятызму народаў былой Расіі, якія, нібыта, уцякалі ад ворага, і нібыта, даражылі царскай турмой народу. А сярод беларускага народу ў той час распаўсюдзіліся вошы, трахома, сіфіліс, каўтун; беларускія сяляне тады былі змучаныя, з упалымі грудзямі, бяспраўныя, і надруганыя эксплаататарамі-памешчыкамі, капіталістамі і царскімі чыноўнікамі і паліцэйскімі.

У вядомым творы «Железная дорога» ў свой час Некрасаў пісаў:

... Стыдно робеть, закрываться перчаткою,
Ты уж не маленький... волосом рус,
Видишь, стоит изможден лихорадкою
Высокорослый, больной белорусс:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах.
Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо дня в день налегала весь век...

Так увекапомніў у сваім творы вядомы рускі пісьменнік Некрасаў эксплаатацыю беларускага сялянства ў старыя часы рускім царызмам, які даводзіў да знясілення і «впалой груди».

Так было. Але цяпер зусім іншае. Нашы беларускія працоўныя масы, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам рускага рэволюцыйнага пролетарыята з таго часу прайшлі доўгі, цяжкі, але слаўны шлях барацьбы і бліскучых перамог.

Кастрычніцкая рэволюцыя прабудзіла магутную сілу беларускага народу, якая таілася ў ім пад цяжарам бядот, гора і прыгнёту.

Гэтая магутная сіла беларускага народу, які вытрымаў усе жахі царскага прыгнёту, абудзілася ў Кастрычніку 1917 году. У саюзе з рускім рабочым класам, пад яго кіраўніцтвам і з яго дапамогай, беларускі народ адваяваў сваю беларускую дзяржаўнасць.

Раней у беларускага народу не было свае дзяржаўнасці. Тэрыторыя Беларусі была ўскраінай расійскай імперыі, была царскай калоніяй.

Цяпер у яго, беларускага народу, ёсць свая беларуская совецкая дзяржаўнасць.

Беларускі народ шчаслівы тым, што падрыхтоўка яго да Кастрычніцкай рэволюцыі, барацьба за Кастрычнік на Беларусі, барацьба з

нямецкімі і польскімі акупантамі праводзілася пад непасрэдным кіраўніцтвам нашага вялікага маршала соцыялістычнай рэволюцыі таварыша Сталіна. *(Бурныя, працяглыя апладысменты).*

Таварыш Сталін асабіста, сваей клапатлівай рукою стварау партыйную арганізацыю большэвікоў Беларусі—КП(б)Б. Ён стварыў і Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку. Ён пеставаў і вучыў комуністаў Беларусі і ўвесь беларускі народ, ён непасрэдна асабіста кіраваў стварэннем БССР.

Беларуская дзяржаўнасць, такім чынам, бярэ свой пачатак ад Кастрычніцкай рэволюцыі, а стваральнікам Беларускай ССР з'яўляецца вялікі зодчы соцыялізма таварыш Сталін. *(Бурныя працяглыя апладысменты).*

Сёння вас, таварышы, у Менску сустракае ўжо новая Беларусь—Беларусь совецкая.

Ужо адышла ў вечнасць бядота і гора. Каўтун, трахома, упалыя грудзі—гэта помнікі жудаснага мінулага.

Сёння вы прыехалі ўжо ў рэспубліку ордэна Леніна *(працяглыя апладысменты),* у якой нашай партыяй створана магутная соцыялістычная індустрыя, умацаваўшы калгасны лад, расцвіла соцыялістычная культура, літаратура і мастацтва. *(Апладысменты).*

Беларускі народ ужо высунуў з свайго асяроддзя шматлікія таленавітыя кадры арганізатараў соцыялістычнай вытворчасці, кадры пісьменнікаў і паэтаў, вучоных і акадэмікаў, аграномаў і інжынераў, артыстаў і мастакоў, настаўнікаў і ўрачоў, трактарыстаў і танкістаў, лётчыкаў і артылерыстаў, снайпераў і стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Зусім іншае, таварышы, мы наглядаем за некалькі дзесяткаў кілометраў ад нас, у Заходняй Беларусі, якая яшчэ знаходзіцца пад пятою польскага фашызма. Там лютуе жах голада, бядоты, разбурэння, прыгнёту, знішчэння парасткаў народнай культуры. Там нашы браты перажываюць усе жахі фашысцкага мракабесся. Але мы ўпэўнены ў тым, што недалёка той час, калі і там, для іх, для нашых братоў—працоўных мас,—затрыумфуе сцяг Леніна—Сталіна, сцяг соцыялізма *(бурныя апладысменты).*

Звычайна ў прывітальных выступленнях не ўжыта праяўляць прэтэнзіі і патрабаванняў да той арганізацыі, якую вітаеш, але нашы комсамольцы і асабліва нашы піонеры, парушаюць часамі гэты звычай і ў іх часта выходзіць гэта нядрэнна. Я таксама парашыў прад'явіць да вас, таварышы пісьменнікі, некаторыя нашы прэтэнзіі і патрабаванні ад імя чытацкіх мас, у тым ліку і ад комсамольскіх і піонерскіх чытачоў. *(Апладысменты).*

Якія-ж нашы патрабаванні і прэтэнзіі да вас?

Перш за ўсё стаіць пытанне пра выкананне лозунга партыі аб соцыялістычным рэалізме ў мастацкай літаратуры. На першым з'ездзе пісьменнікаў СССР—гэта было галоўным матывам работы з'езда.

Як жа гэта задача практычна рэалізуецца ў нашай літаратуры?

Ці ўсім: і ці правільна яна зразумета і якое адлюстраванне соцыялістычны рэалізм атрымаў у пасляз'ездаўскіх мастацкіх творах?

Таксама вы будзеце абмяркоўваць даклады пра нацыянальныя літаратуры. Неабходна іх таксама абмеркаваць пад кутом зроку адлюстравання і ў нацыянальных літаратурах гэтага асноўнага прынцыпу мастацкай літаратуры. Не раз Маркс і Энгельс, асабліва ў лісце да Ласаля падкрэслівалі вялікую творчую сілу рэалізма. Пра гэта вучыў і Ленін, заўсёды вучыць нас гэтаму і таварыш Сталін; на кожным кроку пра гэта цвердзіць таварыш Сталін.

Энгельс у лісце да англійскай пісьменніцы 80-х гадоў Маргарэт Гаркенс падкрэсліваў, што «на мой погляд рэалізм мае на ўвазе апроч праўдзівасці дэталі, правільнасць перадачы тыповых характараў у тыповых акалічнасцях».

Пра гэта гаварыў у сваім выступленні ад імя ЦК сакратар ЦК ВКП(б) тав. Жданаў на вашым з'ездзе. Ён гаварыў, што: «соцыялістычны рэалізм з'яўляецца асноўным метадам савецкай мастацкай літаратуры і літаратурнай крытыкі». Будзе нядрэнна, калі нашы пісьменнікі будуць браць прыклады і ў такіх выдатных сваіх папярэднікаў, рускіх пісьменнікаў, як Дабралюбаў і Чэрнышэўскі. Наступная мая заўвага—гэта пра партыйнасць і тэндэнцыйнасць мастацкай літаратуры. Гэта—вельмі істотнае пытанне ў мастацкай літаратуры. Мы, комуністы, выходзім з таго, што навука, літаратура, мастацтва заўсёды, ва ўсе часы служыла пэўнаму класу, значыць, была тэндэнцыйнай. Усё пытанне ў тым, калі і якому класу служыла гэта літаратура.

Трэба выходзіць з таго, што літаратура, гэта-ж ідэалогія. Навука, літаратура і мастацтва—гэта ідэалогія, а ідэалогія заўсёды адлюстроўвала інтарэсы свайго класа.

Пра гэта гаварыў нам і таварыш Ленін, гэтаму вучыць нас таварыш Сталін.

Ленін, гаворачы пра тое, што літаратурная справа заўсёды менш падаецца механічнаму рэгуляванню і нівеліраванню, у той-жа час падкрэсліваў, што партыя кіруе літаратурным працэсам. Ён гаворыць: «... зразумела, мы—комуністы, мы не павінны стаяць склаўшы рукі... мы павінны зусім планамерна кіраваць гэтым працэсам і фармаваць яго рэзультаты». Значыць, няма някласавай літаратуры, мы ў Беларусі маем вопыт барацьбы вакол гэтага пытання.

У БССР, ужо ў савецкія часы, не так даўно, літаратура перажывала перыяд хістанняў. Былі спробы працягнуць у літаратуры так званага надкласавага чалавека. Знаходзіліся, з дазволу сказаць, такія пісьменнікі, якія лічылі, што задача пісьменніка стаяць над класам, па-за класам, па-за працэсамі грамадскага развіцця. Варта прыгадаць так званы «узвышэўскі» перыяд, калі, вядомы ідэолаг гэтага буржуазна-нацыяналістычнага літаратурнага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў Бабарэка прапаведваў на старонках часопіса «Узвышша» ў сваіх творах так званага надкласавага чалавека, але ці не ясна, што гэтая прапаганда была якраз за клас, але не за клас пралетарыята, а за клас памешчыка, кулака і нацыяналістычнай буржуазіі.

Задачы мастацкай літаратуры і пісьменнікаў, на фоне паспяховай пераможнай хады соцыялізма, заключаюцца ў тым, каб гэтыя

асноўныя матывы партыйнасці і тэндэнцыйнасці літаратуры як магамацней і больш падкрэсліваць, каб яны праходзілі чырвонаю ніткаю ў іхных мастацкіх творах.

Наступная задача літаратуры заключаецца ў тым, таварышы, што нам трэба ў мастацкай літаратуры абавязкова адлюстраваць паспяховы ход перамагання процілегласці паміж горадам і вёскай.

У свой час Ленін пра гэта гаварыў наступнае:

«З прычыны таго, што процілегласць паміж горадам і вёскай з'яўляецца адной з самых глыбокіх асноў гаспадарчай і культурнай адсталасці вёскі... Расійская комуністычная партыя бачыць у знішчэнні гэтай процілегласці адну з карэнных задач комуністычнага будаўніцтва».

Пасля гэтага ўказання Леніна, якое было зроблена ў 1919 годзе, прайшло шмат часу. Наша партыя, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, няспынна працавала над знішчэннем гэтай процілегласці. Прайшла ўжо карэнная перабудова грамадскіх і вытворчых адносін як у горадзе, так і ў вёсцы. Мы ўжо завяршаем пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства, вёска стала інакшай, яна стала суцэльна калгаснай; кулацтва ліквідована, сялянства пад кіраўніцтвам рабочага класа і разам з ім ужо стала актыўным удзельнікам пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Такім чынам, партыя з вялікім поспехам вырашае адно з карэнных пытанняў рэволюцый і соцыялізма—гэта знішчэнне процілегласці паміж горадам і вёскай.

У вёсцы адбыўся карэнны пераварот у сельскагаспадарчай працы, у побыце вёскі, бо вёска ўжо карыстаецца сучаснымі сродкамі і прыладамі вытворчасці. Там паспяхова развіваецца машынная праца. Сельская гаспадарка мае ўжо вялікую колькасць машын і сучаснай тэхнікі. Паспяхова зжываюцца прыватнаўласніцкія капіталістычныя перажыткі сялянства. Вёска стала інакшай і людзі ў ёй зменьваюцца, перарабляецца іх свядомасць.

Таму нашы пісьменнікі ў сваіх творах павінны даць іменна пад гэтым кутом зроку—зжыванне гэтай процілегласці—узоры жыцця ў горадзе, узоры працы фабрычна-заводскай, з аднаго боку, і ўзоры жыцця новай вёскі, працу ў калгасах і соўгасах—з другога боку, і паказаць тым самым, што сельскагаспадарчая праца стала рознавіднасцю працы індустрыяльнай.

Трэба ў такіх мастацкіх творах паказаць, што культура новай калгаснай вёскі паднімаецца ўжо на ўзровень ўсё растучай культуры соцыялістычнага горада, што і вонкавы выгляд самой калгаснай вёскі—гэта значыць яе будаўніцтва, архітэктуры, матэрыял, з якога будуецца новая вёска (а ў калгасах растуць ужо цагляныя будынкі), тып жыллёвых пабудоў, тып кватэр, побыт, вонкавы выгляд калгаснікаў, што гэта ўсё таксама паднімаецца на ўзровень соцыялістычнага горада. І гэта ўжо на самой справе, таварышы.

Паглядзіце перадавога калгасніка, вы ўжо яго не адрозніце ад рабочага не толькі па вонкаваму выгляду, але і па яго адносінах да працы.

У нашай краіне не мала створана надзвычайных мастацкіх літаратурных твораў, якія адлюстроўваюць працэсы гераічнай барацьбы

сялянства, пад кіраўніцтвам партыі за пераробку вёскі, за стварэнне калгасаў, за ліквідацыю кулацтва. Такая літаратура ў нас ёсць, але яна адлюстроўвае толькі самы працэс барацьбы за калгасы, гістарычны працэс гераічнай барацьбы. Гэта вельмі важна, але гэта адна старана пытання, гэтага, таварышы, на дадзенай ступені развіцця ўжо недастаткова, бо калгасны лад—гэта ўжо заваёваная справа. Барацьба яшчэ не скончана, але цяпер мы ў перабудове вёскі ўзняліся на новую, вышэйшую ступень.

Нам патрэбна даць мастацкія вобразы таго, як вырашаецца карэннае пытанне, пытанне знішчэння процілегласці паміж горадам і вёскай, бо гэта з'яўляецца адным з найбольш рэзкіх і закончаных праяўленняў падзелу працы, што занявольвае чалавека, аб чым гаварылі Маркс, Ленін, Сталін.

Даючы такія творы мастацкай літаратуры, вы тым самым будзеце адзначаць наступаючую эпоху, якая характарызуе не толькі пераход ад капіталізма да соцыялізма, але і ахоплівае перыяд першай фазы комуністычнага грамадства.

Наступнае пытанне. Таварыш Сталін гаворыць нам, што пераход у комуністычнае грамадства будзе ажыццёўлен толькі тады, калі не толькі будуць ліквідованы класы, але калі будзе знішчана розніца паміж рабочым і селянінам, зроблена ўсё тое для таго, каб усе былі работнікамі, калі будзе знішчана процілегласць паміж працай разумовай і працай фізічнай—гэты прадукт капіталістычнай вытворчасці.

Таварыш Сталін на нарадзе стаханаўцаў у Крэмлі ў сваёй прамове зрабіў геніяльны прагноз, які знаймуе падрыхтоўку ўмоў пераходу ад грамадства соцыялістычнага да грамадства комуністычнага. Ён у стаханаўскім руху ўбачыў зачаткі і ўмовы знішчэння процілегласці паміж працай фізічнай і працай разумовай.

Гэта пастаноўка пытання таварыша Сталіна адначасова ставіць зусім новую задачу і перад совецкімі пісьменнікамі. Перад вамі стала пытанне пра стварэнне новых мастацкіх твораў. Няма ніякага сумнення ў тым, што многія совецкія пісьменнікі ўжо ўключыліся ў стаханаўскі рух, і яны безумоўна створаць не адзін надзвычайны мастацкі твор, які пакажа барацьбу стаханаўцаў за высокую прадукцыйнасць працы, барацьбу за ломку рэшткаў кансерватызма, аджыўшых норм і праектных магутнасцей, што стаханаўцы робяць па сутнасці рэволюцыю ў вытворчасці.

Гэта вельмі важна паказаць у літаратуры. Гэта будзе дапамагаць стаханаўцам весці сваю барацьбу. Але гэта яшчэ не ўсё, таварышы, пісьменнікі.

З прамовы таварыша Сталіна мы павінны зрабіць вывад і аб тым, што тут справа не толькі ў падняцці прадукцыйнасці працы, гэта, вядома ёсць і вельмі важна, але тут таксама гутарка ідзе і аб пераходзе да комунізма. Пачынаецца ліквідацыя процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай не на аснове ўраўнення, знікення культурна-тэхнічнага ўзроўню інжынераў і тэхнікаў, але, як гаварыў таварыш Сталін, на аснове ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню інжынераў і тэхнікаў. Таму, таварышы, пісьменнікі, стварыце такія мастацкія творы, якія паказ-

валі-б самы працэс знішчэння гэтай процілегласці паміж разумовай і фізічнай працай. У нас ўжо ёсць нямала культурных рабочых, ёсць і культурныя калгаснікі.

Вазьміце такога культурнага рабочага, добра аўладаўшага тэхнікай, за свайго героя, пастаўце яго поруч з інжынерам і апранайце ў мастацкую форму тыя прагнозы і прадбачанкі, якія выказаў таварыш Сталін у сувязі са стаханаўскім рухам, і пакажыце, як перадавыя рабочыя, што авалодваюць тэхнікай, падымаюцца па свайму культурна-тэхнічнаму ўзроўню, да ўзроўню інжынераў і тэхнікаў і гэтым самым пакажыце працэс ліквідацыі процілегласці паміж разумовай працай і працай фізічнай.

Вазьміце перадавога калгасніка, які пасняхова авалодвае тэхнікай, а такія калгаснікі ў нас ёсць, пастаўце яго поруч з аграномам, поруч з вопытнікам сельскай гаспадаркі, і пакажыце тым самым, што гэты працэс зжывання процілегласці разумовай працы і фізічнай адбываецца таксама і ў вёсцы.

Такім чынам таварышы, пісьменнікі, на гэтых карэнных пытаннях павінна сканцэнтраваць сваю ўвагу мастацкая літаратура. Гэта, таварышы, і будзе сапраўдны соцыялістычны рэалізм у мастацкай літаратуры.

Шмат хто можа сказаць, што гэта забяганне наперад, што гэта абрысы будучага, гэта ўжо рамантыка. Можа і так, таварышы. Але-ж мы ніколі і не адкідалі рэволюцыйнай рамантыкі, як аднаго з метадаў мастацкай літаратуры.

Задача зліцця рэалізма і рэволюцыйнай рамантыкі—гэта-ж асноўныя задачы мастацкай літаратуры, пра якія гаварыў таварыш Горкі ў сваім дакладзе на вашым з'ездзе пісьменнікаў.

Ён гаварыў, што зліццё рамантызма і рэалізма—гэта арыгінальная сіла для нашай вялікай літаратуры. Гэта маляўніча падкрэсліваў у сваёй прамове на з'ездзе пісьменнікаў таварыш Жданаў, указваючы, што рэволюцыйны рамантызм павінен ўваходзіць у літаратурную творчасць і што ўсё жыццё нашай партыі і рабочага класа заключаецца ў спалучэнні самай суровай, цвярозай практычнай работы з велізарнай героікай і грандыёзнымі перспектывамі, з заўсёдным імкненнем наперад.

А што такое пісьменнік, і што ад яго патрабуецца?

Пісьменнік перш за ўсё павінен быць чалавекам свае эпохі. Ён абавязан не толькі бачыць, але і прадбачыць.

Прыгадайце прадмову Максіма Горкага да адной з перакладных кніг, дзе ён проста аб гэтым гаворыць і гаворыць зусім правільна.

Вазьміце асноўныя працы Маркса і вы ўбачыце, што ён, аналізуючы зараджэнне мануфактурнай вытворчасці, убачыў зараджэнне новага класа—класа рабочага. Ён у гэтым убачыў падзел працы на разумовую і фізічную. І ён па гэтых зачатачных элементах капіталістычнай вытворчасці вызначыў і шлях развіцця грамадства, грамадскую ролю і шляхі развіцця пролетарыята, указаўшы, што гэта асноўны клас—пролетарыят будзе вырашальнікам лёсаў чалавечага грамадства, ён накановаў і шляхі пераходу ў комуністычнае грамадства праз пролетарскую рэволюцыю. Гэта і ёсць па-сапраўднаму бачыць і прадбачыць. Вы-ж, таварышы пісьменнікі, павінны фарма-

ваць ідэалогію мас, а гэта значыць перарабляць гэтую ідэалогію, гэта значыць, у яркіх мастацкіх вобразах паказваць не толькі працэсы барацьбы, што вядзецца за новае грамадства, але і памагаць зжываць перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей, паказваць перспектывы гэтым людзям, куды яны будуць развівацца, а гэтым самым перарабляць свядомасць людзей.

Вазьміце працы таварыша Сталіна, напрыклад, яго прамову на нарадзе стаханаўцаў. Ён у стаханаўскім руху ўбачыў не толькі прычыны ўзнікнення гэтага руху, але ён выказаў прадбачанне, што гэты рух сабою знаймуе, куды ён будзе развівацца і да чаго ён прывядзе. Гэта тое, што ён назваў зачаткамі зжыцця процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічкай і назваў зернямі пераходу ад грамадства соцыялістычнага да грамадства комуністычнага. Гэта і ёсць не толькі пасапраўднаму бачыць, але і прадбачыць.

Задачы пісьменнікаў заключаюцца ў тым, каб вучыцца ў таварыша Сталіна і апранаць у мастацкія формы працэсы далейшага развіцця соцыялістычнай рэволюцыі да канцовай яе мэты, да пабудовы комуністычнага грамадства.

Яшчэ пра адну задачу, якая стаіць перад мастацкай літаратурай.

Прыгадайце закон савецкай улады і кашай партыі аб ахове грамадскай соцыялістычнай уласнасці. Гэта адно з карэнных пытанняў перавыхавання членаў нашага соцыялістычнага грамадства.

Паўстае пытанне—ці знайшло гэтае пытанне сваё адлюстраванне ў мастацкіх творах літаратуры, ці адгукнулася наша мастацкая літаратура на пастаноўку гэтага пытання?

Прыгадайце, што калі капіталізм насаджваў прыватную уласнасць, якую эксплаататары абвясцілі свяшчэннай і недатыкальнай, дык тады прыватныя ўласнікі маемасцей, капіталаў і ўсялякіх багаццяў, праз свой дзяржаўны апарат насаджвалі гэтыя прынцыпы аховы прыватнай уласнасці агнём, мячом і крыжам.

Усё буржуазнае права пабудована на ахове прыватнай уласнасці і многія тысячы і сотні тысяч людзей, гарапашнікаў, эксплаатуемых мас зрабіліся ахвярай насаджэння гэтага прынцыпу буржуазіі, гэта значыць прынцыпу аховы прыватнай уласнасці. Крывавым шляхам буржуазія прышчапляла гэту псіхалогію масам.

А якая задача пастаўлена згаданым законам савецкай улады?

Пытанне павернута ў процілеглы бок,—ў бок аховы грамадскай, соцыялістычнай уласнасці, і агалошана ўпершыню ў гісторыі чалавецтва, што ў кас грамадская соцыялістычная ўласнасць з'яўляецца свяшчэннай і недатыкальнай. Гэта і ёсць нормы нашага савецкага соцыялістычнага права. Гэта таксама стасуецца і да перавыхавання людзей, іх псіхалогіі, да выгнання перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей, а гэтыя перажыткі яшчэ моцныя.

Таму у мастацкай літаратуры павінна знайсці сваё адлюстраванне і гэтае важнейшае пытанне. Тут наперадзе ўпартая работа па пераробцы свядомасці людзей. Прыгадайце словы таварыша Леніна, які гаварыў: «прыватная ўласнасць раз'ядноўвае, а соцыялізм аб'ядноўвае».

Дык вось змагаючыся праз літаратуру за ўкараненне ў свядо-

масць людзей задач аховы соцыялістычнай уласнасці, гэтым самым вы будзеце служыць аб'яднанню людзей ў новае комуністычнае грамадства. Трэба ў літаратуры, на канкрэтных фактах паказаць барацьбу мас за недатыкальнасць соцыялістычнай уласнасці.

Выключна важнае пытанне, якое стаіць перад усімі пісьменнікамі нашага Саюза—гэта вывучэнне гісторыі літаратуры і напісання марксісцкай гісторыі гэтай літаратуры, на аснове паказання таварыша Сталіна. Я маю на ўвазе вядомыя заўвагі таварыша Сталіна, Кірава і Жданава пра напісанне грамадзянскай гісторыі. Па гэтых прынцыпах трэба пісаць гісторыю літаратуры, бо ўся мастацкая літаратура, як у мінулым, так і цяпер—адлюстроўвала і адлюстроўвае грамадскія працэсы жыцця і развіцця на кожным гістарычным этапе. Значыць, гэта задача з'яўляецца задачай выключна важнай. Нельга быць сапраўдным пісьменнікам не вывучыўшы гісторыю літаратуры, не вывучыўшы крытычна ўсёй літаратурнай спадчыны, створанай нашымі папярэднікамі.

Вы, таварышы, рускія пісьменнікі, у гэтых пытаннях знаходзіцеся ў лепшых умовах, чым пісьменнікі Беларусі. У вас ёсць гісторыя літаратуры, хоць можа не зусім так, як трэба напісаная, у вас таксама ёсць і багацейшая літаратурная спадчына, створаная рускімі пісьменнікамі ранейшых вякоў.

Беларуская-ж літаратура ў асноўным маладая літаратура, хоць беларуская літаратура была і ў дарэволюцыйны перыяд, але яе было вельмі мала.

Перад намі стаіць задача напісаць гісторыю беларускай літаратуры—гэта справа для нас вельмі цяжкая, але і вельмі важная. Таму мы звяртаемся да вас, пісьменнікаў Саюза ССР, па дапамогу—памажыце нам напісаць гісторыю беларускай літаратуры. У вас вопыт багацейшы, чым у нас, у вас багацейшая спадчына мастацкай літаратуры, і вы дапамогу гэту нам павінны зрабіць. Літаратура Беларусі развівалася на аснове рускай літаратуры, і мы лічым рускую літаратуру вядучай літаратурай у адносінах да беларускай літаратуры на ўсіх этапах яе развіцця.

Былі ў нас паасобныя, з дазволу сказаць, літаратары, якія імкнуліся адарваць ад рускай літаратуры літаратуру беларускую і тым самым адарваць наша будаўніцтва ад будаўніцтва рабочага класа СССР, яны спрабавалі паказаць, што літаратура Беларусі ўзнікла як-бы на аснове літаратуры заходне-еўрапейскай, а не на аснове рускай літаратуры. Але гэта былі тыя людзі, якія прадстаўлялі буржуазна-кулацкі беларускі нацыяналізм і імкнуліся павярнуць нашу беларускую літаратуру на пазіцыю заходне-еўрапейскага фашызма, саюз з якім яны імкнуліся ўстанавіць. Асноўная іх ідэя была не ва ўстанаўленні роданачальніка беларускай літаратуры, а ў тым, каб адарваць Беларусь ад Масквы. Пад гэту сваю задачу яны падганялі ўсе культурныя каштоўнасці. Але комуністычная партыя большэвікоў Беларусі паклала канец гэтым буржуазным развагам, ліквідаваўшы ўсе гэтыя антысовецкія імкненні, адкінуўшы іх у архіў нацыяналістычных літаратур.

Мы стаім на праўдзівай глебе, на той глебе, якая гаворыць, што літаратура Беларусі ўзнікла і развіваецца на аснове рускай літа-

ратуры, галоўным чынам на аснове літаратуры савецкіх пісьменнікаў СССР, якая і з'яўляецца вядучай літаратурай для нас. Калі мы гаварым пра напісанне гісторыі беларускай літаратуры, то мы маем на ўвазе, каб гэтая гісторыя пісалася ў духе Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна. Яе пісаць трэба праўдзіва, не замазваючы харошых бакоў яе развіцця і не ўпрыгожваючы дрэнных бакоў, не лакіруючы паасобных твораў, паасобных пісьменнікаў, якія прайшлі розныя этапы сваёй літаратурнай творчасці, у тым ліку і этапы нацыяналістычных ухілаў. У напісанні гісторыі беларускай літаратуры не павінна быць месца асабістым настроям тых, што пішуць гісторыю, тым больш, што нельга дапускаць у гэтай важнай справе адсебяціны, якая часта бывае з боку паасобных гісторыкаў і крытыкаў.

Яшчэ пра адно пытанне—гэта пра пытанне стварэння рэвалюцыйнай сатыры.

Трэба сказаць, што гэты літаратурны жанр у нас, напрыклад, у Беларусі развіваецца слаба, як мне здаецца, ён слаба развіваецца і ў літаратуры ўсіх народаў СССР. А нам, таварышы, патрэбен у літаратуры смех. З аднаго боку патрэбен смех бадзёры,—«жыць стала лепш, жыць стала весялей, таварышы»—які заахвочваў-бы аптымізм мас, узбуджваў бы гэты аптымізм.

Нам патрэбен таксама і смех, што біў-бы ворага, што бічаваў бы дробна-буржуазныя перажыткі, дробна-буржуазную расхлябанасць, распушчанасць, разяватцва і тым самым памагае нам больш паспяхова зжываць капіталістычныя перажыткі ў свядомасці людзей.

Чаму-ж смехам рэвалюцыйнай сатыры не бічаваць гэтых перажыткаў капіталізма? Гэта—адзін з лепшых спосабаў барацьбы з імі. Прычым, гэты жанр больш хутка даходзіць да шырокіх мас чытачоў.

Такім чынам я стаю за рэвалюцыйную сатыру.

Пра літаратурны аптымізм. Чытацкія масы напоўнены рэвалюцыйным аптымізмам. Яны хочуць бачыць гэты аптымізм і ў вашых мастацкіх творах. Таму, мастацкая літаратура Савецкага Саюза павінна быць літаратурай, напоўненай рэвалюцыйным аптымізмам мас. Творы пісьменнікаў павінны быць манументальным помнікам нашай слаўнай аптымістычнай эпохі.

Мы цяпер гэтыя патрабаванні прад'яўляем не толькі да літаратуры, але і да усіх відаў мастацтва, як напрыклад, да тэатра, выяўленчага мастацтва, у тым ліку і да архітэктуры. Калі мы ўзводзім новыя нашы пабудовы ў гарадах, у калгасах, і т. д., то першае наша патрабаванне да архітэктараў—гэта такое патрабаванне: таварышы архітэктары, стварыце будынкі, вартыя нашай вялікай сталінскай эпохі як па свайму зместу, так і па сваёй форме, па вонкаваму выгляду, каб гэтыя будынкі паказвалі веліч нашага рэвалюцыйнага народу, каб яны былі манументальнымі будынкамі.

Мы, чытачы, прад'яўляем да вас патрабаванні, таварышы пісьменнікі, каб у кожным вашым герої, які прадстаўляе сабой нашых будаўнікоў соцыялізма, адчувалася-б сіла, магутнасць, упэўненасць, каб гэты герой быў як скульптурны злепак моцнага, магутнага соцыялістычнага народу.

Гэтым і адрозніваецца нашая эпоха, наша літаратура, ад эпохі літаратуры і мастацтва гніючага капіталізма.

Мне прыгадваюцца словы нашай пісьменніцы Веры Інбер, якая ў сваёй прамове на з'ездзе пісьменнікаў расказала пра слоўнік, у якім значнае месца адведзена слову «песімізм» і некалькі радкоў адведзена слову «аптымізм». Яна мела рацыю, калі гаварыла пра тое, што аптымізм у мастацкай літаратуры—гэта галіна, яшчэ недастаткова распрацована. Гніласць капіталізма і падзенне яго культуры, рост песімізма, як вам вядома, найбольш характэрна выражана буржуазным пісьменнікам Луі Селін у яго творы «Падарожжа на край ночы». Не буду падаваць цытат з гэтай кнігі, але скажу, што гэты крык безнадзейнасці, крык страшэннага песімізма—песімізма, які зарадзіўся на краю пагібелі капіталістычнага грамадства.

У нас другая глеба, другія ўмовы. Наша грамадскасць расце, гіганцкі падымаецца ўгору. Перад нашым соцыялістычным грамадствам дзівосная будучыня. Члены нашага соцыялістычнага грамадства перапоўнены сапраўдным аптымізмам. Ён б'е цераз край на кожным кроку, на любой будоўлі, на любой фабрыцы, у любым калгасе, у любой школе, інстытуце і г. д.

Таму і творы нашай мастацкай літаратуры павінны квітнець гэтым рэволюцыйным аптымізмам нашага народу. Тым больш трэба ўлічыць, што мастацкая літаратура, стварaемая совецкімі пісьменнікамі—гэта ёсць ні што іншае, як ідэалагічная лабараторыя, якая фармуе псіхалогію мас, свядомасць людзей і перарабляе гэту свядомасць.

А нам патрэбны людзі бадзёрыя, з новай свядомасцю, вольныя ад капіталістычных перажыткаў. Наогул усе чытачы хочуць у мастацкай літаратуры чэрпаць веды, бадзёрасць, сілу, каб яна—гэтая літаратура—бадзёрыла масы, прыдавала ім сілы ў нашай цудоўнай гераічнай барацьбе.

Пару слоў пра літаратурную крытыку і пра крытыкаў.

Нельга абысці пытання аб крытыцы ў мастацкай літаратуры і аб яе крытыках:

Першая ўмова для таварышоў пісьменнікаў-крытыкаў—гэта трэба быць крытыкамі сур'ёзнымі, культурнымі, а самае галоўнае, трэба быць марксісцка адукаванымі, падкованымі марксізмам на ўсе чатыры, як кажуць.

У нас многа такіх выпадкаў крытыкі мастацкай літаратуры, калі крытык або коўзаецца па паверхні, або з-за паасобных недахопаў твору ганьбіць увесь твор у цэлым, або гэтая крытыка зводзіцца да выказвання асабістых настрояў самога крытыка. Гэта недапусцімая рэч.

Каб быць сапраўдным крытыкам, трэба ведаць марксізм. Толькі марксісцкая крытыка прынцыповая, якая не дапускае ніякіх асабістых момантаў і асабістых настрояў, і можа быць сапраўднай крытыкай.

Таварыш Сталін заўсёды нас вучыць, што «Правільная палітыка—гэта ёсць прынцыповая палітыка».

Дапасоўваючы гэтыя словы таварыша Сталіна да задач літаратурнай крытыкі, мы можам сказаць: правільная літаратурная кры-

тыка—гэта прынцыповая крытыка, крытыка на аснове марксізма-ленінізма. Іншая крытыка нам непатрэбна.

Мы прад'яўляем да вас яшчэ і такія патрабаванні—стварыць такую літаратуру, якая-б выхоўвала ў шырокіх масах народу нашай пралетарскай дзяржавы бязмежную любоў да ўсёй радзімы, каб яна выхоўвала і абуджала ў масах сапраўдны савецкі патрыятызм. Нам патрэбна такая літаратура, літаратура савецкага патрыятызма. Гэта важная акалічнасць.

Галоўнае месца ў буржуазнай літаратуры займае літаратура патрыятычная. Буржуазія імкнецца прапагандай буржуазнага патрыятызма адурманьваць галовы рабочым масам для таго, каб лягчэй было іх эксплаатаваць.

Але ў нас-жа ёсць свая радзіма, радзіма савецкая, сацыялістычная—СССР. Гэта новая радзіма, радзіма працоўных усяго свету.

Гэта тым больш важна для нашага маладога пакалення, якое не перажыло жахаў царскага жандарскага рэжыму, з якім маладое пакаленне знаёма толькі па літаратуры. Тым больш, нам трэба развіць любоў да нашай радзімы.

Трэба навучыць гэтых маладых будаўнікоў сацыялізма праз мастацкую літаратуру любіць сваю краіну Советаў, быць сапраўднымі савецкімі патрыётамі, а тым самым і развіваць патрыятызм і любоў да сусветнага Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Таму стварайце творы, якія напаўнялі-б сэрцы чытачоў сапраўдным савецкім патрыятызмам і любоўю да нашай магутнай радзімы.

Натуральна, што мы, работнікі і ўсе працоўныя Беларусі, што жывем на граніцы з капіталістычным светам, больш чым хто другі маем патрэбу ў абароннай мастацкай літаратуры. Для нас гэта вельмі важна, важна гэта і для ўсіх працоўных нашага Саюза ССР.

Наша партыя і саюзны ўрад, асабліва таварыш Сталін, вельмі шмат удзяляе ўвагі пытанням умацавання абароны нашай краіны. Гэтая абарона з кожным днём мацнее. Мы заўсёды гатовы сустрэць ва ўсёўзброенні ўсякія нечаканасці, але трэба, каб і мастацкая літаратура на сваіх старонках паказала нашу абаронную магутнасць, каб яна заклікала не толькі байцоў рабоча-сялянскай Чырвонай арміі і байцоў пагранічных войск, але і ўсе працоўныя масы на ахову нашых савецкіх граніц, на ўмацаванне абараназдольнасці нашай краіны. (*Апладысменты*).

У нас ужо ёсць матэрыял і дастатковы, на якім можна стварыць цудоўны мастацкі твор пра абарону нашай краіны. Таксама нямала ў нас герояў, якія ахоўваюць нашы савецкія рубяжы — граніцы.

Вось тут трэба мастацкай літаратуры разгарнуцца як мага шырэй і паказаць гераізм, намаганні, пільнасць і адданасць сваёй радзіме як чырвонаармейцаў, так і нашых пагранічнікаў, а таксама і паказаць узаемаадносіны насельніцтва з Чырвонай арміяй і пагранічнікамі і тую дапамогу, якая аказваецца насельніцтвам усёй савецкай краіны ў ахове граніц СССР, дапамогу ў тым, каб не дапускаць

на нашу недатыкальную совецкую зямлю капіталістычных ворагаў, дапамогу ў тым, каб лавіць шпіёнаў і іншых агентаў фашызма.

У нас ёсць тысячы выпадкаў, калі і рабочыя і сяляне непасрэдна выконваюць задачу аховы нашых совецкіх граніц — гэта таксама героі.

Хачу сказаць, што немалаважнае значэнне мае і такое пытанне культуры, як вусная народная творчасць.

Гэта справа не павінна выпадаць з поля зроку совецкіх пісьменнікаў.

У сувязі з новымі вытворчымі адносінамі, пад'емам матэрыяльнага і культурнага добрабыту мас, палепшання жыцця на фабрыках і заводах, і асабліва ў вёсцы, магутна развіваецца вусна-народная творчасць. Прычым, з новымі прыладамі і сродкамі вытворчасці, якія прышлі ў вёску, з новымі адносінамі да працы ствараюцца і новыя вусныя творы—песні, быліны, казкі, ствараюцца новыя словы, новыя рытмы і рыфмы, новы змест ужо на новой соцыяльна-вытворчай аснове. А вам-жа вядома, таварышы пісьменнікі, што тт. Ленін і Сталін заўсёды ўдзялялі гэтаму пытанню выключную ўвагу.

На гэтай вуснай народнай творчасці можна прасачыць не толькі новае жыццё людзей, новыя інтарэсы, але і новае імкненне мас, можна ўбачыць, куды масы імкнуцца, якія іхныя мары, можна ўбачыць іх настроі, убачыць як мяняецца псіхалогія людзей і тым самым убачыць працэсы і ступень ліквідацыі капіталістычных перажыткаў у свядомасці мас. Таму вусна-народнай творчасці трэба ўдзяліць выключную ўвагу.

Прыгадайце, як тав. Горкі, у сваім дакладзе на з'ездзе пісьменнікаў на гэта звяртаў вашу ўвагу і паказваў, што сапраўднай гісторыі працоўнага народу нельга ведаць, не ведаючы вуснай творчасці, якая няспынна і бясспрэчна ўплывала на стварэнне такіх буйнейшых твораў кніжнай літаратуры, як напрыклад, «Фауст», «Прыгоды барона Мюнхгаўзена» і інш.

Апошняе маё пажаданне,—вазьміцеся па-сапраўднаму за дзіцячую літаратуру на аснове тых указанняў, якія дае нам ЦК ВКП(б) і якія выказаны ў вядомай прамове сакратара ЦК ВКП(б) тав. Андрэева на нарадзе па дзіцячай літаратуры. Мы маем патрэбу ў добрай дзіцячай літаратуры, пісьменнікі павінны яе стварыць.

Вось асноўныя прэтэнзіі чытацкіх нізоў да вас, таварышы пісьменнікі.

Канчаю сваё прывітанне і выказваю цвёрдую ўпэўненасць у тым, што работа пленума праўлення Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР у Менску будзе вялікім укладам у справе далейшага развіцця і росту совецкай мастацкай літаратуры і што совецкія літаратары, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам вялікага з вялікіх творцаў соцыялістычнай культуры—таварыша Сталіна, дадуць нямала лепшых узораў сусветнай пролетарскай літаратуры. *(Бурныя апладысменты).*

Таварышы, не гледзячы на тое, што пленум Праўлення Саюза совецкіх пісьменнікаў працуе ўсяго за некалькі дзесяткаў кілометраў

ад нашай граніцы, за якой лютуе фашызм, можаце, таварышы пісьменнікі СССР, не сумнявацца, што работа пленума моцна ахоўваецца і ніхто яе не парушыць. *(Працяглыя апладысменты).*

Граніцы Совецкага Саюза, як усім вядома, моцныя, яны на замку, а ключ ад гэтых граніц знаходзіцца ў надзейных руках урада Саюза *(бурныя апладысменты)*, а мы, усе работнікі, усе рабочыя і калгаснікі Беларусі, як вартавыя соцыялізма на заходніх граніцах, упэўніваем вас, што ніхто не пасмее дакрануцца да нашых совецкіх граніц. *(Працяглыя апладысменты).*

Мне хочацца звярнуцца да таварыша Дзям'яна Беднага, які ў сваім вершы з поваду склікання пленума пісьменнікаў СССР у Менску, усклаў на нас вядомыя абавязкі і сказаць яму: таварыш Дзям'ян Бедны, можаце быць упэўнены, а таксама могуць быць упэўнены і ўсе пісьменнікі Совецкага Саюза і народаў СССР, што калі наша партыя і саюзны ўрад нам скажуць, што:

Уже пришло время, когда зашла речь о мастерстве о новом,
О борьбе, которой нет краше,
О борьбе, которой нет грозней,
О борьбе, в которой знамя наше
Возвестит конец фашистских дней.

Дык у гэтай барацьбе безумоўна будзе першым слова наша. *(Бурныя апладысменты).*

Мы, беларускія рабочыя і сяляне,—гэта слова цвёрда скажам, а за гэтым словам, пад сцягам Сталіна пойдуць вялікія справы. *(Апладысменты).*

Няхай жывуць вялікія людзі соцыялістычнай культуры—пісьменнікі Совецкага Саюза і пісьменнікі ўсіх народаў СССР! *(Бурныя апладысменты).*

Няхай жыве наша слаўная партыя Леніна—Сталіна, якая арганізоўвае і натхняе пісьменнікаў на стварэнне новых помнікаў культуры! *(Апладысменты)*

Няхай жыве вялікі творца культуры комунізма, маршал соцыялістычнай рэволюцыі таварыш Сталін! *(Бурныя апладысменты, што пераходзяць у авацыю. Зал стоячы вітае імя т. Сталіна).*

*Ціцыан Табідзе*

## РАДЗІМА

Цудоўныя горы твае і даліны,
Эдэмам імя тваё славяць у песнях.
Зрок не дасягне хрыбтоў верхавіны,
Зрок вінаграднік даспелены песціць.
Нібы малако маладой аляніцы
І ноч, і той дзень, як кізіл залацісты;
Чаркескі дзяўчата ілуць з касавіцы,
Зямля дабрадзейка буяе пладзіста.

Хвалой папярэднікаў дыхалі вершы,
Плады апяваліся словам агністым.
Цяпер тут не знойдзеш адхонаў бяднейшых,
Павіслі усюды ядраныя косткі.
Гусцее туман на стагорбых Гамборах [1]),
Цвіценне ажынніку вочы захмеліць.
На кветках, галінках яго срэбнакорых
Сляды—гэта слёзы Важа Пшавэлы [2]).

Развораны ўсе твае скалы і схілы,
Раскопаны кручы твае й перавалы.
Якую пустэльню каналы не ўкрылі?
І дзе цаліну тут яшчэ не ўзаралі?
І хто тут не стаў як баец у калону,
Каб разам змагацца па баявому?
Чакаюць у госці эскадру чырвоных
Раскрытыя багнішча Палеастому [3]).

---

1) **Гамборы**—горны хрыбет Кахеты.
2) **Важа Пшавэла**—славуты грузінскі паэт XX ст.
3) **Палеастом**—возера ў балоцістай Калхідзе.

Ніхто з летапісцаў ніколі не верыў,
Стары Гіпакрат і шаноўны Вахушці [1]),
Яны не змаглі запрадбачыць наперад,
Што людзі вякоў старадаўнасць узрушаць.
Калісь пра Калхіду яны ўспаміналі
У форме няяснае мары-прывіду.
А нам—хай атлантыка тут, а не далей,
Знайшлі-б раскапаўшы і ўсю Атлантыду!

Зірні на вялікасць Эльбрусавых купішч,
Не ніжай Казбека аснежныя схілы.
Праз іх, праз абодвух народ пераступіць,
Калі перад ім ўсе дарогі раскрылі.
Ва ўсім у жывым, у пладах і раслінах
Ў лазе вінаградная, што рупна даспелена,
І сонцам праменным, як жарам апалена.
Душу ў іх я чую вялікага Леніна,
Энергію нашага мудрага Сталіна.

Шырокія стэпы Шыракскіх прастораў,
Лясы непраходныя, бор Чыатураў,
Патокі Інгура, што коцяць з узгор'яў,
Абвалы, што віснуць над Сваніяй хмура.
Краса Цынандалаў вякі няўміручая
І сэрца Кахетыі—Лозы Кварэлі,
А пушча, што сцелецца шоўкам па кручах,
Далінамі нівы пад сонцам паспелі—
Жыццё праслаўляючы прагай зямною,
Хай песні спяваюць тут разам са мною.

Цудоўныя горы твае і даліны
І можна Эдэмам назваць іх бясспрэчна.
Палёў вінаградных зялёныя плыні
Мяне захапляюць красою адвечнай.
І мы пачалі другі раз нараджацца,
Натхненнем тваім захапіўшыся першым.
Каб творчую сілу сваіго нам грамадства
Лавіць у незабыўныя новыя вершы

[1]) **Вахушці**—грузінскі гісторык і географ XVIII ст.

* * *

Слухайце кліч Алазанскай даліны,
Госці далёкія, кліч гэты дзіўны.
Піце, каханыя, віна Кварэлі,
Каб вашыя сэрцы тут пацяплелі.

Ўсіх прывядзеце спявакоў жаданых,
Стол іх багаты лозы накрылі.
Спяваць будзе ў Шыльдзе [1]), Дэдас Левана [2]),
А можа ў Артанах-Каралашвілі [3]).

Хай-жа па вёсках пракоціцца громам,
Мравалжаміер [4])—чужым і знаёмым.
Хай-жа успомняць і град Цынандалаў,
Сэрца дзе іхнае песні ўспрымала.

Стол скаланецца ад гімнаў застольных,
Будзь-жа ты сынам сям'і нашай вольнай.
Давай-жа падымем іскрыстую чашу
І п'ем за здароўе Кахетыі нашай.

Пераклаў з грузінскай мовы
*МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.*

---

1) **Шыльда**—вёска Кахетыі.
2) **Дэдас Левана**—грузінскі народны песняр.
3) **Артаны**—вёска Кахетыі.
4) **Мравалжаміер**—нацыянальны народны спеў.

*Тарас Шэўчэнка*

# ТАПОЛЯ

## П. С. ПЯТРОЎСКАМУ

Па дуброве вецер вее,
Гуляе па полі,
Край дарогі гне таполю
Да самага долу.
Стан высокі, ліст шырокі—
Нашто зелянее?
Кругом поле, нібы мора,
Шырака сінее.
Чумак едзе, азірнецца,
Дый галаву схіліць;
Чабан раніцай з жалейкай
Сядзе на магіле,
Азірнецца—сэрца ные:
Вокал ні быліны!

Адна—адна, як сіротка
На чужыне, гіне!
Хто-ж узрасціў, каб у стэпу
Ёй марнець здарма так?
Пачакайце, раскажу ўсё.
Слухайце-ж, дзяўчаты!
Палюбіла чорнабрыва
Казака дзяўчына,
Палюбіла—не спыніла:
Пашоў, дый загінуў...
Каб-жа знала, што пакіне,
Была-б не любіла;
Каб-жа знала, што загіне,
Была-б не пусціла.
Каб-жа знала—не хадзіла-б
Позна за вадою,
Не стаяла-б да поўначы
З мілым пад вярбою;
Каб жа знала!..

Таго ліха—
Як знаці пачатак,
Што нам стрэнецца на свеце?..
Не знайце, дзяўчаты!
Не пытайце сваёй долі!
Само сэрца знае,
Каго любіць. Няхай вяне,
Пакуль закапаюць!
Бо ня доўга, чорнабрыўкі,
Кары вачаняты,
Твар бялявы чырванее—
Не доўга, дзяўчаты!
Да палудня, дый завяне,
Бровы паліняюць..
Кахайцеся-ж, любіцеся,
Як сэрцайка знае...
Зашчабеча салавейка
Ў лузе на каліне,
Заспявае казачэнька,
Йдучы па даліне.
Распявае, покуль з хаты
Дачакае мілай,
А ён яе запытае:
„Ці маці не біла?“
Стануць сабе, абыймуцца,
Пяе салавейка;
Паслухаюць, разыйдуцца,
Абое радзенькі.
Ніхто таго не пабачыць,
Ніхто не спытае:
„Дзе была ты, што рабіла?“
Сама сабе знае...
Любілася, кахалася,
А сэрцайка млела:
Нядолечку яно чула,
А сказаць не ўмела.
Не сказала—засталося,
Дзень і ноч варкуе,
Як без голуба галубка,
А ніхто не чуе..
Не шчабеча салавейка
Ў лузе над вадою,
Не спявае чорнабрыва,
Стаўшы пад вярбою.
Не спявае,—як сіротка
Белым светам нудзіць,
Без мілога бацька, маці—
Як чужыя людзі;
Без мілога сонца свеціць—
Як вораг смяецца;

Без мілога скрозь магіла...
А сэрцайка б'еццa!
Год мінуў, другі мінуў год,—
Казак не вяртае,
Яна сохне, як та кветка—
Ніхто не пытае:
„Чаго вянеш, мая дзетка?"
Маці не спытала,
За багатага старога
Выйсці намаўляла.
„Йдзі, дачушка!" кажа маці:
„Не век дзеўкай быці.
Ён багаты, адзінокі—
Будзеш паней жыці!"
„Не хачу я панаваці,
Не пайду я, мама!
Ручнікамі, што прыдбала,
Спусці мяне ў яму!
Няхай папы заспяваюць,
А дружкі заплачуць:
Лягчэй мне ў труне ляжаці,
Чымся яго бачыць".
Не слухала стара маці,
Рабіла, што знала,—
Усё бачыла дзяўчына,
Сохла ды маўчала.
Пашла ўночы к варажбітцы,
Каб паваражыці,
Ці ёй доўга йшчэ на свеце
Без мілога жыці?
„Бабуленька, маё сэрца.
Малю з усёй сілы,
Скажы шчырую мне праўду,
Дзе сэрцайка, мілы?
Ці здароў-жыў? Ці ён любіць?
Ці забыў-пакінуў?
Скажы-ж ты мне, дзе мой мілы?
На край свет палыну!
Бабуленька, маё сэрца,
Скажы, калі знаеш!
Бо выдае мяне маці
За старога замуж.
Любіць яго, бабуленька,
Сэрца не навучыці.
Пашла-ж бы я утапіцца—
Жаль душу згубіці.
Калі не жыве мой любы,—
Зрабі, калі ласка,
Каб дамоў я не вярнулась...
Цяжанька мне, цяжка!

Там стары жджэ са сватамі...
Скажы-ж маю долю!“
„Добра, дзетка! Спачынь трошкі...
Чыні-ж маю волю!
Я сама была дзяўчынай,
Гэта ліха знаю;
Мінулася—наўчылася;
Людзям памагаю.
Тваю долю, мая дзетка,
Я залетась знала.
І залетась траўкі-зелля
Для таго прыдбала“.
Пашла баба і дастала
Пляшачку з паліцы.
„Вось на табе гэта дзіва!
Пайдзі да крыніцы;
Пакуль пеўні не спявалі,
Умыйся вадою,
Выпі трошкі гэтых зёлак—
Гора ўсё загояць.
Бяжы, выпіўшы, як змога,
Што-б там ні крычала,
Не аглянься, пакуль станеш
Аж там, дзе прашчалась.
Адпачынеш, а як стане
Месяц сярод неба,
Выпі йшчэ раз, а не прыдзе—
У трэць раз выпіць трэба.
За раз першы, як і летась,
Будзеш ты такою;
За другі раз—сярод стэпу
Тупне конь нагою.
Калі жыў твой казачэнька,
То зараз прыбудзе...
А за трэці—мая дзетка,
Не пытай, што будзе!..
Ды йшчэ, чуеш. Не хрысціся!
Бо ўсё пойдзе ў воду..
Цяцер-жа йдзі, палюбуйся
На леташню ўроду“.
Узяла зелле, пакланілась:
„Дзякую, бабуся!“
Вышла з хаты: „Ці ісці, ці не?
Не, ўжо не вярнуся!“
Пашла, ўмылась, напілася,
Як не свая стала,
Другі, трэці раз... як скрозь сон,
У стэпу заспявала:
„Плавай, плавай, лебядзінка,
Па сіняму мору!

Расці, расці, тапалінка,
Усё ў гору, ў гору!
Расці тонкай ды высокай
Да самае хмары,—
Спытай бога, ці дажду я,
Ці не дажду пары?
Расці, расці, прыглядзіся
За сіняе мора:
Па той бок—мая там доля,
А па гэты—гора.
Там дзесь мілы чорнабрывы
Па полі гуляе,
А я плачу, леты трачу,
Яго выглядаю.
Скажы яму, маё сэрца,
Што смяюцца людзі;
Скажы яму, што загіну,
Калі не прыбудзе!
Сама хоча мяне маці
Ў зямлю захаваці...
А хто-ж яе галовачку
Будзе даглядаці?
Хто дагледзіць, запытае,
На старасць паможа?
Мая-ж мама! . Мая-ж доля!
Божа мілы, божа!
Зірні гляні, тапалінка!
Як няма—заплачаш
Да ўсход сонца, ранюсенька,
Каб ніхто не бачыў...
Расці-ж, сэрца-тапалінка,
Усё ў гору ды ў гору!
Плавай, плавай, лебядзінка,
Па сіняму мору!"
Песню гэткую дзяўчына
У стэпу заспявала,
Зелле дзіва нарабіла—
Тапаляю стала.
Не вярнулася дадому,
Не даждала пары...
Стаіць тонкай ды высокай—
Да самае хмары.
Па дуброве вецер вее,
Гуляе па полі,
Край дарогі гне таполю
Да самага долу.

(1839)
С. Пецербург

Пераклаў з украінскай мовы
*ЯНКА КУПАЛА.*

*Д. Фурманаў*

# ЧАПАЕЎ

*(Урывак)*

Раніцою, гадзін у пяць-шэсць, нехта цвёрда пастукаў Фёдару ў дзверы. Адчыніў—стаіць незнаёмы чалавек.

— Добры дзень. Я—Чапаеў!

Зніклі рэшткі дрымоты, нібы хто ўдарыў і ў момант ацвярозіў ад сну. Фёдар быстра глянуў яму ў твар, працягнуў руку неяк занадта паспешна, стараўся быць спакойным:

— Клычкоў. Даўно прыехалі?..

— Толькі са станцыі... Там мае хлапцы... Я коней паслаў...

Фёдар быстра-быстра аглядаў яго пранізваючым поглядам: хацелася скарэй разгледзець, убачыць у ім ўсё і ўсё зразумець. Так у цёмную ноч, на фронце шарыць ахвочы выведнік-пражэктар, спяшаючыся зазірнуць у кожную шчыліну, выгнаць цемру з кутоў, агаліць сарамлівую нагату зямлі.

«Звычайны чалавек, хударлявы, сярэдняга росту, відаць, невялікай сілы, з тонкімі, амаль жаночымі рукамі; рэзкія цёмнарусыя валасы прыліплі пасмачкамі да ілба; кароткі нервовы тонкі нос, тонкія бровы ў ланцужок, тонкія губы, бліскучыя чыстыя зубы, голены начыста падбародак, пышныя фельдфебельскія вусы. Вочы... светласінія, амаль зялёныя—быстрыя і разумныя, немігаючыя. Твар матавы, свежы, чысты, без прышчыкаў, без маршчын. Адзеты ў абароннага колеру фрэнч, сінія штаны, на нагах аленевыя боты. Шапку з чырвоным аколышкам трымае ў руцэ, на плячах рамяні, з боку рэвальвер. Срэбраная шашка разам з зялёнай падапранахаю кінута на сундук»...—так запісваў увечары Фёдар пра Чапаева.

Вядомая справа—з дарогі трэба-б чаю напіцца, а ён чаю піць не захацеў, гутарыў стоячы, пасланца адаслаў да камандзіра брыгады, каб той прышоў ў штаб, куды прыдзе следам і ён, Чапаеў. Скора шумнаю ватагаю ўваліліся прыехаўшыя з ім хлапцы: закідалі ўсе куты рэчамі; на сталы, на крэслы, на падаконнікі пакідалі шапкі, рукавіцы, рамяні, разлажылі рэвальверы, іншыя знялі бутэлечныя белыя бомбы і неахайна сунулі іх тут-жа, сярод жухлых шапак і рукавіц. Загарэлыя, суровыя, мужныя твары, грубыя густыя валасы; рагаватыя, неачосаныя рукі і гаворка, скроеная няскладна, выпадкова, затое моцна і праканальна. У іншых манера гаварыць была настолькі дзіўная, што можна было думаць, нібы яны праз увесь час лаюцца; адрывіста і рэзка аб чымсьці пытаюць, таксама рэзка і нібы злосна адказваюць; рэчы шпурляліся.

Ад гутарак і спрэчак загудзеў увесь дом: прыехаўшыя ў момант і ўсюды «распаўсюдзіліся», толькі да Ежыкава ў пакой не трапілі,— ён быў замкнуты з сярэдзіны.

Праз дзве хвіліны Фёдар бачыў, як адзін з гасцей разваліўся ў яго на непрыбранай пасцелі, узняў ногі ўверх па сцяне, закурыў і попел страсаў з боку, нацэльваючыся абавязкова трапіць на чамаданчык Клычкова, які стаяў каля пасцелі. Другі прываліўся да «туалетнага» слабенькага стала, і той хруснуў, надламаўся, пахіснуўся на бок. Нехта ручкаю рэвальвера выдушыў шыбу, нехта аўчынным брудным і смярдзючым кажухом накрыў ляжаўшы на стале хлеб, і калі яго пачалі потым есці,—смярдзела незвычайна. Разам з гэтай ватагай, нібы яшчэ хадоўга да яе, уварвалася ў пакой моцная, здаравенная, шумлівая гутарка. Яна не змаўкала ні на хвіліну, але і не разрасталася,—гудзела-гудзела ўсё з тою самаю сілаю, як у пачатку: то была нармальная, звычайная гутарка гэтых свежых стэпавых людзей. Паспрабавалі-б разабраць, хто ў іх тут начальнік, хто падначалены! Нават намёкаў няма: абыходзіны аднолькава стыльныя, манеры аднолькава рэзкія, гутарка самабытная, каларытная, насычаная ядранай стэпавай прастатою. Адна сям'я! Але няма ніякай бачнай прывязанасці адзін да аднаго або чуласці, ніякіх узаемных клапатаў, хоць-бы ў самых драбнейшых выпадках,—нічога няма. А ў той-жа час бачыце і адчуваеце, што гэта адна і моцна звітая пачка людзей, толькі перавіта яна іншымі вузамі, толькі адчаканілася яна ў своеасаблівую форму: іх звіло, аб'яднала вандроўнае, баявое, поўнае небяспек жыццё, іх зблізілі мужнасць, асабістая адвага, пагарда да пазбаўленняў і небяспек, верная, нязменная салідарнасць, узаемная выручка,—усё многатруднае і маляўнічае жыццё, праведзенае разам, плячо к плячу, у страі, у баі.

Чапаеў выдзяляўся. У яго ўжо было нешта ад культуры, ён не выглядаў такім прымітыўным, не трымаўся так, як усе: нібы конь стэпавы сам сябе на аброці трымаў. Адносіны да яго былі таксама крыху асаблівыя—ведаеце, як вось па шыбе паўзе муха. Усё поўзае, усё поўзае смела; наскаквае на іншых такіх самых мух, пераскаквае, пералятае або счэпяцца і абедзве разлятаюцца ў бакі; а потым раптам наскочыць на асу і ў сполаху—чырк: паляцела! Так і чапаеўцы: пакуль знаходзяцца разам—поўная непрымусовасць; могуць і ляпнуць, што на розум ўзбрыдзе, і шпурнуць адзін у аднаго шапкай, лыжкай, ботам, плёхнуць, напрыклад, кіпяточкам са шклянкі. Але толькі сустрэнецца на дарозе Чапаеў—гэтых вольнасцей з ім ужо няма. Не з боязні, не адтаго, што няроўны, а з асаблівае павагі: «Хоць і наш, моў, ён, а зусім асаблівы, і з усімі раўняць яго не выпадае».

Гэта адчувалася кожную секунду, як-бы вольна пры Чапаеве ні трымаліся, як-бы ні шумелі, ні лаяліся шасціпавярхова: толькі дакрануцца—карцінка мяняецца ў момант. Так любілі і так паважалі.

— Пецька, у каменданцкую!—скамандаваў Чапаеў.

І адразу аддзяліўся і моўчкі пабег Пецька, маленькі худзенькі чарнамазік, які лічыўся «для асаблівых даручэнняў».

— Я праз дзве гадзіны еду, коні каб ураз гатовы! Верхавых упе-

рад адашлеш, нам з Патапавым санкі—жыва! Ты, Патапаў, са мною! І ўладна кіўнуў галавою Чапаеў жоўтатвараму сутуламу хлапцу. Хлапцу было гадоў трыццаць пяць. У яго смяяліся шэрыя добрыя вочы, а голас хрыпеў, як вароніна краканне. Пры магутнай каранастай фігурышчы былі дзіўна мяккія, нібы ў дзяўчынкі, рукі.

Патапаў расказваў відаць, штосці вясёлае і смешнае, але як пачуў словы Чапаева—у момант астыў, згасіў, як свечку усмешку ў шэрых вачах, паглядзеў проста і сур'ёзна Чапаеву ў вочы адказным поглядам і вачыма яму сказаў:

«Чую!»

Тады Чапаеў скамандаваў далей:

— Апроч—нікога! Камісар вось яшчэ паедзе, ды конных даць траіх. Рэшта за намі на Талоўку. Коней не гнаць дарма. Быць пад вечар!

— Слухай...—азірнуўся Чапаеў вакол і ўбачыў, што няма. каго шукаў.—Так... паслаў-жа яго... Ну, ты, Качнёў, ідзі, паглядзі ў штабе. Калі ўсе сабраліся—скажаш.

Качнёў вышаў. Ён паказаўся Фёдару гімнастам,—такі быстры, лёгкі, гнуткі, жылісты. Кароткая целагрэйка, кароценькія рукавы, маленечкая шапачка на патыліцы, на нагах чаравікі, да кален абмоткі. Гадоў яму менш трыццаці, а лоб увесь у маршчынах. Вочы хітрыя, светлашэрыя, нос шырокі і вільготны, ён ім шморгае і неяк усё пашальмоўску яго на бок скрыўляе. Зубы белыя, воўчыя, здаравеннейшыя; калі смяецца—драпежна выскальвае, нібы збіраючыся разарваць на шматкі.

Быў тут Чэкаў. Кідаўся ў вочы шырокімі рыжымі бровамі, пышнымі багравымі вусамі, кракадзілавай зяпаю, мангольскімі скуламі; як п'яўка, налітая крывёю,—адвісла ніжняя губа, квадратам выпер чыгунны падбародак, а над ім, як грыб у чыгуне, потны і пухлы нос. Пад рыжымі рагожкамі броваў—як вугалі Чэкавы вочы. Шырокія і крутыя ў Чэкава грудзі, цяжкае вагі лапы-лапы. Чэкаву сорак год з нечым.

Корпаўся з чайнікамі, рэзаў хлеб, жартаваў наўдалую, сам рагатаў, усіх закранаў і ўсім адказваў Теткін Ілья, заслужаны чырвонагвардзеец, муляр па прафесіі, дабрадушны, звонкі, усімі любімы, аматар да песень, да гульні, да забавы. Гадамі чуць старэйшы за Пецьку: дваццаць шэсць—дваццаць восем.

Поруч стаіць і чакае цярпліва, моўчкі, хлеба ад Теткіна—Віхор, адважны кавалерыст, гарачы камандзір конных выведнікаў, на левай руцэ без мізінца. Гэтая акалічнасць—мішэнь для жартаў.

— Віхор, ткні яго мізінцам, бяспальцага хрэна!

— А мізінчык пакажаш, цыгарку дам...

— Дзевяціпальная брында.. Кабель дзевяціногі!

Віхора трудна абурыць: ад прыроды такі, заўсёды такі, і ў баі такі. Шмат моўчкі можа зрабіць чалавек!

Больш за ўсіх штурхаўся, мацней за усіх лаяўся і шумеў Шмарын,—у дублёнай падапранасе, у валёнках. (ўсё мерзне, хворы); з хрыплым, як ў Патапава, голасам; чорнавокі, чорнавалосы; смуглы; з усіх самы старэйшы: яму пад пяцьдзесят.

Фурман Аверка, хлапец—тут-жа з усімі, абапёрся на пугаўё, зорка наглядвае, як ідуць клопаты наконт закускі і чаю. Твар ў Аверкі багравы, нос—як цыбуліна, вочы з марозу асалавелыя, губы абсіверанья, у трэшчынах, на шыі накручана хустка,—з ёю і спіць.

З веставых пастаянны і ўлюбёны—Ляксей, даўні знаёмы Чапаеву, дасціпны, выкрутлівы хлапец. Калі што трэба дастаць—пасылаецца Ляксей,—усё здабудзе, усё падрыхтуе і прынясе. Ці перакусіць трэба, загваздку ў павозку або раменчык для сядла, лякарства хатняга раздабыць,—нікога не пасылаюць, апроч Ляксея: самы спрытны кругом чалавек.

І што за народзец сабраўся! Як толькі твар—дык табе і тып: садзіся ды пішы з яго стэпавую паэму. У кожнага сваё. Няма дваіх, каб як адно; хлапец да хлапца, як камень да каменя. А разам усе перавітае і звітае маладзецкае гняздо. Адна сям'я! Ды якая сям'я!

Увайшоў Качнёў:

— Камандзір брыгады ў штабе, можна ісці...

Зашумела лёгкае шавяленне—цікаўнасць асвятліла не адну пару на Чапаева накіраваных вачэй.

— Пойдзем!

І Чапаеў матнуў галавою Патапаву, ткнуў пальцам Шмарыну і Віхору. Зазвінелі шпорамі, грузна застукалі абітымі ў падковы абсацамі, вышлі. Фёдар разам з імі. Фёдару здавался, што Чапаеў зварочваў на яго занадта мала ўвагі і параўноўваў са сваёю «світаю». Дзесьці глыбока ад гэтых падазрэнняў затаілася нядобрая апаска: і ён ўспомніў, як расказвалі пра Чапаева, быццам у 1918 годзе, у час бою, калі ён быў з войскамі абкружаны, а нейкі камісар збянтэжыўся,—высцебаў яго Чапаеў гарапнікам на возе... Успомніў—занепакоіла дрэннае пачуццё. Ведаў, што маглі ўсё гэта і выдумаць, маглі і перавялічыць, расфарбаваць, але чаму-ж і не паверыць: тады і часы былі не тыя, і сам Чапаеў быў іншы, дый камісар мог здарыцца ўсякі! Фёдар ішоў ззаду, і ўжо адно тое, што ішоў ён ззаду,—было непрыемна.

З камандзірам брыгады Чапаеў прывітаўся наскора, адрывіста, гледзячы ў бок, а той галантна выгнуўся, прышпорыў, потым падвыцягнуўся, ледзь не рапарт выпаліў. Пра Чапаева шмат ён чуў, толькі больш за ўсё дрэннага, з хуліганскага боку, у лепшым выпадку—ведаў пра Чапаева-дзівака, а дзельных спраў за ім не чуў, стэпавым лятучкам пра геройства Чапаеўскае не верыў.

З усіх дзвярэй выглядвалі цікаўныя. Так у купецкім дзе-небудзь доме пазіраюць са шчылін «хатнія», калі здарыцца прыехаць выдатнаму госцю. Відаць было, што наслухаўся пра Чапаева страхаў розных не толькі адзін камбрыг. У памяшканні штаба чыста сёння не па-звычайнаму. Усе сядзяць і ўсе стаяць па сваіх месцах. Падрыхтаваліся, не хацелі ўдарыць у гразь тварам, а можа і баяліся: гарачы Чапаеў, хто ведае, як гляне?.. Калі прышлі ў габінет камандзіра брыгады, той разаслаў на стале вельмі добра нарысаваны план заўтрашняга наступлення. Чапаеў ўзяў яго ў рукі, пагля-

дзеў моўчкі на тонкі рысунак, палажыў зноў на стол. Падсунуў табурэтку. Сеў. За ім прыселі іншыя з прышоўшых.

— Цыркуль!

Яму далі дрэнненькі, заіржавелы цыркуль. Раскрыў, патузаў-патузаў,—не падабаецца.

— Віхор, пайдзі, у Аверкі з сумкі мой дастань!

Праз дзве хвіліны Віхор вярнуўся з цыркулем, і Чапаеў пачаў вымерваць па рысунку. Спачатку мерыў толькі па рысунку, а потым карту дастаў з кішэні—па ёй пачаў выклёўваць... Раз-па-разу спраўляўся аб адлегласцях, аб труднасцях дарогі, аб вадзе, аб абозах, аб ранішняй поўцемры, аб стэпавых буранах...

Акаляўшыя маўчалі. Толькі зрэдку камбрыг уставіць у гутарку яму славечка або на пытанне адкажа. Перад поглядам Чапаева на тонкіх лініях карты разгортваліся снежныя даліны, спаленыя пасёлкі, ідучыя ў цемры ланцугамі і калонамі войскі, паўзучыя абозы, у вушах гудзеў-свістаў халодны ранішні вецер, перад вачыма мільгалі ўзгоркі, калодзежы, замёрзлыя сінія рэчкі, паламаныя шэрыя мосцікі, чахлыя хмызнякі.

Чапаеў ішоў у наступленне!

Калі скончыў вымерваць, паказаў камбрыгу, дзе якія памылкі: то пераход вялікі, то прывал няўдалы, то рана выйдуць, то позна прыдуць. І ўсе меркаванні пацвярджаў адзнакамі, што рабіў, пакуль вымяраў. Камбрыг згаджаўся не вельмі ахвотна, іншы раз смяючыся цішком. Але згаджаўся, адзначаў, змяняў напісанае і разрысаванае... Па некаторых пытаннях, нібы са спачуваннем і падтрыманнем, Чапаеў зварочваўся то да Віхора, то да Папова, то да Шмарына:

— А ты што скажаш? Ну, як думаеш? Правільна ці не гавару?

Не прывыклі хлапцы гаварыць многа ў яго прысутнасці, дый мала што можна было ім дабавіць?—так падрабязна і дакладна ўсё было ў Чапаева прадугледжана. На яго і прыказку перакроілі:

«Чапаеву заўсёды не перашкаджай... Яму вось як: розум добра, а два горш»...

Гэтую новую прыказку выдумалі толькі для яго. І добра выдумалі, таму што бывалі раней выпадкі, калі ён паслухае парады, а потым і плачацца, лаецца, кляне сябе... І не забыць яшчэ хлопцам аднае «нарады», калі яны з гарачкі нагаварылі бог ведае што: Чапаеў слухаў, доўга слухаў і нават ўсё паддакваў:

— Так, так... Так... Добра... Вось-вось-вось... Вельмі добра...

Субяседнікі думалі і праўда, што ён згаджаецца і ўхваляе. А скончылі:

— Ну, добра,—гаворыць,—вось што трэба рабіць: на ўсё, што балбаталі, плюнуць і забыць. Нікуды не варта, цяпер слухайце, што буду я загадваць!

І пачаў...

Ды так пачаў, што зусім па-іншаму справу павярнуў—і падобнага не засталося ніколечкі з таго, пра што так доўга раіліся.

На нарадзе той былі ўсе трое—помнілі яе, і цяпер ужо лезлі

мала, многа маўчалі, вельмі добра ведалі, калі і дзе можна гаварыць, чаго нельга:

«Іншы раз і параду, можа, варта падаць, гэта верна, а то—і словам адным бяды натворыш!»

Цяпер маўчалі. Маўчаў амаль праз увесь час і Фёдар: ён не вельмі яшчэ разбіраўся ў ваенных пытаннях і ў сякіх-такіх пунктах разбіраўся дрэнна, або зусім ніяк сабе не ўяўляў,—гэта ўжо потым, праз месяцы, асвоіўся ён з баявою ды іншаю франтавою прамудрасцю, а цяпер—чаго-ж з «шляпы грамадзянскай» было і пытацца. Залажыўшы рукі за спіну, ён стаяў ля самага стала і зазіраў глыбокадумна па карце на рысунак, то схмурваючы бровы, то пакацілваючы ў бок, з яўнаю апаскаю перашкодзіць дзелавой гутарцы. Выгляд у яго сур'ёзны, спакойны. З боку можна было падумаць, што і ён тут усім роўнацэнны субяседнік... Фёдар парашыў даўно, да сустрэчы з Чапаевым, устанавіць з ім асобую, асцярожную, тонкую сістэму адносін: унікаць спачатку гутарак чыста ваенных, каб не паказацца канчатковым прафанам; павесці з ім палітычныя гутаркі, дзе Фёдар будзе бясспрэчна мацнейшы; выклікаць яго на шчырасць, прымусіць выказацца па ўсіх пунктах, уключна да інтымных, асабовых асаблівасцей і падрабязнасцей; больш гаварыць пра навуку, асвету, агульнае развіццё,—і тут Чапаеў будзе больш слухаць, чым гаварыць. Потым... потым зарэкамендавацца сябе адважным ваякам,—гэта ўжо абавязкова і як мага скарэй, бо без гэтага ўсё ў вачах Чапаева, ды і ўсіх бадай чырвонаармейцаў, прахам праляціць, ніякая тут палітыка, навука, асабістыя якасці не дапамогуць! Калі будзе праведзена гэта падрыхтоўчая работа і Чапаеў адкрыецца, будзе зразумелым, тады можна і на збліжэнен ісці, а пакуль—пакуль трымацца асцярожна! Не была-б прадузятасць і ўважнасць зразумелай і прынятай за падслужванне да «героя». (Ён, вядома, ведаў, што імя яго грыміць усюды, што на дружбу да яго многім і многім напрасіцца было-б вельмі пажадана). Толькі потым, калі Чапаеў будзе «духоўна запалонены», калі ён сам будзе слухаць Фёдара, можа быць, чаму-небудзь у яго вучыцца,—толькі тады ісці яму насустрач па ўсіх артыкулах. Але гонару—ні-ні; прастату, сардэчнасць і некаторую грубаватасць адносін устанавіць цяпер-жа, каб і помыслаў не было аб Фёдары, як аб беларучцы-інтэлігенце. да якіх на фронце заўсёды адносяцца падазрона і з незахаванаю пагардаю.

Усе гэтыя падрыхтоўкі Клычкова ані не былі глупствам, яны памаглі яму самым простым, кароткім і верным шляхам увайсці ў асяроддзе, з якім ён пачынаў працаваць, а ў імя гэтай работы—зрасціся з ім арганічна. Ён не ведаў яшчэ, дзе будуць граніцы «зрастання», але вельмі добра разумеў, што Чапаеў і «чапаеўцы», ўся гэтая поўпартызанская маса і спосаб яе дзеянняў—такая складаная з'ява, да якое, зажмурыўшыся, падыходзіць не варта. Поруч з дадатнымі, тут ёсць і такія элементы, з якімі абыходзіцца трэба асцярожна, сачыць за іх выяўленнем чутка і непаслабна.

Што такое Чапаеў? Як сабе ўяўляў Клычкоў Чапаева і чаму

іменна з ім ён надумаў устанавіць у адносінах асобую, тонкую сістэму? Ці патрэбна наогул гэта рабіць?

Фёдар, яшчэ працуючы ў тыле, чуў, вядома, і чытаў шмат разоў аб «народных героях», якія выяўляліся то на адным, то на другім фронце грамадзянскай вайны. І калі прыглядаўся—бачыў, што большасць іх з сялянства і вельмі мала—з радоў гарадскіх рабочых. Героі-рабочыя заўсёды былі ў іншым стылі. Вырасшы ў вялізным рабочым цэнтры, прывыкшы бачыць стройнае, шырокае арганізаванае змаганне ткачоў, ён заўсёды некалькі скоса пазіраў на поўанархічныя партызанскія выдумкі народных герояў, падобных Чапаеву. Гэта не перашкаджала яму з глыбачайшаю ўвагаю да іх прыглядацца і адносіцца, захапляцца іх гераічнымі дзеяннямі. Але заўсёды-заўсёды аставалася ў яго апаска. Так і цяпер:

«Чапаеў—герой,—разважаў Фёдар з сабою.—Ён ажыццяўляе сабою ўсё нястрыманае, стыхійнае, гнеўнае і пратэстуючае, што за доўгі час накапілася ў сялянскім асяроддзі. Але стыхія... чорт не ведае, куды яна можа абярнуцца! Бывалі ў нас выпадкі (хіба мала іх было?), што такі-ж вось слаўны камандзір, накшталт Чапаева, а раптам і ўкакошыць свайго камісара! Ды не якога-небудзь прашчалыгу, балбатуна і баязліўца, а вельмі добрага мужнага рэвалюцыянера! А то, глядзіш, і зусім уцячэ да белых са сваім «стыхійным» атрадам...

«Рабочыя—там іншая справа. Яны *не ўцякаюць ніколі, ні пры якой абстаноўцы,* гэта значыць тыя з іх, што свядома вышлі на змаганне. Вядома, што і сярод рабочых ёсць ўчарашнія сяляне, ёсць і маласвядомыя, ёсць і «занадта» свядомыя, якія зрабіліся белаeducational ручкамі... Але там, там адразу ўбачыш, з кім маеш справу. А ў гэтай вось чапаеўскай партызанскай ватазе—ой, як многа ў ёй небяспечнага!»

Пры такіх вось падазроных адносінах да стыхійнай партызаншчыны і зарадзілася ў Фёдара жаданне самым тонкім спосабам наладзіць свае адносіны з новым асяроддзем,—з тым разлікам пабудаваць, каб не самому ў гэтым асяроддзі варыцца, а, наадварот, ўзяць яго пад ідэёвы ўплыў. Брацца трэба з галавы, з правадыра—з Чапаева. На яго і накіраваў, на ім і згрупаваў Фёдар усю сваю ўвагу...

Пецька—так амаль усе па прывычцы звалі Ісаева—высунуў ў дзверы сваю маленькую птушыную галоўку, мізінцам паклікаў Патапава і сунуў яму запіску. Там значылася:

«Коні і ўся гатовая дыжалы Васілій Іванычу».

Пецька ведаў, што ў некаторыя месцы і пры некаторай абстаноўцы ўвальвацца яму нельга—і тут дзейнічаў пастаянна падобнымі запіскамі. Запіска падаспела ў час. Усё было сказана, адзначана, падпісана: зараз-жа загад паляціць па палках. Фармалістыка з прыйманнем спраў заняла нямнога часу.

— Я камандаваць прыехаў,—заявіў Чапаеў,—а не паперкамі займацца. Для іх пісары ёсць.

— Васіль Іваныч,—шапнуў яму Патапаў,—бачу, ты кончыў. Усё гатова, ехаць можна.

— Гатова? Паедзем!

Узняўся Чапаеў быстра з крэсла.

Усе расступіліся, і ён вышаў першы—таксама, як першым ўвайшоў сюды.

На волі, ля ганка, сабраўся натоўп чырвонаармейцаў,—пачулі, што прыехаў Чапаеў. Многія разам з ім ваявалі яшчэ ў 1918 годзе, многія ведалі асабіста, а чулі, вядома, усе да аднаго. Выцягнутыя шыі, вочы гарэць захапленнем і здзіўленнем, забягальныя ўсмешкі расплыліся да вушэй.

— Няхай жыве Чапаеў!—гаркнуў хтосьці з першых, як толькі Чапаеў зышоў з ганка...

— Ура-а-а!.. Ура-а-а!..

З усіх бакоў збягаліся чырвонаармейцы, падыходзілі жыхары, натоўп рос.

— Таварышы!—звярнуўся Чапаеў.

У момант ўсё змоўкла.

— Мне няма калі цяпер гаварыць,—еду на пазіцыю. А заўтра ўбачымся там, таму як мы прыгатавалі казакам добрую закуску і заўтра пачастуем... Пагаворым потым, а цяпер—бывайце!

Раскаціліся новыя катанцы «ура». Чапаеў усеўся ў санкі, за ім змясціўся Патапаў. Трое конных чакалі тут-жа. Фёдару падвялі варанога шустрага жарабца.

— Айда!—крыкнуў Чапаеў.

Коні ірвануліся, натоўп расступіўся, закрычаў гучней. Так шпалерамі і ехалі да самай ускраіны Алгая.

Стэпавая снежная пустыня аднастайная і сумная. У прайшоўшыя цёплыя дні ўзгорачкі апляшывіліся было да самай зямлі, а цяпер і іх замяло: увесь стэп завеяла, схруснула марозам. Коні ідуць лёгка і весела. Чапаеў з Патапавым сядзяць амаль спінамі адзін да аднаго, можна падумаць—палаяліся; абмяркоўваюць будучую справу, рыхтуюцца да заўтрашняга дня. У трох-чатырох кроках за павозкай пасцяваюць коннікі, ні бліжэй, ні далей, праз увесь час на адной адлегласці, нібы прыкаваныя. Фёдар едзе збоку. Ён іншы раз адстане на цэлую вярсту і пусціць ў кар'ер! І міла скакаць па стэпу, добра, што конь такі лёгкі, ахвочы на скок.

«Заўтрашнім днём,—думаў ён, едучы зыбкім бегам,—адкрываецца паласа баявога, сапраўднага жыцця... І заверціць, пакоціцца яно—ці надоўга? Хто можа ведаць лёс яго? Хто можа паказаць дзень перамогі? І калі-ж будзе яна, наша перамога? Дзень за днём, дзень за днём у паходах праскачуць, у баях, у небяспеках, у трывозе... Ці захаваемся мы, пушынкі? І хто вернецца ў родныя палестыны, хто астанецца тут, па чорных логавах, па снежных пустках стэпаў?»

І палезлі ў галаву жыцейскія ўспаміны, паўсталі мілыя, знаёмыя твары... І сам сябе ўяўляў забітым: ляжыць на снягу, раскінуўшы шырока рукі, з акрываўленаю скроняю. Нават шкада зрабілася. Раней шкадаванне гэтае над сабою самім перайшло-б абавязкова ў доўгі сум, а цяпер—страсануў, адагнаў, ехаў далей спакойны, смяшком пасыпаў сваю смерць.

Так прайшло гадзіны дзве з паловаю. Чапаю [1]), відаць, абрыдла сядзець нерухома,—спыніў санкі, пасадзіў на сваё месца аднаго з коннікаў, сам паехаў верхам. Пад'ехаў да Фёдара.

— Значыць, разам цяпер, таварыш камісар?

— Разам,—адказаў Фёдар і адразу заўважыў, як моцна, шчыльна, нібы ўліты, сядзеў Чапаеў у сядле. Потым агледзеў сябе: паказаўся прывязаным.

«Страсануць мацней—і вон палячу,—падумалася яму,—вось Чапаеў, глянь,—гэты ўжо ні за што не выскачыць».

— Вы даўно ваяваць пачалі?

І Фёдару здалося, нібы той ухмыльнуўся, а ў голасе пачулася іронія. «Ведае, моў, што на фронце я толькі-толькі, ну і паджартоўвае».

— Цяпер вось пачынаю...

— А то па тылах былі?—зноў запытаў Чапаеў.

І зноў пытанне куслівае.

Трэба ведаць, што «тылавік» для байцоў, падобных да Чапаева,—гэта самая пагардная, нявартая істота. Пра гэта Фёдар дагадваўся і раней, а за апошнія тыдні пераканаўся ў поўнай меры, едучы і гутарачы многакратна з байцамі і камандзірамі.

— Па тылах, гаворыце? Мы ў Іванава-Вазнесенску працавалі...— са штучнай неахайнасцю праказаў Фёдар.

— Гэта за Масквою?

— За Масквою, вёрст трыста будзе.

— Ну, і што там, як справы ідуць?

Фёдар ўзрадаваўся змене тэмы, з прагнасцю ўхапіўся за апошняе пытанне і растлумачыў Чапаеву, як трудна і голадна жывуць іванава-вазнесенскія ткачы. Чаму ткачы? Хіба няма там больш нікога? Але ўжо так заўсёды выходзіла, што, гаворачы пра Іванава-Вазнесенск, Клычкоў бачыў перад сабою адну многатысячную рабочую рать, ганарыўся тым, што блізкі быў з гэтай раццю,—і ва ўспамінах сваіх некалькі нават пазіраваў.

— Выходзіць, дрэнна жывуць,—згадзіўся сур'ёзна Чапаеў,— а ўсё з-за голаду. Каб голаду не было—ўся справа па-іншаму, пайшла-б... А тут жаруць як, сукіны дзеці, не думаюць, небось, пра тое...

— Хто жарэ—не зразумеў Фёдар.

— Казаччо... яму ўсё ніпачым...

— Ну, не ўсё-ж казацтва такое...

— Усё!—ускрыкнуў Чапаеў.—Вы не ведаеце, а я скажу: усё! Нечага там... Т-так!

Чапаеў нервова забулькаў у сядле.

— Не можа быць усё...—пратэставаў Фёдар.—Хоць колькі-небудзь, а ёсць жа такіх, што з намі. Ды пачакайце,—успомніў ён з радасным хваляваннем;—хоць-бы і ў нас вось тут, у брыгадзе, з казакаў уся выведка конная?

— У брыгадзе?—крыху задумаўся Чапаеў.

— Так-так,—у нас, у брыгадзе.

[1]) Блізкія часта звалі яго проста „Чапай“.

А гэта, мабыць, гарадскія... тутэйшыя наўрад,—з цяжкасцю паддаваўся на довады Чапай.

— Я ўжо не ведаю, ці гарадскія, але факт ёсць... Дый не можа быць, таварыш Чапаеў, каб казацтва, ну, усё было супраць нас. Па сутнасці-ж справы, гэтага не можа быць...

— Чаму-ж? Вось пабудзеце з намі, тады...

— Не, колькі-б не быў я—усёроўна: не паверу!

Голас у Фёдара быў моцны і строгі.

— Пра паасобных што казаць,—пачаў злёгку здавацца Чапаеў.— Вядома права, трапляюцца—ды мала, няма нічога...

— Не, не паасобныя... Вы гэта дарма... Вунь пішуць з Туркестана—на цэлую там вобласць казацкія палкі ўстанавілі Совецкую ўладу... А на Украіне, на Доне... ды ці мала!

— Спадзявайцеся, яны вось пакажуць... сукін хвост!

— Ну, чаго-ж спадзявацца, я не спадзяюся,—тлумачыў Чапаю Клычкоў.—І ў вашай думцы праўды шмат... Гэта верна, што казацтва—вараннё чорнае, верна... Хто-ж проці таго? Царская ўлада на тое пра іх і клапацілася... Але вы паглядзіце на казацкую моладзь,—гэта ўжо не тое, што старыя... З моладзі больш вось да нас і ідуць. Сівабародаму казаку, вядома, цяжэй мірыцца з совецкаю ўладаю... У кожным разе, цяпер цяжка, пакуль не зразумеў ён яе... Думаюць-жа чорт ведае што пра нас і ўсяму вераць: цэрквы, кажуць, у хлявы каровіны ператвараем, жонкі ў нас ва ўсіх агульныя, жыць заганяем усіх разам, піць і есці разам—за адзін стол абавязкова... Дзе-ж тут мірыцца казаку, калі ён з роду ў род прывык і да царквы і да свае сытае, багатае гаспадаркі, да чужое працы, да стэпавага, свавольнага жыцця?

— Іксплаататары,—ледзь выгаварыў Чапаеў.

— Іменна,—стрымаў Фёдар ухмылку.—У эксплаатацыі ўся сутнасць справы і ёсць. Багатыя казакі эксплаатуюць не толькі іншагародніх або кіргізаў, яны і сваім братам-казакам не пагрэбуюць... Тут вось разлад і адбываецца. Толькі старыя, хоць яны і пакрыўджаныя, пamірыліся з гэтым; лічаць, што сам бог так зрабіў, а моладзь—гэтая прасцей, смялей на справу глядзіць, таму да нас больш і ідуць маладыя... Старых, гэтых не звернеш, гэтых толькі збрoяю і можна праняць...

— Збрoяю-та, збрoяю,—страсануў галавою Чапаеў,—ды ваяваць цяжка, а то-б што...

Фёдар не зразумеў, да чаго Чапай гэта сказаў, але адчуў, што не дарма сказана, што тут разумець штосьці трэба асаблівае пад гэтымі словамі... Сам нічога не адказаў і чакаў, як той растлумачыць, разаўе сваю думку.

— Цэнтры нашы,—вось што...—кінуў няпэўна Чапаеў яшчэ адну прывабную, цёмную фразу.

— Якія цэнтры?

— Ды вось напіхалі там усякую сволач,—мармытаў Чапаеў, нібы толькі для сябе, але так мармытаў, каб Фёдар усё і ясна чуў...— Ён мяне перш пад стрэльбаю, сукін сын, на марозе цэлымі суткамі трымаў, а тут калі ласка... Вось вам мяккае крэсла, пан генерал,

сядайце, камандуйце, як вам захочацца: моў, можаце даць, а можаце і не даваць патроны, няхай кіямі б'юцца...

Гэта Чапаеў напаў на самае вострае пытанне—пра штабы, пра генералаў, пра загады і рэпрэсіі за невыкананне,—пытанне, якое ў тыя часы стаяла ўпапярок горла не аднаму Чапаеву і не толькі Чапаевым...

— Без генералаў не абыйдзешся,—буркнуў яму заспакойліва Клычкоў,—без генералаў што-ж за вайна?

— Якраз абыйдземся...

Чапаеў моцна змяў пажады.

— Не абыйдземся, таварыш Чапаеў... Адвагаю адною вялікае справы не зробіш—веды патрэбны, а дзе яны ў нас? Хто іх, тыя веды, апроч генералаў, дасць? Яны-ж гэтаму вучыліся, яны і нас павінны вучыць... Будзе час—свае ў нас настаўнікі будуць, але-ж пакуль што іх няма... Няма ці ёсць? То-та! А калі няма, у другіх вучыцца трэба!

— Вучыцца? Т-так! А чаму-ж яны навучаць? Чаму?—горача запярэчыў Чапаеў.—Вы думаеце, скажуць, што рабіць трэба?.. Вось-жа, сказалі!.. Быў і сам у акадэміі ў іх, два месяцы боўтаўся, як хрэн у капусце, а потым плюнуў ды зноў сюды. Рабіць няма чаго там нашаму брату... Адзін—Печкін вось, прафесар ёсць, гладкі, як калена,—на экзамене:

— Ведаеш,—кажа,—Рэйн-раку?

... — А я ўсю германскую ваяваў, як-жа мне не ведаць? Толькі падумаў: ды што, моў, я яму адказваць буду?

... — Не, моў, не ведаю. А сам ты,—кажу,—ведаеш Салянку-раку?

... Ён вытарашчыў вочы—не чакаў гэтага, так.

... — Не, кажа, не ведаю, а што?

... — Значыць, і пытацца няма чаго... А я на гэтай Салянцы паранены быў, пяць раз яе ўзад і ўперад пераходзіў... Што мне твой Рэйн, на якое ён мне ліха? А на Салянцы я тут павінен кожную купіну ведаць, таму што з казакамі мы ваюем тут!

Фёдар рассмяяўся, паглядзеў на Чапаева здзіўлена і падумаў:

«Гэта ў народнага героя, у Чапаева, якія-ж дзіцячыя думкі! Ведаць усякаму сваё: каму навука, а каму і не даецца яна. Два месяцы вось пабыў у акадэміі чалавек і нічога не знайшоў там добрага, нічога не зразумеў. А і чалавек-жа разумны, толькі сыры, мабыць, вельмі... доўга абсушвацца трэба»...

— Мала пабылі ў акадэміі,—сказаў Фёдар.—За два месяца ўсяго не засвоіш... Цяжка гэта...

— Хоць-бы і зусім там не бываць,—махнуў рукою Чапаеў.— Мяне вучыць няма чаму, я і сам усё ведаю...

— Не, яно як-жа не вучыцца,—запярэчыў Фёдар.—Вучыцца заўсёды ёсць чаму.

— Так, ёсць, толькі не там,—падхапіў узбуджаны Чапай.— Я ведаю, што ёсць... і буду вучыцца... Я скажу вам... Як-жа прозвішча ваша?..

— Клычкоў.

— ... Скажу вам, таварыш Клычкоў, што амаль непісьменны я зусім. Толькі чатыоы гады, як я пісаць навучыўся, а мне-ж трыццаць пяць гадоў! Праз усё жыццё, можна сказаць, у цемнаце хадзіў. Ну ды што ўжо—другім разам пагаворым... Ды вунь, мабыць, і Талоўку відаць...

Чапаеў прышпорыў каня. Фёдар паехаў за ім. Дагналі Патапава. Праз дзесяць хвілін уязджалі ў Казачую Талоўку.

*Міхась Лынькоў*

# МІКОЛКА-ПАРАВОЗ [1])

## МІКОЛКА З ДЗЕДАМ ТРАПЛЯЮЦЬ У БЯДУ

Ужо вечарэла, калі Міколка з дзедам натрапілі на незвычайную стаянку ў лесе. Тут было некалькі дзесяткаў сялян з сем'ямі, з маёмасцю, з коньмі, з каровамі. З боку ўсё было падобна на вялікі цыганскі табар. Стаялі калёсы з паднятымі ўгору аглоблямі. На аглоблях былі панадзяваныя розныя дзяругі, коўдры. Пад гэтымі дзяругамі спалі на лахманах дзеці. Плакалі жанчыны то голасна, то ціха, наўзрыд. Плакалі па рознаму, але словы былі адны:

— А што-ж то будзе далей? Хіба жывымі ў магілу класціся?

Ля калёс гарэлі агні. Сухое веццё хвоі патрэсквала ў полымі і сыпала ўгору снапы іскраў. Нібы кружыліся залатыя пчолы, падымаліся ўсё вышэй і вышэй, аж пад самыя верхавіны маўклівых сосен, ялін. Ад сядзеўшых ля агня сялян мітусіліся навокал палахлівыя цені, яны скакалі па дрэвах, па кустах і знікалі, праглынутыя чорнымі змрокамі начы. Усюды было трывожна. Гэта відаць было і па плачу жанчын, і па гутарках сялян, па іх трывожных позірках навокал. Некалькі чалавек было з старымі паляўнічымі стрэльбамі. Яны вартавалі жывёлу—тут-жа ў лесе пасвіліся коні, каровы, свінні.

Міколку з дзедам спынілі некалькі чалавек, акружылі, запыталі сурова:

— Што вы за людзі? Чаго па начы швэндаецеся па лесе?

— А вы хто?—перапытаў у сваю чаргу дзед.

— Мы сяляне, уцяклі ў лес ад немцаў...

— Ну дык і мы ўцяклі ў лес... А самі мы рабочыя, чыгуначнікі...

Слова за слова—пачалася гутарка. І тут убачыў Міколка, што аднолькава прыходзіцца ад немцаў і рабочым, і сялянам. І тым, і другім прыходзіцца хавацца, ратаваць сваё жыццё, апошні свой кавалак хлеба. Рабочага пад канвоем вядуць немцы на працу ў дэпо, на паравоз. За гэтую працу амаль нічога не даюць, прымушаюць галадаваць. У селяніна немцы адбіраюць апошнюю карову, апошні хлеб, паляць яго хату, калі селянін не захоча добраахвотна аддаваць

[1]) Канец. Пачатак глядзі ў „Полымі рэволюцыі" № 2.

гэты хлеб. А паспрабуй ты выступі супроць гэтых парадкаў, цябе расстраляюць, альбо закатуюць да смерці.

— Адным толькі панам настала цяпер вялікае жыццё...—гаварыў адзін з сялян.—Толькі немцы прышлі, з'явіўся і пан. Ї такую расправу ўчыніў нам, што мы і не снілі ніколі... Вось і сядзім цяпер у лесе, укрыўшыся небам. А Сёмку-матроса, які быў у батрацкім камітэце, выдаў пан немцам. Тыя прысудзілі Сёмку да смерці за тое, што ён нібыта падбухторваў сялян да паўстання. Усё гэта нямецкія выдумкі—Сёмка нам нічога пра паўстанне і не гаварыў. А што Сёмка быў ворагам паноў, то гэта праўда. За гэта, відаць, і засудзілі. Ї хто ведае—жыў цяпер Сёмка ці не...

Да самае поўначы гаварылі каля агню. Тут-жа і ўлегліся спаць. Хто пад калёсамі, хто пад хатнім скарбам, прывезеным сюды. Хто тут-жа, каля агню, падклаўшы пад галаву плашку дроў ці шапку—кучомку. Тут-жа спалі і Міколка з дзедам.

А перад самай раніцай узняліся ў лесе таропкія стрэлы. Папрачыналіся напалоханыя людзі, беглі куды папала, крычалі:

— Ратуйцеся немцы ў лесе...

Але хавацца было ўжо недзе. З усіх бакоў акружылі немцы паляну, дзе размясціліся ўцекачы сяляне. Ї калі намагаўся хто праскочыць праз густыя зараслі хмызнякоў, насустрач яму высоўваўся шырокі нямецкі штык і чуўся грозны вокліч:

— Стой! Назад!

Сяляне кідаліся назад, але ўсюды іх сустракала адна і тая-ж грозная каманда, шэрыя каскі салдат і ашчаціненыя штыкі. Ї тады ўбачыў Міколка, як таропка хавалі сяляне ў кусты свае старыя стрэльбы, як дзед Астап, прыгнуўшыся да зямлі, хаваў у стары абамшэлы корч сваю зброю, старанна абкруціўшы яе старой хусцінкай.

— Патроны, дзеду, хавай, патроны!—ціха крыкнуў Міколка. Але не дачуў дзед, ды позна было. Каля дзеда стаяў ужо нямецкі салдат і штыком падганяў яго, каб ён хутчэй падняўся на ногі. Міколка кінуўся да салдата, налёг грудзьмі на вінтоўку, каб аднесці штык ад дзеда, але тут-жа пакаціўся па зямлі. Яго ўдарыў прыкладам вінтоўкі другі нямецкі салдат. Міколка ледзь падняўся на ногі, бо, падаючы, ён моцна ўдарыўся аб ламачыну. У Міколкі кружылася галава, нейкая пеляна засцілала яму вочы, але ён выразна бачыў таго салдата, які так неміласэрна ўдарыў яго. Ї вялікае, непераможнае пачуццё помсты запаліла Міколку. Ён падхапіў вялікі камень і кінуў яго ў салдата. Камень трапіў у каску. Азвярэлы салдат кінуўся са штыком на Міколку. Ї здавалася тады Міколку, што ніколі яму болей не ўбачыць ні гэтай паляны, ні лесу, ні дзеда, ні бацькі. Ля самых грудзей прамільгнуў перад ім шырокі штык, і Міколку здавалася нават, што ён бачыць на штыку цёплыя каплі расы ў барвовых і яркіх водблесках раніцы. Але то была не раса. Гэта Міколкава кроў пацякла па штыку. Хапіўшыся за яго абодвумі рукамі, Міколка моцна, да пякучага болю парэзаў пальцы і крыкнуў ад болю. Яго адцягнулі ад штыка падбегшыя жанчыны.

— Што вы з хлопчыкам робіце, рабаўнікі... Страляйце лепш!—крыкнулі яны азвярэламу салдату. Той памкнуўся быў жорстка

расправіцца са сваёй ахвярай, але нейкі трэці салдат затрымаў яго за руку, нешта гаварыў яму, няйначай, папракаючы за дзікі ўчынак.

Хутка ўсіх сялян павялі пад канвоем з лесу. Сярод сялян быў і Міколка з дзедам. Ззаду салдаты гналі сялянскіх кароў, ганяліся па лесе за коньмі, за свіннямі... Развідняла. Узышло сонца. Было яно нейкае пахмурнае, мутнае, нібы шызая пеляна засцілала яго ранішны зрок. То былі шэрыя хмары, якія аблеглі ўсё неба, праглынулі сонца, замуцілі небавую сінь. Неба было шэрае, халоднае, нібы ў позьнюю даждлівую восень.

— То-ж дым, а не хмары,—праказалі сяляне.

І сапраўды, то дагарала вёска, да якой падвялі цяпер пад канвоем сялян. Вёска гарэла ўжо другі дзень і некаму было тушыць пажару, дый баяліся тушыць. Вёску падпалілі немцы за супраціўленне сялян цяжкім непамерным падаткам і кантрыбуцыям. У гэтым падпале вінаваты быў і пан, які помсціў сялянам за рэволюцыю і падгаварваў немцаў на бязлітасную расправу з беднатой вёскі. І вот стаялі пачарнелыя коміны, дыміліся галавешкі, струменьчыкі дыму віліся ад платоў, ад пажоўклых яблынь, бяроз. Зграі крумкачоў ляталі ў паветры, апускаліся сям-там на гарачых папялішчах і завіхаліся на трупах жывёлы, загінуўшай у дыме, у агні.

— Наша вёска...—ціха прамовіў адзін селянін да дзеда.—Вось яны-ж і спалілі...—паказаў ён на сваіх канваіраў. Усімі апанавала цішыня. Была яна грозная, маўклівая. Толькі чуваць былі кароткія загады афіцэраў, ды канваіраў. Твары салдат былі ва ўсіх грозныя, у некаторых раз'ятраныя. Гэтыя былі зусім не падобны да тых, якія займалі калісьці Міколкаву станцыю. Там былі палкі запасных салдат, многія былі з барадамі, пажылыя людзі. Неяк нават лягчэй было гаварыць з імі, не так па-зверску абыходзіліся яны з народам. У гэтых-жа і форма трохі інакшая: чорныя венгеркі, большасць салдат на конях, у многіх чорныя шапкі і на шапках страшныя чарапы з перакрыжаванымі касцямі.

— Відаць гусары смерці з карных вельгельмаўскіх батальёнаў... Быць цяпер ў бядзе нам...—ціха прагаварыў дзед Астап да Міколкі.

Канваіры спынілі народ недалёка ад спаленай вёскі. Паставілі пару кулямётаў, наставіўшы іх на сялян. Асобна ад усіх пад узмоцненым канвоем трымалі двух маладых сялянскіх хлапцоў, якіх захапілі немцы са зброяй у лесе. Канваіры і афіцэры, акружыўшы сялян, нечага чакалі. І раптам заварушыліся, заўважыўшы па дарозе ад маёнтку белае воблачка пылу. Воблачка расло, шырылася. І хутка ўсё ўбачылі, што гэта шпарка едзе па дарозе запрэжаная ў чацвёрку коней карэта. Паабапал і пазадзе карэты ехала чалавек з трыццаць коннікаў. Усё гэта былі тыя-ж гусары смерці, з якіх былі і канваіры. Чацвёрка коней стала, як укопаная, перад кругам сялян. З карэты паволі сышоў добра апрануты чалавек з навіслымі сівымі вусамі, у паляўнічым касцюме, у жоўтых ботах. Чуваць было, як рыпелі гэтыя боты, становячыся на зямлю. То быў памешчык. Ён дапамог выйсці з карэты другому чалавеку ў вайсковай форме.

— Палкоўнік нямецкі...—шапнуў нехта з боку і замоўк пад суровым позіркам канваіра.

Памешчык з палкоўнікам падышлі да сялян. Спешыліся коннікі, пад'ехала яшчэ адна каламажка, і з яе торапка вылез поп, неўклюда апраўляючы падраснік, з-па якога відаць былі наваксаваныя папоўскія боты.

— А гэты-ж сіваграк чаго тут?—гучна запытаў дзед Астап ў стаяўшага побач з ім селяніна. Але той не паспеў адказаць, бо загаварыў памешчык. Ён стаяў перад народам, важна выставіўшы ўперад немалы свой жывот, ленавата пакручваў вус і нібы ўсміхаўся сялянам самай мірнай лагоднай ўсмешкай.

— Ну вось, мужычкі, ізноў мы з вамі сустрэліся... А вы то думалі, што мы расталіся навекі... Ну то што-ж, мала з вас ласкі імператара Вільгельма?—і ён паказаў рукой на абгарэлыя коміны сялянскіх хат, на сумныя папялішчы, на дымныя курганы.

— Вы думалі, што вам пройдуць так, даруюцца грабяжы над маім маёнткам? Што вам даруецца большэвіцкае свавольства над маім дабром? Не, не чакайце, мае мілыя, не чакайце, мае дарагія... гэта вам не свабода... гэта вам не большэвікі... Гэта войска вялікага імператара Германіі, якое стаіць за закон, за законную ўладу, за маю зямлю, за маё дабро...

Ён гаварыў і гаварыў і словы яго перайшлі ўжо ў шалёны крык. Ён захліпаўся словамі, пырскаў пенай, пагражаў, лаяўся.

— За кожную маю карову я вазьму цяпер тры каровы, за кожнае зярно вы будзеце расплачвацца са мной сваёй крывёю і потам... Я згнаю ў турмах... я расстраляю...

Яго спыніў чамусьці палкоўнік, запытаў нешта. Тады памешчык пачаў гаварыць больш спакойна:

— Палкоўнік ставіць перад вамі ўмову: калі хочаце пабачыць яшчэ свету, гаварыце, хто забіў нямецкага афіцэра і вызваліў Сёмку-большэвіка?

Народ глуха маўчаў. Толькі відны былі сцятыя ў бяссіллі кулакі, суровыя твары былі ў цяжкай задуме. Ужо бегаў памешчык сярод людзей, ярасна трос кулакамі, грозна падступаў да некаторых.

— Гавары, дзе Сёмка? Хто яго вызваліў?

Але маўчаў народ. Толькі ўсхліпвалі жанчыны, выціраючы слёзы ражкамі хусцінак, да плакалі дзеці.

Адышоўся памешчык, пачаў нешта раіцца з палкоўнікам. Той махнуў рукой аднаму з афіцэраў. Двух хлапцоў, якіх узялі з лесу са зброяй, падвялі да абгарэлай ігрушы, паставілі пад ёй. Да іх падышоў поп, нешта гаварыў ім, паказваючы на крыж. Але бачыў Міколка, як плюнулі хлопцы на крыж папу, на яго грудзі. Як пабіты сабака, адышоў поп у бок. Загаласілі жанчыны, хапіўшыся за галовы. Глуха шапталі старыя:

— Калі-ж кончацца гэтыя здзекі... ці доўга цярпець яшчэ будзем?

Грымнулі стрэлы... Міколка не глядзеў туды. Ён бачыў толькі, як ўзняліся над папялішчамі статі чорных крумкачоў, як з абгарэлай ігрушы пасыпалася сухое лісце і ціха, ціха кружылася падаючы ўніз. Яму насустрач віліся шызыя клубы дыму ад стрэлаў.

Доўга яшчэ здзекваліся над людзьмі, усё выпытвалі пра Сёмку,

пра тых, хто падбухторваў не здаваць немцам хлеба і жывёлу, хто быў у батрацкім камітэце. Але колькі не настаўлялі на людзей кулямёты, колькі не спрабавалі страляць паверх галоў у народ, нічаго не дапамагала. Людзі маўчалі. Тады памешчык з парай афіцэраў пачаў абыходзіць людзей. Некаторых бралі і адводзілі ў бок. Вось і да дзеда з Міколкай падышоў памешчык, сурова паглядзеў:

— Ты хто, нешта цябе я не памятаю?

— Я таксама з табой незнаёмы... не даводзілася сустракацца...— працадзіў дзед скрозь зубы.

— А ты, чорт стары, адказвай, калі з табой гавораць... Жарты ў мяне кароткія... Хто і адкуль?—усё пытаў расчырванелы ад злосці пан.

— Чалавек я... Вось хто я...

Ашалелы пан трос дзеда Астапа за рукі. Кастлявыя былі гэтыя рукі, былі на іх шырокія пляскатыя далоні з вечнымі мазалямі, з незмываемым нагарам ад дэпоўскага жалеза, ад мазута. Зірнуў на іх пан і затросся аж.

— Недарма ты аціраешся тут сярод мужыкоў... Відаць,— з рабочага кодла, праклятты...—засіпеў ён і, заўважыўшы Міколку, запытаў яго грозна, паказваючы на дзеда:

— Гавары, хто гэта такі?

— Гэта мой дзед...—адказаў напалоханы Міколка.

— Які дзед?

— А дзед... вось проста дзед і ўсё тут...

— А ты адкуль ўзяўся? Хто ты, шчанё?

Хацелася Міколку сказаць, што не шчанё ён, а самы што ні на ёсць большэвікоў сын, але, зірнуўшы на дзеда, схамянуўся. Прагаварыў ціха:

— А я дзедаў унук...

— А фамілія твая?

Зірнуўшы яшчэ раз на дзеда, прамовіў: «не ведаю»...

Як ужалены, падскочыў пан.

— У склеп іх!—грымнуў ён на ўсё горла.

Міколку з дзедам адвялі ў бок да купкі людзей, акружаных цяпер моцным канвоем. Салдаты ганяліся за каровамі, за іншай жывёлай. Частку гналі ў маёнтак да памешчыка, рэшту бралі для нямецкага войска. Сяляне аставаліся на дымных папялішчах. Над папялішчамі кружыліся крумкачы. Дыміліся платы і дрэвы садоў. Пад апаленай ігрушай ляжалі два забітых чалавекі і некаму было нават пахаваць іх, прысыпаць вочы пяском. Гора было вышэй жалю над мерцвякамі.

Міколка з дзедам шлі ў групе людзей. Іх падганялі салдаты. На салдатах былі чорныя венгеркі і чорныя шапкі. На шапках былі страшныя чарапы. На пражках паясоў паблісквалі пад сонцам выбітыя літары нямецкіх слоў:

— З намі бог!

Кружыліся крумкачы над дымнымі папялішчамі.

Паблісквалі штыкі.

Людзей вялі ў склеп.

## У НЯМЕЦКІМ ПАЛОНЕ

Склеп быў нізкі, вільготны з прапыленымі, бруднымі сценкамі, з невялікімі акенцамі, узятымі ў жалезныя краты. У акенцы відаць былі ногі часавога. Другі часавы быў ля дзвярэй, ад якіх вяла ў склеп невялічкая лесвіца. Гэты часавы хадзіў ўзад і ўперад ля дзвярэй і раз-по-раз гучна пакрыкваў, каб не размаўлялі між сабой, каб сядзелі ціха, маўкліва. Было тут каля трыццаці чалавек. Было некалькі батракоў, адзін каваль, а рэшта сяляне. Усе чакалі, чым-жа скончацца ўрэшце гэтыя падзеі, ці будзе калі збаўленне ад пана, ад немца, ці хутка прыдзецца паміраць. Спрабавалі спытаць аб тым часавога:

— Што-та будзе з намі?

Часавы быў з пазнанскіх палякаў, трохі разумеў словы. Ён зразумеў запытанне. Усадзіўшы з размаху штык у зямлю, ён сказаў:

— Вось што будзе з вамі...

Такі быў адказ. І ад гэтага жэсту ва многіх забегалі мурашкі па целу і стала цяжка дыхаць. Каб пазбыцца невясёлых дум, стараліся заснуць, масціліся на цагляной падлозе, на старых бочках, паскіданых у склепе. Мала гаварылі, бо ўсё ўжо было перагаворана паміж сабой і кожны знаў галоўную ўмову—не гаварыць немцам нічога, не выдаваць нікога. Толькі адзін з сялян, з прычасанай у клінок барадой, у чыстым новым кажушку, усё божкаўся ды войкаў у кутку:

— Ах, божа мой, бажа... ах, божа мой, божа...

Адзін з маладзейшых раздражнена сказаў яму:

— Ды кінь бога трывожыць... Пражыў ты век свой сабакам, памры хоць па-людску...

Чалавек замаўкаў на хвіліну, потым зноў пачынаў сваё: «ах, божа мой, божа...» А часам забыўшыся і не зварочваючыся ні да кога, шаптаў сабе ў голас:

— Я ўсё раскажу... усё, усё... І хто, што ў пана браў... І хто да большэвікоў быў блізка... І хто большэвіцкім духам жыве...

Тады акружылі яго ціха і, наставіўшы кулакі да носа, папярэдзілі грозна:

— Замоўч, божая гніда... Толькі рот паспрабуй раскрыць, не ўбачыш ты болей свету. І памятай, калі выдасі хоць аднаго чалавека, не жылец ты на гэтым свеце... Не гэтымі, дык другімі рукамі задушым, з агнём-полымем пусцім усе тваё паганыя здабыткі...

Чалавек змаўкаў, бялеў і тросся ўвесь як у ліхаманцы.

Гэта быў, трапіўшы сюды па непаразуменню, царкоўны староста суседняга сяла. Ён баяўся за сваё жыццё, баяўся немцаў, каб не трапіць ў немінучую бяду. Але яшчэ болей баяўся ён сваіх, сялян. Ён добра ведаў, што яны не кідаюць сваіх слоў на вецер, што ўсіх іх не заб'юць, што заўсёды знойдуцца людзі, якія здолеюць жорстка расправіцца з ім. І ён тросся, баяўся, як смоўж уцінаў галаву ў плечы, маліўся богу.

Вельмі ненавідзеў гэтага чалавека Міколка, гатоў быў сваімі рукамі задушыць яго, каб замоўк гэты паганы слізкі рот, які памінае ўсё бога, багародзіцу.

бабыль, дзед саўкаў, круціць жаўгушнай кастлявай рукою пашчэрблены жоран. Ляніва валюгаецца на лучыне агеньчык. Бегаюць па задымленай хаце чорныя цені, шоргат жалудоў і сушанай дубовай кары. Ён, Саўка, стаіць каля дзеда і трэ далоняй свой вялізны разбухлы жывот... На палку, на рыззі, ляжыць хворая маці. Бяскроўныя губы яе шавеляцца без гукаў. Яна ўжо два дні, як нічога не ела. Страшны госць—голад—ходзіць па караедаўскіх хатах... за сцяною б'ецца і скавыча зіма... Кожны ўпраўляецца ў сваёй хаце—нары, як кабяжыць. За кавалак хлеба забівалі адзін аднаго. Людзі паміралі ка печы, на падлозе, у хляве, на вуліцы... І ніхто не прыйшоў ім на дапамогу!

З гэтага і хацеў пачаць сваю прамову Саўка Чарапок. Ён хацеў гаварыць, што быў чалавек чалавеку—воўк, калі думаў толькі пра аднаго сябе, багацейшы і дужэйшы здзекваўся, таптаў у гразь бяднейшага і слабейшага. Што жыў той, хто меў многа зямлі, хоць гэтую зямлю яму апрацоўвалі другія. У калгасе гэтага не будзе. Зямля агульная, коні агульныя, хто скольні зробіць, за тое і атрымае... Прыдуць трактары, цудоўныя машыны...

Гэтак думаў сказаць Саўка Чарапок, пакуль яшчэ сядзеў у цесналце і ніхто не зварачаў на яго ўвагі. Калі-ж сход раптоўна ўпіўся ў яго сотнямі позіркаў—язык анямеў.

Пабеглі, закружыліся ў галаве думкі. Чаго так пазірае на яго галаву Міхал Казарэз?—Саўка крануўся рукою валасоў і ўсе позіркі, дзвесце вачэй, мятнуліся за рухам яго рукі! «Адзін у полі не воін»—зноў паўтарыў Саўка Чарапок, стараючыся прыпомніць, што-ж яму трэба сказаць пасля гэтага? Здаравенкы Леўдзік недаўмённа варухнуў плячом і ўхмыльнуўся. Чаго ён смяецца? Каля дзвярэй нехта хіхікнуў. Саўка Чарапок адчуў раптам, як угрэўся яго твар і мыслі зблыталіся ў галаве...

Так і не сказаў Саўка Чарапок сваёй прамовы. Асеў пасля доўгага маўчання у бурным рогаце і рухавай цеснаце кажухоў, ватовак, світак і аж да самага канца сходу перачытваў выразаны вучнёўскім нажом на лаўцы верш:

Ты карціна, я партрэт,
Ты скаціна, а я—нет.

Жонкі на сходзе не было, але Саўка Чарапок добра ведаў, што пакуль ён вернецца са сходу—яна праведае пра яго няўдалы дэбют, потым пачнецца калатня. Пра тое, што ён запісаўся ў калгас адзін з першых—лепш ёй не гаварыць. Ён скажа, што людзі паклёп узводзяць... Ён папросіць комсамольцаў, каб не паказвалі спіса калгаснікаў. Так не ведала жонка цэлы месяц, што яе муж, Саўка Чарапок, ужо не аднаасобнік. Вельмі была яна рада, што да іхняй кузні нацягнулі плугоў, барон, колаў. Гэта куды выгадней рабіць, чым бранку, ці замок да стрэльбы якому-небудзь верхагляду! Працаваў каваль ад цямна да цямна, увечары знікалі адрамантаваныя за дзень плугі, але грошы не брашчэлі срэбрам, не шуршэлі паперкамі ў кішэні зашмальцаваных штаноў.

— І сёння на павер?—нездаволена пазірала на яго жонка.
— На павер... Аддадуць.

— Аддадуць! Ты скажы чыё было, заўтра сама сышчу? Ўжо цэлы тыдзень на павер...

— Прынясуць.

Работа ішла хутка. У Карпушковым гумне выстраіліся дваццаць папраўленых за тыдзень плугоў—увесь план, хоць да сяўбы было яшчэ далёка. Узрадванае праўленне, забыўшыся на таемны дагавор, вывесіла чырвоную дошку. Буйнымі літарамі вылучалася на ёй імя «лепшага свядомага калгасніка Саўкі Чарапка»...

Да поўначы сноўдаўся каваль па цёмнай караедаўскай вуліцы, баючыся варочацца ў сваю хату. Нарэшце ён адчуў, што разам з холадам зашавялілася ў ім адвечная крыўда. Да якога часу ён будзе пакарацца самым благім ушчункам жонкі? Хіба ён малое дзіця, што яго трэба навучаць на кожным кроку? Ёй нагавораць, нашэпчуць! Страшная сіла звычаяў асядае на людзях, як кароста. Можа каб ён з першага дня іх сумеснага жыцця быў не такі падатлівы, дык цяпер не даводзілася-б баязліва туліцца каля сваёй хаты. А што ён дрэннае зрабіў?! Чаму гэта людзі, якія калі былі аднаасобнікамі, насміхаліся з яго, а цяпер раптам сталі такія ўважлівыя і чулыя? Сёння старшыня сказаў перад усімі членамі праўлення: «Калі табе, Саўка, патрэбен хлеб—мы дадзім. У другіх калгаснікаў, хто меў зямлю, ёсць яшчэ старыя запасы, а ты-ж беззямельны, можна сказаць, караедаўскі пролетары. Вядома, што да першага калгаснага ўраджая табе патрэбен аванс». І ўсё члены праўлення дружна падтрымалі прапанову старшыні. І ён, Саўка Чарапок ніколі не скардзіўся, што ў яго выходзіць хлеб, бульба. Сталася дзіўнае: пра яго пачалі думаць, пачалі клапаціцца! Памятае ён чорныя дні свайго дзяцінства, калі дзед малоў жорнамі жалуды. Ніхто тады не пытаўся, ёсць у іх што есці, ці няма. Людзі хадзілі каля іх абыякавыя і чужыя, думаючы толькі пра саміх сябе. Багацейшыя хлеб ссыпалі ў сяннікі, спалі на ім, паскудзілі яго, баючыся, каб хто не ўкраў, не падзяліў сілай...

— У мяне яшчэ будзе хлеба на месяц,—прамармытаў расчулены Саўка Чарапок старшыні.—Я тады вам скажу...

— Як хочаш, таварыш Чарапок. Ведай, што ты ў калгасе без хлеба сядзець не будзеш. Зямлі цяпер у нас многа і найбольш прадуктаў атрымае той, хто больш будзе працаваць. А што чырвоная дошка выдала цябе на злосць бабы—не бядуй. Будзе малоць языком лішняе—плюнь і разатры! Без яе пражывеш! Набярыся смеласці і каці да хаты...

Прайшоўшыся яшчэ раз каля сваёй хаты, Саўка Чарапок раптам спыніўся і крута павярнуўся да варот, рашуча і гулка забарабаніў пальцамі па заснежанай шыбіне...

— Дзе гэта ты, воін, бадзяўся? — пачала была жонка, але Саўка Чарапок закрычаў так, што аж шыбы зазвінелі.

— Там, дзе яшчэ цябе не бачылі! Чуеш, чортава насенне? Быў там, дзе мяне пачалі за чалавека лічыць!..

У напружанай і ўздымнай рабоце непрыметна пралятаў час. Саўка Чарапок працаваў ўжо ў новай кузні, дзе ставала месца і яму і Леўдзіку. У калгасе з'явіліся радковыя сеялкі, трыяры, да-

рагія сартыроўкі. У самы раз спатрэбілася Саўкава адмысловая практыка! Аднойчы закапрызіў на полі трактар. Яго прыцягнулі раніцою да кузні. Удвух Саўка з трактарыстам перабралі матор, перачысцілі кожную дэталь. Працавалі ўсю ноч, сабраўшы ўсе калгаскыя ліхтары і лямпы. Праўда, ён забываўся, дзе што ўкручвалася, дзе што стаяла, але выручаў трактарыст Валодзька, свой караедаўскі хлапец. Памятае яго Саўка Чарапок яшчэ бясштоннага, памятае яго часты баявы выклік з-за плоту: «Клумкач! Клумкач!» Цяпер гэты Валодзька, апрануты ў замасленую спецоўку, у высокіх ботах, дужы, сінявокі хлапец згінаўся разам з ім над маторам і гаварыў:

— Карбюратар і жыклёры вы перачысцілі так, што лепш і не трэба. Вы, Саўка Іванавіч, перабірайцеся да нас у эмтээсаўскую майстэрню. Там машын многа, а людзей, якія іх добра дагледзелі-б, не стае. Наш дырэктар як апантаны ганяецца за кожным чалавекам, які хоць трохі ведае слясарскую работу. Леўдзік тут адзін управіцца.

На другі дзень трактар загудзеў зноў. Саўка Чарапок прагна лавіў вухам яго гарачы жывы голас. Не чулася ўжо ў ім ні хрыпу, ні перабояў. Збягаліся да кузні бесклапотныя дзеці, з павагай пазіралі на машыну, у якой забурліла жыццё.

«Як чалавек!»—падумаў, а можа сказаў уголас, Саўка Чарапок, асцярожна сціраючы пыл з карбюратара.—Учора сам паварухнуцца не мог, а сёння—сілішчаю такою нецярпліваю дыша».

Валодзька ўключыў матор і трактар горда прайшоў паўз выстраеных у рад дзяцей. Саўка Чарапок бег побач і крычаў-пытаўся ў занятага стырном Валодзькі:

— Ну, як? Ну, як?

— Лепш не трэба!—шырака ўсміхаўся той.—Другія трактарысты пазайздросцяць такому рамонту.

— Дык едзь з богам!—радасна махнуў рукою Чарапок.—Я пасля падыйду паглядзець, як ён будзе дзірван пластаваць.

Праз тыдзень каля кузні спыніўся ніколі не бачаны ў Караедах легкавы аўтамабіль. З яго вылез грузны дырэктар МТС таварыш Лагодзіч.

— Хто тут Саўка Чаропок?—запытаў ён, пазіраючы то на аднаго, то на другога каваля.

— Гэта не я,—прамармытаў, збянтэжаны такім раптоўным наездам і запытаннем, Леўдзік і паказаў абцугамі.—Ён Чарапок, ён Саўка...

— Ну то здароў,—ткнуў Лагодзіч пухлую руку ў запэцканую кавалёву далонь.—Гэта ты тут сядзіш, а мы нічога не ведаем. Нам цяпер кадры патрэбны. У нас сусветная справа. Дзякую за рамонт трактара. Хадзем да старшыні калгаса.

Лагодзіч гаварыў адрывіста, як-бы спяшаючыся. Здавалася, што заскочыў ён на адзін момант і то выпадкова, а недзе далёка чакае яго сусветная справа. Гэта быў стары партызан, добрыя і благія звычаі напорыстай, адважнай вольніцы бывалі ў ім, часта прыводзячы ў замяшанне людзей, якія крапатліва стваралі новую культуру і новыя адносіны.

— Вы зрываеце нам работу!—накінуўся Лагодзіч на старшыню калгаса.—Патрабуеце, каб трактары хутчэй канчалі ворыва, не рабілі прастояў, і самі трымаеце такую жар-птушку, слесара такога.

Старшыня ведаў характар дырэктара, таму адказаў спакойна, але ўвёртліва:

— Як мы адпусцім, калі ён, можа, сам не захоча? Пагаварыце з ім самі.

— Захоча! Мы дадзім яму добры заработак, кватэраю забяспечым! Не горш, а лепш яму там будзе,—дырэктар павярнуўся да Саўкі Чарапка.—Ідзі да хаты, вазьмі што табе трэба, ды садзіся ў машыну.—Лагодзіч збавіў тон.—Каяцца, душа мая, не будзеш. Спамянеш мае словы, браток. Ну-ж каці, і бабу, калі ёсць, можаш браць з сабою... Каб па Караедах не так сумаваў... А калі што там табе не ў спадобу будзе—зразу ў мой габінет тупат! Хлопцы ў майстэрні ўсе маладыя, вясёлыя.

Так апынуўся Саўка Чарапок у Ванілаўскай майстэрні. Сонца шчодра ліло сваё святло праз вялізныя вокны. Будынак спяваў варштатамі, грымеў трактарнымі маторамі. Адыходзілі спраўленыя машыны, прыходзілі тыя, якім патрэбны былі лекі. За тыдні два пазнаў Саўка Чарапок усё, што тычылася добрай работы трактара. Ён беспамылкова, нават не разбіраючы матора, мог вызначыць прычыну няспраўнасці.

У той-жа дзень, як распачаў Саўка Чарапок на новым месцы работу, у цэх прышоў нейкі чалавек. Быў ён апрануты ў зашчытнага колеру гімнасцёрку, з акуратна падцягнутым рамянем. Ужо з парога позірк ягоных шэрых спакойных вачэй ахапіў, здавалася, усё, што было ў будынку. Ён молада гукнуў:

— Дзень добры, таварышы.

— Добры дзень, таварыш Ганчар,—дружна адказалі тыя, што былі бліжэй да дзвярэй.—Заходзьце да нас. Нашай сілы прыбыло,—паказалі яны таварышу Ганчару ў бок Саўкі Чарапка.—Караедаўскі каваль, пра якога вы на сходзе гаварылі.

— Не дрэнна. А гэты клапан чаму ў пяску валяецца? Сталоў не хапае, ці што?

Гэтым часам Саўка Чарапок прышрубоўваў шып да харкаўскага інтэра. Пад гэтым-жа трактарам ляжаў на спіне Васіль Кірык і, шнырачы вачыма па нізу матора, мацаючы рукамі часткі, гаварыў Чарапку:

— У нас, брат, цяпер, сусветная справа. Два гады таму назад я працаваў у дэпо. Дык у нас там гэтулькі паравозаў не было, колькі тут у нас трактароў! А рабіць павінны ўсё адно, што тут, што там. Скажам, у сем гадзін і пяць мінут—адыходзіць поезд. Дык каб паравоз быў пададзен па раскладу! Тое і тут: спознішся з падачай трактара на поле—наробіш бяды. Вясна чакаць не будзе. Мы гэта, брат, разумеем...

— Што ты тут усё разумееш?—падышоў да іх Ганчар.—А клапаны на зямлі валяюцца. Давядзецца тваю брыгаду панізіць на адзін ранг. З перадавой у сярэднюю перавесці.

Васіль Кірык выскачыў з-пад трактара.

— Вось сукіны сыны! Колькі разоў ім гаварыў!—ён крыкнуў у бок дзвярэй.—Хто там дэталі на зямлю кідае? Я вам галовы паадрываю за такое бясчынства!

— Не гарачыся,—крануў яго за руку Ганчар.—Лаянка не паможа. Трэба глядзець, каб было на чым класці, спакойна прывучаць людзей да акуратнасці. Ну як, таварыш Чарапок, не сумуеце?

«Адкуль гэты чалавек мяне ведае?»—здзівіўся караедаўскі каваль і адказаў, што трапілася на язык:

— У вас тут варштатаў многа...

— А работа не зусім добра ідзе. Спазняемся, зацягваем рамонт. Многа яшчэ мітусні, непатрэбнага корпання. Ага,—раптам успомніў нешта Ганчар.—Мне перадавалі, што трактар, які вы адрамантавалі ў калгаснай кузні, за тыдзень і гадзіны не прастаяў. Працуе, як новы. Дапамажыце нам, таварыш Чарапок і тут. Вам сёння прывязуць да хаты стол, крэслы. Мы думалі, што вы з вёскі перакінеце, таму не зрабілі гэтага раней.

Калі Ганчар вышаў, Саўка Чарапок спытаў у Кірыка:

— Хто гэта?

Кірык цмокнуў языком.

— Як хто? Начальнік палітаддзела. Сусветны, брат, чалавек!

— Чаму ён такі малады з твару, а ў валасах сівізна? Я яшчэ не сустракаў такіх людзей, каб малады і сівы.

Тут ужо Кірык не мог хутка даць адказу. Сапраўды, ёсць людзі, што да ста год валасы не сівеюць. Яму, Кірыку, поўвека, а ніводны волас не пабялеў яшчэ. Але каб не прынізіць свайго аўтарытэта, брыгадзір растлумачыў:

— Ён многа думае. Вось ты не падумаў, дзе табе пакласці хлеб, паставіць міску, на чым самому сесці, а ён ужо загадаў прывезці стол, крэслы. А ты хіба адзін? Думаеш, цябе аднаго ўлада савецкая пестуе? Вось ён, самы глаўны наш начальнік эмтээсаўскі, заходзіць у цэх. Дык я з ім, як роўны з роўным: магу згаджацца, магу спрачацца. Ні спіны гнуць не трэба, ні шапкі знімаць. Бо гэта таварыш, блізкі чалавек. А бывала да рэволюцыі зойдзе начальнік у дзіпо, дык яго носа крукам не дастаць! Ніколі з рабочым чалавекам не загаворыць. Ні дзень добры, ні бывайце здаровы. Стаіш гэта і думаеш: «ён-жа, сукін сын, з такога самага цеста, як і ты злеплены. Ён гэтак-жа радзіўся, гэтак-жа, як і ты памрэ. Навошта яму на якіх сорак-пяцьдзесят год тая фанабэрыя? Шты ты хіба багацей: пернічкі ясі, у шоўкавай сарочцы ходзіш? І так, брат, праз увесь свет ішло прыніжэнне чалавечай вартасці. Большы начальнік патрабаваў каб перад ім скакаў на лапках меншы, меншы начальнік прыцiскаў чалавечую вартасць яшчэ меншага. Так было і ў сям'і. Быў у мужа мацнейшы характар—жонка прыніжана, у жонкі мацнейшы характар—муж прыніжаны. А каму скардзіцца? Ад цара і да ўрадніка ўладаю запраўлялі нягоднікі і вырадкі.

Саўка Чарапок здзіўлена адкрыў рот:

— Адкуль ты ўсё гэтае ўведаў?

Брыгадзір не адказаў. Можа ён заўважыў, што Саўка Чарапок,

зацікаўлены гаворкай забыўся ка работу? Караедаўскі каваль схамянуўся і пачаў разбіраць карбюратар другога трактара. Няхай тут не думаюць, што ён разявака! Калі яго заўважылі за трыццаць вёрст адсюль, дык ён апраўдвае давер'е.

Вясна выдалася дажджлівая. Дарогі і нізіны разбухлі ад лішняй вільгаці. Ад гэтага, а часта і ад няўмельства трактарыстаў машыны выбывалі з строю. Дырэктар Лагодзіч часцей улятаў у майстэрню, крычаў і лаяўся. Работы павялічвалася. Рабочыя былі хмурныя, ўзлаваныя, нездаволена сустракалі стырнавых, якія наведвалі цэх з папсаваным маторам.

— Партач госпада бога з'явіўся! Нябось, каля дзеўкі лагадней аціраешся. Малую ты яшчэ навуку прайшоў, каб чуласць да стальнога каня мець...—гневаўся Кірык.

— Які рамонт, такая і чуласць,—агрызаўся стырнавы.—Свяча трэцяга цыліндра ў вас саміх не давала запалу...

— Не свяча вінавата, а рукі твае няўмелыя. Ты зразумей, што гэта не бервяно, не калода дубовая, а дасціпная механізма... Ну, вось, і радыятар працякае яшчэ!.. А вось мы паглядзім, хто рамантаваў,—лез у кішэню па свой сшытак брыгадзір.

Саўка Чарапок азіраўся. Не, да гэтай машыны ён не дакранаўся! Раней ён баяўся: прыдзе ён у майстэрню, а каля варот ужо стаіць маўклівы трактар. «Хто рамантаваў?»—запытае Кірык.—«Саўка Чарапок»,—адкажуць рабочыя і пакажа запіс у кнізе. «Ну вось вам і вывезены з Караедаў майстра!»—пачнуць кпіць. Але трактараў, каля якіх пахадзіла яго рука, не прыцягвалі на буксіры. Недзе далёка адсюль, можа ў саміх Караедах, аруць яны ўдзень і ўначы, на іх сядзяць хлопцы, якіх Саўка Чарапок не заўважаючы, што многа гаворыць, упрашваў:

— Усё гатова. Ты, братачка, уважліва глядзі. Не гані на раўчок, на пень. Не рві па нявыгодзе на трэцяй хуткасці, газу лішняга не палі... Для цябе стараўся! Бачыш, як блішчыць усё! І яно заўсюды будзе блішчэць, калі кожны дзень анучкай пачысціш!.. І ключоў не губляй!..

Аднойчы яму прынеслі палітаддзельскую газету і ткнулі пальцам на першую старонку. «Працаваць так, як Саўка Чарапок»,—прачытаў павольна ён. Заметка была пра работу майстэрні. Прозвішча карадаеўскага каваля спаміналася разы чатыры. «Не надвор'е вінавата, а дрэнны рамонт, няўважлівыя адносіны стырнавых да машыны. Чаму трактары тав. Чарапка працуюць беспераболна?»—чытаў Саўка адчуваючы, як моцна б'ецца яго сэрца, як святлее цэх і расшыраюцца яшчэ больш сцены.

Каваль стаяў насупроць акна. Адсюль разгортвалася ў шыркі і ў далячынь роўнае, зрэзанае радковай сеялкай, поле. Дождж скончыўся, абрыўкі шэрых хмар павольна сплывалі па глыбокай сіні неба за рэзка акрэслены краявід. Празрыстая парнасць струменіла з тлустай пахаці. Буйныя храсткі аўса прабіваліся да святла, да сонца. Здавалася Саўку Чарапку, што ён бачыць, як пульсуе ў раслінах густы зялёны сок.

І ў гэты дзень Чарапок працаваў так, што здзівіў нават камса-

мольца Тоню Матусевіча, які заўсёды выконваў самую большую норму.

— Бараду вам, Саўка Іванавіч, трэба пабрыць!—жартаваў ён.— Пры такіх тэмпах не дзіва ёй у каленчаты вал укруціцца!.. Хадзем палуднаваць. Гудок даўно быў.

— Хадзем,—згадзіўся Саўка Чарапок.

— Вы газеты чытаеце?—спытаў у Чарапка Тоня, калі яны выйшлі з майстэрні і накіраваліся да сталоўкі.—Кніжкі бярыце дзе?

— Не-э,—адказаў каваль.—Толькі калі хто што пакажа, тады прачытаю. Не маладыя гады ўжо...

Тоня ўсміхнуўся.

— Так і Кірык казаў. Мы з ім у адным дэпо працавалі. Кірык навучаў мяне слесарскай справе. Я яму прынясу кніжку, а ёк: «няма калі чытаць, гады не тыя». А пасля як узяўся, за паўгода ўсю маю бібліятэку перачытаў. «Гляджу, кажа, на паперку, а з яе то чалавек загаворыць, то вецер засвішча, то мора зашуміць і запеніцца аб скалы. Аднойчы аж спужаўся, усё унутры пахаладзела: бачу, ідзе ў разведку чырвонаармеец, а за кустом белы сядзіць, вінтоўку выставіў. Заб'е, сволач белая!.. Браточак, крычу, хавайся!.. І як крыкнуў, то і апамятаўся: згледзеў, што нікога вакол мяне няма, а гэта ў кніжцы напісана...»

Саўка Чарапок раптам спыніўся:

— Як-жа ён убачыў?

— А вось я вам прынясу кніжку, дык і вы ўбачыце. Хітрая і складная справа атрымліваецца. Вам і Кірык можа сказаць, што ён з кнігі ўведаў. Яго ўсе прафесарам завуць. А чатыры гады таму назад казаў: «няма часу чытаць».

Яны ўвайшлі ў сталоўку. Ужо збіраўся Саўка Чарапок сесці за столік каля дзвярэй, за якім ён заўсёды палуднаваў, як пачуўся голас Кірыка:

— Хадзі сюды, таварыш Чарапок. Тваё месца тут.

— Я прызвычаіўся за гэтым сталом,—кіўнуў галавою каваль і сеў на старое месца. Тады Кірык падышоў да яго, схапіў за рукаў і пад дружны смех сталаўнікоў і афіцыянтак пацягнуў у куток, дзе стаялі два столікі, упрыгожаныя чаромхай, з белай, як снег, сарвэткай. За столікам сядзелі лепшыя ўдарнікі МТС.

— Толькі раз паспрабуй гэтага, што сюды пададуць, дык на сваё старое месца і глядзець не захочаш!—многазначна падміргнуў брыгадзір.—Тут, брат, з сёнешняга дня табе і палуднаваць, есці лепшае каля кветак. Адно толькі мне не падабаецца: ніколі голасу твайго не чуваць, маўклівы ты нейкі. Як-бы ты баішся аглушыць каго сваім голасам! А на сходзе заўсёды ў дальнім кутку садзішся. З'ядуць цябе на першых лаўках, ці што? Гэта, ведаеш, трошкі старою вёскай пахне. Смялейшым трэба быць!

Кірык казаў праўду. Нерашучасць у адносінах да людзей яшчэ моцна бытавала ў Чарапковай душы. Яму здавалася, што ён працуе лепш, калі ніхто на яго не пазірае, мыслі цякуць роўна і разважна, калі не гаворыць хто з ім. Каваль дзівіўся, як гэта свабодна могуць трымаць сябе на сходзе прамоўцы. Хоць-бы ўзяць выступленні на-

чальніка палітаддзела, таварыша Ганчара, Тоню, Кірыка. Чарапок пазіраў, калі яны выступалі на сходзе, на іх рот, на нос, на рукі, аглядаў вопратку, лавіў слыхам калі, хто не выгаварваў якое літары. І не адзін Чарапок не спушчаў вачэй: сто, дзвесце чалавек! А таму, хто выступаў, хоць-бы што, усёроўна, як дома сябе адчувае, як з жонкаю сам-на-сам гаворыць. «Гэта ад прыроды такая здольнасць ў людзей»,—думаў Саўка Чарапок, успамінаючы свой няўдалы, ганебны пачын у Караедах, калі ён тры разы паўтарыў першых некалькі слоў прамовы, а далей разгубіўся і не ведаў, што гаварыць.

Ганчар часта наведваў майстэрню. Работа выпраўлялася. Паўторныя рамонты зьяліся зусім. Дырэктар МТС Лагодзіч весела ўбягаў у майстэрню.

— Здаровенькі, браточкі! Націсні яшчэ! Каб нам, птушачкі, на першае месца па рэспубліцы высці! У цэнтральных газетах пачынаюць хваліць Ванілаўскую ЭМТЭЭС.

— У нас, таварыш дырэктар, свярдзёлкі канчаюцца. Даўно вам казаў,—спакойна гаварыў Кірык.—А сёння начальніку палітаддзела далажыў.

Гэтага было дастаткова, каб дырэктар змяніў свой мінорны настрой на лаянку:

— Навошта было займаць Ганчара такою драбязой? Чэрці лапатыя, а не снабжэнцы! Я з іх дух выб'ю, праганю, каб і не смуродзілі тут. Зноў можа быць тормаз...

Ён бег у кантору і ярасна круціў ручку тэлефона.

— Няма чаго лаяцца,—бурчэў Кірык.—У Ганчара навучыўся, як абыходзіцца з чалавекам.

І не сніў, не думаў Саўка Чарапок, якая ўпартая і жорсткая сутычка будзе ў яго з дырэктарам, сутычка, якая дала яму смеласць да выступлення на сходзе, калі язык нечакана для яго самога, ужо не блытаўся, а вочы не баяліся пазіраць ў залу, дзе сабралася не менш як дзвесце чалавек. Таварыш Ганчар ужо даўно быў прызначан сакратаром партыйнага камітэта новага раёна. Ён заклікаў да сябе ў габінет Тоню Матусевіча, Саўку Чарапка і Кірыка.

— У сталіцы адбудзецца нарада кіраўнікоў партыі і ўрада з лепшымі ўдарнікамі ўраджайнасці. З майстэрні мы пашлем тых, хто заўсёды быў наперадзе. Так, што, таварышы, збірайцеся.

І Саўка Чарапок паехаў у сталіцу. Ужо на вакзале, як толькі яны вышлі з вагона, іх абступіла групка вёрткіх людзей з блакнотамі, з фотаапаратамі. Саўка Чарапок, убачыўшы, як Ганчар паказаў дапытліваму фатографу ў яго бок, сарамяжа схаваўся за Кірыкаву спіну. Але не такі быў гэты фатограф, каб адступаць ад надуманага. Ён ветліва папрасіў Саўку Чарапка, былога караедаўскага каваля, адыйсці трошкі ў бок, і навёў на яго апарат. Мімаволі Саўкава рука паднялася да барады, прыгладзіла вусы...

Каля вакзала стаялі аўтамабілі. Саўка Чарапок сеў побач з Ганчаром і машына мякка кранулася з месца. Дэлегатаў прывезлі ў гасцініцу, павялі ў пакой.

З'езд адкрываўся ўвечары. Ніколі не бачыў Саўка Чарапок та-

кой велізнай і прыгожай залы, гэтулькі людзей. Усё гудзелі чалавечай гаворкай, вясёлым, шчаслівым, смехам.

Нараду адкрыў кароткай прамовай нарком земляробства. У гэты час на трыбуну вышлі члены партыі і ўрада, добра знаёмыя Саўку Чарапку з партрэтаў, з газет. Нейкая сіла падхапіла з месца старога каваля. Загрымелі апладысменты, выгукі «ура» і тут, у гэтым адзіным прывітальным гуле Саўка Чарапок раптам улавіў і свой усхваляваны голас.

Далей усё адбылося, як ў нейкім дзівосным сне. Зачыталі спіс прэзідыума. Потым Тоня Матусевіч таўхануў яго ў бок і шапнуў: «Чаго ты сядзіш? Хадзем, нас абралі ў прэзідыум». За доўгім сталом старшыня ЦВК цёпла ўсміхнуўся Саўку Чарапку насустрач і паказаў на месца побач:

— Сядайце тут.

Былы караедаўскі каваль падняў галаву і ўбачыў перад сабою ўжо не дзвесце, а тысячы позіркаў, цёплых і дружацкіх, як ўсмешка старшыні. І ўпершыню не адчуў ён разгубленасці і трывогі ў душы перад такім многалюдным сходам! Ён сядзеў побач з кіраўнікамі ўрада!

— Вы з якога раёна?—проста, як гаворыць з ім Матусевіч, ці Ганчар, запытаўся старшыня ў Саўкі Чарапка. Запытаўся шэптам, як перагаварваліся ў прэзідыуме схода Ванілаўскай МТС. Саўкава сэрца запела ў грудзях.

— З Ванілаўскай Эмтээс. Я прыехаў разам з таварышам Ганчарам,—адказаў ён гэтак-жа проста.—Я жыў раней у Караедах, але ў Эмтээсе не хапала слесароў, дык мяне папрасілі дапамагчы. У Караедах я кавалём быў, а цяпер слесар і мяне садзяць за стол з самымі паважанымі людзьмі ЭМТЭЭС!—Саўку Чарапку раптам захацелася расказаць пра ўсё сваё жыццё.

— Ведаю, сёння ў газетах змешчан ваш фотаздымак,—зноў шапнуў старшыня ЦВК і дадаў.—Давайце не будзем перашкаджаць нарадзе, а ў часе перапынку пагаворым больш падрабязна...

Нарада цягнулася чатыры дні. На пяты дзень яны вярнуліся ў МТС. Тут Саўка Чарапок даведаўся, што прыязджала жонка, якая засталася ў калгасе і сказала на мужаву прапанову перабрацца да яго: «У Караедах радзілася, у Караедах і памру. Едзь, каб мае вочы цябе не бачылі, калі ты такі храбры стаў». Так ён адзін і жыў. Цяпер жонка прывезла новую коўдру, дзве падушкі, збанок мёду. Суседзям Саўкавым яна перадала, што будзе чакаць мужа ў наступны выхадны дзень.

— Саўка Іванавіч!—гукнуў каваля Валодзька, калі ён узрадаваны ад такіх спраў, ішоў раніцою ў майстэрню.—Хачу я табе сказаць пару слоў. Цябе і мяне запрашаюць, як старых калгаснікаў ў Караеды. Праз тыдзень калгасу спаўняецца пяць год. Але ведаеш, ёсць адна прыкрасць,—Валодзька няёмка патупіў позірк.— Я не ведаю, як глядзіш ты. Па маему гэта брыдка, я ўжо казаў Лагодзічу... калі чалавека завуць не па прозвішчу. Канечна, Лагодзіч чалавек гарачы, але-ж прыніжаць другога... Гэта было на базе, мы з Лагодзічам ездзілі па запасныя часткі. Там сказалі, што

прыбудуць праз два дні, няхай Лагодзіч прышле па іх чалавека. Лагодзіч сказаў, што прыедзеце вы. Там запыталі, хто прыедзе? Дык дырэктар сказаў: «Я вам апішу яго выгляд, дык вы, птушачкі, і без распытаў будзеце ведаць: барада чорная, нос трохі гарбаты, маўклівы, такі, што калі да яго не звернешся, дык сам ён гаворкі не пачне, чалавек пануры, як крумкач... Праўда, работнік на вялікі палец!»—адным дыхам праказаў Валодзька.

У Саўкі Чарапка задрыжэлі рукі, твар заліло крывёю.

— Ты хлусіш!—крыкнуў ён на ўвесь двор.—Што ён прозвішча майго не ведае, ці што? Ён думае, што калі дырэктар, дык можа толькі сябе лічыць за чалавека. Не будзе гэтага!

— Твая праўда, Саўка Іванавіч, так і трэба ставіць пытанне,— сказаў Ганчар, калі ўзрушаны каваль прыбег увечары да яго.—Мы яшчэ раней папярэджвалі Лагодзіча за грубыя адносіны да чалавека. Лепш будзе, калі мы паставім гэтае пытанне на профсаюзным сходзе, пагаворым напрамкі. Я ўжо званіў на базу, там пацвердзілі. Такія паводзіны дырэктара мы сёння абгаворым на бюро і Лагодзіч панясе заслужаную кару па партыйнай лініі.

Саўка Чарапок пайшоў да хаты. Ён стараўся забыцца на сваю крыўду, але ніяк не мог. Толькі на момант ён супакойваўся, каб яшчэ больш і вастрэй закіпець гневам. У памяці паўставалі далёкія малюнкі караедаўскага побыту, грызні аднаго з другім, абразлівыя мянушкі і здзекі, якія бэсцілі чалавечую вартасць. Усё гэта ішло ад цемры мінулага, ад багацця і беднасці, ад таго, што закон быў на службе дужага і багатага.

Чалавечая вартасць прачнулася ў былога караедаўскага «крумкача». Апошнія гады працы ў майстэрні МТС, чытанне газет і кніжак, якімі яго шчодра надараў Тоня Матусевіч, паказалі, якая вялікая бездань лягла паміж яго цяперашнім жыццём і мызганнем ў старой вёсцы. Нехта надумаўся карпаць яго загоеныя раны!..

І не адчуў ён ніякага страху, калі пачуў: «Слова даецца знатнаму чалавеку нашай Эмтээс Саўку Іванавічу Чарапку». Гэта гаварыў старшыня рабачкома. Цвёрдым крокам, пад воплескі рабочых, механікаў і трактарыстаў, прайшоў маўклівы каваль на сцэну.

— Таварышы! Старшыня ЦВК, сакратар ЦК вялі са мною размову, як мы ў Вайнілаве планы соцыялізма выконваем...

Бура воплескаў заглушыла ягоныя словы. Каваль махнуў рукою, як-бы загадваючы сціхнуць. Калі ўсё супакоілася, ён павёў сваю думку далей.

— Я сказаў, што не адстаем ад другіх МТС і далей не думаем адставаць!—воплескі загрымелі зноў.—Мяне пыталіся, як жыву і працую я, колькі зарабляю. Я сказаў, дай божа, таварыш старшыня Цэвэка, да канца майго жыцця гэтак мець і зарабляць! Толькі кажу, у мяне адна бяда, жонка не хоча мяне прызнаваць. Такая, кажу, злая, такая ўпартая, што за два гады ні аднаго разу не прыехала праведаць. «А што ў вас, таварыш Чарапок, за нядобрая справа з ёю вышла? Можа можаце расказаць?» Я расказаў. Таварыш старшыня ЦВК пахлопаў мяне па плячу і ўсміхнуўся. «Такія гісторыі, таварыш Чарапок, бываюць. Але пабачыце, што

усё выйдзе на добрае. Чалавек у калектыве змяняецца, набывае лепшы характар, вартасць, вучыцца шанаваць свайго таварыша».

Саўка Чарапок весела зірнуў на залу.

— Дык праўду казаў таварыш старшыня ЦВК, наша самая вышэйшая і любімая, наша родная ўлада. Толькі вярнуўся я з нарады аж кажуць: «Прыязджала твая баба.» Глянуў я ў сваім пакоі і сапраўды бачу, што жаночыя рукі пахадзілі: чыстата, прасціралы як снег, дзве падушкі і збанок мёду...

Зала шуганула смехам і воплескамі.

— Валодзька трактарыст наш кажа, жонка ўдарніца ўжо, даглядае цялят, цяляты такія, што хоць кожнае на выстаўку ў Маскву вязі. А мёд яна на працадні атрымала—пуд цэлы! Дык я сабе і падумаў,—твар Саўкі Чарапка стаў сур'ёзны.—Вось былі мы ў Менску на нарадзе. Партыя і ўрад паклікалі былога занядбанага караедаўца параіцца, як весці работу далей, каб усім людзям у нашай савецкай краіне жылося весела і шчасліва, каб не крыўдзіў чалавек чалавека, ёсць ён большы начальнік, ці меншы. А наш дырэктар такі храбры, што прыпамінае старое, хрысціць чалавека мянушкаю. Часта ён нават на прывітанне не адказвае, як бы не бачыць цябе, не чуе. А сам такія выбрыкі робіць. Дык я кажу, што такое надругі над тым., кім мяне зрабіла наша савецкая ўлада і партыя—я не пацярплю! Паглядзіце вы на вялікага правадыра працоўных таварыша Сталіна. Я чытаў у газетах, бачыў здымкі. Які ён просты і абыходлівы—і з наркомам і з пастухом калгаснага стада. У дні з'ездаў яны сядзелі побач і разам вырашалі дзяржаўныя справы.

А ў нас пастухам ордэны даюць! І наш пастух ведае, што стаў ён чалавекам нараўне з інжынерам, настаўнікам, камандзірам, наркомам. А каб у яго не адабралі, не апаганілі яго права быць чалавекам, ён не пашкадуе свайго жыцця, калі надыйдзе час абараняць сваю радзіму ад ворагаў!..

Лагодзічу далі суровую вымову.

*Ільяс Джансугураў*

## ПРЫВІТАННЕ

Прывітанне табе, Беларусь,
Казахстан пасылае, Усход.
Прывітанне табе, Беларусь,
мой братэрскі заходні народ!

Прывітанне вам, нашы браты,
ад шырокіх казахскіх палёў,
ад стаханаўцаў Караганды,
ад калгасных усіх пастухоў!

Не разлучыць нас вораг і даль,
бо сцяг Леніна нас аб'яднаў;
Дружбай братняю цвёрдай, як сталь
нас Кастрычнік навекі звязаў.

, вітанне вам гэта шлючы,
просім братні вялікі народ
Захад нашых краін берагчы
так, як мы тут вартуем Усход.

Каб заўсёды нам радасна жыць,
каб спакойна тварыць, будаваць—
больш вартуйма пільней рубяжы,
умацоўвайма Сталіна раць!

*Пераклаў ПЯТРО ГЛЕБКА*

*А. Оршын*

# ЭТАПНЫМ ПАРАДКАМ

**(З кнігі „Паўвека“)**

Арыштны дом на Казачым пляцы. Перасыльны аддзел. Чакаюць высылкі чалавек сорак. З сарака чалавек толькі 6 чалавек гаражан, астатнія вяскоўцы. Абшарпаныя, худыя. Вяскоўцы ўсе «беспашпартныя»—з пратэрмінаванымі пашпартамі. Гэта пераважна моладзь, але ёсць і пажылыя, якія «сноўдаліся» па Піцеры па году—па два, з дарэмнай надзеяй знайсці службу. Сярод іх я адзін «хлапчанё», і адзін—высылаюся з сталіцы за «ўчынак». Гарадскія-ж усе высылаюцца на бацькаўшчыну, як і я: «пасля адбыцця тэрміну пакарання».

Вось Клінскі купец за падлог быў засуджан на 2 гады арыштанскіх работ і працаваў дзесьці каля Гельсінгфорса, на пабудове мола; там-жа працаваў весеегонскі мешчанін—падпальшчык і студэнт з гор. Серпухова: студэнт плюнуў на абраз. А вось старык свяшчэнік з Егор'еўска—праўдалюбец, які нагаварыў свайму радомскаму архірэю столькі праўды, што адбываў за гэта «двухгадовае спраўленне» і са мною разам ехаў адтуль.

У калідоры свяшчэнік гаварыў валаамскаму іераманаху, які ехаў у Пецербург па справах.

— Думаў я, браце, што мы, белае духавенства, псутае, грахаводнае і чрэваўгоднае, коўзаліся па ўсіх спакусах свету, думаў: ку ёсць-жа асяродзішча адратоўчае, богабаязнае ў прытулках святых, адгароджаных каменнымі сценамі ад свету. Не-э, браце, у вас яшчэ больш бруду, як у нас. Сценамі вы не адгараджваецеся ад свету, а хаваеце свой бруд ад нас! Так!

— Дарэмна вы, бацюшка, гэтак,—азіраючыся ва ўсе бакі, шаптаў іераманах, не ведаючы, ці то быць яму ласкава-падатным, ці то строгім.—Дарэмна! У нас строга.

— Так-так, строга для нас, а для вас—не ведаю... Наглядзеўся я за два гады на вашыя строгасці.

— Дарэмна, дарэмна, айцец.

— Той-жа блуд, тое-ж неўстрыманне, тое-ж любасцяжанне... Лжа, ліцамер'е. Я бачу... я бачу... І за тое, што я многа бачу—за гэтае я і да вас трапіў.—Попік ехідна зірнуў на манаха і заківаў галавою.—Быў раз у ўладыкі і думаў яму на сваё жыццё-быццё паскардзіцца. Вось, кажу, уладыка, у мяне 14 душ сям'і, а парафія адна з вельмі абшчыпанымі авечкамі, а ў вас у аднаго чатырыста

парафій, ды манастыроў колькі... Дзе-ж, кажу, тая праўда? Тут, навакол, пратаіэрэі і чыноўнікі... усміхаліся, а ўладыка кажа:

— Хі-ба ж парафія даецца для сям'і? Парафія даецца свяшчэніку. Над парафіяй свяшчэнік ёсць пастыр, самім богам паказаны яму абавязкі духоўнага навучання сваёй паствы.

— Не, кажу, уладыка, якое ўжо там навучанне! Ну, калі не-калі станавому дапамагаем.

І—раз два: праз тыдзень мяне паслалі да вас. І тут бачу, каму служыць абіцель. Богу?—Не: сьвяцейшаму сіноду ды мітрапаліту Ісідару. Сіноду сто тысяч, Ісідару—пяцьдзесят. Ды і кожны ваш прэпадобны капіталец мае. Ведаю!

Сярод нас попік трымаўся з вартасцю: усіх «тыкаў», пазіраў з-высоку, называў нас «вёскай». Ахвотна гутарыў з купцом...

— Куды-ж цяперака вас пашлюць, бацюшка?—запытаў купец.

— А ў кансісторыю, судар, здадуць. Ну, а там на міласць уладыкі: я цяперака «забаронены». Прыход зяцю аддалі.

Шэсць чалавек канвойнай каманды стаялі пад вокнамі. Старшына зрабіў нам пераклічку і нас «пагналі» на Нікалаеўскі вакзал, дзе да таварнага цягніка быў прычэплен арыштанскі вагон.

II

Са станцыі Твер два канвойныя супраўваджаюць нас чацвярых у стан. Вядуць па Трохсвяцкай, пераходзім волжаскі мост, пераходзім Тверацкі і там дзесьці каля царквы «неапалімай купіны» жыве прыстаў, каля ягонай кватэры і стан. Гэта падобны на пастаялы двор стары чорны дом. Там канцэлярыя і арыштная. У двара, прывязаныя да паркану, стаяць два ўраднікія коні, бадзяюцца па двары дзесяткі паўтары «соцкіх», «панятых» і «старастаў».

Нас прымае пісар і замыкае ў арыштную. Смурод, мухі і бруд. На лаўцы стаіць бруднае вядро з вадою і гліняны кубак, з адбітай ручкай, хто хоча зачарпнуць вады—вымушан усадзіць у ваду і руку.

Сядзім гадзіну, сядзім другую, трэцюю. Увечары з канцэлярыі ўсе выходзяць. Выходзяць і чыны. Вартаўнік прыносіць нам па лусце хлеба і ў дзеравянай салонцы соль.—Гэта нам вячэра. Спім на падлозе.

Раніцою, гадзін у дзевяць, нас вядуць у канцэлярыю. У канцэлярыі ўжо чакаюць нашы суправажатыя. Да нас, у Каблукоўскае валасное праўленне, адзін я; у Гародзенскае—тры і двух—у Васільеўскае.

Да Каблукова 22 вярсты. Мяне вядзе туды соцкі, селянін з вёскі Паддуб'е, наш сват Прахор Пятровіч Качалін.

Ён ідзе са мною, крэкча, пакашлівае. Ён хоча пачаць са мною гаворку, але я маўчу, а ён не адважваецца.

Па дарозе да воласці нам трэба прайсці пяць вёсак, у тым ліку і Паддуб'е і наша Воршына.

Самая пара вывозіць гной. Усе двары насцеж. Чароды падвод з гноем. Гнаёвы пах вісіць над зямлёю.

Першая вёска Канстанцінаўка. Ад нас яна за пятнаццаць вёрст, аднак і тут ведаюць маю гісторыю. Вось яны маладыя і старыя,

босыя, з забруджанымі ў гнаёвай жыжцы нагамі, з вілкамі ў руках, стаяць шарэнгай і кажуць мне ў след:

— Івана Ефімава сынок... Вось няпутны нейкі... Пяць гадоў бадзяўся... Дабадзяўся да турмы... Цяпер вось этапам... А як-жа бацьку?

— Так, Ляксей!..—не вытрымлівае Прахор,—зацягалі твайго бацьку... Як не звар'яцеў... І ўсё праз цябе.—Больш ён нічога не сказаў і зноў ішоў побач моўчкі.

У Іеневе мяне таксама прапускаюць быццам праз строй. Таксама шкадуюць майго бацьку. У Паддуб'і Прахор спыняецца адпачыць. Сабралася ўся сям'я. Стараюцца быць ласкавымі, частуюць абедам. Інстынктыўна засцерагаюць маё самалюбства. Час-ад-часу—вострыя запытанні і тут-жа шкадаванне мяне. Толькі старая Фядосья, Прахорава маці, пытаецца:

— Кажуць, што ты супроць цара пайшоў?

Я ўпрашваю Прахора, каб паўз нашу вёску не ісці, а абыйсці лесам, на Крупшава. Гэта будзе вярсты на дзве далей, але лягчэй сэрцу. Прахор згаджаецца.

У Каблукова мы прыйшлі гадзіны ў тры. Валасны пісар Філіп Сямёнавіч Шубачкін, з сваім памочнікам, гулялі ў гарадкі. Убачыўшы соцкага з кнігай, Шубачкін выпрастаўся і, цэлячыся чушкай у рухі, запытаў:

— Ты, Прахор, да мяне?

— Да вас. Вось сынок Івана Ефімыча... Аслабаніць яго трэба.

Пачуўшы, што я, сынок Івана Ефімавіча, дастаўлен сюды этапным парадкам, Шубачкін выпусціў з рук чушку і ўтаропіў у мяне заплыўшыя тлушчам вочкі.

— Дык гэта той, пра якога і ў стане і ў нас ёсць загаданні. Вось ён элемент... Ну, хадзем, я напішу...

Фармальнасці скончаны. Прахор сядзіць на лаўцы і курыць. Я стаю, а Шубачкін з-за стала не адрывае ад мяне свайго позірку.

— Я вольны?—пытаюся я.—Магу ісці дахаты?

— Вольны. Ідзі. Вось толькі я напішу вашаму старасту паперку, а ты яе яму перадасі. Ты два гады цяперака будзеш пад наглядам,— кажа Шубачкін і ўздыхае.—Толькі гэта ўжо не валасная справа, а станавога прыстава, гэта па лініі паліцыі. Так што вы вольныя.

## III

На полі паміж Каблуковым і Воршыным было жыта і я прайшоў ні кім не заўважаны. У кустах, каля ракі, блізка мельніцы, я праляжаў пакуль не сцямнела.

Я чуў, як дзеці гналі ў поле коней, чуў дзіцячы ясны бесклапотны крык і смех.

Да дому да маці, да бацькі—дзвесце крокаў і гэтыя дзвесце крокаў мне цяпер здаюцца далей, як тысяча вёрст. Гэты шлях у дзвесце крокаў мае ногі адмаўляюцца прайсці. Я ведаю, як сустрэне мяне маці. Яна абліе мяне слязамі радасці, слязамі мінулай тугі. Яка сагрэе мяне сваім напакутаваным сэрцам. А як сустрэне бацька? Бацька, які нясе на сваім сухім горбе ўвесь цяжар галечы і прыніжэнняў?! Прыніжэнняў і крыўды, большую палову якіх даў яму я?..

Калі я ўвайшоў у хату, нашы вячэралі. Убачыўшы мяне, маці без памяці кінулася ка мне, абняла маю галаву, прыціснулася да яе губамі і замерла.

Бацька вылез з-за стала. Губы ў яго пасінелі і дрыжэлі, мускулы пад вачыма трапяталіся. Абедзвюма рукамі ён трымаўся за свой пояс і распаленымі вачыма аглядаў мяне ад ног да галавы.

— Дзя-якую сынок!.. Па этапу...—ён адцягнуў ад мяне памярцвеўшую маці і стаў перада мною.—Н-ну-у? Што будзем рабіць?

Я маўчаў і адступаў, чакаючы ўдару.

— Мне ўраднікі цэлы год жыцця не даюць! Сам прыстаў разоў пяць быў! Кажы, чаго ты там нарабіў?!

Мае маленькія браты і сёстры прыціхлі і выглядвалі на мяне з-за стала.

— На ўсю акругу астуду за цябе цярплю! За чалавека мяне цяперака ніхто не лічыць: бач —сын рыштанец,—адрываў ён ад сэрца кабалелыя словы.—Біць цябе? Ды што... зробленага не вернеш! У-у, злыдзень! Як заўтра людзям у вочы пазіраць!—бацька схапіўся рукамі за галаву, сеў на лаўку і заплакаў.

Я ўпершыню бачыў, як плача бацька. Гэты плач без слёз—страшны, жудкі плач!

Маці ўстала з-за стала і кінулася бацьку ў ногі.

— Паслухай мяне, Іван: не ўстану, пакуль не выслухаеш.

— Ну? Чаго ты выцягнулася?

— Пашкадуй хлопца! Не адзін ён вінаваты і мы з табой вінаваты.

Бацька маўчаў.

— Пашкадуй, кажу! Пяць гадоў адным—адзін у Піцеры, дзіця, з дзесяці год! Іван! Ці ёсць у цябе крыж на шыі?

— Ну, што-ж я?.. Божа мой, у людзей дзеці як дзеці... А тут, вунь...—бацька бездапаможна махнуў рукою і выбег на двор.

Так я ўсталяваўся жыць дома

## IV

На другі дзень, у пяць гадзін раніцы, я ўжо стаяў з вілкамі на дварэ і накладаў на воз гной.

У часе снедання бацька, адразаючы ад булкі хлеба лусту, казаў:

— Вось ён, бацька... даўно ўжо не свой, а куплены. А тут яшчэ лішні рот. З работай-бы мы ўправіліся і без цябе...

Хлеб станавіўся папярок горла. Але што я мог сказаць у сваё апраўданне, калі квас, з якім мы хлябалі зялёную цыбулю—і той быў з хлеба? На солад мы расцілі сама менш пудоў каля пяці жыта... жыта, якога ў нас ставала толькі да загавін. А бацька скардзіўся.

— Васька Ванькоў з табою разам паехаў, а глядзі, як бацьку на ногі паставіў. Кожны дзень чай п'юць, а то яшчэ і па два разы на дзень!

Па крысе пабачыліся са мною усе вяскоўцы. Праз тры дні я ўжо быў «абнюханы».

У суботу, гадзін у адзінаццаць, зазвінелі званочкі, пачуўшы якіх

мужыкі хаваюцца. Гэта ехаў ка пары станавы. Вёска стаілася. Станавы спыніўся каля нашай хаты і вылез з свайго рэсорнага тарантаса. Саскочыў з каня і ўраднік, які прыехаў разам са станавым.

Ураднік падбег да акна і застукаў па раме бізуном. Не на грукат, а на званкі мы ўсе выйшлі з двара, у чым былі. Бацька і маці нізка паклакіліся барыну і застылі, а я, нічога не цямячы, у шапцы і з вілкамі ў руках стаяў воддаль.

— Падыйдзі!—махнуў пальчаткай прыстаў у мой бок.

Я падышоў.

— У цябе што-ж пад шапкай, вераб'і?

— Нічога няма.

— Ты ведаеш з кім ты размаўляеш?

— Ведаю: з вамі, са станавым прыставам.

Прыстаў падышоў да мяне бліжэй і сваёю шашкай падчапіў маю шапку і скінуў на зямлю. Я падняў яе і зноў надзеў. Тады ён збіў яе рукою, балюча ўдарыўшы мяне па вуху. Я адскочыў.

Надзеўшы шапку, я ўзяў вілкі ў абедзве рукі.

— Вы не біцеся! Што я вам зрабіў?—прахрыпеў я ад ахапіўшага мяне шалекства. Я ўваткнуў вілкі ў зямлю і зароў. Мусіць страшны я быў, бо прыстаў адскочыў.

— Які звяроныш! а? Бачылі?—звярнуўся ён да маіх бацькоў.

— Як гэта ён са старшымі размаўляе, а?

Да прыстава падбегла маці.

— Барынушка, родненькі наш! Даруйце яму гаротнаму! Яго і там усяго змантошылі!.. Вечна буду бога прасіць!—Плакала маці.

— Даравацъ?.. Катаргі яму мала! Чуеш, Іван? Я не хачу табе благога... Мне шкада цябе, ты мужык добры... Але сын у цябе. Глядзі! Я чалавек не злы. На гэты раз я дарую яму. Ваша шчасце, што ніхто нічога не бачыў. Але ты наглядай за ім. З цябе адказу патрабую. А ты, ураднік, заўтра ў свята збяры сход і здай гэтага малайца пад нагляд ўсёй грамады.

— Слухаю.

## V

У нядзелю я быў на абедні. Усё было па старому: старыкі ішлі ў царкву, каб замальваць грахі, пажылыя, каб людзі не гаварылі благога, а моладзь, каб паказаць ўбёры.

Служылі ў «зімняй царкве»,—летняя (халодкая) падрыхтоўвалася да роспісу. Там стаяла рыштаванне. Сцены былі атынкаваны і афарбаваны белай маслянай фарбай.

Маладыя мужыкі і хлапцы выходзілі з царквы пакурыць, заглядвалі ў адчыненыя дзверы зімняй царквы, вялі размовы:

— Пасля спаса пачнуць маляваць,—кажа Ванька Кандраццеў, хлапец год 20.—Сам чуў, як айцец казкачэй дзеду казаў.

— Та-ак!—пацвярджае Мішка Еўсціфееў, манастырскі рабочы.

— Умову Іван Анціпавіч учора прыязджаў падпісваць. Я яго да Кузмінкі на станцыю вазіў. Кажа: дзве з паловай тысячы ўзяў за работу.

— Два гады наш аброк... Што-ж... вывезем...—кажа, усміхаючыся Яшка Матвееў. Ён ужо аброс барадою і стаў гаспадаром—ажаніўся.

— Пасля полудня быў загаданы сход. Дзесяцкі—Яшка Карнілаў, сам абходзіў па хатах і ўсім абвяшчаў, што на сход загадвае не староста, а ўраднік. А калі ён дайшоў да нас, дык паклікаў бацьку і сказаў яму, каб вёў на сход і мяне:

— Гэтак загадана.

Сход, як павялося спрадвеку, збіраўся каля Кандрацевага двара. Там, на бярвенні, на жэрдках, на каменнях размяшчалася ўся слабада. За збуцвелым столікам сёння сядзеў ураднік, а стараста стаяў побач, на спагатове да выканання загадаў начальства. З'явілася ўся вёска. Прыйшлі і мы з бацькам, пасталі за плячыма другіх, каб не так нас было відаць. Сход шумеў.

Ураднік устаў. Пагрукаў ручкай бізуна аб столік і крыкнуў:

— Ну, годзе! Ціха там! Вось што, праваслаўныя: сёння сход склікан з-за Івана Ефімавіча сына—Лёнькі, якога прыслалі па этапу. Дзе яны тут?—ураднік знайшоў нас позіркам і кіўнуў галавою.—Выходзь, Іван Ефімавіч і «ўдачу» сваю выводзь,—засмяяўся ён.

Мы падышлі да стала і сталі быццам для публічнага агляду. Мяне разглядвалі ўсе, як злодзея.

— Дык вось... Па заданню з Піцера, гэты малойчык,—кіўнуў ураднік у мой бок,—павінен жыць два гады пад наглядам паліцыі... Дык станавы прыстаў і загадаў, каб грамада, тоісь, вопчаства ўзяло яго пад свой нагляд: калі што такое—зараз-жа язджайце ў стан і ляпартуйце. Зразумелі?

Выступіў Кустаў. Ён зняў шапку, пагладзіў лысіну і паціснуў плячыма.

— Гэта ўсё вельмі добра, пане ўраднік: з Піцера загад... а каму? Стану? А мы тут прычым? Хіба мы ўсёю грамадою будзем караўліць «этапніка»? Гэта не наша справа! Калі так, дык мы яго зусім не прымем? Забірайце яго ад нас куды хочаце, калі ён ненадзейны.

— Старасту валасны пісар прыслаў паперку наконт нагляду,—гукнуў нехта з натоўпа.

— А я што—пастух?—агрызнуўся стараста.

— Э-эх, Іван Ефімыч... вось чаго нарабіў твой дабытчык!—уздыхнуў Ванёк.—Не вучыў ты яго калі быў ён малы, вось цяпер трэба адказваць за яго ўсёй грамадзе...

Бацька збялеў. Рэпліка таварыша—друга Ванька дабіла яго. Ён не сцярпеў.

— Пачакай, Ванёк! Майму пакуль што шаснаццаць гадоў... а вось калі і твайму і майму будзе па трыццаць—тады будзем мерацца,—прастагнаў ён, хаваючыся ад людскога смеху.

— Ну, майго па этапу не прыгоняць,—калоў Ванёк.

— І мой не краў і не пільнаваў на вялікай дарозе, пад мастом.

— Будзе!—падняў руку ўраднік.—Усе, і ты, стараста, ведаеце аб чым гутарка. А загаданне начальства павінна быць выканана. Вы цяпер тут абмяркоўвайце, а я паеду дахаты, у стан. Мне больш няма чаго...

З бярвення ўстаў Яшка Матвееў. На яго твары відаць была і

заклапочакасць і адначасова іранічная ўхмылка. Ён хлопнуў далоняй па ляжцы.

— Пачакайце, пане ўраднік... Нешта ўжо вельмі незразумела... Дазвольце ў вас запытаць: пра які дагляд тут справа ідзе? Вы растлумачце грамадзе: што павінен хлапец рабіць, а што—не павінен. А то «даглядайце». А што-ж даглядаць?

Сход загудзеў. Яшка Матвееў закрануў самае вострае месца, што калола кожнага, але сказаць пра што ніхто не ўмеў.

— «Даглядай», а што даглядаць? У яго бацькі ёсць...

— ...Ці то каб не п'янстваў, ці то каб не краў... Дзіўна!..

— А можа, каб не збег куды?—кідала сходка недаўмёныя запытанні.

Ураднік і сам не ведаў, у чым сутнасць «нагляду». Ён прызвычаіўся прыймаць загаданні прыстава на-ляту, але пра палітычны нагляд прыстаў з ураднікам і не «гаварыў», падмяняючы тлумачэнні загадамі.

— Ён супроць парадку...—выпаліў ураднік, пачутае сярод «паноў» слова.

— Н-ну-у!..—устрапянуўся стараста.—Наконт парадку будзьце спакойны. Не дапусцім бясчынства.

— Так!—кіўнуў ураднік.—Ды трэба глядзець, каб і не збег, хлапец.

— Дзе-ж ён дзенецца без пашпарта?—запярэчыў дзесяцкі Яшка Карнілаў.

— Зялёны яшчэ ты!—агрызнуўся на яго ўраднік.—А то што-ж, па тваему, толькі з пачпартам і жывуць? Эх, ты! Гэткія па дваццаць пачпартаў знойдуць.

І я бачыў як у Яшкі Карнілава ў адносінах да мяне адразу ўзнікла нейкае недавер'е.

Сход разыходзіўся. Майго бацьку ўсцяшалі мой хрэсны, а яго брат—Пётр Ефімавіч і Яшка Матвееў.

— Кінь, Іван!—гаварыў хрэсны.—Кінь, не думай, не катуй сябе, ды і хлопцу дай уздыхнуць. Бо чаго ён нацярпеўся адзін—на дзесяцёх хапіла-б. Вось міне які месяц і ўсё ўляжацца...

— Няўжо ты не бачыш, дзядзька Іван, што яны і самі ні ражна не ведаюць,—смяяўся Яшка Матвееў.—Начальства, ну і трэба сябе перад людзьмі паказаць. А я вось разумею ў чым вінаваты твой Лёнька... Дай божа кожнаму, дзядзька Іван, быць такім вінаватым. Запомні ты мае гэтае слова! Плюнь на ўсё, Лёнька, і ты!—трэснуў ён мяне па плячы.

Канец

*М. Турдзеяў*
Уйгурскі паэт

# ЛІСТ У КАШГАР

Гэй, таварыш мой з Кашгара,
К нам, сюды ідзі хутчэй!
Запульсуе кроў пажарам...
Гэй, таварыш мой з Кашгара,
Разам будзе весялей!

Будзем мы адной сям'ёю,
Дружна жыць і працаваць,
Рэяць птушкай над зямлёю...
Будзем жыць адной сям'ёю,
Чырвань—зоры сустракаць.

Ты зірні. якое неба
Над краінаю маёй:
Шмат і радасці, і хлеба
Пад савецкім ясным небам
У краіне дарагой!

Веюць ветры у раздоллях,
Мякка гнуцца кавылі,
І святла і сонца ўволю...
Веюць ветры у раздоллях
Нашай радаснай зямлі.

Ты-ж. таварыш, век пануры
Ад бясконцых мук і бед—
Душаць сцены, нішчаць буры...
К нам ідзі, мой друг пануры,
Мы будуем новы свет.

З намі ты вясёлым будзеш,
З намі станеш песні пець,
Усе бядоты пазабудзеш...
Будзеш радасцю гарэць.

Над Кашгарам злыя хмары,
Неба цёмнае, як ноч.

Лепей смерць ад лютай кары,
Чым глядзець, як злыя хмары
Тушаць зоры ясных воч.

Там у лапах багацеяў,
Гінуць нашыя браты...
Мы-ж братоў любіць умеем,
Як браты, цябе сагрэем,
У нас радзіму знойдзеш ты.

Будзем жыць адной сям'ёю,
Наша шчасце услаўляць,
Рэяць птушкай над зямлёю...
Будзем жыць адной сям'ёю,
Чырвань—зоры сустракаць.

Гэй, таварыш мой з Кашгара,
Ты да нас ідзі хутчэй!
Запульсуе кроў пажарам...
Гэй, таварыш мой з Кашгара,
З намі будзе весялей!

*Пераклаў А. ЗІМІОНКА.*

*Л. Кацовіч*

# ДЗІЎНЫ ВЫПАДАК

На сходзе ў клубе выступіў слёсар Лейба Зубец. Для рабочых гэта было нечакана. Усе ведаюць Зубца, як ціхага, амаль сарамлівага рабочага. Звычайна ён выбірае сабе месца ў самых задніх радах. Сядзіць ціха, уважліва прыслухоўваецца. Ні з кім не гаворыць. Калі трэба галасаваць, ён таксама падымае руку, калі згодны. Калі не, ён застаецца спакойна сядзець. Яго твар, на якім вызначаюцца цёмныя бровы, зарос рыжаватым пушком. Бровы выглядаюць, як прыклееныя жмуткі валасоў над вачыма. Лейба Зубец заўсёды заклапочаны.

На работу ён прыходзіць першы. Паволі поўзае яго застыглы позірк па пустой табельнай дошцы, першым вешае свой нумар і спакойна накіроўваецца ў цэх. За апошні год яго тры разы прэміравалі. Кожны раз ён узыходзіў на сцэну са спазненнем. Яго твар чырванеў і пакрываўся дробнымі кроплямі поту. Ён сарамліва працягваў руку да прэміі і з апушчаным позіркам павольна варочаўся на сваё месца.

У цэху рэдка калі пачуеш ад яго лішняе слова. Здавалася, што ён мае ў запасе некалькі лічаных слоў, і кожнае слова ў яго разлічана. Зададуць яму пытанне, ён не адкажа адразу, а, падумаўшы некаторы час, кіне два-тры словы, не адварочваючы галавы, з заклапочаным позіркам, ад фрэзернага варштата.

— Эт,—махнулі рукой,—пакуль у Зубца выціснеш слова, закончым другую пяцігодку...

Вось чаму так зацікавіліся выступленнем Лейбы на рабочым сходзе.

Старшыня гучна абвясціў:

— Слова мае таварыш Зубец!

Зал заварушыўся. Пачалі азірацца. З пярэдніх радоў некаторыя ўсталі і, гледзячы на іх, падняўся амаль увесь натоўп. Але Лейба Зубец не паказваўся.

— Таварыш Зубец тут?—зноў гукнуў старшыня і з сумненнем зірнуў у паперку.

— Тут, тут!—данеслася некалькі галасоў з задніх радоў.

У зале сціхла. Сярэдняга росту, шырокаплечы малады чалавек грузнымі павольнымі крокамі падыходзіў да сцэны. Яго рыжаваты зарослы твар пачырванеў, як медзь, і быў гостра, амаль папалам, перасечаны нізка апушчанымі брывамі.

Лейба Зубец вельмі ціха чытаў з паперкі: Брыгада ўпаўнаважыла яго перадаць сёнешняму сходу рапарт. Брыгада за апошні час зусім ліквідавала прагулы і спазненні. Прамфінплан выканан на сто пяць процантаў.

Ён гаварыў некалькі лічаных хвілін. Паперка ўвесь час дрыжэла ў яго руках. І не толькі паперка, вусны, ногі, усё яго цела, нават валасы на галаве дрыжэлі. Яго ўважліва выслухалі, праводзілі воплескамі, пакуль ён не сеў на сваё месца.

Сход закончыўся позна. Лейба застаўся глядзець кіно-карціну. Амаль усе рабочыя засталіся. Дэманстравалі добры фільм.

Дахаты ён прышоў без дзесяці хвілін гадзіна.

— Пазнавата,—падумаў ён,—хаця-б не спазніцца заўтра на работу...

Пакуль ён паспеў павячэраць, гадзіннік прабіў ужо гадзіну. Ён хутка пачаў распранацца. Выключаючы святло, ён заўважыў на стале газету і ўспомніў, што не паспеў яшчэ прагледзець яе сёння, спяшаючыся прачытаў загалоўкі і зацікавіўся артыкулам рабкора пра завод, дзе маюць яшчэ месца марнаванне часу і спазненні.

Ён пазяхнуў і пачуў звон гадзінніка.

— Палова другой... Позна.

Зубец хутка выключыў электрычнасць і лёг у ложак.

— Хаця-б не спазніцца на работу...—зноў падумаў ён і задрамаў. Раптам за сцяной заплакала дзіцянё і Лейба Зубец прачнуўся. Гадзіннік празваніў два разы. Зубец ункрыўся у падушку і сплюшчыў вочы, але заснуць не мог. У думках блыталася яго выступленне на сходзе. Ён прыгадаў, што ў збянтэжанасці прапусціў цэлы радок у рапарце: «брыгада падпісалася на заем на ўсе сто процантаў». Халодны пот пакрыў яго. Ён так доўга думаў пра гэта, пакуль гадзіннік зноў хрыпла бомкнуў:

— Палова трэцяй... Нявыспаным прыйсці на завод, гэта адаб'ецца на працы.

Ён перавярнуўся на другі бок. Ён шкадаваў ужо, што застаўся сядзець на кіносэансе. Ён ніколі не клаўся так позна спаць. А тут як знарок лезуць у галаву малюнкі з кіно. Ён стараецца не думаць і не можа. Малюнкі тасуюцца ў галаве адзін за адным як карты.

Лейба хацеў мацней унурыцца ў коўдру, але гадзіннік неўзабаве хрыпла дзынкнуў:

— Палова трэцяй, ці палова чацвертай?..

Ён саскочыў з ложка, запаліў лямпачку і зірнуў на насценны гадзіннік.

— Палова чацвертай... Як позна...

Ён хутка згасіў лямпачку і зноў лёг у ложак.

Дрыжыкі пранізалі цела, нібы мурашкі прапаўзлі па скуры. А шостай гадзіне ён звычайна ўстае на працу. Ён гвалтам пачаў храпсці і непрыметна для сябе самога заснуў.

Пазней, ён ужо, як заўсёды, стаяў першым ля пустой табельнай дошкі і, павесіўшы свой нумарок, паволі і заклапочана пашоў у цэх. Пахла звычайным пахам паленай сталі і чыгуна. Да гудка ён па прывычцы абцёр анучкай варштат, змазаў яго маслам і пачаў рыхтаваць работу. Калі завыла сірэна, цэх ажыў. Варштаты, маторы і

трансмісіі зашумелі, завізгаталі. На сэрцы павесялела і Зубцу здалося, што яму ніколі так рупна не працавалася, як сёння, хоць ён ні з кім яшчэ не прагаварыў ні слова, але працуецца добра. Фрэза рэжа якраз так, як яму хочацца, і ён шкадуе, што стрэлкі гадзінніка так хутка круцяцца і амаль набліжаюцца да дванаццаці—да палудзённага перапынку. Яму яшчэ не так моцна хочацца есці. Ён бы яшчэ працаваў і працаваў, але раптам Лейба Зубец пачуў бомканне гадзінніка і... прачнуўся.

Яшчэ у ложку ён пачуў апошні звон гадзінніка. Ён саскочыў з ложка, падбег да гадзінніка і ўбачыў—абедзве стрэлкі стаяць якраз на дванаццаці. Ён надта перапалохаўся.

— Дванаццаць!.. Што рабіць?!

Лейба Зубец пачаў хутка апранацца. Дрыжачымі рукамі нацягнуў майткі і задумаўся:

Праз акно ўрывалася сонца і моцна грэла яго босыя ногі і твар. Ён зірнуў у акно. Сонца высока. Полудзень. Вуліца поўна людзей. Горад жыве. Толькі ён, Лейба Зубец, слёсар металургічнага завода з апушчанымі павекамі сёння адарваны ад усяго света.

Зубец так-сяк зашнураваў камашы, насунуў на скудлачаную галаву шапку і ціха, каб ніхто не пачуў, замкнуў свой пакой.

— Каб не сустрэць хоць знаёмых,—думаў ён.—Не сустрэць якога-небудзь суседа...

На момант у яго галаве мільганула думка:

— Можа выклікаць доктара і сказаць, што жывот, ці галава баліць... Скуль доктару разабрацца ў цёмных месцах?.. Тэмпература напэўна павысілася ад абурэння.

Але гэту думку Лейба Зубец неўзабаве адагнаў ад сябе.

— Гэта робяць звычайныя гультаі, а я за гэты поўдня лепш адпрацую два поўных дні, толькі-б не схлусіць...

Зубец хутка перабег падворак і быў узрадаваны, што нікога не сустрэў. Да завода ён дабег з апошніх сіл. Гарачы пот пакрыў яго. Лейбу здавалася, што праходжыя зняважліва пазіраюць на яго, і вось-вось хто-небудзь крыкне:

— Лодыр!.. Прагульшчык!..

Ён яшчэ глыбей схаваў свае вочы за валасатымі павекамі і вышэй падняў каўнерык сваёй спецоўкі.

Цяжэй за ўсё яму было уявіць свой уваход у цэх. Ён ведае, што па цэху адразу пракоціцца кпівае «ура»... Ён спыніцца засаромлены, збянтэжаны каля дзвярэй і захоча лепш праваліцца скрозь зямлю, чым перажыць гэткі сорам. Яшчэ больш балюча было яму адтаго, што ён учора выступіў на сходзе і хваліўся, што ў яго брыгадзе няма прагулаў і спазненняў... Рабочым будзе ўжо з чаго пасмяяцца.

— Адразу ў цэх не пайду,—вырашыў ён, набліжаючыся да завода.—Перш пайду у кантору да дырэктара, раскажу яму праўду і ён дазволіць мне стаць на работу. Поўдня адпрацую ўтройчы...

З гэтымі думкамі ён убег у кантору і збянтэжаны спыніўся каля дзвярэй. У канторы не было ніводнага работніка. Але неўзабаве ён здагадаўся, што яны ўсе палуднуюць. Дырэктара ён таксама не знайшоў.

Лейба Зубец стаяў здэтанаваны. Дахаты ён усёроўна не вернецца. Чакаць дырэктара няма сэнсу, лепей адпрацаваць гэту палудзенную гадзіну ў цэху. Дарэчы рабочыя таксама палуднуюць, не будзе гэткага шуму...

Ён зайшоў на заводскі падворак і застыў, здзіўлена пазіраючы на табельную дошку: ніводнага нумарка не вісела на ёй. Гэта збянтэжыла Лейбу дашчэнту. На момант бліснула вясёлая думка.

— А можа яшчэ раніца? А можа я зноў прышоў на работу першым?

Ён ужо выставіў руку з нумарам да табельнай дошкі, але ў гэты самы час дзяжурны міліцыянер аклікнуў яго:

— Чаго хочаш, таварыш?

— Працаваць іду...

— Працаваць?—крыкнуў міліцыянер здзіўлена.—Я цябе сёння на завод не прапушчу.

Лейба Зубец збляднеў, збянтэжыўся.

— Таварыш міліцыянер,—пачаў ён прасіцца,—я ніколі ў жыцці не спазняўся. Я—не прагульшчык... Дырэктар ведае гэта. Я сёнешнюю ноч не мог заснуць... Мабыць, я захварэў.

— Ты захварэў,—здзіўлена пазіраў на яго міліцыянер,—ідзі, адпачні... Хто прасіў цябе прыходзіць сюды? Выходны дзень—для адпачынку, а не для працы...

Лейба Зубец застаўся, як аглушаны.

— Выходны дзень?—ціха мармытаў ён,—зусім забыўся...

З радасці ён пачаў ціскаць міліцыянераву руку, кінуўшы свой нумар на табельнай дошцы, ён весела пусціўся дахаты пераапранацца, ў святочнае і пайсці ўвечары пагуляць.

*Л. Кацовіч*

# НАХАБСТВА

Каля тэатральнай касы стала чарга з дваццаці чалавек. Кожную хвіліну падыходзілі людзі. Чарга шумела і ўсё больш убірала ў сябе людзей, але каса ўсё яшчэ была зачынена. Каля самой касы, апрача чаргі, сабраўся натоўп людзей. Яны з нецярплівасцю чакалі той хвіліны, калі расчыніцца акенца і ім удасца захапіць лепшыя білеты без чаргі.

Сонца пякло бязлітасна. Твары чырванелі. Але нікому не хацелася пакідаць чаргі. Быў апошні дзень продажу білетаў на вялікі сімфанічны канцэрт.

Раптам паказаўся Меер Фуксбейн—высокі, роўны, як жэрдка і, нібы круглая, невялічкая галачка на жэрдцы, выглядала яго галава. Ён усміхнуўся да пажылой жанчыны—адной з апошніх у чарзе.

— Так, мы, зразумела, прастаім да заўтра, дарагая, мадам... Бачыце, што там робіцца?..

Ён махнуў рукой у напрамку да касы. За гэты час натоўп каля касы яшчэ больш вырас.

— Ёсць яшчэ нахабныя людзі на свеце,—плюнуў Фуксбейн праз два вялікія, пярэднія зубы.—Нясумленныя людзі...

Апошнія з чаргі, да якіх ён звярнуўся, цалкам згадзіліся з ім і паківалі ў знак гэтага галовамі. А Фуксбейн зноў гаварыў.

— Я не мог бы зрабіць гэтага!—тыцнуў ён сабе доўгім пальцам у грудзі,—фармальна я маю права ўзяць і без чаргі... Але сэрца маё не дапускае... Я не жанчына ў паважным стане... Уявіце сабе, што атрымаецца, калі мы ўсе пойдзем нахрапам? Вось я заняў скромнае месца за пажылой жанчынай, праўда? За мной стаіць бландзіністы малады чалавек... Не бядуйце, для нас застануцца лепшыя білеты, я ўжо вопытны—горшыя месцы: бакавыя і галёрку заўсёды збываюць спачатку...

Некалькі чалавек расчулена зірнулі на Фуксбейна. Ён даводзіў, што інтэлігентны чалавек не дазволіць сабе гэткага нахабства, інтэлігентны чалавек зойме чаргу разам з усімі. Фуксбейн расказаў таксама, што ён у апошні час рашыў весці змаганне з «нахрапістымі» людзьмі, і яму самому часта прыходзіцца стаяць каля касы і прапускаць па адзіночцы, у парадку чаргі.

— Зразумейце, колькі нерваў гэта псуе,—уздыхнуў ён. Але што зробіш? Мабыць і сягоння прыдзецца мне стаць каля касы. Вы-ж бачыце, што там робіцца, хай стаяць сабе пакуль што. Каса ўсёроўна зачынена... Каля двух тыдняў таму, на канцэрце Мірона Палякіна

стаю сабе каля касы і прапускаю чаргу. Раптам бачу, уявеце сабе інвалід без нагі, стаіць разам з усімі, дык як думаеце, я яму дазволю стаяць?.. Выбачайце, здаецца, адчыняюць касу...

Фуксбейн спрытна крутануў сваё роўнае даўгое тулава, кіўнуў круглай галоўкай да бландына і крыкнуў:

— Я стаю перад вамі... Памятайце!.. Нікога не ўпускайце...

У адзін момант ён стаяў ужо каля касы, размахваючы ў паветры доўгімі рукамі.

— Станьце ў чаргу, прашу вас!—крычаў ён да катоўпа.—Ніводнага чалавека не прапушчу без чаргі! Не крычыце так, вы першая? Калі ласка, без шума! Дайце парадак навесці... Грамадзянін! Адыйдзіце адгэтуль! Далей! Далей! Зараз міліцыю паклічу!... Спакойна!.. Адчыняюць касу... Што? Я? Выбачайце, калі ласка! Магу вам перадаць сваё месца... Ну, чакайце! Па адным, па адным... Не штурхайцеся, грамадзянка! Не націскайце! Спакойна, чакайце... Сорам!.. Не штурхайцеся! Трымайцеся чаргі... Па парадку... Калі ласка, па парадку!..

Спацелая галава Меера Фуксбейна бліскула і знікла ў акенцы.

Узняўся шум. Пярэднія з чаргі абурана цягнулі яго назад.

— Не давайце яму,—крычалі.—Ён пралез без чаргі!..

Але Меер Фуксбейн трымаў ужо ў руцэ два білеты і сам адышоў ад касы, выціраючы спацелы лоб. Не азіраючыся на чаргу, ён сунуў білеты ў кішэню і спыніўся на ранейшым месцы. Хвіліну пастаяў каля пажылой жанчыны і ўздыхнуў:

— Хацеў навесці парадак... Не даюць—не трэба... Не маю часу чакаць. Можаце заняць маё месца... Ад'ю...

І пакінуў чаргу, нібы пакрыўджаны.

*Л. Кацовіч*

# ЗУСІМ ЛІШНІ

Ужо пасля полудня. Сонца на небе бледнае, расплывістае. Вакол яго разблытваюцца срэбныя хмары.

Каля зарослай жалезнай агарады вялікага касцёла, згорблена ўсеўся сівы бандурыст. Ён слепа мацае дрыўляныя калочкі сваёй бандуры і безупынна цягне песню пра мінулае.

Заўсёды сядзіць тут сляпы музыкант, закаціўшы вочы ўгару, свідруе неба малочнымі плёнкамі, ахінуўшымі яго зрэнкі і жаласна хрыпіць перасохлым горлам журлівую песню.

Ён часта абрывае песню, мацане схуднелай рукой у сваёй ватовай кучомцы, якая ляжыць каля яго, спрытна пералічвае кастлявымі пальцамі некалькі раскіданых манет і глыбока ўздыхае.

Над ім, на вышках касцёла, скамянела святая Марыя з адсечанымі пальцамі на выпрастакай руцэ, з брудным тварам—сляды падарожніц—варон.

Штодзень ідзе да касцёла былы пан Пятушка, слінявы дзядок, які носіць маляваты капялюшык на пляшывай галаве і аблезлую жоўтую палярынку на высахлых вострых плячах.

Праходзячы міма, ён здымае свой капялюшык, закотвае набожныя вочы да святой Марыі і прыкладае вязку пальцаў да высахлай галавы, да ўпалага жывата і да вострых плячэй. Пасля гэтага ён паважна жмурыць прыпухлымі вочкамі на сляпога бандурыста, намацвае ў куточку кішэні адзіную капейку, шпурляе яе ў кучомку сляпога і заходзіць у касцёл.

Сягоння бандурыст спяваў нясцерпна доўга. Ён ужо некалькі разоў перахрасаў манеты ў кучомцы, яму не хапала да заўсёднага рахунку.

На супроцьлеглым тратуары Пятушка чакаў доўга. Мацаў у кішэнях і нічога не знаходзіў. Ён ужо некалькі разоў мерыўся перайсці вуліцу і зайсці ў касцёл, але кожны раз ён варочаўся назад, зноў абмацваў куточкі кішэняў і са шкадаваннем пазіраў на сляпога. Пасля ён злосна чмякнуў скомчанымі вуснамі, ніжэй насунуў капялюшык і, згорбіўшыся, пайшоў.

На другой вуліцы ён прыліп набеглымі вачыма да абноўленай камяніцы. Чухаў рэдзенькую бародку і паціскаў плячыма. Ён падышоў бліжэй і напружана прыглядаўся. «Вось яна, яго даўнейшая камяніца, адна з трох. Да яе прыбудавалі чацверты паверх і пафарбавалі нанава»...

Пятушка прышоў дахаты збянтэжаны, змораны з запэцканай у фарбу палярынкай, усю ноч не сплюшчыў вачэй. Доднікам ён зацягнуў свой шырокі панскі пояс над дзвярыма і павесіўся...

*З яўрэйскай мовы пераклаў*
*ІЗРАІЛЬ ПЛАЎНІК*

Г. Няхай

## ПЕСНІ МАЦЕРЫ

На прызбе маці. Каля ганку
Шумяць кусты. Прыходзіць ноч.
Над змрочнай сіняю палянкай
Гарыць зары смалісты корч.

З густых галін прахладны вецер
Прынёс напевы салаўя.
І вечар росны, летні вечар
Радзіла чорствая зямля.

Асыпан пылам сад зялёны
Скрыпяць вазы каля гумна.
Густым шатром спляліся клёны,
Забраўшы сонца ад акна.

Я падышоў спакойным крокам.
Знаёмы твар смяецца мне.
Ярчэюць зоры ў шэрым змроку,
Ліпнёвы вечар пацямнеў.

— Мы будавалі зруб хваёвы,—
Старое сэрца, маці, ўсцеш.—
Ў калгаснай хаце чыстай, новай
Свой век шчасліва дажывеш.

Як дзіва рэдкае, спаткала
Ў жыцці ты першы раз спакой,
І нават думай не гадала,
Што зойдзеш ў светлы наш пакой.

Бывала так: чужая хата,
А ў сэрцы страшная зіма.
І нават рванага халата
Прыкрыць дзяцей малых няма.

Завея злосная на ўзгорку
Разносіць пухам белы снег.
Як пограб, цёмная каморка
З узорам дзіўным на акне.

Ля калаўрота без спачынку
Што вечар песня з нудных слоў:
„...Дагарай мая лучына,
 Дагару і я з табой“...

Між красак, пройдзеш ты ля ганку
Сягоння з ношай светлых дум.
Кусты шумяць
І над палянкай
Здаецца песняй гэты шум.

Снежань, 1935 г.

*Цім. Аляксеенка*

## ХЛОПЧЫК І БАБКА

Дождж суняўся.
Свежа,
ясна.
Матылі лятаюць роем.
Па траве
Зялёнай,
роснай
Бегае дзіця малое.
За дзіцём спяшае
Бабка,
Даганяе,
Шэпча: „Божа“.
Ты яго
Дагоніш можа,
Маладосць яго—
Ніколі,
Так, як цень свой
На дарозе,
Так, як вецер
ў чыстым полі.

*Я. Непачаловіч*

## МАТЧЫНА ГОРА

**(З жыцця Зах. Беларусі)**

Не з гор вецер лёгкі вее
І не гне каліну—
То душа матулі млее
Па роднаму сыну.

— Колькі раз у дзень асенні
Чорнаю часінай,
Сустракала ў полі цені,
Цені, а не сына.

Гадавала шызакрылых
Двое араянятаў,
Паляцелі—разлучыла
Ліха з маткай, хатай.

Не сцярпелі, смела ўсталі
Сцяць людское гора,
Ў лесе рукі ім звязалі,
Павялі у горад.

Аднаго дажджы магілу
Змылі пры дарозе,
Трэці год, як морыць сілу
Сын другі ў астрозе.

Маці сохне адзінокай,
Як вярба на ўзгорку,
Яе ўцеха дзесь далёка
Ў нядолі горкай.

Зараслі калючым цернем
Сцежкі—пуцявіны, —
Там пагублена па зерню
Маладосць жанчыны.

Толькі сэрца не астыне—
Чуе—рвуць кайданы,
Прыдзе госць—пакута згіне—
Прыдзе сын каханы!

Маці ўбачыць дужым сына,
Шчыра так сустрэне;
Сонца ўстане і жанчыне
Кіне сноп праменняў.

Студзень 1936 г.

*Я. Непачаловіч*

## ЗЯЛЁНЫ САД

Цэлы дзень ў шырокім полі
Лён палола дбайна, чыста.
Вецер лёганька сваволіў
Сонца дыхала агніста.

Вусны мне сушыла смага.
Шчокі рдзелі, як брусніцы;
Я не раз хадзіла з флягай
У даліну да крыніцы.

І калі падкраўся вечар,
Йду з дзяўчатамі да дому
Загарэлі рукі, плечы.
Адчувае цела стому.

Толькі кроў не стыне ў жылах—
Расцвітае макам радасць,
Нарастае ў грудзях сіла,
Самі ногі йдуць да саду.

Я іду ў сад калгасны
Сяду з мілым, там пад клёны,
Зацярушыць месяц ясны,
Жывым срэбрам шоўк зялёны...

Ў хвалях змроку светла-сініх
Лісці дрэў—нібы мярэжы,
Ціха ў даль плывуць хвіліны.
Пах зямлі павее свежы.

Менск, 1936 г.

*Андрэй Александровіч*

# БЕЛАРУСКАЯ СОВЕЦКАЯ ПАЭЗІЯ [1])

Беларуская совецкая паэзія з'яўляецца адным з буйнейшых атрадаў нашай усесаюзнай паэзіі.

Па сутнасці, за пятнаццаць год ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы за свой рытм, за свой вобраз і сваю паэтыку, беларускія паэты, вызваляючыся ад элементаў правінцыялізма, ломячы рамкі нацыянальнай абмежаванасці, дасягнулі значных вышынь паэтычнага майстэрства.

Я гавару, за пятнаццаць год, бо на барацьбу за сапраўдную беларускую паэзію, паэзію вякамі прыгнечанага народу, павёў трыумф Вялікай Пролетарскай Рэволюцыі, гордасць народжанага народу, радасць стварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, правільнае і паслядоўнае правядзенне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Мы ў спадчыну ў галіне мастацкай літаратуры значнага багацця не атрымалі. Тыя беларускія паэты, якія пачалі сваю літаратурную дзейнасць да Кастрычніцкай рэволюцыі (Янка Купала, Якуб Колас), яны ў нашыя дні, у дні творчага соцыялістычнага жыцця, перажываючы сваю другую, творчую маладосць, шчаслівую маладосць росквіту свайго таленту, узбагачаюць совецкую мастацкую літаратуру творамі вялікай паэтычнай культуры.

Пра якую беларускую мастацкую літаратуру магла ісці гутарка ў гады змрочнай рэакцыі? Пра стварэнне якой паэзіі магла марыць краіна, якую паварварску эксплаатавалі, якая была калоніяй «вялікай і непадзельнай» дзяржавы? Правільна сказаў адзін з беларускіх паэтаў, што «пад пятою расійскай імперыі расцвітае толькі палын».

Яшчэ за некалькі дзесяцігоддзяў да вершаў Некрасава паэт Д. Веневіцінаў напісаў верш «Родина», дзе ён паказвае суровую карціну рабскай нікалаеўскай Расіі.

Природа наша точно мерзость,
Смиренно-плоские поля:
В России самая земля
Считает высоту за дерзость;
Дрянные избы, кабаки,
Брюхатых баб босые ноги,
В лаптях дырявых мужики,
Непроходимые дороги,

[1]) З даклада, прачытанага на III пленуме ССП СССР.

Да шпицы вечные церквей,
С клистирных трубок снимок верный.
С домов господских вид мизерный
Следов помещичьих затей.
Грязь, мерзость, вонь и тараканы
И надо всем хозяйский кнут.
И вот что многие болваны
„Священной родиной“ зовут.

Гэты верш, дзе так многа гневу, верш, які мог з'явіцца ў друку толькі пасля рэволюцыі (надрукаваны ўпершыню ў 1924 г.), становіць сабой зусім выключную з'яву па яркасці і сіле выкрыцця. Гэты рэзкі малюнак поўнасцю характэрны для ілюстрацыі жыцця беларускага прыгнечанага народу.

У сваім славутым вершы «Жалезная дарога» Н. А. Некрасаў, паказваючы рабскую народную працу, пісаў:

Видишь, стоит, изможден лихорадкою
Высокорослый больной белорусс:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли, колтун в волосах.
Ямою грудь...

Беларусаў не лічылі за людзей, інакш не называлі іх, як «быдлам». Памешчыкі беларускімі сялянамі замянялі на паляванні сабак. Балотны мох і лясная кара былі прадуктамі харчавання абяздоленай беднаты. Яшчэ ў нашыя дні ў беларускім Палессі захаваліся назвы вёсак—Мохаеды, Караеды—жывыя помнікі галоднай смерці.

Вы чуеце, лес шуміць
Схіліўшы зялёныя вецці?
Гэта не лес шуміць,
І не вецці зялёныя гнуцца,—
Гэта стогне галодны народ,
Гэта плача бяспраўны народ,
Скручаны горам і крыўдай.

Народ стагнаў, а гарачым летнім днём пан Радзівіл наладжваў «зімовы» карнавал. Ён засыпаў дзесятак кілометраў дарогі соллю, каб пад ценем дзівосных таполяў і бяроз праехацца на санях.

Бяспраўе, галеча і голад, каўтун, трахома і трасца пажыралі штогод тысячы людзей.

Народ «не ўмеў скардзіцца», але ў грудзях народу кіпела буйная нянавісць, ён верыў, што будзе жорсткая барацьба:

Бо за крыўду сваю адамсціць,
Свінням будзе крыві не пабраць.
Адамсціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць.

*Янка Купала.*

Паказальную дэталь, якая малюе характар прыгнечанага беларуса селяніна, што ўмее «не скардзіцца», мы знаходзім у апавяданні А. С. Тургенева «Паездка ў Палессе».

... Чалавек, якому ці то ад сваёй віны, ці ад віны другіх, прышлося дрэнна на свеце—павінен прынамсі ўмець маўчаць.

— Ну што-ж ты, Ягор,—ускрыкнуў раптам Кандрат, які паспеў ужо змясціцца ў перадку калёсаў і, гуляючы, перабіраў лейцы:—Ідзі сядай. Чаго задумаўся, ці пра карову ўсё?

— Пра карову? Пра якую карову?—паўтарыў я і глянуў на Ягора. Спакойны і важны, як заўсёды, ён, сапраўды, здавалася, задумаўся і глядзеў некуды ў даль, у палі, што пачыналі ўжо цямнець.

— А вы не ведаеце?—падхапіў Кандрат.—У яго сёння ўночы карова акалела. Не шанцуе яму—што ты будзеш рабіць?!

Ягор сеў моўчкі ў фурманку і мы паехалі. «Гэты ўмее не скардзіцца», падумаў я.

Заключная фраза як-бы ўскрывае магутную натуру мужыка, што ўмее, затаіўшы гнеў «у сабе», цярпець самавольства і бяспраўе, пакуль больш яснымі і зразумелымі не сталі для яго заклікі да барацьбы.

Пра гэтага селяніна, пра яго жыццё, пра яго краіну мы зможам даведацца, азнаёміўшыся з багацейшым беларускім фальклорам. Народным песням, казкам і легендам, як гаворыць А. М. Горкі, «чужды песімізм, не гледзячы на той факт, што творцы фальклору жылі цяжка, і пакутна-рабская праца іх была пазбаўлена сэнсу эксплататарамі, а асабістае жыццё—бяспраўнае, безабароннае. Але пры ўсім гэтым калектыву як-бы ўласціва ўсведамленне яго бяссмерця і ўпэўненасць у яго перамозе над усімі варожымі яму сіламі».

Аднак, якой жудасцю вее ад многіх вобразаў галечы і адчаю ў беларускім фальклоры:

Тады гора ты ўтопіш,
Як свой век ты пражывеш.

Выключная па яркасці соцыяльнага зместу і вялікай мастацкай сіле яўрэйская народная песня, перакладзеная беларускім народам і стаўшая папулярнай сярод сялянства, з'яўляецца прыгаворам для эксплаататараў працоўных, тэтая песня — адчайны крык жонкі батрака:

**Сэндэрка, Сэндэрка,**
**Муж мой,**
**Дзе ўзяць мне**
**грошы?**
**У памешчыка, у памешчыка,**
**Жонка мая,**
**У памешчыка, у памешчыка,**
**Душа мая,**
**Сэндэрка, Сэндэрка**
**Муж мой,**
**Дзе ўзяць мне**
**Хлеба?**
**У памешчыка, у памешчыка,**
**Жонка мая,**
**У памешчыка, у памешчыка.**
**Душа мая.**

Каларыт любоўных песень, маладзёжных, калі можна так сказаць, прасякнуты гаркатой няволі, смутку і слёз. Буйнейшы рускі паэт

А. Майкаў, запісаў некалькіх беларускіх народных любоўных песень. Не гледзячы на тое, што гэтыя песні да некаторай ступені літаратурна апрацаваны паэтам, у іх захавалася лірыка народнага смутку. У алегорыях, уласцівых мноству народных песень, хаваецца сапраўдная соцыяльная сутнасць настрояў:

Не секи ты, батюшка,
При дороге березки;
Не коси ты, братинька.
Травоньки шелковой;
Не щипи ты, сестринька,
Цветиков в садочке;
Не бери ты, матушка,
Из ключа водицы.
При дороге березка—
Я сама младенька;
Травонька шелкова—
Мои русы косы;
В садочке цветочки—
Мои ясны очки;
Во ключе водица—
Мои горьки слезки...

Маладая сялянка-жняя звяртаецца да сонца, каб яно «скараціла» дзень, каб лягчэй пераносіць было ўвесь цяжар рабскай працы. Жняя скардзіцца.

Ах ты, сонца-сонейка,
Я на цябе віну маю,
Віну маю вялікую,
Што ты раненька ўзыходзіш,
Што ты позненька заходзіш...

І жняя сама адказвае, бо яна ведае сапраўдную прычыну. Адказ ў песні ідзе ад імя сонца, але гэта толькі прыём рытмічнага паралелізма, які шырока развіты ў народнай песеннай творчасці:

Ах ты, дзеўка-дзеванька,
Не вінуй-жа ты мяне,
Вінуй-жа ты свайго пана,
Хоць я раненька ўзыйду,
Цябе на ніўцы я знайду.
Хоць я позненька ўзыйду—
Цябе на ніўцы я знайду.

Вось соцыяльная атмасфера, пачуцці і надзея беларускага народа, што выцякаюць з творчасці, створанай самім народам. І першыя песні, першых буйнейшых паэтаў у гісторыі беларускай паэзіі былі поўныя смутку і гаркаты аб «няволі і нядолі» свайго краю і свайго народу.

Нельга патрабаваць ад маткі, якая сядзіць каля дамавіны свайго дзіцяці, каб яна спявала вясёлую песню. Цяжка шукаць у творах першых год творчай работы ў Янкі Купалы і Якуба Коласа вясёлых, сонечных песень. «Пакуль сонца ўзойдзе, раса вочы выесць». Праўда, Янка Купала натхняў сябе надзеяй, што «ночка цёмная на свеце вечна не пануе»—аднак слязлівыя матывы, аплакванне, асабліва

пасля 1907 году, долі беларуса-селяніна, прыдушанага галечай, малазямеллем, памешчыцкай эксплаатацыяй і хабарамі царскіх чыноўнікаў праходзіла часцей за ўсё пад усыпляючым нацыяналістычным лозунгам—«загляне сонца ў наша ваконца».

У 1904 годзе Якуб Колас першай сваёй песняй перадвызначыў ужо характар настрою ў сваёй творчасці.

— Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо як песню заспяваю,
Жаль вам душу ўскалыхне.

Гэта—асноўная меладыйная лінія ў творчасці, гэта паэтычная дэкларацыя сына беларускай вёскі, куды «вясна яшчэ не прышла», гэта—яго «песні жальбы», што нясмела перарастаюць у соцыяльны і нацыянальны пратэст, што апяваюць грозную «мужычую сілу», і заклікаюць да барацьбы—«устаньце, хлопцы» і далей—«стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Янка Купала прышоў у беларускую літаратуру з песняй, малюючай галодную, цёмную долю знясіленага працай і галечай мужыка-беларуса, знясіленага, але ўсведамляючага, што:

... але колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, братцы, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык!

Гэтая, што нараджалася самасвядомасць натхняла, вяла на барацьбу, гэтае сцверджанне паэта вырасла з рэволюцыйнага руху рабочых 1905 году, які пракаціўся шырокай і бурнай хваляй сярод сялянства Беларусі.

Паэты дарэволюцыйнай Беларусі, якія пакінулі ў беларускай паэзіі больш ці менш значны след (Цётка, Максім Багдановіч, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля (Ясакар), Алесь Гурло, Янук Журба, Канстанцыя Буйла і многія іншыя) усе яны, вар'іруючы некалькі каларыт і сродкі мастацкага паказу, ідэйна і тэматычна увогуле былі адзінымі. Прышоўшы ў літаратуру ў гады 1910—1914 гг. яны выхоўваліся на старонках буржуазна-нацыяналістычнай газеты «Наша ніва», сталі выяўнікамі і носьбітамі яе ідэалогіі. З нарастаннем рэволюцыйных падзей адны зусім адыходзілі ад літаратуры, другія нясмела, чакаючы, з вялікімі ўнутранымі хваравітымі працэсамі, з ідэйнымі правaламі ўключаліся ў рэволюцыйны паток, трэція—пераходзілі ў лагер контррэволюцыі.

Значны гісторыка-літаратурны інтарэс становяць паэт прыгонніцтва Вінцук Дунін-Марцінкевіч і паэт Францішак Багушэвіч—глашатай нарадзіўшайся нацыянальнай буржуазіі.

Крытыка, якая прапагандавала буржуазна-нацыяналістычныя ідэалы «Нашай нівы», не адзін раз пісала, што:

«Па стылю і па чыстаце скарыстання яго ў творах беларускай мовы Дуніна-Марцінкевіча справядліва лічаць *бацькам*

беларускай мастацкай *літаратуры. Бацькам-жа* беларускіх *пісьменнікаў* з сапраўды чыстым характарам, з чыста беларускім нацыянальным духам і яшчэ больш чыстай беларускай мовай з'яўляецца Францішак Багушэвіч».

Гэтая аслепленая нацыяналістычным чадам крытыка з вялікай сілай шкодзіла Янку Купалу і Якубу Коласу. Пачаўшы сваю паэтычную дзейнасць пад велізарным рэволюцыйным уплывам падзей 1905 года, будучы выяўнікамі інтарэсаў працоўных, і Купала, і Колас пачалі здаваць дэмакратычныя пазіцыі, пападаючы пад уплыў пазалочаных фраз беларускіх памешчыкаў і кулакоў аб «залатым веку» беларускай гісторыі.

Навакол ранніх твораў Янкі Купалы ішла жорсткая класавая барацьба. Ішла барацьба за Купалу, за яго талент, які развіваўся не па духу «дзеячам нівы беларускай культуры». Польскія паны-крытыкі, сцвярджаючыя, што «беларускі народ ніколі не меў і не мае сваёй літаратуры, пачуўшы голас паэта працоўнага сялянства, пачалі пісаць ужо інакш. Яны стараліся Купалу звярнуць на іншы шлях, сцвярджалі, што «пад выглядам рыфмованых твораў» паэт раскрывае злоўжыванні існуючага царскага ладу, але не заклікае, ці бачыце, да «працавітасці, да маральнасці, да пазнання асветы». І ў тон польскім панам-крытыкам беларускія буржуазныя нацыяналісты ўсяк імкнуліся затушаваць прагрэсіўныя элементы ў творчасці Купалы, шукалі ў творах паэта «душы беларуса», самабытных матываў, зварачваючы Купалу на свой бок.

Владэк з Казіміраўкі ў рэцэнзіі на зборнік «Жалейка» («Наша ніва», 1908 год, № 17) поўнасцю пераклікаецца з польскім «панам-даследчыкам» беларускай паэзіі: «Песні Купалы,—піша ён,—гэта люстэрка, у якім свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край. Да вялікай працы «будаўніцтва края» кліча паэт наш «свой люд», ён кліча ўсіх «працаваць за траіх, каб не аддацца смутку». Польскі пан толькі ўказаў яшчэ, што Купала не заклікае «да працавітасці», як беларускі шляхцюк Владэк, фальсіфікуючы купалаўскую «Жалейку» ва ўгоду польскаму пану, знайшоў ужо гэтую «мірную працавітасць»—беларус, ці бачыце «працуе за траіх, каб не аддацца смутку».

Яшчэ больш нацыяналістычна адкрыта піша, схаваўшыся за экзатычны псеўдонім, А. Бульба («Наша ніва», 1910 г., № 43), заяўляючы, што кнігай «Гусляр» Купала «вызваляецца ад чужых налётаў і становіцца на самабытны шлях».

І значна пазней, у нарысе пра беларускую паэзію, буржуазна-нацыяналістычны паэт Максім Багдановіч аб першым этапе суровай народнай прастаты купалаўскай творчасці пісаў, што, ці бачыце, Купала «пачаў з шурпатых вершаў, якія амаль не зусім зліліся з сучасным яму слоем беларускай паэзіі». Вось калі-б Купала працавіта заклікаў-бы «да працавітасці» на польскага і беларускага пана— вершы яго зліліся-б з «сучасным яму слоем беларускай паэзіі».

І польскі пан, і беларускія буржуазныя нацыяналісты інакш і не маглі расцэньваць творчасць Купалы. Бачачы шырокі водгук купалаўскіх песень у масах, іх папулярнасць, Багдановіч крычыць: «шурпатыя вершы», слаба апрацаваныя з боку формы і мовы». Хіба гэтыя крыкі не нагадваюць нам ацэнку рускіх дваранскіх эстэтаў творчасці Некрасава, яго магутных, гнеўных строф? Яны-ж крычалі «тапорны талент», бачачы, як круг уплыву Некрасава на чытачоў усё больш і больш пашыраецца. Гэтыя факты барацьбы нагадваюць нам і славутую гісторыю цкавання Т. Г. Шаўчэнка...

Багдановіч абвінавачвае Янку Купалу ў тым, што ў яго вершах і паэмах «неапрацаваная мова», у той час, калі мова творчасці Янкі Купалы—выключная па сваёй эмацыянальнай сіле, мова народнай творчасці, мова, якая паслужыла асновай у справе барацьбы за развіццё беларускай літаратурнай мовы. На багацце і чыстату беларускай мовы ў Купалы звярнуў ўвагу і А. Луначарскі («Известия», 1930 г., № 132). Гаворачы пра зборнік «Жалейка», тав. Луначарскі пісаў: «Яе чыстая, багатая і сапраўды беларуская мова, яе глыбокі бядняцка-сялянскі змест вобразаў, думак, яе простая, празрыстая і меладыйная напеўнасць стварылі вялізнае ўражанне. Кніга адлюстравала сабой той ўздым самасвядомасці і надзеі, які адпавядаў ўздыму 1905 г.».

Мова творчасці Багдановіча (не гледзячы на тое, што рад яго твораў павінны мы прыняць) з'яўляецца кніжнай, халоднай мовай. З аднаго боку моўная культура яго расла на базе прымітыва «дзерэвеншчыны», з другога баку ён уключаў у беларускую мову, без патрэбы для гэтага, бытавыя словы, з моваў суседніх з Беларуссю народаў.

Хіба гэта не яркія прыклады класавай барацьбы за Янку Купалу?

Гэта было ў той гістарычны перыяд часу, калі, як піша таварыш Сталін, «закралася ў душу сумненне і людзі пачалі разыходзіцца па нацыянальных кватэрах. Няхай кожны разлічвае на сябе. «Нацыянальная праблема»—перш за ўсё!».

На старонках «Нашай нівы» пачынае займаць «вядучае» месца заалагічны шавінізм, прыкрыты «філасофіяй» нацыянальнага духу. У гэты перыяд Янка Купала і Якуб Колас замест далейшага развіцця дэмакратычных элементаў у свае творчасці не ўстаялі, сышлі на буржуазныя пазіцыі, сталі ідэолагамі руху, так званага адраджэння—руху беларускай буржуазіі.

Вялікую Кастрычніцкую рэволюцыю Я. Купала і Я. Колас не зразумелі. Яны не зразумелі класавай сутнасці пролетарскай рэволюцыі, і ў першыя совецкія гады творча аставаліся на сваіх старых пазіцыях. Часам у іх творах гучалі ноткі непрыязні па адрасу дыктатуры пролетарыята.

Рост соцыялістычнай гаспадаркі і культуры Совецкага Саюза і Совецкай Беларусі, перамогі нацыянальнай палітыкі, якую праводзіць наша партыя, росквіт беларускай совецкай культуры, клапатлівыя адносіны нашай партыі да людзей, работа беларускіх пісьменнікаў—комуністаў прывялі і Я. Купалу, і Я. Коласа ў рады актыўных будаўнікоў нашага дзівоснага жыцця.

Гісторыкі нашай літаратуры бясспрэчна скажуць, што творы Я. Купалы і Я. Коласа першых гадоў іх паэтычнай работы з'яўляюцца лепшымі старонкамі ўсей дарэволюцыйнай паэзіі, па сутнасці—першыя ў гісторыі беларускай паэзіі—слаўныя старонкі беларускага мастацкага слова.

Гісторыкі нашай літаратуры бясспрэчна скажуць, што цяперашнія нашы народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас з'яўляюцца родапачынальнікамі сапраўднай мастацкай беларускай літаратуры.

Сёння і Я. Купала, і Я. Колас з'яўляюцца ўдзельнікамі ўпартай барацьбы за беларускую, савецкую мастацкую літаратуру. Калі Янка Купала гадоў дваццаць пяць таму назад пісаў:

Кожны край мае тых, што апяваюць,
Чым ёсць для народу упадак і хвала,
А беларусы нікога-ж не маюць,
Няхай-жа ім будзе хоць Янка Купала,—

дык сёння ў ордэнаноснай соцыялістычнай Беларусі мы чуем дружны многагалосы паэтычны хор.

Беларуская савецкая паэзія сёння—гэта малады вясновы сад у вясёлкавым квітненні з моцнай завяззю, якая абяцае даць так многа пладоў высокай паэтычнай культуры ў скарбніцу вялікай усесаюзнай соцыялістычнай мастацкай літаратуры.

Як і аб усёй паэзіі народаў Савецкага Саюза, так і аб беларускай паэзіі сёння можна зусім бясспрэчна заявіць, што найбольш памятнай асаблівасцю нашай паэзіі, асаблівасцю, якая найбольш рэзка звяртае на сябе ўвагу, з'яўляецца аптымізм.

Хто прачытаў кнігі беларускіх паэтаў, выданыя ў 1935 годзе— «Песні будаўніцтва»—Янкі Купалы, «Прыход героя»—Пятруся Броўкі, «Чатыры вятры»—Пятруся Глебкі, «Мая радзіма»—Алеся Звонака, «Маё пакаленне»—Эдзі Агняцвет, вершы Якуба Коласа, Міхася Багуна, некалькі апошніх вершаў Ул. Хадыкі, паэму «Слуцак»— А. Дудара, вершы Аркадзя Куляшова,—той безумоўна пераканаецца, што жыццярадаснасць, упэўненасць у сёнешнім і заўтрашнім дню, бадзёрая прыўзнятасць, радасць нашых перамог—гэта характэрныя рысы ўсіх вышэйпералічаных кніг, хоць яны і маюць розную паэтычную якасць.

Гэтая асаблівасць, гэтая лінія мужнасці і бадзёрасці нашай паэзіі склалася пад уплывам небывалых перамог соцыялістычнага ладу і няма ні найменшага сумнення, што яна адлюстроўвае стыль нашай рэчаіснасці, нашай савецкай эпохі.

Паэт у імкненні стварыць твор глыбокі, ідэйна паўнакроўны аб новых чалавечых адносінах, створаных у нашай краіне, аб новых людзях, створаных гэтымі адносінамі, ён стаіць каля жыватворчай крыніцы аптымізму.

Янка Купала, парадзіруючы вядомую калыханку Лермантава, ідучы следам за Некрасавым, у 1908 годзе (зборнік «Жалейка») напісаў сваю песню, у якой расказвае, як маці—сялянка, калышучы

дзіця, спявае пра жыццёвы шлях, які дзіцяці прыдзецца прайсці. Гэта песня поўна трагізму, беспрасветнасці і сарказму:

Пойдзеш зноў на хлеб батрацкі
Служыці панам,
Штось не ўгодзіш, пан багаты
Гікне: вон ідзі!
Спі, пакуль не гоняць з хаты,
Люлі, люлі, спі.
Ты-ж не рынешся ў канаву
З гора ды з бяды,
Красці выўчышся на славу,
Пан будзеш тады.

І таму:

Спі, пакуль не ўмееш красці
Люлі, люлі, спі.

І зусім другую песню, у новым рытмічным напружанні, у новых бадзёрачых фарбах, спявае Янка Купала ў 1934 годзе пра лёс савецкіх дзяцей:

Кукавала зязюля
У зялёным лесе.
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

Як набралася моцы
Матчына дачушка,
Паляцела да сонца
Пералётнай птушкай.

Паляцела дзяўчына
Самалётам гонкім,
Над шчаслівай краінай,
Над роднай старонкай.

Маці над калыханкаю пела аб надыходзячым цяжкім жыцці. Але другое грамадскае жыццё ў нас і таму «не згадала матуля, што выйдзе з Алесі». Дачка вырасла, стала на шлях творчага жыцця, на шлях «дерзаний» і гераізма. Ды і сялянка-маці ва ўмовах савецкай рэчаіснасці, ва ўмовах шчаслівага калгаснага жыцця сама ўжо стала мысліць па-інакшаму, ёй ўжо стаў ясным сёнешні шлях чалавека—шлях заваёваны ў жорсткай класавай барацьбе пролетарыята. І вобраз новага чалавека, вобраз маткі ў савецкай краіне, маткі, якая любіць соцыялістычную радзіму, сваіх сыноў, бліскуча паказаны ў вершы «Выпраўляла маці сына». «Не ў няволю, на чужыну», яна выпраўляе сына, яна пасылае яго ў Чырвоную армію берагчы як зрэнку вока граніцы Советаў. Яна не плача, не сумуе, гэта-ж «Не ў салдаты—быць пад гнётам ды пад палкай царскай» ідзе яе сын. Яна сёння ўжо ведае, што аб яе сыне будзе «краіна ў клапотах, быццам матка родная». І гэтае другое нараджэнне чалавека, нараджэнне новай самасвядомасці, новай псіхалогіі і сонечны лёс нашых савецкіх дзяцей жывяць паэта сокамі аптымізма.

Творы пра дзяцей або творы, якія завяршаюцца такой падзеяй,

як нараджэнне дзіцяці, усё часцей і часцей з'яўляюцца ў нашай совецкай літаратуры.

Успомніце «Время, вперед», Катаева, «Я люблю» Аўдзеенкі, вершы «Хлопчык і лётчык» Я. Купалы, «Двайня» П. Броўкі, «Карына Васільева» Ізі Харыка, песні А. Суркова і Пракоф'ева—ва ўсіх гэтых рэчах нараджэнне дзіцяці, вясёлае жыццё дзяцей, шчаслівая юнасць, адыгрываюць не столькі сюжэтную, колькі пераважна эмацыянальную ролю.

Бадзёры настрой, вясёлкавыя фарбы, гордае гучанне голасу сучасных паэтычных твораў, рэзка адрозніваюцца ад твораў перыяда 1925—1930 гг. Класавая накіраванасць, баявітасць, чысты голас без хрыпаты наноснага дробна-буржуазнага ўплыву, яснасць задачы, імкненне да прастаты выкладання, да філасофскага абагульнення, імкненне да аўладання матэрыялам, упартыя шуканні адпаведных актыўных форм і сродкаў выкладання—гэта характэрна для мноства беларускіх паэтаў, і гэта сведчыць пра іх вучобу, пра іх настойлівую работу па аўладанню майстэрствам паэтычнай справы.

Усе гэтыя станоўчыя якасці нарадзіліся ў жорсткай класавай барацьбе з паэтамі-нацыяналістамі, кулацкімі паўпрэдамі ў літаратуры, ворагамі беларускага народу.

Калі ўспомніць паэтаў-нацыяналістаў, якія былі аб'яднаны ў контррэволюцыйным літаратурным аб'яднанні «Узвышша», калі ўспомніць іх творчасць—рэзка кінецца ў вочы поруч з мастацкай пасрэднасцю, тэматычнай убогасцю, іх нахабная кулацкая нацыянал-дэмакратычная контррэволюцыйная сутнасць. Сваю творчасць, поўную замаскаваных форм барацьбы супроць комуністычнай партыі і совецкай улады, яны жывілі, галоўным чынам, кулацкім фальклорам. Яны свядома засмечвалі літаратурную мову архаічнымі словамі або словамі, створанымі па нацыяналістычнаму тыпу і гэтае «наватарства» гэтыя «неалагізмы» былі ў іх сродкам, адным з важных прыёмаў вуалявання сутнасці сваіх контррэволюцыйных ідэй. Маладыя беларускія, совецкія паэты пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі з усёй комсамольскай баявітасцю выкрывалі нацдэмаўскую паэзію, паказваючы шырокім масам яе сапраўднае кулацкае нутро, зрывалі маскі і паказвалі «творчы» твар «лірычных» агентаў польскай дэфензівы. З нахабнай адкрытасцю пісалі-ж контррэволюцыянеры ў літаратуры, што моў:

> Усе, усе мы носім маскі,
> Нат' скінуць дома баімося!

Надзвычайна паказальная тая акалічнасць, што паэты-нацыяналісты знаходзіліся пад выключна вялізным уплывам кулацкіх элементаў творчасці Сергея Есеніна.

Стыль «аўсяна-жытнёвай» Беларусі, стыль застольнага есенінскаклюеўскага «благополучия»—з'ява асабліва тыповая для паэтаў «Узвышша».

Метад паказной барацьбы «друг з дружкай» ужываўся ў адносінах да «Узвышша» нацыяналістычным літаратурным аб'яднаннем «Полымя». Калі члены «Узвышша» сябе скампраметавалі радам

махровых нацыяналістычных выступленняў, главары нацдэмаўскага цэнтру стварылі арганізацыю «Полымя». Нападаючы на членаў «Узвышша», наносячы знешнетраскучыя ўдары, прыкрываючыся гэтымі «ударамі», полымянцы працягвалі той жа шлях—крывавы шлях беларускай контррэволюцыі.

Я прывяду вялікую цытату, без усякага прабачэння за яе памеры таму, што цяжка знайсці больш яркі і выразны прыклад тых «изощренных» форм і метадаў барацьбы, якімі карыстаўся класавы вораг. Вось у чым прызнаецца нацдэм Чаржынскі ў сваіх паказаннях пасля раскрыцця ў Беларусі контррэволюцыйнай арганізацыі нацыянал-дэмакратаў:

«Апорнымі пунктамі для контррэволюцыйнай рабсты ў галіне літаратуры былі «Полымя» і «Узвышша» Але-ж гэтыя арганізацыі былі востраварожыя паміж сабой, увесь час змагаліся адна з другой. Як-жа яны маглі быць фактарыямі нашай арганізацыі? Справа ў наступным. З самага пачатку, калі яшчэ не існавала «Полымя», кіруючыя кадры беларускіх нацыянал-дэмакратаў цалкам сымпатызавалі і арыентаваліся на «Узвышша», ператвараючы гэтую арганізацыю ў рупар сваіх ідэй».

Калі-ж «Узвышша» сябе скампраметавала:

«Узнікае ў азначаных вышэй колах беларускіх нацыянал-дэмакратаў ідэя стварэння новай, ва ўсіх адносінах «бездакорнай» літаратурнай арганізацыі з моцным партыйным ядром. Праз пасрэдніцтва такой, не выклікаючай сумнення ў сваёй ідэалагічнай вытрыманасці, арганізацыі, мы спадзяемся, больш верна і поўна, не ўзбуджаючы падазрэння, праводзіць сваю лінію».

Ствараецца, такім чынам, «Полымя».

«Цэнтр увагі з гэтага моманту мы пераносім з «Узвышша» на «Полымя». Апошняе адкрывае маскіровачны абстрэл па «Узвышшу», каб гэтым канчаткова адгарадзіцца ад падмочанай рэпутацыі апошняга. Але для нас і «Полымя», і «Узвышша» па сутнасці аднолькава, блізкія і родныя дзецішчы. Паміж асобнымі членамі нашай арганізацыі размяркоўваюцца ролі. Адны будуць падтрымліваць «Узвышша», другія—«Полымя».

І, галоўным чынам, комсамольская літаратурная моладзь, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і з дапамогай шырокай пролетарскай грамадскасці, аб'яднаная ў створанай па ініцыятыве комсамола першай у Беларусі літаратурнай арганізацыі «Маладняк», крок за крокам ускрывала нацыяналістычныя выступленні ў літаратуры, з аўтарамі гэтых выступленняў вяла жорсткую барацьбу. У гэтай класавай барацьбе паэты-маладнякоўцы палітычна даспявалі, ідэйназагартоўваліся, вырасталі як мастакі ў сваёй актыўнай творчай рабоце.

Яшчэ толькі выступаючы на поле літаратурнай дзейнасці, паэты-маладнякоўцы першымі-ж сваімі творамі ўнеслі новы свежы струмень у беларускую паэзію, струмень, які вынікаў з бадзёрага настрою, тэмпераментнасці, маладой задорнасці, выражанай ў новай тэматыцы, у новых вобразах і лексічных сродках. Першы нумар літаратурнага журнала «Маладняк» (1923 год) быў адкрыты адна-

йменным вершам Міхася Чарота, дзе не без удачы апявалася ўзыходзячая маладая літаратурная сіла. Гэты верш выяўляў як-бы яе агульна-палітычнае і літаратурнае крэдо.

Маладняк сваімі лісцямі
Шапаціць нам казку-вольніцу.
Помнім, помнім, як калісьці мы
Чорных дзён стрымалі конніцу.
Перастаў і сумны спеў гусці,
Дні прышлі—ажно не верыцца..
Хто-ж адвагі знойдзе, смеласці
З сілай моладзі памерацца?!

Ад песень, у якіх апявалася радасць, народжаная рэволюцыяй, ад агульнага апявання фабрычных гудкоў, вольнай сялянскай працы, ад песень, якія шмат у чым пераклікаліся з пафасам наіўнай лірыкі пролеткультаўшчыны, беларускія маладыя паэты пераходзілі да больш паглыбленага пазнавання жыцця. Дрыжачы голас рабіўся паступова спакайнейшым, больш дзейсным, эмацыянальным.

Узбагачаючыся фармальнай культурай вершу, актыўна ўключаючыся ў рэволюцыйную практыку нашай рэчаіснасці, паэты пачалі ававодваць сілай аптымізму, развіваючы спецыфічныя асаблівасці свайго пісьма, «удакладняючы» сваё творчае «я» і гэтым самым хутка вызваляліся ад налётаў «нашаніўскага» ўплыву.

Асабліва паказальны працэс такой барацьбы і росту над творчасцю пролетарскага паэта-лірыка *Міхася Чарота.*

Першая кніга яго вершаў «Завіруха» носіць на сабе значныя сляды ўплываў «нашаніўскай» фармацыі, а, гаворачы палітычнай мовай,—значныя сляды нацыяналістычнай ідэалогіі. Вершы ў «Завірусе» пераважна на вясковую тэматыку і як-бы гавораць пра тыя бытавыя глыбіні, з якіх прышоў у літаратуру Міхась Чарот. У вершы «Ведай свет» (1921 г.) паэт раскрывае чытачу сваю «анкету жыцця», некалькі ўзвышаным голасам, авеяным рамантычнай пеляной горда, на ўвесь свет, заяўляе пра сваё сялянскае паходжанне.

Ведай, свет, што я сын мужыка-бедака,
Які доўга ў нядолі стагнаў...

І ён, гэты «мужык-бядак», каб над краінай «прамень шчасця засвяціў»—«пра волю песні сам пачаў складаць».

Першыя два-тры гады творчасці М. Чарота тэматычна былі абмежаваны жыццём вёскі і агульна-патэтычным «касмічным» апяваннем вызваленай Беларусі.

Край новы узрасце тады на буралome,
Машыны будзе век, не трэба будзе конь.
Бляск электрычнасці нам хмара не заслоніць,
Людское будзе ўсё: зямля, вада, агонь.

Будова вершу, яго лексічныя сродкі пераклікаліся з творчасцю дарэволюцыйных паэтаў. Зборнік «Завіруха» быў своеасаблівым мастом, што злучаў Чарота з літаратурай дакастрычніцкага часу. Адзіным знешнім адрозненнем былі эпітэты, якія павярхоўна характарызавалі першыя гады совецкай эпохі. Калі раней пра Беларусь пісалі,

як пра цёмную, загнаную, прыгнечаную і тужлівую, дык у Чарота эпітэты змянілі сваю афарбоўку. Беларусь стала светлай, вясёлай, яснай, вызваленай. Пячатка традыцыйных вобразаў мінулага, павярхоўнага слізгацення па новых падзеях у жыцці краіны ляжыць на першых творах Чарота. І крытыка, якая жывіла сябе карэннямі буржуазнай ідэалогіі, творчасць Чарота перыяда «Завірухі» выключна прыветна сустрэла і высока ацаніла. Напеўнасць, унутраная лірычная цеплыня, чыстата мовы, звязваўшая Чарота з народнай творчасцю, сведчылі аб прыходзе ў літаратуру таленавітага паэта. Але маладому Чароту, які прышоў у горад з вёскі, патрэбна было моцнае ідэйнае падтрыманне. Мы ведаем пра сумны лёс многіх паэтаў з сялян, якія не здолелі пераступіць праз парог у горад. Міхась Чарот, знаходзячыся ў палоне дзесяцігоддзямі складаўшайся «сялянскай» беларускай літаратуры, папаў пад уплыў «модных» плыняў у рускай паэзіі, у прыватнасці «крестьянствующего» імажынізма:

Дзянніцы зірк на небе стух,
Вясковых хат дымяць галовы,
У лапцях з пугаю пастух
Трубою плача па каровах.

У гэтым тэматычным і ідэйным коле стараліся затрымаць нацыяналісты паэта. Але ў 1922 годзе, калі Чарот вырываецца з павуціння нацыяналістычнай лірыкі, разрывае кола і стварае ўдалую паэму «Босыя на вогнішчы», на яго з усёй сілай навальваюцца нацыяналісты. Яго пачынаюць цкаваць, яму стараюцца даказаць, што гэтай паэмай ён стаў на ложны творчы шлях, што ён здраджвае традыцыям беларускага вершаскладання, траціць сваю нацыянальную самабытнасць.

З'яўленне паэмы «Босыя на вогнішчы» было вялізнай падзеяй у беларускай літаратуры. Узламаўшы старыя каноны нацыяналістычнай лірыкі, разбурыўшы яе аднастайны, бесклапотна-нудны рытм, Чарот аптымістычна, рознапланава ахопліваючы падзеі, народжаныя Кастрычнікам, з разуменнем пролетарскай сутнасці Кастрычніка, разгортвае панараму рэволюцыі ў Беларусі, трапна характарызуючы класавыя сілы двух бакоў.

Паэт кліча на барацьбу, спявае перамогу, заваяваную ў смяротнай барацьбе, у барацьбе «з ворагамі па-варожаму»:

Што шаг—пабеда бліжай, бліжай...
Штандар чырвоны на плячы,
Чым крыж цягнуць—лепш спаць пад крыжам,
Іграйце песню трубачы!

«Босыя на вогнішчы» з'яўляюцца пролетарскім пачаткам развіцця нашай паэзіі.

Наступныя яго творы: паэмы «Чырвонакрылы вяшчун», «Ленін», «Карчма», вершы пра комсамол, пра партызанскі рух, вершы пра Заходнюю Беларусь, паслядоўна развіваюць тую творчую лінію аптымізма, якая смела і правільна была намечана ім у паэме «Босыя на вогнішчы».

Аналагічны творчаму шляху Міхася Чарота шлях паэта *Паўлюка Труса*, які памёр яшчэ маладым у 1929 годзе. Паўлюк Трус, як і Чарот, прышоў у літаратуру з вёскі. Першыя-ж даволі недасканалыя вершы П. Труса паказалі выключна вялікае пачуццё і веданне беларускай народнай песні. Тэматыка, вобразы і лексіка будаваліся паэтам пераважна на народнай творчасці. Ён выкарыстоўваў стылістычныя сродкі фальклору, карыстаўся «акамянелымі» фальклорнымі эпітэтамі. Лёгкасць і гучнасць вершаў, эмацыянальная насычанасць вылучалі Труса з рада іншых сучасных яму маладых паэтаў. Але тэматычна П. Трус быў бедны. Маштаб вёскі, а гэта значыць, яго культурная база, не давала яму магчымасці бачыць падзеі шырэй і глыбей, скоўвала яго, пазбаўляла сродкаў абагульнення. П. Трус вырастае перад намі, як паэт з грузам дробнабуржуазнай сялянскай абмежаванасці, раздвоенасці, з хістаннямі. Але як толькі П. Трус уключаецца ў грамадскае жыццё краіны, становячыся актыўным членам комуністычнага саюза моладзі, ён, як паэт, узнімаецца на значна вышэйшую ступень і стварае паэму «Дзесяты падмурак», прасякнутую аптымізмам, верай у прыгожую будучыню Савецкай Беларусі. Не гледзячы на правакацыйныя метады барацьбы «Узвышша», накіраваныя на тое, каб перацягнуць Труса ў лагер контррэвалюцыі, Трус ідзе правільным шляхам, набліжаючыся да пазіцый пролетарскага мастацтва. Ён марыць пра новую індустрыяльную Беларусь, пра край «фабрык і машын», пра соцыялістычнае квітненне і гаворыць, што тады:

... Я стану пад гарою
Каб пазбыцца смутку і журбы,
Буду слухаць песні Асінстрою,
Захаплюся музыкай турбін.

Бачачы велізарныя перспектывы росту сваёй рэспублікі, паэт пераносіцца ў марах у акупаваную польскімі панамі Заходнюю Беларусь і будучы ўпэўненым у перамозе працоўных, заклікае:

Пад сцягам рашучасці КПЗБ
Услаўце-ж і вы перамогу!

Рост паэта ад натуралістычных зарысовак вясковага быту да ідэйна асэнсаванага палітычнага закліку вялізнага маштабу звязаны з упартым перамаганнем цяжкасцей. Перамагаючы іх вучобай і актывізацыяй у грамадскім жыцці краіны, паэт узбагачаецца нараджэннем новага пачуцця, імя якому—рэволюцыйны аптымізм.

Таварыш Сталін на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 красавіка 1935 года сказаў, што трэба выхоўваць такіх людзей, «якія не баяцца цяжкасцей, якія не хаваюцца ад цяжкасцей, а наадварот ідуць насустрач цяжкасцям, для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх». Наш аптымізм—аптымізм актыўных мужных творцаў шчасця чалавецтва, якія ідуць цяжкім, але адзіна правільным шляхам, тым шляхам найбольшага супраціўлення, які забяспечыць урачыстасць перамогі.

І калі паэт П. Броўка ў адным з сваіх вершаў гаворыць, што:

Мы павінны зрабіць,
Што вякамі было недароблена,
Нават песні зладжыць,
Якіх свет не складаў,

дык гэта таму, што:

Мы жывем за бацькоў,
За дзядоў і за прадзедаў.
Многа дадзена нам,
Многа просіцца з нас.

Вось гэтае асэнсоўванне вялікай культурнай і мастацкай задачы, якая стаіць перад паэтам і вядзе на складаны шлях творчай барацьбы за высокі і чысты голас рэвалюцыйнага аптымізма.

Не апатыя, не застой і роўнадушнасць, а якасці мужнасці, бясстрашнасці і творчага «дерзания»—неадымныя рысы характару чалавека нашай соцыялістычнай радзімы, чалавека—арганізатара вялікіх з'яў грамадскага жыцця, чалавека, які разумна стварае гісторыю, чалавека, які выражае філасофскі светапогляд пераробкі свету. Даць вобраз такога чалавека, чалавека эпохі Сталіна, імкнецца паэзія Савецкага Саюза. Не аптымізм абыякавага назірання жыццёвых падзей, а палкі ўдзел у разгортванні гэтых падзей, не апяванне абстрактнай сілы «дабра», а творчая праца, якая дае шчасце чалавецтву, не шчаслівая выпадковасць у «добрым зыходзе» падзей, не база прымітыўнага аптымізму амерыканскага мешчаніна, выражаная ў славутай формуле «О—кей»—«усё ў парадку», не аптымізм, які прапагандуе «цярпенне пераносіць цяжкія хвіліны жыцця» (Золя), а аптымізм настойлівага перамагання цяжкасцей, аптымізм гіганцкай перабудовы жыцця і чалавечых адносін, аптымізм, вытокі якога—у глыбокай ідэйнай сувязі соцыялістычнай справы, у глыбокім разуменні людзей нашай краіны. Іменна гэтыя рысы рэвалюцыйнага аптымізма характарызуюць дух савецкай мастацкай літаратуры. Гэта іменна адна з тых вялікіх якасцей, якая зрабіла В. Маякоўскага «лепшым, таленавіцейшым паэтам савецкай эпохі» (Сталін).

Па лініі развіцця палітычнай лірыкі, насычанай аптымізмам, у нашай паэзіі імкнецца ісці *Пятрусь Броўка*.

У літаратуру П. Броўка, як і многія іншыя пісьменнікі, прышоў выхоўваючыся на старонках бальшэвіцкага друку. Пячатка наіўнай агітацыйнай паэзіі моцная ў вершах першага этапу яго паэтычнай дзейнасці. Згубныя ўплывы «літфронта» таксама моцна далі сябе адчуваць на творчасці Броўкі. Многія з яго вершаў грэшныя рытарычнасцю, схематызмам, шматслоўнасцю, рытмічкай распыленасцю, абстрактным «планетарным» апяваннем перамог соцыялістычнай радзімы. Такія яго «Прамова фактамі», «Цэхавыя будні», паэма «Менск». З другога боку, амаль з самага пачатку яго паэтычнай работы праглядала другая якасць—лірычная цеплыня, уменне схапіць характэрную дэталь чалавечых паводзін, настроі людзей і ўменне ўзняцца да ўзроўню мастацкага абагульнення. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў такіх якасна-неаднолькава роўных вершах, як «Гады, як шторм», «Праз горы і стэп», «Зямля», «Двайня».

Гэтыя дзве супярэчлівыя «сілы» ў паэтычнай душы Броўкі і да апошніх гадоў даюць сябе адчуваць, але ясна выяўлена тэндэнцыя перамогі другой з'явы—уменне выбраць тэму, матэрыял, уменне перамагчы кампазіцыйную пульхнасць вершаў, запаліць радок пафасам.

Апошняя кніга яго вершаў «Прыход героя» знамянуе сабой творчы рост. Гэтая кніга выразліва паказвае на тыя творчыя цяжкасці, якія часта, не без поспеху, Броўку ўдаецца перамагаць.

Адным з лепшых, насычаных аптымізмам, верай у перамогу, пафасам, які кліча да барацьбы, з'яўляецца яго верш «Праз горы і стэп». Верш, пабудаваны на матэрыяле гістарычных баёў у гады грамадзянскай вайны Самарскай кавалерыйскай дывізіі. Сіла мастацкага ўздзеяння гэтага верша заключаецца ў тым, што аўтар не прытрымліваўся слепа гістарычных даных, не стаў на шлях фактаграфіі, а з дапамогай мастацкага вымысла, знайшоў характэрныя эпізоды, фарбы, дэталі, здолеў вобразы абагульніць, і верш гучыць не толькі як мастацкі дакумент барацьбы адной дывізіі, але як песня аб усёй Чырвонай арміі, аб самаадданай барацьбе яе байцоў.

Калі паэма «1914», таксама як верш «Праз горы і стэп», напісана пры дапамозе таго-ж творчага прынцыпу і разгортвае перад намі рэльефнае палатно жыцця беларускай вёскі напярэдадні і ў часе імперыялістычнай вайны, дык паэма «Так пачыналася маладосць» гэтых якасцей пазбаўлена.

Паказаць эпізоды жыцця менскага комсамола ў падполлі—тыповай для ўсяго комсамола, паэту не ўдалося. І няўдача прышла, галоўным чынам, таму, што аўтар аказаўся ў палоне асобнага гістарычнага факта, біяграфічнай даведкі аб героі—адышоў ад уласнай фантазіі, адмовіўся ад мастацкага вымысла, а гэта ў сваю чаргу прывяло твор да ідэйнай абмежаванасці, пацягнула аўтара да стэрэатыпных эпітэтаў і метафар, не гледзячы на асобныя моцныя кавалкі, як эпізод падпольнай сходкі на рацэ, дзе:

... і здаецца з ветрам
Вылятала Свіслач,
Буйнаю паводкай
Мчала на палі.

Умацоўваючы свае творчыя пазіцыі, П. Броўка павінен змагацца за паглыбленую сэнсавую сілу, за рознапланавасць кампазіцыі вершу і ўзбагачэнне слоўных сродкаў.

За час пасля 23 красавіка 1932 года беларуская паэзія пайшла наперад, асабліва буйнымі крокамі. У гісторыі беларускай паэзіі мы, як відаць, не знойдзем ніводнага этапа, які адпавядаў-бы такому колькаснаму і якаснаму росту, як сучасны этап. Гэта, праўда, не дае нам права рабіць вывады, што наша паэзія ідзе ўжо на ўзроўні з жыццём краіны. Такое сцверджанне было-б няправільным, а галоўнае шкодным. Няправільна захапіцца поспехамі калектыва паэтаў і кожнага паэта ў паасобку—гэта значыць, затармазіць рост, замест далейшага творчага руху наперад.

Шлях барацьбы за аптымізм—гэта шлях барацьбы за аўладанне соцыялістычным рэалізмам, як творчым метадам нашай літаратуры, бо зусім ясна, што аптымізм—гэта неабходны элемент соцыялістычнага рэалізма.

Наш аптымізм можа гучаць толькі ў рэалістычных творах, у творах вялікай мастацкай якасці.

Творы, якія адлюстроўваюць нашу рэчаіснасць, павінны стаяць на ўзроўні светапогляду эпохі і якасна быць творамі вялікай мастацкай сілы, вартымі вялікіх якасцей тых людзей, вобразы якіх з'яўляюцца вобразамі совецкай паэзіі.

Дасягнуць гэтага не так проста. Гэта часта звязана з няўдачамі, правадамі. Няўдач хапае. Многія ўяўныя «ўдачы» і «перамогі» ў некаторых ствараюць ложнае разуменне аб творчым шляху іх развіцця. Параўнальна часта з'яўляюцца такія назвы твораў, як «Радасць», «Высокая радасць», «Добрае жыццё», «Вясёлыя рэбята». Аўтары гэтых твораў прыкрываюць «аптымістычным» загалоўкам недастатковае багацце і перакананаьнасць зместу. Абяцаюць шмат якія з гэтых твораў больш, чым даюць. А знаходзяцца і такія паэты, якія апяваюць таўхаліну ў трамваі, як карысную зарадку для бадзёрасці. Адзін паэт вельмі лірычна спявае, як ён пакахаў дзяўчыну за тое, што яе валасы пахнуць мазутам. Да катэгорыі такой якасці твораў адносяцца і многія вершы беларускага паэта т. Кляшторнага. Сюды адносяцца і вершы В. Маракова, скажоныя саладжавым сантыменталізмам.

Перад сучаснай беларускай паэзіяй стаіць складаная задача перамагання цяжкасцей па стварэнню сюжэтнага, эпічнага твору. За апошнія гады наша паэзія прадстаўлена радам лірычных вершаў, насычаных ідэйнай эмацыянальнай сілай. Адчуваецца веданне вершаў, што не заўсёды можна бачыць у рада таленавітых паэтаў. І гэта—наша перамога, бо раней лірычны верш, які выконваў і актуальную палітычную функцыю, па сутнасці як-бы адсутнічаў, ён губляўся ў масе даўжэзных публіцыстычных разважанняў і пераказаў лозунгаў у рыфмаваным выглядзе.

Наша паэзія прадстаўлена і радам бясспрэчна ўдалых паэм. Многія з іх кампазіцыйна пабудаваны як-бы кольцамі лірычных напластаванняў асобных эпізодаў, звязаных адзіным ідэйным зместам.

У галіне стварэння сюжэтнай паэмы ў беларускай паэзіі працуюць паэты Пятро Глебка і Аркадзь Куляшоў, у яўрэйскай паэзіі—Ізі Харык, М. Кульбак.

Пачаўшы друкавацца ў 1923 годзе, *Пятро Глебка* за гады сваёй работы выдаў шмат кніг. Пятро Глебка—пладавіты паэт. Але не ўсе кнігі паэта мастацкі роўнацэнныя, ідэалагічна паўнацэнныя.

У яго песнях, галоўным чынам, дамінавала індывідуалістычнае псіхакапанне, тэматычная вузкасць, якую жывілі толькі крыніцы сельскага жыцця. У яго песнях відна пячатка соцыяльнай пасіўнасці. Гэта прывяло паэта да пазіцый буржуазнага нацыяналізма, гэта вызначыла ідэйную лінію творчасці Глебкі, якая арганічна пры-

вяла яго ў лагер пісьменнікаў-нацыяналістаў—у літаратурнае аб'яднанне «Ўзвышша».

Зборнік «Шыпшына», выданы ў серыі «ўзвышэнскай» літаратуры, поўны вузка асабістых перажыванняў. Няма ў яго творах гэтага перыяда нічога, што гаварыла-б аб тых новых парастках, якія з'явіліся ў жыцці краіны, няма паказу совецкай улады, пладоў яе работы, няма паказу класавай барацьбы; усе падзеі сучаснага яму жыцця ўвасабляюцца ў адзіным лозунгу «маці-Беларусь», як у вялізным аблюбленым сімвале «самабытнасці».

Наступныя зборнікі П. Глебкі «Хада падзей», «Арлянка», «Арка над акіянам»—сведчаць аб адыходзе паэта ад сваіх пазіцый.

Пасля разгрому «Ўзвышша» Глебка выбіраецца з нацыяналістычнай твані, становіцца на нашу дарогу, але на свежым рэволюцыйным паветры. ён на час як-бы задыхаецца, як-бы губляе паэтычны голас. Глебка піша вершы пра совецкую рэчаіснасць, шчыра выражаючы як-бы прызнанне рэволюцыі і, часам, у форме рыфмаванай хронікі стараецца патэтычна пяяць славу комуністычнай партыі—арганізатару і кіраўніку перамог у краіне.

Апошні зборнік вершаў «Чатыры вятры» сведчыць пра ідэйны і творчы рост паэта. Калі на асобных вершах ляжыць пячатка публіцыстычнай слоўнасці, рассудачнасці, дык бясспрэчна паэма «Мужнасць», прысвечаная памяці Владзіміра Ільіча—гэта лепшы твор Глебкі.

Народны смутак, выкліканы стратай Владзіміра Ільіча, месцамі з пачуццём вялікай лірычнай цеплыні, удалося перадаць Глебку ў яго паэме. Зарысоўка прыроды падначалена пачуццю людзей і якбы стварае агульную гармонію жалобнага настрою.

Некалькі слабей удалося паэту паказаць гістарычную прысягу таварыша Сталіна, выразіць яе партыйную страснасць, хоць Глебка і імкнецца перадаць сілу рэволюцыйнай большэвіцкай адданасці справе ленінізма:

Мінае час няшчаднай смерці,
Смуткуем зноў аб ім усе,
І кожны з нас глыбока ў сэрцы
Часцінку Леніна нясе.

Асаблівасць творчасці Глебкі—гэта яго ўпартыя творчыя шуканні, вучоба па ауладанню сюжэтнасцю твору, імкненне да стварэння эпічнай паэмы.

Гэтая лінія—лінія сюжэтнай паэмы, намецілася ў кнігах «Арлянка», «Арка над акіянам», «Карменсіта».

Але ўжо вырысоўваецца і небяспека для творчасці Глебкі. Гэта асабліва відаць з яго вялікай па размерах паэмы «Карменсіта». Гэта небяспека выражаецца ў прызнаках адрыву ад жыцця, і гэта прыводзіць зноў да схематызму. Паэма «Карменсіта» прасякнута какетнічаннем паэта фармалістычнымі прыёмамі, манернічаннем, жангліраваннем сцэнічнай тэрміналогіяй. Некалькі несур'ёзнае пахлопванне па плячу класікаў літаратуры і музыкі пакідае прыкрае пачуццё. Уключыцца актыўна ў жыццё нашай краіны, ва ўсе яго

поры, адыйсці ад хатня-кніжнага ўспрымання рэчаіснасці—перша-чарговая задача Глебкі.

*Аркадзь Куляшоў*—малады паэт. Ён хутка прымусіў звярнуць на сябе ўвагу. Яго першыя вершы вылучаліся характарам падыхода да матэрыялу, цягай да вольнага размеру, скульптурна-пластычнай будовай вобразу. Праўда, небагатае кола жыццёвых назіранняў уплывала на тое, што Куляшоў, захапляючыся шуканнем арыгінальных фармальных сродкаў, трапляў у палон фармалістычных уплываў.

Шуканні свайго творчага «я» не заўсёды ішлі па правільнаму шляху. Калі паэма «Гарбун» паказвае на некаторае ідэйнае ўзмужненне паэта, дык усё-ж працэсы класавай барацьбы ў краіне, характары людзей—прасякнуты элементамі некаторай алегарычнасці, рамантыкі.

З другога боку, асабліва ў першай паэме Куляшова «Аманал», стаяла перад аўтарам вялікая небяспека, якая выражалася ў адсутнасці пачуцця рытму. Празаічная будова вершу, апавядальны стыль рабілі вершы пасіўнымі, бяздзейнымі і гэта дасужымі крытыкамі тлумачылася, як «наватарства», як той шлях, па якім павінен паэт весці разведку сваёй творчай лініі. У паэме «Гарбун» аўтар адыходзіць сам ад гэткага «наватарства». Вершы рытмічна інакш загучалі, вобразы сталі скульптурнымі, пластычнасць і прастата выкладання вызначылі яго творчы рост, паказалі на поспехі Куляшова ў галіне шукання эпічных шляхоў. Многае на сваім творчым шляху Куляшову неабходна адолець. Патрэбна яшчэ ўпартая творчая вучоба.

У беларускіх паэтаў, як і сярод паэтаў іншых народаў, нараджаецца новае пачуццё, высокае пачуццё чалавека краіны соцыялізма, пачуццё, якое не мае яшчэ свайго імя, але якое лепш за ўсё выражана ў бязмежнай любові паэта да сваёй соцыялістычнай радзімы.

Радзіма, бацькаўшчына ў мінулым апявалася многімі паэтамі толькі ў рамках сваёй нацыянальнай тэрытарыяльнасці, як нацыяналістычны «культ», як сімвал ідэала нацыяналістычнай буржуазіі, як міжнацыянальная нянавісць, як пагром, як разня паміж народамі і не па-закласавая радзіма, як спрабавалі тлумачыць «тэарэтыкі» буржуазіі, а сугуба класавая капіталістычная «маці-Беларусь» або «нэнька-Украіна».

Новае пачуццё савецкага паэта—яго любоў да соцыялістычнай радзімы—аснована на высокай дружбе народаў былой царскай імперыі, народаў, вызваленых Вялікай Пролетарскай **Рэволюцыяй ад** прыгнёту «чужых» і «сваіх» эксплуататараў. Гэта бязмежная любоў да радзімы мабілізуе ў адно ўсе пачуцці, усе сілы і сродкі мастака, і пашырае дыяпазон паэзіі кожнага народа.

«Дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае заваяванне. Бо пакуль дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодныя і непераможныя: ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэтая дружба жыве і здраўствуе»,—так сказаў Іосіф Вісарыёнавіч Сталін на сустрэчы з таджыкскімі і туркменскімі калгаснікамі.

Неабсяжныя прасторы СССР у вершы паэта *Алеся Звонака*

агорнуты вялікай творчай работай, навакол «бягуць удаль нязмераныя рэйкі», радзіма—

Яна авеяна вятрамі маладымі,
Умыты твар яе расою свежай.
І сем марэй ляглі з бакоў радзімы,
Вартуючы спакой вялікіх межаў.

У мінулым нацыяналісты, стараючыся ўтрымаць сцяг сваёй самабытнасці, трымалі літаратуру ў рамках нацыянальнай абмежаванасці, па сутнасці ў рамках правінцыялізма. За апошнія гады беларуская літаратура, знішчыўшы гэтыя перашкоды, смела і ўпэўнена пайшла наперад. У беларускую совецкую паэзію ўключаюцца матывы жыцця, барацьбы, прыроды краін другіх брацкіх народаў. *Мікола Хведаровіч* выступіў з цыклам вершаў пра Грузію. *Міхась Багун* у вершы «Чэлюскінка Алла» здолеў абагульніць пачуццё трывогі і радасці народаў у дні чэлюскінскай эпапеі. Адзінства ўсіх народаў, іх агульныя задачы адлюстраваны ў вершы *П. Броўкі* «Браты», у паэме *І. Харыка* «Круглыя тыдні», у радзе вершаў яўрэйскіх і польскіх паэтаў БССР *(Тэйф, Камянецкі, Кавальскі)*.

Пачуццё пролетарскага інтэрнацыяналізма, калі яно ў належнай ступені развіта ў паэта, яно прыводзіць яго на вышэйшую ідэйную ступень, прыводзіць да больш глыбокага разумення жыцця.

Спрабуюць нашы паэты стварыць карціну жыцця працоўных на Захадзе. Няведанне ўсіх умоў барацьбы, іх своеасаблівасці прыводзіць да таго, што сур'ёзнага поўнацэннага твору на гэтую тэму паэтам стварыць не ўдалося.

Не можа не звярнуць увагу чытачоў верш Міхася Багуна «Ганаровая віза», дзе аўтар гаворыць пра той недалёкі час, калі Генрых Гейне, цяпер выгнаны фашыстамі, атрымае ганаровую візу на ўезд у родную Германію, а таксама рад палітычных вершаў *З. Аксельрода* («Спакойна ў Вене» і інш.) на падобную-ж інтэрнацыянальную тэму. У вершы «Рэволюцыйным паўстанцам Аўстрыі» маладая паэтэса *Эдзі Агняцвет* некалькі агульна паказвае жыццё рабочага ў капіталістычнай краіне і яго барацьбу, але ўсё-ж насычае страфу вялікай верай у перамогу сусветнага пролетарыята.

Ярка ў беларускай совецкай паэзіі адлюстравана рабскае жыццё працоўных Заходняй Беларусі, якія знаходзяцца пад гнётам польскага фашызма. Барацьбе за нацыянальна-вызваленчы рух нашых братоў у Заходняй Беларусі амаль у кожнага беларускага совецкага паэта прысвечаны лепшыя старонкі яго творчасці. Пра Заходнюю Беларусь мы знойдзем вершы ў Янкі Купалы, ў Якуба Коласа, у Міхася Чарота, у Крапівы, М. Хведаровіча, у яўрэйскага паэта Тэйфа і інш. Вядомыя ўмовы жыцця працоўных у зарубежнай Беларусі. Голад і бяспраўе, здзекі і турма. Тыя некалькі беларускіх пачатковых школ, якія існавалі раней ў заходне-беларускіх вёсках, польскімі панамі ліквідаваны Пра магчымасці культурнай работы і думаць нельга. Беларуская рэволюцыйная мастацкая літаратура развіваецца толькі ў падпольных умовах і на старонках рукапісных часопісаў, якія сакрэтна выдаюцца ў турмах нашымі зняволенымі братамі.

У нас, у Совецкай Беларусі, за адзін толькі год кніг на беларус-

кай мове выдаецца ў 15 разоў больш, чым было выдана за ўсе часы ўсімі выдавецтвамі да Кастрычніцкай рэволюцыі. Я не гавару пра той гіганцкі рост прамысловасці і сельскай гаспадаркі, які ў нас ёсць. Вялізны кантраст: радаснае, вясёлае, багатае жыццё беларускага народа ў Совецкай Беларусі, і галоднае, прыгнечанае бяспраўнае і цёмнае жыццё працоўных Заходняй Беларусі — гэта матыў многіх твораў пісьменнікаў БССР.

У зарубежнай Беларусі сваёй творчасцю звяртае на сябе ўвагу паэт *Машара*. Шлях Машары вельмі супярэчлівы і складаны. У апошні час гэты творча адароны паэт стаіць ідэйна на раздарожжы. Пабываўшы ўжо ў турме за ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху, пазнаўшы ўвесь цяжар жыцця сезоннага сельска-гаспадарчага рабочага ў памешчыка, ён,—разгублены,—толькі фіксуе цяжкое рабскае жыццё, не бачыць той рэволюцыйнай перспектывы, да якой трэба моцным голасам клікаць прыгнечаных братоў. Тыя творы, у якіх вельмі бегла, але ўсё-ж прабіваецца соцыяльна-насычаны голас Машары,—запамінаюцца. Яны заклікаюць і маюць тэмперамент, інакш кажучы, у гэтых рэчах—мастацкая сіла паэта:

Хлеба двйце, хлеба мала,
Душыць вёску чорны госць!

У тых-жа яго вершах, дзе адчуваецца бездапаможнасць, разгубленасць перад «чорным госцем» і ў вершах, напісаных з жаданнем дагадзіць пану-выдаўцу—там пераважна набор слоў, схематызм. Машара павінен задумацца над сваім творчым шляхам і, калі ён сапраўды хоча стаць паэтам беларускага народа, ён павінен ўсё сваё дараванне ўключыць у барацьбу працоўных за вызваленне, за новае вольнае творчае жыццё, павінен уключыцца ў рэволюцыйную барацьбу пролетарыята.

Даўно пісвае лірычныя вершыкі заходне-беларуская паэтэса *Наталья Арсеньева*, якая ганарыцца сваімі, праўда, далёкімі, сваяцкімі сувязямі з паэтам Лермантавым. Яе лейтматыў—гэта пераважна лірычныя зарысоўкі прыроды, альбомная «інтымнасць». Калі чытаеш зборнікі Арсеньевай, дык астаецца дзіўнае пачуццё, быццам яна жыве не ў бурную эпоху класавых баёў, быццам яна не бачыць разгулу польскага пана ў беларускіх вёсках. Вершы яе пасіўныя, бязрадасныя, быццам яна не дыхае паветрам, накаленым барацьбой.

У лагеры фашызму нямала бяздарнасцей. Такі Хв. Ільяшкевіч. Яго апекуны нацыянал-фашысты спяваюць яму дыфірамбы, узносяць яго на вышыні, а па сутнасці гэта—чалавек, які не мае за душой нічога, што рабіла-б яго літаратарам.

Нацыянал-фашыстам тыпа Луцкевіча нічога іншага не астаецца, як толькі выдаваць мыльныя пузыры за перамогу. Трапна пра фашыста Луцкевіча і яго кампанію сказаў беларускі совецкі паэт *Кандрат Крапіва* ў сатыры «З фашыстоўскай падваротняй».

Пёс рахманы ды ласкавы,—
Даць яму вянгліны й кавы!
Пан Луцкевіч—еж, еж,
Будзеш гаўкаць лепш!

Аб нацыянал-фашыстах, вернападданых сынах польскага фашызма, не мала пісаў Крапіва,—«Майстры крывавага джаз-банда», «Балабонь, да пары балабонь», і інш.

Класавых ворагаў па-за межамі краіны і ўнутры яе часта з вялізным поспехам можна знішчаць бічуючым смехам сатырыка.

Кандрат Крапіва—адзін у беларускай совецкай літаратуры паэт-сатырык, байкар.

У сваіх першых зборніках сатыры і баек, Крапіва накіроўвае ўвесь агонь на цемнату і некультурнасць вёскі, супроць рэлігійнага дурмана, супроць язваў старога жыцця. Мова Крапівы, узбагачаная народнымі прыказкамі, афарызмамі, надала сатырам вялікую сілу ўздзеяння на масы. Адыходзячы ад раней уласцівых яму элементаў дыдактызму, узбройваючы сваю паэзію сатырычнымі асаблівасцямі фальклору, паэт выявіў шлях свайго творчага росту.

Знаходжанне ва «Ўзвышшы» паклала сваю згубную пячатку на творчасць Крапівы. Слова Крапівы пачало прытупляцца, стала больш грубым, менш дзейсным. Крапіва, які так паспяхова працаваў у сатырычным жанры, і знаходзіў аб'екты для сваёй творчасці (бюракрат, растратчык, поп, кулак, падхалім, п'яніца)—пачаў няправільна разважаць аб немагчымасці развіцця сатыры ў гады соцыялістычнага будаўніцтва. Ён пераключаецца на іншыя жанры, піша раман пра калектывізацыю, піша п'есу аб праблеме дружбы, і ўсё далей і далей адыходзіць ад сатыры. Яго фельетоны, якія з'яўляюцца апошнім часам ў друку, якасна значна ніжэйшыя за поўныя баявітасці і сарказму раннія творы.

Крапіва напісаў некалькі баек з жыцця Чырвонай арміі.

Зусім не захапляючыся, мы павінны сумленна прызнаць,—і зрабіць з гэтага для сябе адпаведныя вывады,—што ў нашай беларускай паэзіі вельмі мала адлюстравана сучаснае жыццё Чырвонай арміі.

Вершы, прысвечаныя пераможным баям Чырвонай арміі ў часы грамадзянскай вайны, мы знаходзім у многіх паэтаў (М. Чарот, П. Глебка, А. Звонак, яўрэйскія паэты З. Аксельрод і Камянецкі), аб імперыялістычнай вайне (у Якуба Коласа—паэма «На шляхах волі», у Броўкі—«1914 год»). Але пра Чырвоную армію сёнешняга дня і, галоўным чынам, пра пагранічнікаў, што, здавалася-б, для беларускіх паэтаў павінна быць асабліва блізкім, твораў надзвычайна мала.

У Беларусі ёсць значная колькасць пісьменнікаў, якія пішуць на рускай мове, якія прышлі з Чырвонай арміі або цяпер знаходзяцца ў Чырвонай арміі: *А. Шарапаў, Шапавалаў, Сцяпан Хадыка, Васілеўскі, Кручкін* і інш. Калі гавораць пра беларускую абаронную літаратуру, гавораць, галоўным чынам, пра творчасць толькі гэтых таварышоў. Але задача стварэння мастацкіх твораў пра абарону нашай радзімы—гэта задача і беларускіх паэтаў, бо адсутнасць твораў на беларускай мове пра Чырвоную армію, пра пагранічнікаў не робіць гонару беларускім пісьменнікам.

Усе жыццёвыя з'явы, якія адбываюцца ў нашай краіне, хвалююць беларускіх паэтаў. Няма ніводнай значнай падзеі, ускалыхнуў-

шай нашу радзіму, каб беларускія паэты на яе не адгукнуліся. Але гэта не тычыць *Уладзіміра Хадыкі*. Кола яго тэматыкі вельмі вузкае. Сістэма вобразаў—з арсеналу нацыяналістычнай лірыкі. З вобразамі выключна шчыльна звязаны моўныя сродкі паэта. Псіхалагічнае перапяванне сваіх пачуццяў і настрояў, перапяванне толькі старой «дзедаўскай» Беларусі—над гэтым працуе Хадыка. Фармальна вершы Хадыкі адрозніваюцца рытмічнай аднастайнасцю, нудлівасцю. Яго кніга вершаў «Радасны будзень», выданая ў 1935 годзе, вялікага грамадскага значэння не мае. Раздзел «За строем дат і рубрык», адзіны ў зборніку, дзе паэт робіць першыя нясмелыя крокі, першыя спробы ўключыцца ў бурнае радаснае жыццё краіны. У гэтым Ул. Хадыку ў яго жаданні ўключыцца ў грамадскае жыццё краіны, мы ўсямерна абавязаны дапамагчы. І гэтая дапамога павінна ісці па лініі крытыкі яго твораў, па лініі ўскрыцця нацыяналістычных карэнняў, якія жывяць яго творчасць, па лініі разбурэння моўнае сістэмы, павінны крытыкаваць прынцыпова і патаварыску у імя яго росту, як совецкага паэта. Нажаль, таропкія крытыкі, разважаючы пра дзіўныя асаблівасці хадыкавай лірыкі,—затрымліваюць яго ў нацыяналістычных сецях, збіваюць з сапраўднага шляху, па якім сам паэт імкнецца пайсці. Хадыку трэба патаварыску проста і ясна сказаць: чым хутчэй ён актыўна ўключыцца ў соцыялістычную тэматыку, тым творчасць яго стане багацейшай, больш дзейснай і новыя вобразы знойдуць новыя лексічныя сродкі.

Калі гаварыць аб працэсах ідэйна-творчай перабудовы паэтаў, дык у першую чаргу прыходзіцца ўказаць на яркія ўзоры падобнай перабудовы ў творчасці Купалы і Коласа.

Працэс творчай перабудовы ў Якуба Коласа і Янкі Купалы праходзіў асабліва ўскладнена.

Якуб Колас займае вялікае месца ў беларускай паэзіі.

Яго паэмы «Новая зямля» і «Сымон музыка», пры ўсіх іх ідэйных недахопах,—вялізны ўклад у беларускую літаратуру.

Надзвычайна добрае веданне жыцця старой вёскі, яе людзей, іх быту і звычаяў, пачуццё прыроды, любоў да палескага пейзажу, бездакорнае веданне сялянскай мовы, дазволілі таленавітаму паэту стварыць рад вялікіх эпічных паэм і белетрыстычных твораў. І яго паэмы і яго аповесці («У Палескай глушы» і інш.) для сёнешняга маладога чытача маюць значнае пазнавальнае значэнне.

Некалькі апошніх год Якуб Колас працуе над вялікай эпічнай паэмай «На шляхах волі», дзе месцамі выключна ярка, з мастацкай пераканальнасцю, паказвае казарменны быт царскай арміі, людзей мінулага часу, карціны імперыялістычнай вайны. Паэма ахоплівае два гістарычных перыяды часу: імперыялістычную вайну і ператварэнне імперыялістычнай вайны у вайну грамадзянскую. Над матэрыяламі другога перыяду аўтар працуе ў апошні час. Гэтая выдатная паэма, якую нецярпліва чакае наш чытач, мяркуючы з асобных раздзелаў, надрукаваных у часопісу «Полымя рэволюцыі», занадта расцягнута і гэта ўжо зараз вырысоўваецца як небяспека для паэта. Яна выражаецца ў залішняй колькасці дэталяў, якія заграма-

джаюць рух апавядання, разгортвання сюжэта і ў асобных раздзелах прыводзіць аўтара да элементаў натуралізма.

Асабліва за апошнія некалькі год (1933—1935 гг.) Якуб Колас пачаў актывізавацца, як паэт-публіцыст. Няма колькі-небудзь значнай падзеі ў краіне, на якую не адгукнуўся Якуб Колас вершамі. Вершы актуальнай палітычнай сілы ў Якуба Коласа заўсёды завостраныя, заклікаючыя да пільнасці, да творчай работы. Так, вершы, прысвечаныя героям Совецкага Саюза—бясстрашным пілотам, што выратавалі чэлюскінцаў, гучаць патрыятычна горда, упэўнена ў непахісную магутнасць краіны. Вершы пра фашыстаў, пра іх захопніцкія планы, вершы пра Заходнюю Беларусь сведчаць пра палітычную актывізацыю паэта, хоць не ўсе публіцыстычныя вершы Якуба Коласа мастацкі роўнацэнныя.

Амаль, як правіла, Якуб Колас заўсёды ў заключнай страфе вершу заклікае да абароны краіны, да аховы соцыялістычных граніц. Якуб Колас больш за другіх паэтаў прысвячае свае творы пытанням абароны краіны, і не толькі ў паэзіі. Яго аповесць «Дрыгва», аповесць пра беларускіх партызанаў, пра барацьбу з белапалякамі, стала папулярнейшай кнігай сярод чытачоў, больш папулярнай, чым усе іншыя яго, як белетрыстычныя, так і паэтычныя творы. У 1935 годзе Якуб Колас напісаў цыкл вершаў «Восенскае». У гэтым цыкле аўтар паказвае, галоўным чынам, кантрасты жыцця Беларусі, яе мінулае і цяперашняе. У гэтым цыкле аўтар гаворыць, галоўным чынам, пра жыццё калгаснікаў, пра калгасную вёску, паралельна ўспамінаючы жыццё беларускіх сялян да рэволюцыі. У 1931 годзе Якуб Колас напісаў цыкл вершаў «Калгаснае». Калі прачытаць цыкл вершаў «Калгаснае» і «Восенскае»—рэзка кінецца ў вочы паглыбленая распрацоўка совецкай тэматыкі ў вершах «Восенскае», рост светапогляду паэта.

Даць належны аналіз 30-гадовай паэтычнай творчасці Якуба Коласа ў гэтым дакладзе немагчыма. Мы кіраваліся толькі тым, каб паказаць, наколькі актыўна Якуб Колас уключыўся ў совецкую літаратуру, заваяваўшы ў ёй, як майстра мастацкага слова, адно з самых першых месц.

Творчы шлях Якуба Коласа складаны і многастайны. Як бы люта ні сіпелі нацыянал-фашысты за рубяжом, як-бы ні гаварылі яны, што, моў, Якуб Колас сваімі апошнімі творамі «здаў экзамен на большэвіка», мы радасна пацвярджаем: так, Якуб Колас—наш народны паэт, ён у першых радах беларускай совецкай мастацкай літаратуры, ён, як верны сын соцыялістычнай радзімы, лепшыя свае песні, свае шчырае слова аддае вялікаму класу—пераможцу, росквіту разумнага, соцыялістычнага жыцця.

Для гісторыка літаратуры ў творчасці Янкі Купалы 1934 і асабліва 1935 гг. набывае выключна вялікую цікавасць і значэнне. 1935 год у Янкі Купалы—гэта год асабліва плённай работы.

Пачатак актыўнага ўключэння ў совецкую тэматыку не быў вызвалены ад элементаў рытарычнасці і схематызму, ад агульнага апявання перамог краіны. У вершы «Прыдзе новы, а мудры гісторык»

(1931 г.) паэт аддае яшчэ даніну «бетаніраванню» і «ажалезванню» ў паэзіі:

Маладому свайму пакаленню
Ен апіша з палётам арлінымі,
Як бліскотна з бетону, камення,
З цэглы, з сталі, з жалеза, у праменнях
Тут за гмахам рос гмах на руінах.

У 1934 г. у вершы, прысвечаным першаму з'езду Саюза савецкіх пісьменнікаў «Трэба нам песень»—паэт ужо ставіць перад нашай паэзіяй і перад сабой задачу напісання такіх твораў, якія-б «і славу вякоў, пакаленняў мінулых, сваёй перамогай геройскай устрэслі». У вершы, прысвечаным Якубу Коласу, Янка Купала выразна заяўляе:

Як калісь спявалі
Аб горы, няволі,
Так спяваць не будзем
Болей ўжо ніколі.

І гэтую паэтычную заяву з поспехам, з мастацкім майстэрствам ажыццяўляе Янка Купала.

Кніга вершаў «Песні будаўніцтва», выданая ў 1935 годзе, яркі дакумент вялікага таленту паэта. Кніга пакідае ў памяці чытача цэльны вобраз чалавека нашага часу. Трапныя дэталі характару, дэталі ўзаемаадносін чалавека ў грамадстве, яго адданасць соцыялістычнай справе, аднатаваныя ў многіх вершах, ствараюць агульную гармонію, адзіны цэльны абагульнены вобраз.

Зусім без пераўвелічэння трэба адзначыць, што тая творчая энергія Янкі Купалы, якую праявіў ён у апошнія два гады, яго творчая актыўнасць можа і павінна паслужыць прыкладам для многіх маладых паэтаў. А гэтая творчая актывізацыя ўзнікла дзякуючы таму, што Янка Купала зразумеў, што пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна краіна ідзе да росквіту, што толькі ў Саюзе савецкіх рэспублік, пры дапамозе вялікага рускага пролетарыята, Беларусь становіцца ў рады перадавых рэспублік з высокаразвітай прамысловасцю, сельскай гаспадаркай і культурай, што толькі соцыялістычны шлях—адзіны шлях шчасця чалавецтва.

Што гэта менавіта так, што сапраўдная крыніца, якая жывіць творчасць Янкі Купалы—гэта яго любоў да соцыялістычнай радзімы, бліскуча пацвярджае верш «Сыны».

Сыноў бацька сваіх кліча
На нараду ў хату,
А ўрачыста, як-бы кліча
На якое свята.

І з павагаю пытае
Кожнага ў асобку,
Кім з іх кожны быці мае
Якім жыць заробкам.

Адказ сыноў, выдатных людзей краіны, насычан адданасцю справе партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва на заво-

дах, у калгасах, у Чырвонай арміі, на культурным фронце. Верш «Сыны»—гэта мастацкае абагульненне пачуццяў, імкненняў усяго савецкага народу. І верш «Лён» і верш «Хлопчык і лётчык», і верш «Дзве дзяўчыны»—гэта песні пра тыя новыя якасці чалавека, якія выкоўваюцца ў бязлітаснай класавай барацьбе, у барацьбе за трыўмф перамог соцыялістычнага ладу.

Калі ў першых совецкіх вершах Янкі Купалы былі значныя элементы голай публіцыстыкі, дык гэта ва многім. ужо не характэрна для наступных яго твораў. У кожным творы адчуваецца кавалак жыцця, няма агульных разважанняў, чуецца жывы голас, ясны вобраз чалавека, з выключнай цеплынёй і майстэрствам абрысаваны паэтам.

Апошнія творы Янкі Купалы і асабліва яго паэма «Над ракой Арэсай» гавораць, што паэт можа шырока ахапіць і выразіць чалавечыя пачуцці, гавораць аб прастаце выкладання. Рытміка народнай творчасці, глыбокая лірыка, песеннасць, яснасць мовы—тыя элементы, якія надаюць купалаўскаму вершу сілу мастацкага ўздзеяння і заваёўваюць любоў чытача.

Янка Купала вышаў з рамак нацыянальнай абмежаванасці. Яго вершы хвалююць не толькі чытачоў Совецкай Беларусі, але і чытачоў усяго Совецкага Саюза. І чым больш расце папулярнасць Янкі Купалы і Якуба Коласа сярод мільённых мас працоўных нашай соцыялістычнай радзімы, тым больш люта і нахабна паклёпнічаюць за граніцай нацыянал-фашысты. Кожнае буйнае творчае выступленне Купалы і Коласа выклікае там шалёны скрогат зубоў.

Гэта—перамога нашай партыі, перамога беларускай совецкай літаратуры,—гэта вялізная перамога нашых народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта перамога нашай партыі таму, што яна клапатліва, цярпліва перавыхоўвае людзей, уключае ўсю іх энергію, волю, сілу і таленты і страсці ў справу стварэння бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Нацыянал-фашысты ўжо друкавалі ў сваіх і ў польскіх фашысцкіх газетах некролагі памяці Янкі Купалы, пралівалі слёзы па «замучанаму у падвалах ЧК сыну беларускага народу». Але не ўдасца фашыстам усіх масцей ашукаць працоўных Заходняй Беларусі, яны надзвычай добра ведаюць, што Янка Купала жыве, жыве ў краіне росквіту, вясёлы і шчаслівы, што ён—на творчым уздыме. Хоць гэта і непрыемна беларускаму і польскаму панству, але ў Заходняй Беларусі Янку Купалу чытаюць і ведаюць, што:

Вялюе панская Варшава,
Ксяндзы частуюць сакрамэнтам;
Парадак дня—сягоння справа
Пра аб'яднанне інтэрвентаў.

Але і таксама надзвычай добра ведаюць вершы Янкі Купалы, дзе ён голасам соцыялістычнага народа заяўляе:

Інтэрвенцкім бандам
Не гуляці болей
На совецкім буйным
Нязмераным полі.

Мы ўстанавілі бясспрэчны факт, што беларуская савецкая паэзія на даным этапе знаходзіцца на асабліва вялізным творчым уздыме. Упарта перамагаючы цяжкасці росту, вызваляючыся ад спадчыны правінцыялізма, нацыянальнай абмежаванасці, захоўваючы сваю нацыянальную своеасаблівасць, беларуская паэзія расце і развіваецца ў адзіным магутным патоку з усёй усесаюзнай савецкай паэзіяй.

Беларускую савецкую паэзію родніць з паэзіяй другіх брацкіх народаў наш рэвалюцыйны аптымізм, народжаны ў практыцы рэвалюцыйнай барацьбы, народжаны перамогамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Беларускую савецкую паэзію родніць з паэзіяй другіх брацкіх народаў наша страсная любоў да роднай вялікай соцыялістычнай радзімы, якой прысвечана нашае жыццё, яднае нас нашая гатоўнасць да абароны яе броніраваных граніц.

Беларускую савецкую паэзію родніць з паэзіяй другіх брацкіх народаў наша бязмежная любоў да лепшага сына чалавецтва, правадыра народаў—нашага роднага Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

Нашу дружбу, нашае адзінства, нашую любоў да правадыра выразіў яркай страфой Янка Купала:

Мы ідзем у сонцы з сонцам
 Маладым паходам.
Слава бацькаўшчыне нашай
 І яе народам.
Слава сокалу, што родам
 З-пад каўказскіх скалаў.
Што з Крэмля праменні сее
 З юнацкім запалам.

Цікавы працэс адбываецца з жанрамі паэтычнай творчасці. Савецкая паэзія распрацоўвае пераважна два асноўных віды паэтычнай творчасці. Асаблівую ўвагу паэтаў прыкоўвае эпас. Імкненне стварыць эпічны твор, выразіць ідэю твора праз сістэму персанажных вобразаў, характараў мы назіраем у Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Куляшова, яўрэйскіх паэтаў Ізі Харыка і Кульбака. Але эпосу, ізаляванага ад іншых жанраў, эпосу ў чыстым выглядзе, калі можна так сказаць, мы ў нашай паэзіі не сустракаем. Адбываецца цікавы працэс перакрыжоўвання лірыкі і эпосу. У эпічныя творы ўключаецца лірыка, укропліваецца лірычнае адступленне ад імя аўтара, лірычныя адхіленні ўносяць героі твору. І адваротнае: у лірычных вершах выкарыстоўваецца тон і манеры эпічнага пісьма.

Некаторыя паэты, працуючы раней у галіне публіцыстычнай паэзіі, скаціліся да эстэтычных зарысовак сваіх інтымных пачуццяў, не маючых грамадскай каштоўнасці, да зарысовак пейзажа, да пераліву фарбаў,—і гэтае сваё «лірычнае» адхіленне матывуюць тым, што жанр публіцыстычнай лірыкі, лірыкі вялізнай страснасці і палітычнай насычанасці ўжо страціў сілу сваёй дзейнасці.

Часткова гэтыя няправільныя настроі ідуць ад няўдала кінутай

Н. І. Бухарыным на Ўсесаюзным з'ездзе пісьменнікаў фразы, што: «час агітак ужо мінуў», часткова проста ад таго, што гэтыя паэты не разумеюць усёй гістарычнай соцыяльнай значнасці падзей, якія адбываюцца ў краіне.

Адкрыта сказаў В. Шклоўскі ў сваёй кнізе «Поиски оптимизма», што: «мне лягчэй апісаць стары горад Бярозаўку і яго рынак, чым трэцюю канферэнцыю калгасніц». Вузкасць светапогляду ў некаторых пісьменнікаў не дазваляе ім зразумець усе тыя працэсы, якія адбываюцца сёння ў краіне.

Тут вельмі да рэчы будзе ўспомніць творчы шлях «лепшага таленавіцейшага паэта совецкай эпохі», як сказаў таварыш Сталін, шлях Владзіміра Маякоўскага. Яго паэтычная практыка з'яўляецца залатым фондам усесаюзнай совецкай паэзіі.

Наша жыццё, гістарычны стаханаўскі рух, дні сусветных рэкордаў, ды па сутнасці штодзённае нараджэнне падзей, якія набываюць міжнароднае значэнне, гавораць аб неабходнасці смелага далейшага развіцця публіцыстычнай лірыкі, трыбунна-аратарскага голасу, які клікаў-бы да барацьбы за новыя перамогі.

Бліскуча сказаў Маякоўскі:

Капитализм
не изящное слово.
Куда изящней звучит—
„Соловей".
Но я возвращусь к нему
снова и снова.
Строку агитаторским лозунгом взвей.
Я буду писать
и про то
и про это,
Но нынче
не время
любовных ляс,
Я всю свою
звонкую силу поэта
Тебе отдаю
атакующий класс.

Тыя беларускія паэты, якія вывучалі і вывучаюць літаратурную спадчыну В. Маякоўскага, выяўляюць вялікі свой творчы рост, вялікую эмацыянальную сілу свайго голаса. Тая нязначная група, якая знаходзілася пад уплывам Сергея Есеніна, перапяваючы яго на свой лад, скацілася ў нацыяналістычнае балота.

У барацьбе за сапраўдную нашу паэзію мы значынна мала выкарыстоўваем фальклор. Буйнейшыя майстры сусветнай паэзіі умела і шырока выкарыстоўвалі скарбніцу народнай творчасці. У радзе лепшых твораў паэтаў нашага часу стаяць імена тыя творы, дзе выкарыстоўваецца фальклор. Успомніце «Двенадцать», А. Блока, успомніце мноства твораў Маякоўскага—хіба там няма найярчэйшых элементаў фальклору!

Успомніце вершы Дзем'яна Беднага, А. Безыменскага—яго паэму «Трагедыйная ноч», паэму Кірсанава «Золушка», вершы Пракоф'ева, Карнілава, песні Суркова, Галоднага і інш.

Ва украінскай паэзіі шырока і з поспехам выкарыстоўвае фаль-

клор Паўло Тычына, Л. Первомайскі ў яго вершах аб грамадзянскай вайне. У яўрэйскай паэзіі—Ізі Харык, якому асабліва таленавіта ўдалося выкарыстаць фальклор у вялікай эпічнай паэме «На чужым піры», і Феферу—у паэмах «Пласты» і «Вялікія граніцы».

У беларускай паэзіі з выключным майстэрствам, з вялізным пачуццём усяе многастайнасці народнай творчасці, выкарыстоўваюць фальклор Янка Купала, Якуб Колас.

Крыніцамі народнай творчасці карыстаюцца ў сваіх творах Глебка, Куляшоў, Броўка і інш.

Часта некаторыя паэты, у сувязі з вострай пастаноўкай пытання аб неабходнасці выкарыстання фальклора, становяцца на няправільны шлях. Часта гэтыя паэты займаюцца стылізацыяй, як самамэтай, ізалявана ад ідэйнай накіраванасці твора, не ўключаючы асобныя элементы фальклора ў агульны комплекс мастацкіх сродкаў.

Некаторыя крытыкі спрабуюць даказваць, што фальклор нельга выкарыстоўваць у публіцыстычнай лірыцы, у гэтым апаратыўным жанры паэтычнага мастацтва. Іх разважанні разбіты творчай практыкай паэтаў. Мы маглі-б прывесці прыклады, калі паэты, вырашаючы палітычна актуальную тэматыку, выкарыстоўваюць фальклор, калі голас уздзеяння паэта на чытача, мастацкая сіла твору значна павялічваюцца.

Распрацоўваючы фальклор, мы заўсёды павінны помніць, што ў народнай творчасці ёсць дэмакратычныя і кулацкія элементы. Кулацкімі элементамі фальклора карысталіся ў сваёй творчасці Сергей Есенін, Клюеў, у Беларусі—паэты-нацыяналісты.

У сувязі з пастаноўкай пытання аб фальклоры, для беларускай паэзіі і наогул для ўсёй беларускай літаратуры паўстае праблема мовы.

Перад беларускім пісьменнікам стаіць дадатковая цяжкая, але ганаровая задача. Ствараючы твор зусім новы па сваіх ідэйных якасцях і мастацкіх сродках, беларускаму пісьменніку, працуючаму у маладой літаратуры, адначасова прыходзіцца быць удзельнікам стварэння літаратурнай мовы.

Гэтая дадатковая—цяжкая, адказная справа. Толькі пасля Кастрычніцкай рэволюцыі мы атрымалі поўную магчымасць і ўмовы разгортвання барацьбы за літаратурную мову, а якасць літаратурнай мовы непасрэдна звязана з якасцю мастацкага твору. Пра гэта шмат пісаў А. М. Горкі ў сваіх артыкулах пра мову.

На ўчастку барацьбы за культуру мовы, за правільныя шляхі беларускай літаратурнай мовы адбываецца жорсткая класавая барацьба.

Буржуазныя нацыяналісты глядзелі на моўны фронт, як на вельмі важны аб'ект сваёй шкодніцкай дзейнасці. Яны імкнуліся затрымаць развіццё беларускай літаратурнай мовы, прапагандавалі «тэорыі» самабытнага шляху развіцця мовы, «тэорыі» з яснай антысавецкай сутнасцю. Нацыяналісты ўводзілі ў сучасную беларускую мову архаізмы з розных сярэдневечных дакументаў, змагаючыся за адрыў літаратурнай мовы ад мовы пролетарыята, працоўнага сялянства, рашуча выганялі з мовы элементы інтэрнацыяналізма, змагаліся супроць слоў, народжаных пролетарскай рэволюцыяй, супроць

слоў, аднародных з рускай мовай. Яны пашыралі анкеты па збору прыкладаў жывой беларускай мовы і ў спецыяльнай інструкцыі давалі дырэктывы пры запісах слоў арыентавацца на мову старых нябісьменных бабулек і на мову дзяцей, якія яшчэ не вучацца ў нашых совецкіх школах.

Нацыяналісты замест агульна-прынятых слоў, якія з'яўляюцца інтэрнацыянальнымі, спрабавалі ўводзіць словы невядомыя і непатрэбныя беларусу. Некалькі прыкладаў: біржа перакладалася—гелда; балаціроўка—лёсы; суфлёр—падказнік; поршань—саўгач; дамкрат—паднімач.

З асаблівай нянавісцю нацыяналісты адносіліся да словаў, у якіх ярка выражана класавая сутнасць. Напрыклад, слова буржуазія перакладаецца—мяшчане; пролетарыят—бядота, убоства, бясхатнік, бабыль; бядняк—галыш, худак, злыдзень; сялянства—мужыкі, хамы, халопы; велікарос—маскаль, кацап, кацапюга. Гэтая контррэволюцыйная «моўная» работа праводзілася пісьменнікамі—нацыяналістамі ў мастацкай літаратуры.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі мы правялі вялізную работу па ачыстцы мовы. Але сляды гэтай варожай нам слоўнікавай палітыкі адчуваюцца часам і зараз у творах некаторых паэтаў. У прыватнасці асабліва моцны ўплыў нацыяналістычны моўнай сістэмы на лірыцы Ул. Хадыкі. І калі чытаеш яго:

Што мокла ў макроце адлець
На гліцах правеена жвавых

і іншыя падобныя славечкі, дык успамінаюцца словы А. Талстога з яго даклада пра драматургію на з'ездзе пісьменнікаў:

> «Я спрабаваў заводзіць запісныя кніжкі і падслухоўваць «славечкі». Але калі я ўклейваў іх пасля ў тканіну апавядання, атрымлівалася тое, калі-б мастак прыклеіў да партрэта нос, адрэзаны ў нябожчыка».

За адзіную высокай якасці літаратурную мову супроць хутаранскай цвілі, супроць механічнага ўключэння дыялектаў, без суровага адбору—пад знакам гэтага павінна праходзіць уся барацьба за культуру мовы. Трэба не забывацца, што мова для нас не з'яўляецца самамэтай, што мова—гэта толькі сродак барацьбы за ажыццяўленне тых задач, якія ставіць праграма партыі, якія акрэслены ў работах Леніна і Сталіна.

Мова ўзбагачаецца.

Новыя паняцці, новыя тэрміны і словы аднолькава ўліваюцца ў скарбніцу моваў усіх народаў СССР і гэта з'яўляецца найлепшым узорам перамог пролетарскага інтэрнацыяналізма, пад сцягам якога павінна развівацца барацьба за культуру мовы, пад сцягам якога да канца будуць знішчаны рамкі нацыянальнай абмежаванасці.

У гэтай справе вялізную ролю набываюць узаемныя пераклады мастацкай літаратуры. Я не гавару пра другое вялізнае палітычнае і культурнае іх значэнне.

Для беларускіх паэтаў вялікае значэнне мела работа над стварэннем «Анталогіі рускай совецкай паэзіі». Гэтая кніга з'яўляецца буй-

нейшым укладам у беларускую культуру і фактарам адзінства паэтаў народаў СССР.

Даць выключна станоўчую ацэнку якасці перакладаў гэтай цікавай кнігі нельга. Не ўсе пераклады аднолькава роўныя, але бясспрэчна тое, што ў беларускай літаратуры «Анталогія» адыграе вялікую ролю.

Работа над аўладаннем класічнай спадчынай сусветнай паэзії з'яўляецца першачарговай задачай нашых паэтаў.

Мы вучыліся і будзем вучыцца на творчасці генія рускай літаратуры А. С. Пушкіна. Бліжэйшая наша задача—даць высока-мастацкі пераклад яго магутных твораў.

У перыядычным друку ў нас змяшчаліся ў перакладзе на беларускую мову творы амаль усіх лепшых рускіх паэтаў—Асеева, Ціханава, Светлова, Галоднага, Лугаўскога, Пракоф'ева, Безыменскага і інш.; украінскіх паэтаў—Тычыны, Рыльскага, Первамайскага; яўрэйскіх паэтаў—Харыка, Аксельрода, Кульбака, Фефера, Маркіша. Асабліва блізкая сувязь у нас існуе з таварышамі грузінскімі паэтамі.

Значна павялічылася колькасць перакладаў з беларускай мовы на мовы іншых народаў і галоўным чынам на рускую мову. Калі раней стаяла пытанне аб колькасці перакладаў, бо іх было зусім мала, дык зараз вузкае месца—праблема якасці. Час не дазваляе ілюстраваць прыкладамі рад перакладаў, якія па сутнасці з'яўляюцца актамі кампраметацыі паэта, якога перакладаюць. Пашчасціла, вядома, грузінскім таварышам, за пераклады якіх узяліся такія майстры слова, як Нікалай Ціханаў і Барыс Пастэрнак. Вылучаюцца сваёй якасцю пераклады з беларускай мовы, зробленыя М. Галодным, М. Светловым, О. Колычавым, П. Антакольскім і М. Ісакоўскім.

Апошняе, на чым я хачу спыніцца, гэта—нашыя кадры. Як ніколі, у літаратуру, у сувязі з агульным культурным ростам краіны ўліваецца вялізны паток моладзі. Літаратурны маладняк ідзе да нас сямімільнымі крокамі. Але маладыя не заўсёды адчуваюць у нас належную цеплыню. Работа па літаратурнай вучобе з маладымі ў нас правільна не наладжана. Казённа бюракратычны стыль у гэтай важнейшай рабоце бясспрэчна дае згубны вынік. Шмат у чым гэтай справе шкодзяць некаторыя дасужыя крытыкі. З'явіцца адзін удалы верш пачынаючага паэта—яны захваляць яго, узнясуць да нябёс, і гэтай сваёй «услугай» губяць дараванне. Галава ў маладога закруціцца, ён закіне вучобу.

У беларускую паэзію ідуць, звяртаючы на сябе ўвагу сваім дараваннем маладыя паэты Седнёў, Алексеенка, Нехай, Бурдзель, Калачынскі і інш.

Буйна квітнеюць маладыя парасткі беларускай паэзіі. З кожным годам усё званчэй і мацней гучаць галасы песняроў беларускага народу. Гэтыя галасы ўліваюцца ў магутны хор усесаюзнай соцыялістычнай літаратуры.

Беларускія савецкія паэты шчаслівыя тым, што яны жывуць у найпрыгажэйшай краіне соцыялізма, што пра іх клапоціцца партыя большэвікоў Беларусі на чале з Н. Ф. Гікало. Адна ў іх задача жыцця—стаць творцамі, вартымі эпохі вялікага Сталіна.

*А. Тагіраў*

# ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ БАШКІРСКАЙ СОВЕЦКАЙ ПАЭЗІІ

Да вялікай пролетарскай рэволюцыі працоўнае насельніцтва Башкірыі знаходзілася пад двайным гнётам—сваіх феадалаў і рускіх капіталістаў—каланізатараў. Зараз, гэтая раней выміраўшая калонія царызма пры дапамозе рускага пролетарыята ператварылася ў перадавую ордэнаносную рэспубліку, і працоўным Башкірыі назаўсёды забяспечана заможнае, культурнае, радаснае, поўнае прыгожасці жыццё.

Башкірскі народ не маючы да рэволюцыі сваёй пісьменнасці, стварыў багаты народны эпас. Народны фальклор—гэта адзіная літаратурная спадчына, атрыманая Совецкай Башкірыяй. Бо адзінкавыя дарэволюцыйныя пісьменнікі—башкіры—пісалі на татарскай мове.

Башкірская літаратурная мова і літаратура—узрошчаны Кастрычніцкай рэволюцыяй.

На шляху стварэння башкірскай нацыянальнай літаратурнай мовы і мастацкай літаратуры стаялі значныя ідэйныя цяжкасці: трэба было разбіць класава-варожыя тэорыі і ідэйкі.

Галоўным ідэйным ворагам соцыялістычнай літаратуры Башкірыі быў башкірскі буржуазны нацыяналізм—панцюркізм, правадніком якога была нацыяналістычная контррэволюцыйная літаратурная арганізацыя «Тулкун», створаная ў 1918 г. Шайхезады Бабіч. «Тулкун» з'яўляўся па сутнасці агітацыйным апаратам валідаўскай нацыяналістычнай панцюркісцкай белагвардзейшчыны. Раздаўленая пераможным ходам Кастрычніка, яна зноў адрадзілася, змяніўшы толькі знадворны воблік, у 1921 г. пад назваю «Кызыл—Калям» («Чырвонае пяро»).

Башкірскі абласны камітэт комуністычнай партыі большэвікоў своечасова ўскрыў контррэволюцыйную сутнасць гэтых арганізацый. У пытанні аб шляхах развіцця башкірскай літаратурнай мовы і мастацкай літаратуры башкірскія нацыяналісты—панцюркісты прапагандавалі ідэю адрыву ад уплыву партыі і пролетарыята. Башкірскі буржуазны нацыяналіст Сагід Мірасаў у 1928 г. у артыкуле «Узнікненне і развіццё башкірскай літаратуры» сцвярджаў, што башкірская народная паэзія—«надкласавая», яна «самабытна» і захавалася ў «чыстым і кявінным» відзе. Па думцы Мірасава пісьменнікі павінны кінуцца ў абдымкі народнае творчасці, «яны павінны вучыцца народнай паэзіі» і не паддавацца ўплыву рускіх і татарскіх паэтаў.

Кінуўшы ідэалізацыю горада і гарадской культуры «башкірскія паэты павінны вывучыць і ўспрымаць толькі вясковую паэзію».

Калі партыя ўскрыла контррэвалюцыйную сутнасць тэарэтычных махінацый Мірасава і разграміла нацыяналістаў-панцюркістаў, выхаванцы гэтай арганізацыі Гайнан Хайры, Батыр Валідаў і яшчэ некалькі бяздарных пісьменнікаў нацыяналістаў у 1928—29 г. г. арганізаваліся ў контррэвалюцыйную літаратурную арганізацыю «Усю».

Гэтыя паэты адлюстроўвалі ў сваіх творах унутраную пустэчу і нікчэмнасць выраджаючайся нацыяналістычнай інтэлігенцыі.

У 1930 г. узнікае яшчэ адна падпольная літаратурная контррэвалюцыйная нацыяналістычная арганізацыя «Жыдэган».

Контррэвалюцыйная сутнасць усіх гэтых арганізацый была своечасова выкрыта і разаблачана партыйнымі арганізацыямі Башкірыі.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. і першы з'езд савецкіх пісьменнікаў адчынілі новы этап у развіцці савецкай літаратуры Башкірыі. За гэтыя гады выраслі сапраўдныя савецкія кадры башкірскай літаратуры: Булат Іншэмгулаў, Губай Даўлетшын, Даут Юлтый, Янабі, Афзал Тагіраў, Імай Насыры, Сайфі Кудаш, Гарыф Гумераў і цэлы шэраг маладых пісьменнікаў: Селям Хай, Марат, Амірі, Хасан Башар, Міфтахаў, Ідрысон, Акрам Ралееў, Амантай, Нігмаці, Таджэ і інш. Безупынна расце лік літаратурных гурткоў, на прадпрыемствах, соўгасах і калгасах лік членаў у іх зараз дасягае 1268 чал. Штогод павялічваецца і лістаж і тыраж выданняў твораў пісьменнікаў Башкірыі. Значнае месца ў башкірскай мастацкай літаратуры займае тэма: «Кастрычнік», «Масква», «Ленін», «Сталін», «Партыя».

Жыць стала лепш, таварышы, жыць стала весялей—гэтыя вялікія словы правадыра таварыша Сталіна асабліва адносяцца да раней прыгнечаных башкірскіх працоўных, зараз раўнапраўных заможных рабочых і калгаснікаў. Таму башкірскі народ складае песні ў гонар вялікіх людзей нашай эпохі—Леніна і Сталіна, пад чыім геніяльным вадзіцельствам ён прышоў да заможнага культурнага жыцця.

Лепшыя творы рускіх класікаў і пісьменнікаў брацкіх рэспублік перакладзены з рускай на башкірскую мову.

У першыя гады ўзнікнення башкірскай савецкай мастацкай літаратуры ў ёй пераважала паэзія. Зараз мы з'яўляемся сведкамі развіцця розных жанраў літаратуры: прозы, драматургіі, нарысаў і фельетонаў. Растуць кадры пісьменнікаў—празаікаў: Афзал Тагіраў, Даут Юлтый, Г. Даўлетшын, Х. Даўлетшына, Б. Хасанаў, Карнай, Імам Насыры і рад маладых празаікаў. Асноўная тэма сучаснай башкірскай прозы—барацьба за новага чалавека, які нараджаецца ў працэсе соцыялістычнай працы, у працэсе соцыялістычнага будаўніцтва, паказ новых людзей на новай савецкай зямлі. Башкірская проза прасякнута пролетарскім інтэрнацыяналізмам.

Значнае месца сярод башкірскіх празаікаў займае Губай Даўлетшын, які ў дасканаласці ведае народную мову і выкарыстоўвае народныя пагаворкі і прыказкі. Губай Даўлетшын—бытапісацель, ён

напісаў шэраг апавяданняў і аповесцей і ў сучасны момант працуе над вялікім раманам «Комуна».

Башкірскі паэт і драматург Даут Юлтый за апошнія гады напісаў шэраг апавяданняў і раман «Кроў». У рамане Юлтый апісвае фронт і быт дарэволюцыйнай арміі.

Спакойна без мітынгоўшчыны падводзіць аўтар чытача да ідэі сваёй кнігі, паказваючы як радавыя рознанацыянальныя малаграматныя салдаты прыходзяць да думкі—павярнуць зброю супроць зачыншчыкаў вайны.

Імам Насырый, татарскі пісьменнік, які пачаў сваю дзейнасць у гады грамадзянскай вайны з агітацыйных вершаў, у 1926 г. напісаў вялікае апавяданне «Жывым у магіле», а ў 1927 г. вышла яго аповесць «Гюлдар», якая паказвае дарэволюцыйнае жыццё горцаў.

У тым-жа годзе вышаў першы буйны твор Насыры, які распрацоўвае вытворчую тэматыку «Сібай». У 1934 г. Насыры напісаў аповесць «Кудэй»—пра грамадзянскую вайну. У сучасны момант ён піша раман пра пераробку людзей рэволюцыяй—«Рэка пераможана».

Іван Нядолін рускі празаік Башкірыі пачаўшы з невялікіх апавяданняў і нарысаў у 1932 г. выдаў кнігу «Рэйд Блюхера»—шэраг нарысаў пра баявыя дні партызанскай арміі Блюхера. У 1934 г. вышла другая кніга Івана Нядоліна—«Першавал»—пра грамадзянскую вайну на Урале.

У гады першай і другой пяцігодак у башкірскую літаратуру прыйшлі маладыя пісьменнікі—Башар Хасанаў, Даўлетшына Х., Карнай і інш. Пачаўшы з невялікіх і нязначных твораў Б. Хасанаў напісаў апавяданне «Агні ў полі» пра партызанскі рух, у якім паказаў свой творчы рост.

Хадзія Даўлетшына—адзіная пісьменніца-башкірка апісвае ў сваіх апавяданнях жыццё прыгнечанай да рэволюцыі башкірскай жанчыны. У яе апавяданні «Айбіке» ўдала выкарыстан фальклор і ярка паданы дэталі быта. Даўлетшына ў апошні час напісала «Хырга Хабаты» і іншыя апавяданні.

Пасля апавяданняў з соўгаснага жыцця А. Карнай у 1935 г. выпусціў нарыс «Ішымбай», у якім ён расказвае аб тым, як у глухім стэпу намаганнямі башкірскага пролетарыята створан нафтапромысел. У гэтым нарысе маляўніча паказан рост новых людзей, новых соцыяльных адносін.

Х. Мухтараў прышоў у літаратуру з паліграфічных рабочых. Пасля шэрагу вершаў і апавяданняў Мухтараў напісаў апавяданне для дзяцей сярэдняга і старэйшага ўзросту пад назвай «Перад бурай». Гэты твор з'явіўся каштоўным укладам у бедную дзіцячымі кнігамі башкірскую літаратуру.

Значнае месца ў башкірскай савецкай мастацкай літаратуры займае паэзія. На развіццё паэзіі Башкірыі зрабілі велізарны ўплыў рускія савецкія паэты: Маякоўскі, Бедны, Багрыцкі, А. Пракоф'еў, Светлоў, Суркоў, Уткін, Безыменскі, Лугаўской, Гусеў, і татарскія паэты: Тукаеў, Хады Такташ, Мазіт Гафуры і інш.

Вядучымі паэтамі Башкірыі з'яўляюцца Булат Ішэмгулаў, Д. Юлтый, Янабі, татарскі паэт Мазіт Гафуры.

Булат Ішэмгулаў перш чым выйсці на вялікую дарогу савецкай літаратуры прайшоў складаны звілісты творчы шлях. Вялікі груз дробна-буржуазных рэлігійных перажыткаў спачатку ўплываў на яго творчасць. Сам Ішэмгулаў кажа пра свае першыя вершы, выданыя ў 1917 г. «Першы перыяд майго жыцця прывёў на край магілы семнаццацігадовага паэта, стварыўшага такі верш, як «Гумер Ірлынды» («На шляхох жыцця»), які з'яўляецца найвышэйшай ступенню песімізма і ўпадніцтва».

Кастрычнік прынёс Ішэмгулаву жыццё. Грамадзянская вайна, у якой ён удзельнічаў, выхавала і ўзрасціла Ішэмгулава, і ён у 1919 г. уступае ў члены большэвіцкай партыі. Новы Ішэмгулаў фарміраваўся, рос у барацьбе з мінулым Ішэмгулавым.

Найбольш спелыя творы Ішэмгулава, як у ідэалагічных, так і ў мастацкіх адносінах створаны ім пачынаючы з 1925 г. Вершы «Наш шлях», «Ленін» і апавяданне «Дэлегатка» паказваюць, што Ішэмгулаў канчаткова парывае з дробна-буржуазным рамантызмам у літаратуры.

Апошнія творы Ішэмгулава «Злодзей», «Шляхі», паэмы «Даут», «Аухылу» і інш. сведчаць аб яго барацьбе за авалоданне метадам соцыялістычнага рэалізма. На гэтым шляху Булату Ішэмгулаву давядзецца шмат папрацаваць над сабою.

Даут Юлтый—старэйшы башкірскі паэт. Актыўны ўдзел паэта на баку Чырвонай арміі ў час грамадзянскай вайны дапамог творчасці паэта вызваліцца ад уплыву буржуазнай татарскай літаратуры. Іменна тады паэтычны голас пісьменніка стаў больш выразным і сугучан новаму жыццю, зразумелы масам. Юлтый усхваляе цяпер у сваіх вершах нашу вялікую соцыялістычную будоўлю.

Тухват Янабі—адзін з лепшых таленавітых паэтаў Савецкай Башкірыі, пачаў сваю літаратурную дзейнасць з 1917 г. Тэматыка яго вершаў—жыццё і быт працоўных Башкірыі. У сучасны момант Янабі піша вялікую паэму «Ордэн», у якой супроцьставіць «геройства» феадальна-буржуазнага грамадства сапраўдным геройствам і аддацасці пролетарскай радзіме. Янабі шмат зрабіў не толькі для башкірскай літаратуры, але і для афармлення і развіцця башкірскай літаратурнай мовы, ў якасці рэдактара абласной газеты «Башкурстан».

Шмат чым абавязана савецкая паэзія Башкірыі пакойнаму народнаму паэту БАССР Мазіт Гафуры, на творах якога выхоўвалася шмат маладых паэтаў Башкірыі.

З першых-жа дзён вялікага Кастрычніка да апошняй хвіліны свайго цудоўнага жыцця ён быў песняром героікі соцыялістычнага будаўніцтва. Свае найбольш моцныя і мастацкія вершы Мазіт прысвячае любімай ім Чырвонай арміі.

Па паэме «Яшчэ» аднаму з буйнейшых твораў М. Гафуры напісана опера для татарскай сцэны.

Паэт Сайфі Кудашоў пачаў сваю творчую дзейнасць да рэволюцыі. У 1930 г. Сайфі Кудашоў быў звязан з контррэволюцыйнай

арганізацыяй «Жыдэган» і быў за гэта асуджан. Але ў выніку ўважлівага падыходу і клопатаў аб гэтым паэце з боку кіруючых партыйных арганізацый Башкірыі, ён хутка звярнуўся ў совецкую літаратуру. У апошнія два-тры гады ён напісаў раман у вершах «Куш-Камен», ў якім дан мастацкі паказ барацьбы партыі за ўмацаванне калгасаў.

Гарыф Гумераў—паэт-агітатар-юмарыст вырас на рабоце ў большэвіцкім друку. У апошнія гады Гарыф Гумераў пісаў таксама для дзяцей. Яго апошнія буйныя творы—«Ішымбай», прысвечаны Ішымбаеўскім нафтапромыслам і «Палёты»—пра нашых герояў лётнікаў.

Паэт А. Амантай пачаўшы сваю літаратурную работу ў 1921 г. з'яўляецца выхаванцам комсамола. Яго зборнік вершаў «Вясковыя хлопцы» прысвечан вясковаму комсамолу. У апошнія гады ён піша для дашкольнага ўзросту.

## ПРА ТВОРЧАСЦЬ МАЛАДЫХ ПАЭТАЎ

За гады першай і другой пяцігодак у літаратуру Башкірыі ўліўся атрад маладых паэтаў: Кулібай, Марат, Хай, Салям, Таджы, Нагмаці, Бікбай, А. Валі, Кунакбай і інш.

У першых творах маладых паэтаў пераважаюць індустрыяльныя матывы, усхваляюцца машыны, вугаль, метал і нафта. Параўнанні і эпітэты бяруцца выключна з галіны тэхнікі. Гэта мела пэўнае апраўданне ў гады першай пяцігодкі, калі нацыяналістычныя паэты накшталт Хадыбулы, Габітава ў сваіх творах змагаліся супроць палітыкі індустрыялізацыі краіны, параўноўваючы шахты з магіламі, а рабочых, якія працуюць там, з рабамі.

Пасля першага з'езда саюза совецкіх пісьменнікаў пад уплывам артыкулаў і прамоў вялікага пролетарскага пісьменніка А. М. Горкага, маладыя башкірскія паэты павярнуліся тварам да жывога чалавека—героя соцыялістычнай будоўлі.

Малады комсамольскі паэт М. Марат у вершах, прысвечаных поспехам пяцігодак, параўнальна глыбока раскрывае рэчаіснасць гераічнай будоўлі.

Вялікую паэму на тэму пра перамаганне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей напісаў М. Хай. Ім жа напісана «Песня пра Сталіна», у якой ён шырока выкарыстоўвае фальклорны матэрыял. Гэтая ода Сталіну з'яўляецца новым жанрам ў башкірскай паэзіі.

З маладых паэтаў асабліва вызначаецца паэт Г. Салем, яго апошні зборнік, які вышаў у 1934 г. «Пасля трывогі» ўжо не мае той напышчанасці, якая была яму ўласціва раней. Найбольш глыбокім творам гэтага зборніка з'яўляецца верш пра начальніка палітаддзела.

Паэт М. Таджыеў у сваіх апошніх вершах у адрозненне ад неахайнасці і туманнасці мовы першых яго твораў, кожнае слова прадумвае і ўзважвае. Тэмы твораў Таджыева—родны яму Урал.

Малады паэт Рашыт Нігмаці зараз парваў з есеніншчынай, якая

рабіла на яго вялікі ўплыў. Тут адчулася выхаваўчае ўздзейнічанне ОЧДВА, у шэрагах якой ён у апошні час знаходзіўся.

Недастатковая пісьменнасць, адсутнічанне мастацкага майстэрства і культуры ўсё яшчэ характарызуюць шмат якія творы маладых паэтаў Башкірыі. Толькі ў апошні час паэты Башкірыі ад знадворнага павярхоўнага апісальніцтва пераходзяць да жывых людзей, герояў соцыялістычнага будаўніцтва.

## ДРАМАТУРГІЯ

Башкірская совецкая сцэнічная культура зарадзілася толькі пасля Кастрычніка ў агні грамадзянскай вайны. У сучасны момант акрамя значнай колькасці п'ес башкірскіх аўтароў у рэпертуары башкірскага тэатра—перакладныя рускія, украінскія, беларускія п'есы.

З класічных твораў перакладзены «Отэло», «Овечий источник», «Ревизор», «Без вины виноватые», «Коварство и любовь», «Доходное место», «Гроза» і «Разбойники».

Адно з важнейшых месц у стварэнні башкірскага тэатра яго совецкага рэпертуара прыналежыць Даўту Юлтыю. Ім напісаны п'есы: «Салават», «Аралбей» і «Карагул»—гістарычная драма з эпохі вызваленчага руху Башкірыі. Апошняе з'яўляецца аднэй з лепшых п'ес рэпертуара башкірскага дзяржаўнага тэатра. З маладых дрматургаў неабходна перш за усё адзначыць С. Міфтафава, які даў тры п'есы «У краіне папоў», «Сакмарэ» і «Зімагоры».

За Міфтафавым ідзе Ідрысаў, аўтар удалай п'есы «Песні вясны» на калгасную тэму, Агішаў аўтар п'есы «Хлеб» і «Ідуць да вясны».

У башкірскай драматургіі пераважнае месца займаюць творы тыпу гістарычнай хронікі. У іх шмат эпізодаў, карцін, шмат дзейнічаючых асоб, шмат падзей. У сучасны момант вядзецца работа па стварэнню музыкальных драм і башкірскага музыкальнага тэатра, з выкарыстаннем багатай башкірскай народнай літаратуры.

У Башкірыі створана 15 калгасных тэатраў, але драматургічных твораў для калгасна-соўгасных тэатраў мала.

## ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА

З башкірскіх пісьменнікаў для дзяцей напісалі і пішуць кнігі Юлтый, Тагіраў, М. Гафуры, Г. Амантай, Г. Гумераў, Сагід Агішаў, Даянаў, Габзялілаў, Шаградзінаў, Г. Юсупаў, Г. Аміраў і інш.

Твор Д. Юлтый «Маленькі кутуш» на тэму пра падпольную барацьбу рабочых і ўдзелу ў ёй дзяцей з'яўляецца адной з любімейшых у Башкірыі дзіцячых кніг. За апошнія два гады дзеці атрымалі значную перакладную літаратуру, як з класікаў, так з сучаснай рускай літаратуры.

На башкірскай мове выданы рускія рэволюцыйныя песні.

Па лістажу і назвам перакладной дзіцячай літаратуры на башкірскай мове больш, чым арыгінальнай. Гэта лішняе пацверджанне

адставання башкірскай дзіцячай літаратуры. Мы яшчэ не сумелі выгадаваць кадры дзіцячых пісьменнікаў.

Для дзяцей напісаны толькі дзве п'есы і мы яшчэ зусім незадаволілі запросы дзяцей на юмарыстычную літаратуру. Адсутнічае таксама арыгінальная дзіцячая навукова-папулярная літаратура.

## ЛІТАРАТУРА МАРЫЙЦАЎ І ЧУВАШОЎ

Башкірская Аўтаномная Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка—шматнацыянальная рэспубліка. Таму ў склад совецкай мастацкай літаратуры Башкірыі ўваходзіць не толькі башкірская літаратура, але і літаратура татар, рускіх, марыйцаў і чувашоў.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі марыйцы і чувашы Башкірыі не маглі і марыць пра мастацкую літаратуру на роднай мове. У сучасны момант мы маем па Башкірыі дзесяткі марыйскіх літаратурных гурткоў.

У 1934 г. выдадзен першы альманах «Калгас Іук» («Голас калгасніка»), у якім надрукаваны творы пісьменнікаў Монары Ішмунна, Афанасьева, Яповіч, Эрваль, Віча, Шамыкайна, Лосмарскага і Тайшына. З маладых марыйскіх пісьменнікаў вызначаюцца пісьменнікі Ялкайна і Ломберскі.

У сучасны момант рыхтуецца да друку новы альманах марыйскіх пісьменнікаў, у якім удзельнічае 15 пісьменнікаў.

З марыйскіх пісьменнікаў вядомы і за межамі Башкірыі пісьменнік Н. Цішын. Зараз ім напісана п'еса «Эўрыка».

Чувашская секцыя саюза пісьменнікаў штогод выпускае свой альманах «Чырвоны Урал». Адным з найбольш таленавітых чувашскіх паэтаў з'яўляецца Якаў Ухсай. Яго паэма «Ялечная брыгада» была прэміравана на конкурсе на лепшы твор мастацкай літаратуры да 15-годдзя Чувашскай рэспублікі.

З маладых пачынаючых паэтаў вызначаюцца Андрыянаў, Харас'еў, Ігнат Іваноў і празаікі Іван Рхі, Уганеш і інш.

Трэба адзначыць, што багаты фальклор чуваш Башкірыі да гэтага часу зусім не вывучан. У бягучым годзе будуць выпушчаны 150 чувашскіх песень дакастрычніцкага і паслякастрычніцкага фальклору.

## КРЫТЫКА

За апошнія гады пачынаюць ствараца ў Башкірыі кадры крытыкаў.

Найбольш заслужаным літаратурным крытыкам башкірскай совецкай літаратуры з'яўляецца Ханаф Наумаў, але яго слабае месца—недастатковая ўвага да мовы твораў. За ім ідзе т. Шатарыдзінаў, якому, нажаль, у яго крытыцы часта нехапае большэвіцкай смеласці, прасталінейнасці.

З маладых крытыкаў варта адзначыць тт. Амантаева і Чанышэва, якія зрабілі агляд развіцця башкірскай совецкай мастацкай літаратуры. Т. Ямалаеў з'яўляецца крытыкам у галіне драматургіі.

Праўленне Саюза савецкіх пісьменнікаў Башкірыі пачало работу па крытычнаму разгляду твораў асобных пісьменнікаў і своечасова адклікаецца на творчасць пачынаючых пісьменнікаў, дапамагае ім сваімі парадамі, лістамі і разборам іх твораў.

Становішча крытыкі—вузкае месца ў развіцці башкірскай літаратуры: яна моцна адстае ад агульнага росту літаратуры. Крытыка малазмястоўна, неканкрэтна. Неабходна прыцягнуць новыя падрыхтаваныя сілы да літаратурнай крытыкі.

Башкірская савецкая мастацкая літаратура—адна з самых маладых літаратур Савецкага Саюза. У творах башкірскіх пісьменнікаў яшчэ шмат публіцыстыкі, упрашчэнства, яна яшчэ недастаткова павярнулася тварам да герояў сацыялістычнай будоўлі, да людзей аваладаўшых тэхнікай, стаханаўцаў.

Для знішчэння гэтых недахопаў неабходна як мага больш падняць культурны ўзровень савецкіх пісьменнікаў Башкірыі, вывучыць вялікія творы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

Безумоўна, башкірскія пісьменнікі справяцца з стаячымі перад імі задачамі, бо імі кіруе вялікая партыя Леніна—Сталіна.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

**БАРЫС МІКУЛІЧ—"ДРУЖБА"—Аповесць, ДВБ—1936 г., стар. 152, цана 2 рубл. 20 кап.**

Аповесць Барыса Мікуліча „Дружба" з'явілася ў выніку паездкі аўтара летам 1935 г. з брыгадай беларускіх совецкіх пісьменнікаў у Грузію. Кніга пабудавана выключна на матэрыяле жыцця і працы грузінскага народу, на матэрыяле сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва і ўдзеле ў гэтым будаўніцтве, галоўным чынам, моладзі, комсамола.

Па свайму ідэйнаму замыслу, аповесць „Дружба" заслугоўвае выключнай увагі. Гэта аповесць пра класавую дружбу працоўнага народу, пра дружбу, якая народжана Вялікай соцыялістычнай рэволюцыяй і ўмацована ўрачыстасцю ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

На працягу ўсёй аповесці аўтар галоўную ўвагу ўвесь час канцэнтруе на тым, як на падставе класавай дружбы паміж працоўнымі, узброенымі большэвіцкай самасвядомасцю і творчай энергіяй, шпаркім тэмпам адбываецца рост і росквіт соцыялістычнага будаўніцтва ў сонечнай рэспубліцы Грузіі. Як у калектыве класавай дружбы, у працэсе соцыялістычнага будаўніцтва растуць і загартоўваюцца ў стойкіх большэвікоў людзі, моладзь, комсамольскае племя.

Людзі і матэрыял аповесці ўзяты з розных участкаў жыцця. Перад намі жыццё селяніна бедака—мінгрэльскага пастуха. Шахты па здабычы руды. Вінная вытворчасць. Пабудова магутнай гідрастанцыі і інш. На гэтым фоне выступаюць людзі розных нацыянальнасцей і розных прафесій, тут-жа аўтар раскрывае ўзаемаадносіны паміж людзьмі, паказвае іх класавую дружбу, сілу гэтай дружбы.

Трэба сказаць, што ахоплены аўтарам матэрыял і людзі недастаткова звязаны адзінай сюжэтнай лініяй і праходзяць перад чытачом з надзвычайнай хуткасцю, нёкалькі кінематаграфічна. Аповесць у цэлым, у гэтых адносінах хутчэй носіць характар падарожных беглых запісак, суму апісаных падзей, чым моцна зроблены сюжэтны твор. Аднак, не гледзячы на гэта, аповесць чытаецца з цікавасцю.

У чым-жа яе цікавасць?

Цікавасць аповесці, па-першае, у тым, што тыя падзеі і людзі, якія апісваюцца аўтарам, не надуманы і адпавядаюць жыццёвай праўдзе. Хай большасць людзей аповесці выступаюць перад намі толькі эпізадычна, толькі знешнімі рысамі (Лена, Акапян, Аўрамідзі, Файзула і інш.), але гэтыя рысы характэрныя і ўласцівы адпаведным людзям. Праз такія паасобныя характэрныя рысы аўтару часамі ўдаецца разбудзіць уяўленне чытача і даць яму магчымасць успрыняць тэй ці іншы вобраз з адпаведнай паўнатой—(вобразы старога пастуха Шанавы і бацькі Белага).

Аповесць цікавая, па-другое, тым, што аўтар спыняе ўвагу чытача, галоўным чынам, не на рэчах, а на людзях, на росце людзей у абставінах працы, на іх класавых пачуццях.

Аповесць цікавая, па-трэцяе, яшчэ і тым, што тут для беларускай літаратуры зят а зусім новая тэма, новы матэрыял—братняй рэспублікі Грузіі.

Іменна ўсё гэта робіць аповесць цікавай.

Калі гаварыць адносна паўнаты распрацоўкі чалавечых вобразаў, дык трэба сказаць, што найбольш поўна распрацаваны два вобразы—гэта былы пастух Шэлія і комсамолец Белы. Гэтыя два вобразы праходзяць праз усю аповесць і сваім дзеяннем у пэўнай меры звязваюць тыя разрозненыя эпізоды, суму тых падзей, якія падняты аўтарам.

Вобразы Шэлія і Белага аўтар паказвае ад іх беспутнага дзяцінства і да фармавання іх у перадавых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства.

Шэлія—сын пастуха. Дзед яго таксама быў пастухом. Па сямейных звычаях Шэлія павінен быў наследваць бацькаўскай традыцыі і таксама застацца вечным пастухом. З гэтым Шэлія не мірыцца і насуперакі бацькаўскай традыцыі, пераступіўшы праз рэлігійныя сямейныя забабоны, ён пакідае дом і ідзе ў свет, каб дапасаваць сваю сілу і здольнасць, каб адчуць ва ўсёй паўнаце жыццё і неісці па следу бацькі і дзеда. Ен трапляе ў шахты па здабычы руды. Трапляе ў велізарны рабочы калектыў. Тут яго акружаюць цёплай увагай, тут ён сустракаецца з былым беспрытульным, зараз комсамольцам, Белым, які становіцца яго лепшым таварышам і жыццёвым спадарожнікам. Гэта першы самастойны крок Шэлія да сапраўднага жыцця.

Паміж комсамольцам Белым і Шэлія ўвесь час непарыўная, моцная дружба, не гледзячы на тое, што яны розныя па нацыянальнасці, што адзін рускі, а другі грузін. Аўтар падкрэслівае, што іх моцная дружба з'яднана аднолькавымі поглядамі на жыццё, на людзей, іх аднолькавым жаданнем працаваць, вучыцца, заваёўваць лепшую будучыню.

Пасля самаадданай працы ў шахтах, аўтар паказвае Шэлія і Белага ў другіх абставінах—на пабудове магутнай гідрастанцыі, на распрацоўцы для гэтай станцыі вялікага тунэля. Тут яны канчаткова знаходзяць сябе. Яны становяцца кіраўнікамі рабочых брыгад, знатнымі людзьмі будаўніцтва. За шчырую працу і за праяўленне вялікай ініцыятывы іх прадстаўляюць да ўзнагароды граматамі ЦВК.

Так паказвае аўтар рост і фармаванне былога пастуха Шэлія і беспрытульнага Белага.

І трэба сказаць, што ў паказе гэтых двух вобразаў аўтар далёкі ад схемы. Чытаючы аповесць гэтыя вобразы адчуваеш. Адчуваецца іх унутраны змест, іх энергія, захапленне будаўніцтвам.

Пасля сканчэння пабудовы гідрастанцыі, тунеля, Белы, звяртаючыся да Шэлія гаворыць: „Ці думаў ты, Шэлія, калі-небудзь над тым, дзе ты будзеш праз год? Мне хочацца зноў на новае будаўніцтва, такое-ж як тут. Так і хадзіць вечна“.. Адчуваеш, што гэтыя радасныя словы ідуць з іх глыбокага нутра, з іх пераканання ў сілу і значэнне будаўніцтва. Адчуваеш, як яны глыбока зразумелі ўсю велізарную сілу соцыялістычнай практыкі, працы, класавую дружбу людзей у фармаванні і росце чалавека. Шэлія, пасля скачэння тунеля адносна гэтага з вялікім пачуццём і шчырасцю заяўляе:—„Шахты і гэтае будаўніцтва зрабілі, мусіць, больш, чым я для іх. Што я ведаў? Што мог ведаць мінгрэльскі чкішы? Лес, балота, каровы, сяло. А цяпер пастух ведае, што ёсць багата таварышоў: грузін, рускіх, украінцаў, армян, яўрэяў, з якімі можна будаваць вось такія тунелі“.

Абодва вобразы і Шэлія і Белага, як вобразы нашай совецкай моладзі, вобразы комсамола, з'яўляюцца праўдзівымі, характэрнымі. Ад пастуха і беспрытульнага, праз шчырую, самааддданую працу да знатных будаўнікоў соцыялізма,—гэта шлях, характэрны для вялікай колькасці моладзі, комсамола не толькі Грузіі, Беларусі, а і для ўсёй соцыялістычнай нашай радзімы.

Для аповесці важна яшчэ і тое, што аўтар, паказваючы вобразы Шэлія і Белага ўвесь час на фоне будаўніцтва не засланяе іх, як людзей, рэчамі, машынамі, не робіць іх рабамі апошніх. Рэчы і машыны, у гэтых адносінах, паказваюцца падначаленымі чалавеку.

Паказваючы рост і фармаванне Шэлія і Белага, аўтар даў рад досыць яркіх зарысовак з сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва совецкай Грузіі. Напрыклад, будаўніцтва тунеля, гідрастанцыі, спаборніцтва на гэтым будаўніцтве брыгад Шэлія і Белага пададзена з выключнай мастацкай яркасцю і пераконанасцю. Адчуваеш працу, чалавечую энергію і сілу.

Акрамя паказу росту і фармавання ў працэсе працы, у працэсе класавай дружбы новых людзей акрамя паказу паасобных участкаў соцыялістычнага будаўніцтва ў сучаснай совецкай Грузіі, аўтар аповесці робіць спробы раскрыць перад чытачом некаторыя гістарычныя моманты з жыцця грузінскага народу, некаторыя найбольш характэрныя этапы класавай барацьбы і інш. Трэба сказаць, што тут аўтар далей спроб не пайшоў. І гістарычныя моманты грузінскага народу і класавую барацьбу з аповесці ўявіць цяжка. Спробы гэтага паказу вельмі выпадковыя, павярхоўныя, слабенькія. Тут аўтар далей намёка на тыя або іншыя абставіны не пайшоў. І, бадай, гэтыя спробы аўтара падняць

такі шырокі і разнастайны матэрыял адбіліся на цэльнасці аповесці, на яе сюжэтнай лініі.

Аповесць „Дружба" для Б. Мікуліча з'яўляецца безумоўна творчай удачай. Гэта ўдача ідзе не толькі па лініі стварэння вобразаў, не толькі па лініі яркага паказу паасобных участкаў соцыялістычнага будаўніцтва ў сучаснай савецкай Грузіі, але і па лініі мастацкіх сродкаў, па лініі крысталізацыі моўных якасцей.

У сэнсе мовы, гэта аповесць паказвае, што Б. Мікуліч становіцца на правільны шлях, набліжаючы сваю мову да мовы народнай, простай, у лепшым сэнсе гэтага слова. Для апісання тых або іншых рэчаў, людзей, пейзажа— Б. Мікуліч у данай аповесці, у большасці выпадкаў знаходзіць яркую, простую і маляўнічую мову, што надае апісваемаму аб'екту максімальную выразнасць.

Вось апісанне раніцы ў гарах пасля навальніцы: „... Раніца тады пасля навальніцы была спакойная, сонечная, яркая. Прамытая праліўнем зямля ахутвалася парай, празрыстай, як лятуценне. Сонца свяціла ярка, нібы знарок: начная навальніца пакінула пасля сябе сляды руйнавання. Рудая ад бруду рака несла галлё і дошкі. Велізарныя дрэвы былі павыварачваны, з некаторых баракаў сарвала стрэхі, скінула рыштаванні з плацінь, абарвала правады і паваліла слупы. Нанесеныя груды загарадзілі дарогу, горныя ручаіны ператварыліся ў вадаспады, праклалі сабе глыбокія рэчышчы. Было так, нібы прайшоў вораг".

Прастата мовы, удала падабраныя эпітэты і метафары даюць тут поўнае, яркае ўяўленне аб навальніцы, аб яе стыхійнай сіле і акрэслена рысуюць тыя абставіны, дзе ўсё гэта адбываецца.

Аднак яшчэ нельга сказаць, што ў данай аповесці Б. Мікуліч сваю мову цалкам ачысціў ад тэй, што мела месца ў яго ранейшых творах („Наша сонца" і інш.) Штучнасць і вычурнасць прабіваецца часамі яшчэ з некаторых старонак і аповесці „Дружба".

У аповесці „Дружба" ў сэнсе мовы сустракаюцца мясціны надуманыя, не рэалістычныя. Напрыклад, аўтар фантастычна апісвае кахетынскі вечар, падае нейкую ўяўную асобу, якая праз вісячы мост пераходзіць ад скалы да скалы. У ролі наглядальніка за гэтым вечарам і асобай, аўтар усклікае: „... і мы сказалі сабе: Гулівер!—над Кахетыяй ходзіць Гулівер!—неспакойны здзіўлены, дапытлівы спадарожнік нашага юнацтва; і гэта была памылка: то мірсціліся ў вечаровай цішыні не персанажы англійскага эпаса, а толькі-толькі ўвайшоўшыя ў нашу свядомасць абрысы рамантычных вобразаў вялікага Шота!.."

Тут і фантастыка і асабліва мова,—надуманыя, штучныя. Такія мясціны ў аповесці часамі трапляюцца і яны праходзяць міма ўспрыймання чытача, яны непраўдзівы.

Таксама ў аповесці сустракаюцца надуманыя, а таму і не рэалістычныя, некаторыя паасобныя фразы, параўнанні, як напрыклад: „сумная і доўгая песня, як горная сцежка, як лёс"; „Цягучая гэтая мелодыя, але цягавітая, як *вол*"; „Цяжка чалавечым нагам *ступаць па гісторыі*"; „Рака нясе яго цела, вырабляючы з ім дзівосныя *сальто*"; „Думкі робяць нечаканае *сальто*"; „Усе размяшчаюцца за сталом, *як судны на рэйдзе*".

Аднак не гледзячы на гэтыя недахопы, аповесць „Дружба", паўтараем, з'яўляецца творчай удачай Б. Мікуліча.

Аповесць „Дружба" для беларускай літаратуры з пункту гледжання тэмы, з'яўляецца такім творам, які ўмацоўвае класавую дружбу паміж народамі братніх рэспублік, які, у паасобных момантах, знаёміць нашага чытача з росквітам соцыялістычнага будаўніцтва ў савецкай Грузіі.

*С. Куніцкі*

# ХРОНІКА

**Андрэ Мальро ў СССР.** 14. III выехаў з Масквы ў Парыж вядомы рэволюцыйны пісьменнік Андрэ Мальро. Сваё прабыванне ў Совецкім Саюзе Мальро выкарыстаў для ўстанаўлення кантакта з совецкімі працаўнікамі мастацтва, літаратуры і навукі.

Разам з тт. Міхаілам Кальцовым і І. Бабелем Мальро наведаў у Крыму Алексея Максімавіча Горкага, з якім меў рад гутарак, як па пытаннях літаратурнай творчасці і філасофіі мастацтва, так і па пытаннях адносін перадавых пісьменнікаў і інтэлігенцыі да пагрозы фашызма і імперыялістычнай вайны.

У Маскве Мальро меў шмат сустрэч, як з віднейшымі дзеячамі мастацтва і літаратуры, так і шырокімі коламі рабочай моладзі, студэнцтвам і навуковымі працаўнікамі.

На паседжанні прэзідыума Саюза совецкіх пісьменікаў Мальро зрабіў даклад аб грамадскіх плынях у асяроддзі заходняй інтэлігенцыі і ў сувязі з гэтым пра работу Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў для абароны культуры, сакратаром якой ён з'яўляецца.

**Фальклор народаў БССР.** Беларуская Акадэмія Навук разгарнула работу па збіранню і вывучэнню фальклору народаў БССР. Падрыхтаваны да друку зборнік „Беларускі совецкі фальклор", у які ўвайшлі каля 3000 частушак, песень, казак, прыказак, запісаных, галоўным чынам у беларускай калгаснай вёсцы. У зборніку ёсць раздзел, прысвечаны рабочаму фальклору.

Адначасова падрыхтоўваецца кніга „Прыгон у фальклоры". Для яе сістэматызавана да 1000 казак, песень, расказаў, якія адносяцца да жыцця беларускай вёскі першай і другой паловы XIX ст. і маюць вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць. Многія з гэтых фальклорных матэрыялаў з-за сваёй соцыяльнай завострапасці не маглі ўбачыць свету да Кастрычніцкай рэволюцыі.

**Конкурс па збіранню фальклору.** Фальклорная камісія пры Прэзідыуме Беларускай Акадэміі Навук абвяшчае конкурс збіральнікаў вуснай народнай творчасці (фальклору) БССР.

Збіранню і запісванню падлягаюць усе віды фальклору: песні, казкі, апавяданні, частушкі, прыказкі, загадкі і т. д.

Запісваць трэба як совецкі фальклор— рабочы, калгасны, чырвонаармейскі і дзіцячы — (песні і казкі пра Леніна і Сталіна, пра партыю і комсамол, пра Вялікую соцыялістычную рэволюцыю, грамадзянскую вайну і Чырвоную армію, соцыялістычнае будаўніцтва, стаханаўскі рух, рост культуры), так і фальклор дарэволюцыйны—рабочы, сялянскі (песні, казкі і апавяданні пра прыгон, пра сялянскія паўстанні, рэволюцыйную барацьбу рабочых, пра 1905 г., рэволюцыйныя салдацкія песні, пра жыццё працоўных пры царызме і т. д).

**Прэміі „Праўды" за лепшыя песні.** На ўсесаюзным конкурсе на лепшую песню, абвешчаным „Праўдой", другую прэмію атрымаў народны паэт рэспублікі Янка Купала, за песню „Выпраўляла маці сына" і трэцюю прэмію атрымаў пролетарскі паэт Андрэй Александровіч за песню „Серго Орджанікідзе".

**Упраўленне па справах мастацтваў.** Пастановаю ЦВК і СНК БССР створана пры СНК Упраўленне па справах мастацтваў, на якое ўскладзена кіраўніцтва ўсімі справамі мастацтва з падпарадкаваннем яму тэатраў і іншых відовішчных прадпрыемстваў: музычных, мастацкажывапісных, скульптурных і інш. устаноў па мастацтву, у тым ліку навучальных устаноў, якія падрыхтоўваюць кадры працаўнікоў тэатраў, кіно, музыкі і выяўленчага мастацтва.

Белдзяржкіно ўключана ў сістэму Упраўлення па справах мастцтваў.

**Гастролі БДТ-II у Бабруйску.** У сярэдзіне красавіка на гастролі ў Бабруйск прыязджае з Віцебска Другі Беларускі

Дзяржаўны тэатр пад мастацкім кіраўніцтвам В. А. Дарвішава. У рэпертуары тэатра п'есы совецкіх драматургаў: „Гібель эскадры" Карнійчука, „Байцы" Рамашова, „Цудоўны сплаў" Кіршона і інш.

**Дзяржаўны беларускі ТРАМ** у пачатку сезона 1935-36 г. у рэпертуары меў толькі тры п'есы: „Тарцюф" Мальера (у перакладзе В. Сташэўскага), „Працяг будзе" А. Бруштэйна і „Наша маладосць" С. Карташова. У канцы 1935 году тэатр паставіў „Арыстакраты" Н. Пагодзіна (пераклад К. Крапівы).

Зараз ідзе п'еса „Ася" А. Бруштэйна ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка тэатра М. А. Зорава. Тэма гэтай п'есы—новая сям'я ў барацьбе з старай маральлю. Рыхтуецца к пастаноўцы „Беднасць не парок" Остроўскага (переклад Сташэўскага).

Калі да гэтага часу тэатр ставіў пераважна класічныя альбо перакладзеныя п'есы, то ў гэтым сезоне партфель трама абагаціцца творамі беларускіх пісьменнікаў. П'есу пра жыццё і барацьбу легендарнага беларускага Чапаева, партызана Салаўя, піша драматург Г. Кобец. П'есу на абаронную тэму піша Курдзін.

Летам тэатр выедзе на гастролі ў Гомель, Бабруйск, Жлобін, Оршу, Барысаў і іншыя гарады рэспублікі.

**Тэатральны фестываль у 1936 г.** Першага верасня ў Маскве пачнецца чацверты тэатральны фестываль СССР. Фестываль адбудзецца ў Маскве і Ленінградзе. Фестываль адчыніцца ў Тэатры народнай творчасці паказам масавай мастацкай самадзейнасці рабочых і калгаснікаў. Удзельнікам фестываля будуць паказаны „Арыстакраты"—тэатрам імя Вахтангава, „Горе от ума"—тэатрам імя Ус. Мейерхольда, „Яўгеній Анегін"—ГАБТ, „Умка-Белы мядзведзь"—Тэатрам Рэволюцыі, „Воскресение"—МХАТ імя Горкага і інш.

Ленінградскія тэатры пакажуць оперу „Ціхі Дон" І. Дзержынскага, балет Б. Асаф'ева „Бахчисарайский фонтан".

Будуць паказаны на фестывалі спектаклі тэатраў братніх рэспублік: у Маскве—Дзяржаўнага тэатра Грузіі, у Ленінградзе—дзяржаўнага тэатра імя Франко.

**Новая п'еса пра грамадзянскую вайну.** У бліжэйшы час тэатр МОСПС пакажа новую пастаноўку—п'есу М. Н. Даніеля „Хлопчык". Тэма п'есы—моладзь эпохі грамадзянскай вайны, месца дзеяння—Беларусь. Асноўны герой—малады пятнаццацігадовы хлопчык, добраахвотнік Чырвонай арміі, трапляе ў палон да белапалякаў, але выратоўвае і арганізуе уцёкі свайго камандзіра.

Гэтая п'еса ідзе ў гарадах: Кіеве, Харкаве, Днепрапятроўску. П'еса праходзіць з вялікім поспехам.

**Артысту БДТ-3 т. Дзядзюшку В. І.** пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў БССР надана годнасць заслужанага артыста рэспублікі за актыўны ўдзел у арганізацыі тэатра і за стварэнне раду каштоўных мастацкіх вобразаў.

**Памяці Шэўчэнкі.** 10 сакавіка соцыялістычная краіна адзначала сямідзесяціпяцігоддзе з дню смерці вялікага паэта сялянскай рэволюцыі Шэўчэнка. Сын украінскага прыгоннага селяніна, Тарас Шэўчэнка сам адчуў здзекі памешчыкаў, беспраўнасць прыгнечанага украінскага селяніна, які стагнаў пад двайным прыгнётам украінскага памешчыка-прыгонніка і царскага чыноўніка.

У сваіх вершах найвялікшай лірычнай напружанасці і сілы ён расказаў пра перажыванні абяздоленага селяніна, пра цяжкую яго долю, выразіў магутны стыхійны пратэст супроць прыгнятальнікаў і прыгоннікаў. Жандармская Расія ўбачыла ў Шэўчэнку свайго злейшага ворага.

На пратаколе прыгавару, асуджаўшым Шэўчэнку за рэволюцыйную дзейнасць „за его произведения стихом, из коих многия возмутительного и преступного содержания",—Нікалай першы ўласнаручна напісаў: „Под строжайший надзор с запрещением писать и рисовать".

Дзесяць год правеў Шэўчэнка ў царскай арміі, церпячы здзекі.

Але гэтае салдацкае зняволенне не зламала Шэўчэнку.

Фашысты Заходняй Украіны і украінскія нацыяналісты спрабавалі зрабіць з Шэўчэнкі сцяг украінскага нацыяналізма. Ім гэтае не ўдалося. Шэўчэнка належыць соцыялістычнаму народу Украіны, працоўным Саюза Совецкіх Рэспублік, працоўным усяго свету.

**Сесія Акадэміі навук УССР.** Сесія украінскай Акадэміі навук 9—10 сакавіка была прысвечана жыццю і творчасці вялікага паэта Украіны Т. Шэўчэнка.

У працах сесіі прынялі ўдзел кіраўнікі партыйных і комсамольскіх арганізацый, Чырвонай Арміі, сапраўдныя члены і члены-карэспандэнты Акадэміі Навук Украінскай ССР, члены прэзідыума Акадэміі Навук СССР і БССР, прадстаўнікі інстытута чырвонай прафесуры, саюза совецкіх пісьменнікаў і інш.

На сесіі заслуханы даклады віцэ-прэзідэнта Акадэміі Навук Шліхтэра—„Чэрнышэўскі, Дабралюбаў і Шэўчэнка", акадэміка П. Тычыны—„Шэўчэнка і совецкая паэзія", А. Хвылі—„Шэўчэнка і народ-

ная творчасць" і Іосіпчука—„Этапы творчасці Шэўчэнкі".

**Вечар памяці паэта Багрыцкага.** 13.III у Калонным зале Дома Саюзаў адбыўся вечар памяці паэта Эдуарда Багрыцкага, арганізаваны праўленнем саюза совецкіх пісьменнікаў і Дзяржлітвыдатам.

Даклад пра творчасць паэта зрабіў прафесар С. Дзінамаў. Ён ярка ахарактарызаваў Э. Багрыцкага, як палкага барацьбіта—мастака рэволюцыі. Тав. Дзінамаў адзначыў блізкасць т. Багрыцкага да вялікага пролетарскага паэта В. В. Маякоўскага.

Пасля даклада Дзінамава артыст Д. Жураўлёў прачытаў паэму Э. Багрыцкага „Дума пра Апанаса" і верш „Кантрабандысты". Паэт В. Лугаўской прачытаў верш „Т. Б. Ц".

На вечары выступілі пісьменнікі Ю. Олёша і І. Бабель, а таксама сын паэта Всевалод Багрыцкі, які прачытаў вершы бацькі: „Песня Паўлы" і „Аўтобус". Салісткі Дзяржаўнага Акадэмічнага Вялікага тэатра С. Зорыч і О. Міхайлава праспявалі дуэт „Песня баб" з оперы Багрыцкага „Дума пра Апанаса".

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

Рэдактар *М. Лынькоў* Тэхрэдактар *І. Мілешка*

Здана ў друкарню 3/III—36 г. Падпісана да друку 14/IV—36 г. Аб'ём $11^3/4$ друкаваных аркушаў. Папера $62\times94^1/_{16}$. Знакаў у друкаваным аркушы 60.000
Тыраж 2.000 экз. Зак. № 249. Уп. Галоўлітбела № Б 1123.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Энгельса, 2.